# ЗМЕСТ

# Замест прадмовы

Пра стварэнне навуковай гісторыі беларускае літаратуры шырока пачалі гаварыць у сярэдзіне 1920-х гг.

Вядома, варта памятаць пра першыя крокі ў гэтым кірунку Рамуальда Зямкевіча (1881–1944)[1], Сяргея Палуяна (1890–1910)[2] і Максіма Багдановіча (1891–1917)[3], якія, аднак, былі адно спробамі ахарактарызаваць літаратурны працэс мінулага. Нявырашанай засталася праблема і пасля таго, як у 1919–1922 гг. з'явіліся працы Яўхіма Карскага (1860–1931)[4], Мікалая Янчука (1859–

---

[1] У лісце да Аляксандра Ельскага ад 21.03/3.04.1909 г. ён пісаў: „Займаюся гісторыяй беларускае літаратуры, якую, як і беларускі слоўнік, абяцала мне выдаць суполка „Zahlanie sonce" ў Пецярбурзе". Гл.: *Даследаванні і матэрыялы*..., т. III, с. 207. Апрача таго, пачынаючы з лістапада 1910 г., друкаваў у "Нашай Ніве" і інш. выданнях матэрыялы па гісторыі беларускае літаратуры.

Ёсць таксама гэткія звесткі пра ўкладаную Р. Зямкевічам гісторыю беларускае літаратуры: "Pacztowaja skrynka. <…> M. Ziembin Minsk. h. Borysoŭsk. p. R. Ziem.: Usiakamu biełorusu dobra paczuć, szto wy tak szczyra pracujecie dla biełaruskaj literatury i dla biełorusoŭ. Wy zawiedamlajecie redakciju, szto tłumaczycie na biełaruskuju mowu twory Stefanika, Alfonsa Dode; piererabili dla teatru *U zimowy wieczer* Orzeszkowaj s tancami i pieśniami biełaruskimi, katoryje na noty pałažyŭ M. J. (відавочна, Міхал Ельскі. *–М. Х.*); piszecie historyju biełaruskaj literatury; sabrali dla hetaho narodnyje pieśni, lehiendy i dr.; sastaŭlajecie sławar biełaruski, majecie ŭžo 12 tysiacz słoŭ; wasz sławar ukrainsko-biełaruski maje 2 tys. słoŭ" [„Nasza Niwa" 1909, № 15 (9/22 aprela)].

"Сэрцэ мяне [sic!] баліць, што справа з маей *Гісторыяй беларускае літэратуры* і *Беларускай Бібліяграфіяй* зацягіваюцца. *Бібліяграфія* мая будзе накшталт Балтрамайтіса але куды большая за яго работу" [Ліст Р. Зямкевіча да Вацлава Ластоўскага ад 1?.04.1925 [у:] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі*, уклад., падрыхтоўка тэксту, камент., пер. С. Шупа, т. 1, кн. 2, Вільня–Нью-Ёрк–Менск–Прага 1998, с. 1581].

"Хроніка. З культурнага жыцьця Заходняй Беларусі. <…> Вядомы бібліограф Ромуальд Зямкевіч напісаў *Кароткі нарыс гісторыі беларускае музыкі*. Гэты самы аўтар напісаў працу пад назваю *Беларуская бібліографія*, якая налічвае 30 тысяч нумароў. Таксама Р. Зямкевіч працуе над гісторыяй беларускай літаратуры" („Узвышша" 1927, № 2, с. 216).

Варта таксама спаслацца на Антона Адамовіча: "Нябожчык Максім Гарэцкі пераказваў аўтару гэтых радкоў, што выхад ягонае кнігі (*Гісторыі беларускае літэратуры. – М. Х.*) Зямкевіч спаткаў як свайго роду асабістую абразу, уважаючы, што першую гісторыю беларускае літаратуры мог напісаць толькі ён". Гл.: А. Адамовіч, *Да пабудовы навуковае гісторыі беларускае літаратуры*, "Запісы: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва" 1963, кн. 2, с. 74.

[2] Гл.: С. Полуян, *Білоруська поезія в її типових представниках: 1. Народня словесність і перші спроби штучної поезії*, "Українська хата" 1910, № 3, с. 194–199.

[3] М. Богдановичъ, *Бѣлорусское возрожденіе* [у:] *Отдѣльный оттискъ изъ журнала „Украинская Жизнь"* 1915, № 1–2.

[4] Спачатку як артыкулы, прысвечаныя асобным літаратарам мінулага, у розных перыядычных выданнях, а пасля ў трэцім выпуску трэцяга тома *Бѣлорусовъ* (1922).

1921)[1] і Максіма Гарэцкага (1893–1938)[2], што ў большай ці меншай ступені фіксавалі ("рэгістравалі" Я. Карскі) літаратурны матэрыял.

Не ставала – у першую чаргу – канцэпцыі і метадалогіі аналізу беларускага літаратурнага працэсу. Магчыма, з гэтай прычыны Уладзіслаў Чаржынскі (1897–1974) не раз адкрыта адмаўляў існаванне гісторыі беларускае літаратуры як навукі[3] і лічыў працу папярэднікаў адно толькі біяграфічнымі нататкамі ды вольным пераказам зместу твораў[4].

Думаецца, да такіх высноў У. Чаржынскі прыйшоў дзякуючы сваім універсітэцкім настаўнікам: аўтару фундаментальнага трохтомніка *Введение в философию художественного творчества: Опыт историко-литературной методологии* (1910–1917) прафесару Аляксандру Яўлахаву (1880–1966), які на пачатку 1920-х гг. па запрашэнні Я. Карскага працаваў на кафедры замежнай літаратуры БДУ, а таксама ягоным вучням, дацэнтам БДУ Яўгену Барычэўскаму (1883–1934), Аляксандру Вазнясенскаму (1888–1966) і Міхайлу Піятуховічу (1891–1937). Хоць гэтыя выкладчыкі БДУ і былі кепска абазнанымі ў беларускім літаратурным працэсе, аднак выдатна валодалі метадалогіяй літаратуразнаўства.

Асноўная дыскусія[5] па стварэнні канцэпцыі навуковай гісторыі беларускае літаратуры адбылася на секцыі "Агляд беларускай літаратуры", складковай часткі Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і алфавіта, арганізаванай Інстытутам беларускай культуры ў Мінску 14–21 лістапада 1926 года. Падводзячы высновы працы секцыі, яе старшыня Іван Замоцін (1873–1942) сфармуляваў асноўныя задачы, якія стаялі перад беларускімі літаратуразнаўцамі: "1. Неабходнасьць зьбіраньня і філёлёгічнага вывучэньня тэксту твораў беларускай мастацкай літаратуры; 2. неабходнасьць формальна-мастацкага дасьледаваньня твораў беларускай мастацкай літаратуры; 3. неабходнасьць монографічнага вывучэньня беларускай літаратуры па эпохах, кірунках і паасобных пісьменьніках, пачынаючы з старой літаратуры і народнай творчасьці"[6].

Нас цікавіць першы пункт прапанаванае І. Замоціным праграмы. А ён у выніковай рэзалюцыі канферэнцыі набыў наступны выгляд: "а). Зьбіраньне ўсіх патрэбных для асьвятленьня творчасьці паасобных беларускіх пісьменьнікаў

---

[1] Н.А. Янчук, *Новейшая белорусская литература и ее деятели: Краткий очерк* [в:] *Очерки белорусской литературы*, вып. 1: *Новейшая литература*, Москва 1920, с. 53–83; М. Янчук, *Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры: Старажытны пэрыяд,* Менск 1922.

[2] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры*, Вільня 1920 і наст. выд.

[3] Падаём следам за А. Адамовічам, які падобнае ("некаторыя практыкаваньні ў гэтай галіне часам адбываліся, але ня вышэй як на школьна-падручнікавым узроўні") сцвярджаў у 1960 г. Гл.: *Да пабудовы навуковае гісторыі беларускае літаратуры*, "Запісы: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва" 1963, кн. 2, с. 94.

[4] Гл. напрыклад: У. Дзяржынскі, *Янка Купала ў крытыцы нашаніўскіх сучаснікаў*, "Полымя" 1927, № 8, с. 136.

[5] Дыскусію грунтоўна прааналізаваў А. Адамовіч у артыкуле *Да пабудовы навуковае гісторыі беларускае літаратуры*, апублікаваным у часопісе "Запісы: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва" 1963, кн. 2, с. 74–94. Гл. таксама: А. Адамовіч, *Да гісторыі беларускае літаратуры*, Менск 2005, с. 1113–1139.

[6] *Працы Акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі*, Менск 1927, с. 386.

матар'ялаў як уласна-літаратурных, гэтак сама і матар'ялаў соцыяльна-культурнага зьместу. б). Філёлёгічнае абсьледаваньне тэксту літаратурных твораў у мэтах навуковага выданьня іх поўнага збору па паасобных аўтарах"[1]. І хоць А. Адамовіч (1909–1998) лічыў, што камісія, якая апрацоўвала рэзалюцыю, "ладна разрэдзіла" прапановы І. Замоціна "засьцярогамі ў бок таго ж «сацыялагізму»"[2], аднак трэба прызнаць, што план навуковай працы для беларускіх літаратуразнаўцаў быў надзвычай перспектыўны і абяцаў даць плён.

Увогуле, ён і сёння актуальны. І сёння мы яшчэ не выканалі тыя задачы, якія ставіліся перад літаратуразнаўцамі амаль сто гадоў таму.

Чаму не былі яны выкананыя?

Напачатку справы пайшлі дастаткова паспяхова і шматабяцальна. Паказальна, што зборам літаратурных твораў і падрыхтоўкаю тэкстаў да друку занялiся самыя вядомыя тагачасныя беларускія літаратуразнаўцы: І. Замоцін, М. Піятуховіч і інш. У руках І. Замоціна апынуліся тры невядомыя раней творы В. Дуніна-Марцінкевіча (*Trawica Brat Siastryca: Powiastka z gminnej legendy; Złaja żonka; Chalimon na karanacyi*[3]). Навуковец у 1929 годзе падрыхтаваў іх для публікацыі ў першым томе "Працаў кафедры гісторыі беларускай літаратуры", які планаваўся на 1930 г.[4]. Не менш значны скарб меў і М. Піятуховіч: у 1929 г. ён набыў "два зборнікі ў трох томіках" – рукапісы Аляксандра Рыпінскага (1809–1886), у склад якіх уваходзіў раздзел *Utwory literackie* – пятнаццаць літаратурных твораў XIX стагоддзя на амаль трохсот старонках невялікага фармату (16°)[5]. М. Піятуховіч напісаў артыкул *Рукапісы А. Рыпінскага* і падрыхтаваў

[1] *Ibidem*, с. 390

[2] А. Адамовіч, *Да пабудовы навуковае гісторыі беларускае літаратуры*, "Запісы: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва" 1963, кн. 2, с. 88.

[3] Два апошнія планаваліся калісь В. Дуніным-Марцінкевічам у кнігу *Bylicy: Razkazy Nauma*.

[4] Пра гэта гл. больш падрабязна: Г. Кісялёў, *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча: Спроба навуковай сістэматызацыі дакументаў і матэрыялаў*, Мінск 1988, с. 18–21, 48–51.

[5] Інфармацыю пра рукапісы А. Рыпінскага ўпершыню ў друку падаў А. Адамовіч у 1956 г.: "*Тарас на Парнасе*. Гэты даўжэйшы вершаваны твор належыць да найбольш літаратурных твораў у цэлай нашай літаратуры XIX в. Аўтар дасюль няведамы; у знойдзеных у 1929 г. і апрацаваных праф. М. Піятуховічам рукапісах А. Рыпінскага твор перапісаны пад прозьвішчам "Канстантын Вераніцын" з зазначэньнем, што гэта псэўдонім (гэтым-жа псэўдонімам пазначаная там-жа другая паэма *Два д'яблы*, шырэй нязнаная й дасюль; праф. М. Піятуховіч пасьпеў адно зрэфэраваць рукапісы А. Рыпінскага сваім студэнтам, у разгарэлым якраз тады «змаганьні зь беларускім нацыянал-дэмакратызмам» дзесь занікла ўся справа, больш аб ёй ня чуваць і дасюль, як ня чуваць і аб праф. Пятуховічу ад пары «яжоўшчыны»). Найцікавейшае і вельмі важнае для разуменьня твору зазначэньне Рыпінскага, што напісаны ён як водгук на зьяўленьне ў літаратуры Тараса Шаўчэнкі. У рукапісах Рыпінскага пад творам дата 1856, барджджэй аднак як дата перапісаньня Рыпінскім, а не напісаньня самым аўтарам – Вераніцынам. З падаваных акад. Карскім, выснаваных зь некаторых радкоў твору, дзьвюх магчымых датаў напісаньня −1837 або 1843 – больш праўдападобная апошняя, з увагі на сувязь зь зьяўленьнем Шаўчэнкі. У друк твор упершыню трапіў ў 1889 г., шмат разоў перавыдаваўся й па 1902 г. (у 1904, 1909, 1910, 1918 і г. д.). Цікава, што перавыдавалася паэма, як правіла на пачатку кажнага новага ў нашай літаратуры руху. Уснаваная ў жартаўлівае апавяданьне твору зусім паважная ідэя, што й просты беларускі «мужык», які-небудзь, палясоўшчык Тарас, трапіўшы на гару мастацтва – Парнас можа зьдзівіць там самых багоў сваім народным мастацтвам нат простае «скакухі» ня горш за якога прызнанага «пісацеля» (падобна да

да друку чатыры творы: *Дзед і Баба: Оповесьць*; *Два д'яўлы*; *Ігнат Сьлінка: Оповястка* і *Атвечэрэк: Аказія ў карчме пад Фальковічамі*. Ідэйна-мастацкая вартасць іншых, відавочна, не пасавала тагачаснай грамадска-палітычнай сітуацыі, а таму яны не прызначаліся да друку. Больш дакладна: пяць тэкстаў навуковец не адважыўся падаць на суд чытача (1. *Zabytek z 1812 roku*. Księdza Antoniego Hromyki; 2. *Hulanka mużyckaja*, tegoż Hromyki; 3. *Kazanie*, tegoż 1845 roku; 4. *Chłopskie powinszowanie imienin*[1]; 5. *Żydowskij Parabak Siamion i szto jamu słuczyłasia u karczmie*). Астатнія шэсць ужо раней друкаваліся ў розных выданнях XX стагоддзя. Цікава, што М. Піятуховіч не палічыў патрэбным яшчэ раз апублікаваць *Тараса на Парнасе*, хоць тэкст, які паходзіў са зборнікаў А. Рыпінскага, "найбольш даўні, адносна не сапсаваны, больш блізкі да арыгіналу". На шчасце, яго ўключыў у сваю дысертацыю Васіль Мачульскі (1893–1973)[2].

М. Піятуховіч меў таксама, "выцягнутыя з архіву праф. Б. Эпімах-Шыпілы, перададзенага ім Беларускай Акадэміі Навукаў"[3], творы Ф. Багушэвіча: апавяданне *Тралялёначка* і зборнік *Скрыпачка беларуская*. Як сцвярджае А. Адамовіч, навуковец "у сваім унівэрсытэцкім курсе 1929–1930 ак. г. выкарыстоўваў і цытаваў свабодна й яе й усе кагадзе ўспамянутыя рукапісы Рыпінскага, Марцінкевіча"[4]. Больш за тое: таямнічая гісторыя *Скрыпачкі беларускай* у асвятленні А. Адамовіча набывае зусім іншы сэнс: "Як добра памятаецца, праф. Пятуховіч у сваіх лекцыях характарызаваў *Скрыпачку* як «рэакцыйны паварот» да рэлігійнасьці й каталіцкасьці», даючы адпаведныя цытаты; гэтым ён тлумачыў факт недрукаваньня зборніка, які мог бы «дыскрэдытаваць вобраз Багушэвіча як рэвалюцыянера», на якім залежала пачынальнікам беларускага

---

простага ўкраінскага «мужыка» Тараса – Шаўчэнкі, водгукам на зьяўленьне якога на Парнасе й была паэма, паводля дадзеных рукапісаў Рыпінскага) – рабіла твор гэты асабліва актуальным у мамэнтах, калі літаратура нашая пачынала сваю чародную спробу ўзыходжаньня на Парнас" [А. Адамовіч, *На нівах і ўзвышшах беларускага слова: I. На падыходах да нашаніўства: 1) Ананімная спадчына сярэдзіны XIX в. Тарас на Парнасе*, „Бацькаўшчына" 1956, № 21 (20 трав.), с. 2; № 22 (27 трав.), с. 2–3].

"*Вясна гола перапала*. Аўтарства твору [*Вясна гола перапала*] прыпісвалася часта (як часам і аўтарства *Тараса на Парнасе*), але зусім беспадстаўна, В. Дуніну-Марцінкевічу (і якасьць вершу і сацыяльная завойстранасьць сьветчыць катэгарычна супраць гэтага). У ўспамінаных рукапісах Рыпінскага аўтарам падаецца нейкі, прозьвішчам не названы, мешчанін, выведзены разам з гэтым сваім вершам у перапісаным у тых-жа рукапісах сцэнічным абразку А. Вэрыгі-Дарэўскага *Адвячорак*. Датай напісаньня найчасьцей падаецца 1860 г. (у кажным разе, зусім ясна, што твор напісаны дзесь зусім блізка да мамэнту г. зв. «вызваленьня сялян ад прыгону»). Першы радок у рукапісных сьпісках часта мае цяжкі для зразуменьня выгляд *Вясна голад перапала*; мы прынялі тут зусім ясную рэдакцыю выданьня 1900 г. – *Вясна гола перапала*" [А. Адамовіч, *На нівах і ўзвышшах беларускага слова: I. На падыходах да нашаніўства: 1) Ананімная спадчына сярэдзіны XIX в. Вясна гола перапала*, „Бацькаўшчына" 1956, № 25–26 (24 чэрв.), с. 6].

[1] Вельмі верагодна, што гаворка тут ідзе пра *Стихи поздравительныя въ дѣнь именин Г^жи^ Маріи Яньшиной* (варыянт: *Powinszawannie Pana*).

[2] Больш падрабязна гл.: *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1990, с. 212–234, а таксама: А. Адамовіч, *Да пабудовы навуковае гісторыі беларускае літаратуры*, "Запісы: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва" 1963, кн. 2, с. 90.

[3] А. Адамовіч, *Да пабудовы навуковае гісторыі беларускае літаратуры*, "Запісы: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва" 1963, кн. 2, с. 89.

[4] *Ibidem*.

руху. Аўтар гэтых радкоў, за часамі гітлераўскае акупацыі спаткаўшыся з праф. Вацлавам Іваноўскім, адным з галоўных дзеячоў выдавецкае суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», што першымі сваймі выданьнямі выпусьціла якраз Багушэвічавы *Дудку* й *Смык*, дастаў ад яго поўнае пацьверджаньне ўсяго гэтага. І *Скрыпачку* і рукапісы Рыпінскага праф. Пятуховіч заўсёды меў із сабою й нікому ў рукі не даваў; выразна вычувалася, што ён хацеў захаваць за сабой магчымасьць пяршынства ў камэнтаваньні дый у вапублікаваньні іх”[1]. [Не зусім зразумела: чаму Генадзь Кісялёў (1931–2008), маючы[2] такое красамоўнае выказванне А. Адамовіча адносна лёсу *Скрыпачкі беларускай* Ф. Багушэвіча, даволі невыразна асвятляе пытанне гісторыі дадзенага рукапісу[3]].

Пэўна, беларускім навукоўцам канца 1920-х гг. былі дасягальныя шмат якія іншыя беларускамоўныя тэксты XIX стагоддзя. Перадусім іх можна было атрымаць і ад Браніслава Эпімаха-Шыпілы (1859–1934), і Я. Карскага, і Р. Зямкевіча і інш. Аднак перашкодаю сталася грамадска-палітычная сітуацыя ў Беларусі, змаганне з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, з беларушчынаю ўвогуле. Усё гэта ўжо ў 1930 г. спыніла падрыхтоўку навуковай гісторыі беларускае літаратуры. Літаратуразнаўства на доўгія гады трапіла ў палон сацыялагічнага метаду, што прывяло да катастрафічнага зніжэння ўзроўню навукі: інтэрпрэтацыя літаратурных твораў звялася да школьнага іх пераказу.

Фактычна пасля рэпрэсій 1930-х гг. “знікла” тэксталогія як навука. Шуканнем беларускіх твораў XIX стагоддзя працягваў займацца, хіба, адзін толькі Лукаш Бэндэ (1903–1961). Цяжка вызначыць мэту ягонае дзейнасці: апрача акумуляваных збораў рэпрасаваных навукоўцаў і літаратараў, якія траплялі да яго як сваеасаблівага “эксперта”, ён выяўляў і перапісваў беларускамоўныя тэксты з даўніх перыядычных і неперыядычных выданняў, архіўных рукапісных матэрыялаў Паўла Шэйна (1826–1900), Івана Насовіча (1788–1877) і інш. І пры гэтым, відавочна, не ставілася задача іх публікавання.

Праўда, усё ж мы не назіраем поўнага занядбання цікавасці да даўняй і адносна даўняй літаратуры: маем на ўвазе колькі публікацый маладых даследчыкаў Міхася Ларчанкі (1907–1981) і Любові Фіглоўскае (1908–1979), што зрэшты прывяло да публікацыі ў першай савецкай хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* толькі двух “новых” тэкстаў (вершаванага апавядання *Панская ласка* і публіцыстычнае гутаркі *Дзядзька Антон*), якія перад тым не друкаваліся[4].

У Заходняй Беларусі цягам апошняга даваеннага дзесяцігоддзя толькі хіба Р. Зямкевіч ды Янка Шутовіч (1904–1973) публікавалі невядомыя раней творы Янкі Лучыны (1851–1897) і Адама Гурыновіча. І гэта нягледзячы на тое, што

---

[1] *Ibidem*, с. 90.

[2] Мяркуем па тым, што навуковец працытаваў фрагмент тэксту А. Адамовіча, які ішоў непасрэдна за фрагментам, які мы падалі вышэй. Няўжо Г. Кісялёў меў толькі абзац, прысвечаны К. Вераніцыну і *Тарасу на Парнасе*? Гл.: Г. Кісялёў, *Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.*, 2-выд., Мінск 2003, с. 383.

[3] Гл.: Г. Кісялёў, *Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.*, 2-выд., Мінск 2003, с. 318–321.

[4] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, пад рэд. Янкі Купалы; матэрыялы падабраны і апрацаваны В.В. Барысенка, М.Г. Ларчанка, Л.І. Фіглоўскай, Мінск 1940, с. 114–121, 129–147.

ў краі выходзілі шматлікія газеты і часопісы (нават навуковыя), а зборы Беларускага музея ў Вільні ды Р. Зямкевіча ў Варшаве былі надзвычай багатыя на матэрыялы, датычныя айчыннай літаратуры XIX стагоддзя.

Катастрафічны стан беларускага гістарычнага літаратуразнаўства ў пасляваенны час актыўна ўзяўся “папраўляць” Л. Бэндэ[1]. Пэўна, заахвочаны магчымасцю атрымання ганарараў, ён цягам 1945–1956 гг. апублівоўваў у беларускіх літаратурна-мастацкіх выданнях значную колькасць невядомых твораў беларускай літаратуры XIX стагоддзя (вершы Зыгмунта Нагродскага (1866–1937), Янкі Лучыны, Вайніслава Сулімы-Савіч-Заблоцкага (1849?–1893?), Каруся Каганца (1868–1918), Цёткі (1876–1916), Фелікса Тапчэўскага (1838?–1892), вершаваныя апавяданні В. Дуніна-Марцінкевіча, ананімныя гутаркі *Сход*, *Гутарка ў карчме*), а таксама матэрыялы пра жыццёвы і творчы шлях Янкі Лучыны, Вайніслава Сулімы-Савіч-Заблоцкага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча.

На нашу думку, на тэксталагічную практыку Л. Бэндэ арыентаваліся (перадусім, улічвалі) складальнікі хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* Васіль Барысенка (1904–1984), М. Ларчанка, Л. Фіглоўская, калі пад рэдакцыяй Юльяна Пшыркова (1912–1980) рыхтавалі як нядаўна выяўленыя, так і вядомыя творы да публікацыі[2]. Менавіта на практыку, якая склалася ў 1920–1930-я гг. і фактычна не ўлічвала вопыт тэксталагічнае навукі. І гэтая практыка ўсталюецца на доўгія дзесяцігоддзі. Гаворка тут, па-першае, пра тое, што мастацкія тэксты мінулае эпохі будуць друкавацца пераважна ў перыядычных, навучальных ці літаратурна-мастацкіх, а не навуковых выданнях; па-другое, публікацыі будуць ажыццяўляцца паводле прынцыпу адаптацыі тэксту твора дзеля: а) ідэалагічнае вытрыманасці, б) сучаснае арфаграфіі, в) “мілагучнасці”.

Адсутнасць у першыя пасляваенныя гады беларускае тэксталагічнае навукі схіліла публікатараў да выкарыстання тых прынцыпаў, якія дыктавала ідэалогія, цэнзура і “ўзоры” Л. Бэндэ[3]. Публікацыйная практыка была народжаная Сістэмай, заахвочвалася і ўхвалялася Сістэмай. І, на жаль, мала хто з даследчыкаў мог дазволіць сабе адступіцца ад прынцыпаў, якія ўсталявала Сістэма.

Менавіта гэтыя прынцыпы публікацыі літаратурных твораў мінулага мы мелі на ўвазе, калі сцвярджалі ў першым томе *Даследаванняў і матэрыялаў*..., што “фактычна, навуковым выданнем літаратурных тэкстаў XVIII–XIX стст. у нас ніхто не займаўся”. Не называючы нікога, у тым ліку і сябе, бо ў 1990-я гг. не раз прапаноўвалі ў друк невядомыя ці малавядомыя беларускамоўныя творы.

---

[1] “1.X.[1947]. <…> 5) Адведаў мяне Бэндэ, прафэсар зь Ленінграду. Шмат знаходзіць новага да вытокаў беларускага адраджэньня, працуючы па архівах. <…> Казаў, што ў Менску навукова працаваць няма каму. А якія ёсьць, дык хутка пападаюцца, бо хочуць быць больш марксістамі, чым сам Маркс. Не пападаюць у тон, і гэта іх губіць” (А. Станкевіч, *Каляндарныя нататкі* [у:] А. Станкевіч, *З Богам да Беларусі: Збор твораў*, Вільня 2008, с. 861).

[2] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, пад рэд. Ю.С. Пшыркова; склалі: В.В. Барысенка, М.Г. Ларчанка, Л.І. Фіглоўская, Мінск 1950.

[3] Вядома, Л. Бэндэ не “прыдумоўваў” нейкія адмысловыя правілы публікацыі. Ён, узяўшы за аснову публікацыйную практыку беларускіх гісторыкаў літаратуры 1910–1920 гг., “удасканаліў” яе адно ідэалагічным падходам, аднаасобна вырашаючы (без усялякіх агаворак), што можна друкаваць, а што варта ў тэксце апусціць.

На жаль, Ігар Запрудскі, паставіўшы сабе за мэту[1] давесці, што аўтар *Даследаванняў і матэрыялаў...* недаацэньвае "вынікі і плён працы папярэднікаў", "іранічна ці нават саркастычна" ставіцца да іх, аспрэчыў нашую думку, гіпатэтычна сцвердзіўшы, што навуковыя выданні твораў літаратуры XIX ст. у нас былі: "Між тым, тэкст паэмы *Тарас на Парнасе* прынамсі двойчы быў надрукаваны на аснове навуковых прынцыпаў пры падрыхтоўцы публікацыі"[2]. І, як прыклад, спасылаецца на артыкул *Друкаваныя і рукапісныя варыянты паэмы Тарас на Парнасе* Ісідара Баса (1913 – ?) ды надрукаваную Віталем Скалабанам (1947–2011) працу М. Піятуховіча *Рукапісы А. Рыпінскага*. Аднак матэрыялы М. Піятуховіча В. Скалабан узнавіляў сучасным правапісам, а паэму *Тарас на Парнасе* падаваў у адаптаваным В. Мачульскім выглядзе.

Ужыўшы ў сваім выказванні слова "фактычна", мы тым самым даводзілі, што нават калі асобныя публікацыі і называліся "навуковымі", то такімі яны былі толькі фармальна, бо насамрэч не заўсёды "дацягвалі" да навуковага ўзроўню. Артыкул І. Баса *Друкаваныя і рукапісныя варыянты паэмы Тарас на Парнасе*[3] – гэта навуковая праца, дзе друкаваўся параўнальны спіс твора. У аснову гэтага спіса быў пакладзены тэкст паэмы, выдадзены для шырокага чытача "пад рэдакцыяй"[4] Міхася Клімковіча (1899–1954). Варыянты ж, змешчаныя ў зносках да гэтага тэксту, даюць адно прыблізнае ўяўленне пра пераважна маладаступныя публікацыі адрэдагаваных рознымі выдаўцамі XIX – пачатку XX ст. спісы паэмы. І. Бас, як сам прызнаецца, даў "разначытанні (лексічныя і часткова [sic!] фанетычныя і арфаграфічныя)"[5]. Параўнальны спіс – гэта, звычайна, варштат навукоўца, а таму называць яго навуковай публікацыяй твора будзе перабольшаннем.

Што датычыць *Тараса на Парнасе*, надрукаванага В. Скалабанам, то тут сапраўды публікатар, як і належыць пры навуковым узнаўленні тэксту, перадаў асаблівасці запісанага В. Мачульскім тэксту[6]. Але – зноў жа! – гэта не навуковая публікацыя твора.

---

[1] Сцвярджаем гэта на той падставе, што ў тэксце г. зв. "рэцэнзіі" сутнаснай з'яўляецца толькі думка, паўтораная тройчы – пры "аналізе" кожнага тома выдання, пра "прадузятасць" і "саркастычнасць" аўтара ў адносінах да папярэднікаў. Усё іншае ў "рэцэнзіі" – адно пераклік таго, што ёсць у выданні, ды цалкам непатрэбны тут "рэестар" даробку аўтара.

[2] І. Запрудскі, *Хаўстовіч Мікола, Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў, Warszawa: Katedra Białorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego, 2014, t. I, 300 s.; 2016, t. II, 300 s.; 2017, t. III, 360 s.*, "Беларускі гістарычны агляд" 2017, т. 24, сш. 1–2 (46–47), с. 301.

[3] Гл.: І. Бас, *Друкаваныя і рукапісныя варыянты паэмы Тарас на Парнасе*, "Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі, вып. III, Мінск 1960, с. 213–233.

[4] Уласна, выданне М. Клімковіча нічым не адрозніваецца ад надрукаванага ў 1940 г. тэкста ў зборніку *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* (с. 13–19), які – у сваю чаргу – "з нязначнымі рэдакцыйнымі зменамі" апублікаваны паводле брашуры *Тарас на Парнасе: Новае перагледжанае выданне* (Вільня: "Наша Хата" 1909), што паўстала на аснове нашаніўскае публікацыі *Тарас на Парнасі* ("Наша Ніва" 1909, № 40). Атрымліваецца, што "параўнальны спіс" І. Баса – гэта пераважна супастаўленне версій паэмы рэдактараў-выдаўцоў канца XIX – першае паловы XX стагоддзя.

[5] *Ibidem*, с. 217.

[6] Гл.: *Узьлезши на Парнас, што видзиу там Тарас*? [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1990, с. 236–245.

Але якія яшчэ навуковыя публікацыі беларускамоўных твораў XIX стагоддзя мог бы назваць наш апанент? Навуковыя зборнікі “Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі” (1958–1960), “Беларуская літаратура і літаратуразнаўства” (1973–1976), “Беларуская літаратура: рэспубліканскі міжведамасны зборнік” (1977–1992), гісторыка-літаратурны зборнік *Шляхам гадоў* (вып. 1–4, 1990–1994)? Але дастаткова зірнуць у іхні змест, каб пераканацца, што беларускамоўных мастацкіх твораў XIX стагоддзя там амаль няма[1].

Як выключэнне – грунтоўнае даследаванне Г. Кісялёва *Пачынальнікі*. Праўда, літаратурных твораў там апублікавана няшмат (дванаццаць), бо даследчык асноўную ўвагу надаваў невядомым ці малавядомым матэрыялам літаратурнага працэсу. Аднак пра тыя мастацкія тэксты, якія надрукаваны ў *Пачынальніках*, не заўсёды скажаш, што яны апублікаваны ў адпаведнасці з навуковымі патрабаваннямі, бо Г. Кісялёў транслітараваў іх з лацінкі на грамадзянскі шрыфт, а з-за гэтага часам трацілiся іх надзвычай істотныя асаблівасці. Як, напрыклад, у вершы Вінцэся Каратынскага (1831–1891) *Daliboh-to, Arcim*...

| LVIA, F. 1135–4–391a, k. 19. | *Пачынальнікі...,* с. 248. |
|---|---|
| Daliboh-to, Arcim, | Далібог-то, Арцім, |
| Szto prypłyŭ Ty k’ sŭaim! | Што прыплыў ты к сваім! |
| I ziamla tut Tŭaja, | І зямля тут твая, |
| I narod jak siamja: | І народ, як сям’я. |
| Jon z Taboju z ŭiakoŭ | Ён з табою з вякоў |
| Adno cieło i kroŭ; | Адно цело і кроў; |
| Choć nima kality, | Хоць німа каліты, |
| Da hamonić jak Ty; | Да гамоніць, як ты; |
| Roŭno z pieśni Tŭaje | Роўно з песні твае |
| Dumu-dumku snuje, | Думу-думку снуе, |
| I nia to aby z ruk, − | І ня то абы з рук, – |
| Czałaŭiek nia Pinczuk! | Чалавек ня пінчук! |

Так, дадзены верш выключны з-за свае арфаграфіі. Але факт застаецца фактам: нават у самым лепшым навуковым выданні, якое датычыць гісторыі беларускае літаратуры, сустракаюцца ненавуковыя прынцыпы перадачы тэксту.

Адмыслова завастраючы пытанне пра неабходнасць навуковага выдання поўнага збору беларускамоўнае мастацкае літаратуры XIX стагоддзя (без гэтага немагчыма напісанне навуковае гісторыі літаратуры), мы далёкія ад думкі, што надрукаванае намі ў трох тамах *Даследаванняў і матэрыялаў*... адпавядае крытэрыям навуковай публікацыі твора. Бо мы, публікуючы адно тэксты (і іх варыянты) выяўленых твораў, свята верым у тое, што прыйдзе час, калі дасведчаныя тэкстолагі здолеюць падрыхтаваць іх навуковыя выданні.

Мы пакуль што ведаем толькі два творы[2] беларускае літаратуры XIX стагоддзя (*Тарас на Парнасе*, *Два д’яўлы*), якія былі надрукаваныя ў адпаведнасці

[1] Публікацыю “параўнальнага спіса” *Тараса на Парнасе*, а таксама пяці тэкстаў з папераў М. Піятуховіча і В. Мачульскага можна разглядаць як выключэнне.

[2] Нават двухтомнік В. Дуніна-Марцінкевіча (*Збор твораў у двух тамах*, Мінск 2007–2008), шмат у чым адпавядаючы навуковым эдыцыйным патрабаванням, на нашую думку, не з’яўляецца навуковым выданнем.

з прынцыпамі навуковай публікацыі[1]. Маем на ўвазе кнігу *Тарас на Парнасе: Паэмы* (2009), падрыхтаваную Юрасём Пацюпам. І гэта нягледзячы на тое, што выйшла яна ў "Мастацкай літаратуры" як літаратурна-мастацкае выданне[2].

Чарговы, чацвёрты, том *Даследаванняў і матэрыялаў...* змяшчае шэраг тэкстаў – беларускамоўных і польскамоўных, якія ў ХХ стагоддзі не друкаваліся ці друкаваліся ў адаптаваных версіях. У складаных пытаннях атрыбуцыі мастацкіх твораў мы не выказваемся адназначна на карысць таго ці іншага аўтара, а толькі прапануем найбольш верагодных прэтэндэнтаў на аўтарства. Спадзяемся, што нашыя публікацыі паспрыяюць вывучэнню беларускае літаратуры XIX стагоддзя – выяўленню тэкстаў, іх атрыбуцыі, падрыхтоўцы навуковых выданняў мастацкіх твораў, а таксама напісанню навуковае гісторыі літаратуры.

Выказваючы ўдзячнасць усім, хто паспрыяў падрыхтоўцы гэтага тома, звяртаемся адначасна да чытачоў з просьбаю дасылаць свае каментары і заўвагі на адрас: m.khaustovich@uw.edu.pl.

---

[1] На жаль, істотным хібам дадзенага выдання з'яўляецца тое, што творы адназначна прыпісваюцца К. Вераніцыну, які – усё ж – на сённяшні дзень толькі адзін з найбольш верагодных прэтэнтэнтаў на аўтарства славутых беларускіх паэмаў.

[2] І. Запрудскі, лічачы навуковай публікацыяй твора дакладнае ўзнаўленне яго занатаванага тэксту, выкарыстаў факт публікацыі кнігі *Тарас на Парнасе: Паэмы* ў "Мастацкай літаратуры", а таксама "рэканструкцыю" і "адаптацыю да нормаў сучаснага правапісу", каб запярэчыць навуковасці выдання. Гл.: І. Запрудскі, *Хаўстовіч Мікола, Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў, Warszawa: Katedra Białorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego, 2014, t. I, 300 s.; 2016, t. II, 300 s.; 2017, t. III, 360 s.*, "Беларускі гістарычны агляд" 2017, т. 24, сш. 1–2 (46–47), с. 300–301.

# *Размова імператрыцы з Ільгерштромам*

У навуковай літаратуры мы не знаходзім звестак пра тое, што ідэолагі і публіцысты антырасійскага паўстання 1794 г. на тэрыторыі Беларусі стваралі і выкарыстоўвалі ў агітацыйных мэтах беларускамоўныя тэксты[1]. І гэта пры тым, што з красавіка па жнівень 1794 г. улада ў Вільні была ў руках Найвышэйшае літоўскае рады (Rada Najwyższa Rządowa Litewska), якая выдавала "Gazetę Narodowa Wileńska"[2] і мела ў сваім распараджэнні Акадэмічную друкарню ў Вільні (Drukarnia Akademicka)[3] і Віленскую базыльянскую друкарню.

Нехта можа запярэчыць: але ж была ў гэты час напісаная *Песня беларускіх жаўнераў*. У 1990-я гг. нават у школьных падручніках гаварылася пра шырокую папулярнасць гэтага твора, а салідныя навукоўцы сцвярджалі на падставе тэксту *Песні*..., што менавіта ў тыя часы ў асяроддзі шляхецкай інтэлігенцыі нараджалася беларуская свядомасць.

Аднак, як мы ведаем, публікацыі *Песні беларускіх жаўнераў* не папярэднічала грунтоўнае навуковае даследаванне. Тут вырашыў усё аўтарытэт Адама

---

[1] А. Мальдзіс, праўда, згадваў нейкую загадкавую адозву касцюшкаўскае пары́: "Намеснік дырэктара бібліятэкі ["Асалінэум". – *М. Х.*] доктар Шчэпанец парадаваў мяне двума рэдкімі выданнямі канца XVIII ст. Першае з іх – невядомая раней адозва *Савет літовскій пад началнічэством Фаддзея Костюшкі*. Тэкст яе надрукаваны паралельна па-польску і па-беларуску – царкоўнаславянскімі літарамі. Другое – *Пісн українців козаків*. Тэкст яе адпавядае *Песні беларускіх жаўнераў 1794 года*, якую гадоў з пяць назад мне ўдалося знайсці сярод вільнюскіх рукапісаў. Трэба будзе неяк устанавіць, ці беларускі тэкст быў перакладзены з украінскага, ці ўкраінскі з беларускага" (А. Мальдзіс, *Тры месяцы пошукаў і сустрэч* [у:] А. Мальдзіс, *Таямніцы старажытных сховішчаў. Да гісторыі беларускай літаратуры XVII−XIX стагоддзяў*, Мінск 1974, с. 119).

"Паўстанне 1794 г. знайшло шырокі водгук і падтрымку на беларуска-літоўскіх землях, да насельніцтва якіх была звернута адозва Касцюшкі, друкаваная паралельна на польскай і беларускай мовах (*Совіет литовскій под началничеством Фаддея Костюшки*)" [А. Мальдзіс, *На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.)*, Мінск 1980, с. 219].

[2] "Gazeta Narodowa Wileńska" выходзіла "za rozkazem Najwyższej Rady" двойчы на тыдзень з 5 мая да 10 жніўня 1794 г. Усяго – 29 нумароў. Рэдагаваў яе Філіп Галянскі (1753–1824), які паходзіў з-пад Кракава; адукацыю ён атрымаў у піярскім калегіуме ў славацкай Падалінцы (Аўстрыя); з 1787 г. – прафесар Галоўнае школы Вялікага Княства Літоўскага. У пэўным сэнсе "Gazeta Narodowa Wileńska" была працягам "Gazety Wileńskiej", якую рэдагаваў у 1764–1793 гг. прафесар Віленскай езуіцкай акадэміі, а пазней (з 1781 г.) рэктар Галоўнае школы Вялікага Княства Літоўскага Марцін Пачобут-Адляніцкі (1728–1810).

[3] Сваю друкарню ў 1586 г. Мікалай Крыштаф Радзівіл "Сіротка" перадаў езуітам, якія валодалі ёю да скасавання ордэну ў 1773 г. З 1774 г. – уласнасць Адукацыйнае камісіі. У 1805 г. Віленскі ўніверсітэт прадаў яе Юзафу Завадскаму. У пасляезуіцкі перыяд звычайна называлася Drukarnia JKMci ці Drukarnia Królewska przy Akademii.

Мальдзіса. На нашую думку, айчынныя літаратуразнаўцы паспяшаліся паверыць у такую прывабную для беларусаў легенду[1]. Можа, варта ўсё ж задацца пытаннем: ці сапраўды *Песня беларускіх жаўнераў* была напісаная ў XVIII ст.? І ці магчыма адшукаць хоць якія-кольвек матэрыялы, здольныя пацвердзіць той факт, што рукапісны верш, выяўлены ў XX ст., быў вядомы ў часы паўстання 1794 г.

У савецкую эпоху не толькі беларускія, але нават і польскія навукоўцы былі абмежаваны ў спробах грунтоўнага даследавання гісторыі паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. І толькі пачынаючы з канца 1980-х гг. беларускаму чытачу паступова сталі адкрывацца старонкі палітычнае гісторыі беларускіх земляў перыяду ліквідацыі Рэчы Паспалітае[2].

Тут нас цікавяць падзеі 1794 г.

У выніку паражэння Рэчы Паспалітай у г. зв. расейска-польскай вайне 1792 г. тэрыторыю краіны (дакладней: тое, што засталося пасля I падзелу) занялі расейскія і прускія войскі, а Гарадзенскі сойм (21.06.–23.11.1793) зацвердзіў II падзел. У гэты час паслом Расеі ў Рэчы Паспалітай быў Якаў Сіверс, а на чале войска стаяў генерал-аншэф Восіп Ігельстром[3]. Апошні адразу пасля гарадзенскага сойма канцэнтруе ўсю ўладу на тэрыторыі Польшчы ў сваіх руках: Расея прагнула ліквідацыі Рэчы Паспалітае, а на думку Платона Зубава і Кацярыны II, гэта мог паспяхова здзейсніць менавіта В. Ігельстром. Пецярбург патрабаваў жорсткіх мер у дачыненні да палякаў, правакуючы іх на паўстанне. Асабліва радыкальным было патрабаванне Расеі правесці г. зв. “рэдукцыю войска”: зменшыць колькасць арміі Кароны і ВКЛ з 34 тысячаў да 15, а “рэдукаваным” афіцэрам і жаўнерам прымусова ўступіць у расейскую ці прускую арміі.

24 сакавіка 1794 г. на кракаўскім рынку агучаны быў Акт паўстання, а Тадэвуш Касцюшка прысягнуў на вернасць народу. Праз дзесяць дзён (4 красавіка) ягонае войска пад Рацлавіцамі нанесла паражэнне расейскаму войску. У баях апрача рэгулярнага войска ўдзельнічалі кракаўскія сяляне, што дало падставы невядомаму паэту-інтэлігенту напісаць *Śpiewkę włościan krakowiaków*,

---

[1] Напісаўшы ў 1969 г. пра сваю знаходку (“ЛіМ”, № 74), А. Мальдзіс не мог, па вядомых прычынах, надрукаваць *Песню...* І фактычна, да поўнае публікацыі ў 1993 г. верш быў недаступны для большасці даследчыкаў. За гэты час у свядомасці літаратуразнаўцаў канчаткова ўмацавалася, што ў часы паўстання Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры ўзнік твор немалое мастацкае вартасці.

[2] Гл., напрыклад, працы Яўгена Анішчанкі: *Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай*, Мінск 2003; *Палітычная гісторыя ў часы падзелу Рэчы Паспалітай: Доктарская дысертацыя*, Мінск 2006 і інш.

[3] Восіп Ігельстром (1737–1823), расейскі дзяржаўны дзеяч шведскага паходжання. З 1756 г. служыў у расейскім войску. У сярэдзіне 1760-х гг. выконваў важныя палітычныя даручэнні пасла Расеі ў Рэчы Паспалітай Мікалая Рапніна. У тым ліку – арышт і вываз у Калугу апазіцыйных сенатараў, кіраўнікоў Радамскай канфедэрацыі: кракаўскага біскупа Каятана Солтыка, кіеўскага біскупа Юзафа Залускага, польнага кароннага гетмана Вацлава Жавускага і ягонага сына Севярына. Падобнае ён учыніў і ў 1784 г. пад час анексіі Крыма, калі па даручэнні Грыгорыя Пацёмкіна вывез у Расею крымскага хана Шагін-Гірэя і змусіў яго адрачыся ад трона. Дыпламатычныя здольнасці В. Ігельстрома разлічвала выкарыстаць Кацярына II, накіроўваючы яго ў снежні 1792 г. у Варшаву.

якая імгненна сталася надзвычай папулярнаю: распаўсюджвалася ў рукапісах, з'явіліся варыянты, якія друкаваліся ў газетах і асобнымі ўлёткамі.

17 красавіка варшаўскія рамеснікі атакавалі рэзідэнцыю расейскага пасла В. Ігельстрома і здолелі ў хуткім часе вызваліць горад ад царскіх войскаў. Часовая Рада (Rada Zastępcza Tymczasowa) адразу прызнала Т. Касцюшку найвышэйшым начальнікам Нацыянальных Узброеных Сілаў (za Najwyższego Naczelnika Siły Zbrojnej Narodowej).

Падобнае здарылася і ў Літве, дзе 23 красавіка 1794 г. літоўскія войскі пад камандаю Якуба Ясінскага (1761–1794) разграмілі расейскі гарнізон у Вільні (захапілі больш за тысячу афіцэраў і салдат у палон). У гэты ж дзень быў агучаны Акт паўстання літоўскага народу; паўстанцы стварылі таксама Найвышэйшую літоўскую раду. Сепаратызм ліцвінаў, што выявіўся напачатку, у хуткім часу знівеляваўся агульнасцю мэтаў паўстання, а таксама (у пэўнай ступені) агульнай інфармацыйнай "паўстанцкай" прасторай: віленчукі "залежалі" ад варшаўскай, кракаўскай і інш. перыёдыкі і г. зв. "улётных" друкаваных выданняў.

Адным з першых віленскіх "улётных" друкаў быў сатырычны верш на палеска-падляскай гаворцы *Rozhowor Imperatrici z Ilhiersztromom łystowny dnia 28 Apryła 1794 hodu*. Ягонае выданне (без указання месца і года) было вядомае Каралю Эстрайхеру: у 1901 г. ён занатаваў яго ("*Rozhowor Imperatrici z Ilhierstromom łystowny dnia 28 apryła 1794 hoda*, w 4ce, kart. 3. Branic."[1]) побач з яшчэ трыма тэкстамі, у тытуле ці змесце якіх згадваўся В. Ігельстром. Цікава, што ні Я. Карскі, ні В. Ластоўскі не надалі гэтаму выданню XVIII ст. належнае ўвагі (відаць, не мелі магчымасці пазнаёміцца з ім ці не лічылі яго беларускім). Не было яно апісана і польскімі даследчыкамі паўстання 1794 г. Першымі звярнулі на яго ўвагу беларускія літаратуразнаўцы: у 1960–1970-я гг. Уладзімір Казбярук (1923–2016) выявіў асобнік *Rozhoworu Imperatrici z Ilhiersztromom*... у Нацыянальнай бібліятэцы імя Асалінскіх (Zakład Narodowy im. Ossolińskich); у 1973 г. А. Мальдзіс працытаваў твор (радкі 7−10 з яго)[2], а ў 1980 г. ахарактарызаваў яго змест і падаў 20 з 74 радкоў[3].

У паслякамуністычную эпоху гісторык Анджэй Вальтаноўскі (1941–1996) уключыў *Rozhowor...* у кніжку *Turniej paszkwilancki wileńsko-warszawski na cześć ambasadora rosyjskiego Josifa Igelströma 1794 r*. Даследчык давёў, што "рускі" і польскія сатырычныя тэксты – гэта водгук грамадства на нядоўгае, але надзвычай жорсткае кіраванне Восіпа Ігельстрома. Пачатак, як ён называе, турніру паклаў перахоплены паўстанцамі ў Шаўлях ліст амбасадара[4] да, відаць,

---

[1] *Estreicher: Bibliografia polska*, t. XVIII, Kraków 1901, s. 555. Відавочна, асобнік выдання на пачатку XX ст. захоўваўся ў Бібліятэцы Браніцкіх (замак Суха-Бяскідска).

[2] Гл.: А. Мальдзіс, *Помнікі літаратурнага жыцця Палесся ў XVIII стагоддзі* [у:] *Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры і фальклору*, Гомель 1973, с. 97−99.

[3] Гл.: А. Мальдзіс, *На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.)*, Мінск 1980, с. 286–287. Моўныя асаблівасці *Rozhoworu…* разглядаў І. Крамко. Гл.: І.І. Крамко, *Ананімная літаратура канца 18−1-й палавіны 19 ст. і яе мова* [у:] *Беларуская мова: Энцыклапедыя*, Мінск 1994, с. 33−34.

[4] Упершыню ліст В. Ігельстрома ў перакладзе з французскае мовы на польскую апублікаваны быў яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. Гл.: *Depesze przejęte na Żmudzi przez komendę J. P.*

прэзідэнта Ваеннай калегіі Мікалая Салтыкова (1736–1816) пра пачатак паўстання ў Варшаве і крытычны стан расейскага войска ў Польшчы[1]. У Вільні ліст па даручэнні Найвышэйшае літоўскае рады надрукавалі на мове арыгінала (французскай) і ў перакладзе на нямецкую і польскую мовы. Відавочна, у хуткім часе (на думку, А. Вальтаноўскага пасля 9 мая 1794 г.) быў напісаны на палескападляшскай гаворцы і надрукаваны таксама ў Вільні *Rozhowor Imperatrici z Ilhiersztromom łystowny dnia 28 apryła 1794 hodu*. А. Вальтаноўскі лічыў, што аўтар гэтага верша імітуе расейскую мову, бо "mający uchodzić za rosyjski język «miejscowy» utworu był dość często stosowany w literaturze politycznej okresu Sejmu Wielkiego czy insurekcji"[2]. Але, здаецца, дадзенае меркаванне памылковае: па-першае, у польскамоўных тэкстах часоў паўстання іншамоўныя ўстаўкі напісаны на дастаткова правільнай расейскай мове; а па-другое, гэткаю ж самаю "мясцоваю" моваю напісаны і верш *Piśń ukraińciw kozakiw*. Можна думаць, што аўтар[3] зусім не імкнуўся імітаваць расейскую мову, а пісаў на сваёй роднай гаворцы, прызначаючы тэкст для няпольскага насельніцтва Віленшчыны.

Апрача названых тэкстаў "turniej paszkwilancki wileńsko-warszawski" "складаўся" яшчэ з чатырох сатырычных польскамоўных твораў: 1. *Wiersz obywatelski z okazji listu Igielstroma do ministra wojennego w którym odwołuje się do Boga i dobrej sprawy Monarchini swojej*; 2. *Składnia o despotycznych czynnościach Igielstroma w Polszcze z pobudką do Woyny przez F. G. po prostu zebrana*; 3. *List do Jaśnie Wielmożnego Imci Pana Ilgiestroma Ambasadora Pełnomocnego, i Najwyższego Komendanta w Polsce Wojsk Przyjacielskich i Alianckich Moskowskich, Kawalera różnych Orderów, od Polaka winnego mu obowiązki wdzięczności pisany z obozu pod Połońcem. 1794 roku dnia miesiąca czerwca*; 4. *Wiersz z pożegnaniem tegoż*[4].

Адзіны асобнік *Rozhoworu Imperatrici z Ilhiersztromom łystowny dnia 28 apryła 1794 hodu* захоўваецца ў Бібліятэцы Асалінскіх ва Уроцлаве (Zakład Narodowy imieni Ossolińskich). А. Вальтаноўскі, паводле, як ён піша, уласнага "rozpoznania typograficznego", сцвердзіў, што твор выйшаў у свет у Акадэмічнай друкарні ў Вільні[5]. Бібліятэчныя пазнакі і асабістая пячатка сведчаць, што калісь

---

*szefa Niesiołowskiego*: *I* [w:] *Powstanie T. Kościuszki z pism autentycznych sekretnych dotąd drukiem nieogłoszonych wydane*, Poznań 1846, s. 1–3.

[1] *List Igielstroma z Warszawy 5 Apryla podług Ruskiego Kalendarza 1794 pisany do ministra Wojennego przejęty od Wojsk Narodowych z Francuskiego wytłumaczony* [w:] *Turniej paszkwilancki wileńsko-warszawski na cześć ambasadora rosyjskiego Josifa Igelströma 1794 r*., wstęp, wybór, komentarze A. Woltanowski, Białystok 1994, s. 31.

[2] *Ibidem*, s. 56.

[3] Ім мог быць Міхал Францішак Карповіч (пра яго – у раздзеле *Песня беларускіх жаўнераў*), асабліва ўлічваючы той факт, што публікацыя *Listu Igielstroma z Warszawy 5 Apryla podług Ruskiego Kalendarza 1794 pisany...* прызначалася для замежнага чытача – французскага і нямецкага, бо па-польску было адбіта адно 30 асобнікаў (інфармацыя А. Вальтаноўскага, які карыстаўся матэрыяламі былой Акадэмічнай друкарні ў Вільні). А г. зн. толькі прадстаўнікі Найвышэйшае літоўскае рады ведалі пра перахоплены ліст В. Ігельстрома.

[4] Гл.: *Turniej paszkwilancki wileńsko-warszawski na cześć ambasadora rosyjskiego Josifa Igelströma 1794 r*…., s. 36–52.

[5] *Turniej paszkwilancki wileńsko-warszawski na cześć ambasadora rosyjskiego Josifa Igelströma 1794 r*., wstęp, wybór, komentarze A. Woltanowski, Białystok 1994, s. 56.

ён быў уласнасцю брата Людвіка Пэжыны (Fr: Ludovicus Perżyna. O. S. J. D.)[1]. У сярэдзіне XIX ст. трапіў у бібліятэку Браніцкіх (у замку-рэзідэнцыі Суха-Бяскідска) і быў закаталагізаваны пад нумарам S=10.522. А пасля Другое сусветнае вайны апынуўся ва Уроцлаве.

Друкуецца паводле *Rozhowor Imperatrici z Ilhierstromom łystowny dnia 28 apryła 1794 hodu* [B. m. i dr.] (асобнік ZNiO, XVIII–11196–III) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў публікацыі.

[1] Маецца на ўвазе вядомы лекар і манах Ордэну братоў міласэрнасці (баніфратраў) Людвік Пэжына (1742–1812), аўтар выданняў для народа (напр., *Lekarz dla włościan, czyli rada dla pospólstwa*, 1793). Абрэвіятура OSJD паходзіць ад лац. Ordo Hospitalarius Sancti Joannis de Deo (Ордэн шпітальнікаў Святога Яна Божага), хоць часцей баніфратры карыстаюцца скарачэннем OH.

# ROZHOWOR
# IMPERATRICI
# Z ILHIERSZTROMOM

*Łystowny dnia 28. Apryła 1794 hodu*

## ROZHOWOR

* * * * * * * * * * * * * * *

IMPER:

Ilgierstrom donesy mne szto w Polszczy czuwaty
Czy wsi ieszcze Seła, Mista, stoiat chaty?
Ja tebi włast dała Lachow nie żywit
Wsich mni protywnych palit i rubit.

ILHIER:

Wsi Asudaryń mista stoiut, i ne Twoi syły,
Sztobby Lachom Mista, Derewni pałyły.

IMPER:

Sztosz ty haworysz do men durak
Ja tebie kazała uczynity tak
Sztobby Polakow ne było łyca
A hde Warszawa, tam rosła pszenyca.

ILH:

Chotił ia prykazy Carskii ispołniaty
I wsiu Warszawu do nohi wyryzaty?
Jak sia protyw mene Lahy zbuntowały
Siem tysiacz wiyska w Wiślie pohrebyły[1].
Kniazia *Gagarynow*[2] trupom położyły

[1] Гісторыкі паўстання сцвярджаюць, што ў Варшаве загінулі 2265 расейскія афіцэры і жаўнеры. (Тут і далей дзеля каментароў часткова выкарыстаныя працы А. Вальтаноўскага).

[2] Гаворка пра князя Фёдара Гагарына (1758–1794), генерал-маёра Сібірскага палка. Загінуў 17 красавіка 1794 г. у сутычках з паўстанцамі на Кракаўскім прадмесці (блізу касцёла Святога Крыжа).

Z mładym *Ilhierstromom*[1] w|iednoy mohły
A szczo rannych Gaficerow i szto Generałow
Pietersburskich po sołdatach mochłby dostat wałow.
Zywych mnoho Gaficerow bolsz dwa sta w Warszawi[2]
Moskal tiepier w Polaka nie wielikoy sławi,
Ja Sudariń żyw sam kohda|b ne spużałsia
Użebym z toboiu bolsz nie rozmawlał sia.

IMPER:

Szczo ty nehidny kakuiu wist daiesz
To ty moho wiyska mało szczo i majesz.

ILH:

A ieszcze budet dwa tysiacz zo|mnoiu[3]
A Chruszczow[4] sym wział pid Krakow z soboju
I toho *Kościuszka* kruhom otoczyw[5]
Nie wiedaiu Matiuszka iesły ieszcze żyw,
Nie mohu do neho hramoty pysat
I tebe o nym widomost podat,
*Apraxym, Cecynow z Zubowom*[6] nie mnoszko maiut
Palaki i tych po borach skoro szukaiut.

IMP:

Prawo mni gawory Palaki mało syły myły
Kak że moich sałdatow tak mnoho pobyły.

---

[1] В. Ігельстром, аточаны ў сядзібе амбасады (ul. Miodowa 10), 17 красавіка выслаў на замак да караля Станіслава Аўгуста дзеля перамоваў свайго пляменніка маёра Ігельстрома. Нягледзячы на тое, што яго вялі пад рукі польскія генералы Станіслаў Макраноўскі і Арнольд Бышэўскі, паўстанцы напалі на іх: генералаў адапхнулі, а Ігельстрома забілі.

[2] Паводле падлікаў гісторыкаў, 17–18 красавіка ў няволю трапілі: 161 расейскі афіцэр і 1764 жаўнеры.

[3] В. Ігельстром 18 красавіка вырваўся з амбасады, якая гарэла, з блізу 600 жаўнерамі ў кірунку Волі, дзе стаялі прускія войскі. Апрача таго блізу 300 расейцаў прарваліся праз Віслу на Прагу. Таксама генерал-маёр Іван Навіцкі выйшаў з Варшавы з блізу 2500 жаўнерамі

[4] Генерал ад інфантэрыі Аляксей Хрушчоў (1741–1805) пасля перамогі Т. Касцюшкі пад Рацлавіцамі быў высланы з варшаўскага гарнізона на дапамогу расейскаму войску. 5 мая ён злучыўся з аддзеламі генерал-лейтэнанта Сцяпана Апраксіна (1757–1827) і генерал-маёра Фёдара Дзянісава (1738–1803).

[5] Так пісалі ў тагачасных варшаўскіх выданнях. Насамрэч аддзелы А. Хрушчова не былі аточаны войскам Т. Касцюшкі.

[6] Расея, аднак, мела значны вайсковы кантынгент на тэрыторыі Рэчы Паспалітай і Літвы. У аддзелах Ф. Дзянісава, С. Апраксіна і А. Хрушчова было больш за 14 тыс. жаўнераў. Апрача таго пад Гародняю ў аддзелах генерал-маёра Паўла Цыцыянава (1754–1806) мелася каля 10 тыс. жаўнераў. Генарал-маёр Мікалай Зубаў (1763–1805), брат фаварыта Кацярыны II Платона Зубава, разам з В. Ігельстромам вырваўшыся з Варшавы, у хуткім часе быў у Пецярбурзе, каб паведаміць імператрыцы пра паўстанне.

ILH:

Ja z rady Lachiw Panow w piatok chotieł ryzaty
    Lachi rano w czetwer w ułyciach wziały zastupaty
Jak nam wsi dorohi wony zastupyły[1]
    Dworany, Lachi, i Zydy, twoie wiysko zbyły
Od lit pietnayciet dity iak wziały rubaty
    Nie lzia było w ułyciu nam sie pokazaty,
Pozabyrały dienhi, oruża, hramaty,
    A ia nykuda ne mochł z wiyskom utikaty.

IMP:

I sztu|ż ty teper ludey stratywszy dumaiesz
    I hdie z resztoiu naszych ty sia ukrywaiesz?

ILG:

Ne mnoszko ia sołdatow maiu
    Z ietymi sia w nużdy chowaiu.

IMP:

A Prus moy Aliant ne pomahał

ILG:

Podstupył pod Warszawu sałdatiw ztyrał[2]
    Sałdaty ieho z namy w okowach diłaiut,
Syplut wały bateryi i wyhodu maiut[3].

IMP:

Kak iebiona mat'[4] sztoby sołdaty dyłały;
    W Szweda, Prusa, i Turka a ne robotały,
Maiesz ty ieszcze puszki i hranaty:
    Mohłabym tebi woyska trytciat tysiacz daty,
A sztob so wsiom Lachow rozorył
    Sebe i wseich sławu ochronył.

ILH:

Puszok w|łaherach maiu try małyi

[1] У Варшаве хадзілі чуткі, што расейцы пачнуць забіваць люд пад час святкавання Вялікадня.

[2] Ztyrał – страціў. Аўтар недакладны: камандзір прускіх аддзелаў генерал Фрыдрых Гідэон фон Фольк (Friedrich Gideon v. Wolky), які меў 1500 жаўнераў і 4 пушкі, пасля перамоваў з паўстанцамі выйшаў з Варшавы ў кірунку Волі, г. зн. прускае войска не ўступала ў бой з паўстанцамі і не мела забітых.

[3] Расейскіх палонных выкарыстоўвалі дзеля будаўніцтва абарончых умацаванняў вакол Варшавы. Прусакоў сярод палонных у паўстанцаў не было.

[4] Аўтары сатырычных антырасейскіх твораў даволі часта выкарыстоўвалі абсцэнную лексіку дзеля стылізацыі маскоўскага маўлення. Гл.: В. Мартысюк, *Дзве вершаваныя сатыры з XVIII стагоддзя*, "Acta Albaruthenica" 2016, t. 16, s. 307–309.

Czotery pruskyi stoiat w bateryi
Kohdabys puszok bolsz nam nadosłała
Tohda bys w nużdy mia ne poratowała,
Trycciat tysiaczy wiyska to dla mene mało,
I sto tysiaczy Lachom rady by ne dało,
Teper od lit piatnatciat i starci i dity
Wsie twoie wiysko mohłyby zhubyty.

IMP:

Skażу mne o tych Panach czto dienhi pobrały[1],

ILH:

Odni siediat w newoli, druhyh powiszały,
Troch Hetmaniw[2] *Ankwycza*[3] i *Pop Kosakowskoy*[4]
Poweszon ne moh uyty w Moskwu z zemli Polskoy,
Uyszoł *Adam*, *Raczyńskoy*, *Szydłowskoy*, wział *Szmula*[5]
Spuhali sia sztob Polska ne tronuła kula,
A ieszcze mnoho Panyw bolszych wisiaty maiut
Tak teper w Polszczy Lachi druh z druhom diłaiut

IMPER:

Tob ty z Polszcziu iak baczu niczszto ne zdiełaiesz,
Pokiń Lachow[6], w Sibir paydiosz, tam komendu maiesz.

---

[1] Гаворка пра падкупленых саноўнікаў Рэчы Паспалітае.

[2] У Вільні 25 красавіка 1794 г. быў павешаны вялікі літоўскі гетман Шыман Касакоўскі (1741–1794); у Варшаве перад ратушай на рынку Старога места 9 мая 1794 г. – вялікі каронны гетман Пётр Ажароўскі (1725–1794) і польны літоўскі гетман Юзаф Забела (? – 1794).

[3] Маецца на ўвазе павешаны ў Варшаве перад ратушай на рынку Старога места 9 мая 1794 г. Юзаф Анквіч (1750–1794), маршалак Пастаяннае Рады (Rady Nieustającej) – найвышэйшага адміністрацыйнага органа Рэчы Паспалітае ў 1776–1788 і 1793–1795 гг.

[4] Маецца на ўвазе павешаны 9 мая 1794 г. у Варшаве перад касцёлам св. Анны інфлянцкі біскуп Юзаф Касакоўскі (1738–1794), брат гетмана.

[5] Гаворка пра прарасейскіх дзеячаў, якія ўцяклі з Варшавы разам з расейскім войскам: Адама Панінскага (1732–1798), маршалка сойму 1773–1775 гг., на якім быў зацверджаны I падзел Рэчы Паспалітае; Антоні Рачынскага (1760–1811), кансыляжа (радцу маршалка) Таргавіцкае канфедэрацыі; Адама Шыдлоўскага (пам. да 1827), кансыляжа Пастаяннае Рады (з 1793 г.); Шмуля Якубовіча (1727–1801), жыдоўскага купца і банкіра, галоўнага пастаўшчыка мяса для расейскіх войскаў.

[6] Афіцыйна адстаўку В. Ігельстром атрымаў 14 чэрвеня 1794 г., хоць ужо 3 мая камандаваць расейскім войскам у Рэчы Паспалітай быў прызначаны Мікалай Рапнін (1734–1801), які да гэтага часу быў толькі генерал-аншэфам расейскіх войскаў у Літве.

# *Песня беларускіх жаўнераў*

У хуткім часе пасля публікацыі *Rozhoworu Imperatrici z Ilhierstromom łystownoho dnia 28 apryła 1794 hodu* узнік яшчэ адзін твор на палескападляшскай гаворцы – *Piśń ukraińciw kozakiw*, напісанню якога папярэднічала шырокая папулярнасць *Spiewki Włościan Krakowiakow*, якая трапіла ў Вільню ў сярэдзіне мая 1794 г. Было гэта варшаўскае выданне з друкарні Пятра Завадскага, што ўбачыла свет да 20 мая. Філіп Галянскі, рэдактар "Gazety Narodowej Wileńskiej", перадрукаваў твор са сваім каментаром у восьмым нумары выдання (28 мая): "Верш, напісаны накшталт дыялекту кракаўскага люду, тым больш варты быць змешчаным у гэтай «Gazecie», што згадвае пра бясстрашную мужнасць тых, хто лемеш на зброю замяніўшы і адважна на непрыяцельскія гарматы напаўшы, пасляхова Найвышэйшаму Начальніку дапамаглі перамагчы. Адзін з іх, першы за іншых, у час бітвы да маскоўскай гарматы падбегшы, арудзійны запал сваімі рукамі так моцна закрыў, што хоць маскоўскі артылерыст паліў яму рукі запаленым лонтам, дык ён, як той рымскі Сцэвола: «Палі, – кажа, – палі тут, але там не патрапіш!». А тут іншыя падбеглі і ўсю непрыяцельскую батарэю здабылі. Адважны парабак, прыйшоўшы ў лагер рэкрутам, вярнуўся з бітвы афіцэрам".

Друкуецца паводле: *Spiewka Włościan Krakowiakow*, "Dodatek do Gazety Narodowej Wileńskiej" 1794, nr 8 (28 maja) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў публікацыі.

## *Spiewka Włościan Krakowiakow*

Daley Chłopcy daley zywo
Otwiera się dla nas zniwo,
Rzućwa pługi, rzućwa radło,
Trza wojować, kiey tak padło,
Niech kobieta gospodarzy,
Niech pilnują roli starzy,
My Parobcy Zagrodniki[1],
Rzućwa cepy bierzwa piki.
Bierzwa kosy bierzwa dzidy,

[1] Zagrodnik – прыгонны селянін, які мае толькі *zagrodę* (дом з гаспадарскімі будынкамі) і невялікі кавалак зямлі,

Otrząśniywa się z tey bidy.
Biywa wszyscy wraz Moskali,
Bo nas się dość natyrali.
Naucwa i sołdrę[1] Prusa,
Ze i w nas jest Polska dusa.
Jesce nasa chłopska kosa,
Potrafi jem utrzeć nosa.
Wymłuciem ich iako snopy,
Cuz to! bośmy to nie Chłopy?
Już ich strzepali za katy,
Przy Słomnikach[2] nase braty.
Zsiekli, skłuli, zmordowali,
Harmaciska odebrali,
Odebrali konie bryki,
Dukaciska i Rubliki.
A ci co byli zwawemi,
Pozostajali starszemi.
Głowacki co był Bartosem[3],
Chodzi teraz jak Pan z trzosem.
I Gwizdzickiemu[4] nicego,
Nie|dulkus[5] by i nam tego.
Nuyno chłopcy, pódźwa i wa,
Nasey się krzywdy pomściwa.
Jesce i nam Bóg poscęsci,
Niezałuywa na nich pięści.
Mawa ręce po pięć palców,
Bijwa dobrze tych zuchwalcow.
Poprzedaywa woły z wozem,
Spieswa wszyscy za obozem.
Poprzedaywa i poduski,
A przystaywa do Kościuski.

Выдавец паўстанцкай паэзіі Юліуш Новак-Длужэўскі (1893–1972) сцвярджаў, што “напісанне гэтакіх заахвочванняў мужыцкаю гаворкаю зразумелае, бо ж справа ішла пра агітацыю селяніна, які так адважна выступіў пад Рацлавіцамі. Гэта не ёсць гаворка ані кракаўская, ані якая-небудзь іншая, гэта гаворка ніякая, «інтэлігенцкая»”[6].

[1] Ці *szoldra* (ад ням. Schulter) – шынка; свіння (пагардліва пра прусакаў).

[2] Сломнікі – горад на поўнач ад Кракава. Напачатку бітва пад Рацлавіцамі называлася ў вайсковых рапартах як бітва пад Сломнікамі.

[3] Маецца на ўвазе Войцех Барташ, селянін-касінер, які вызначыўся ў бітве пад Рацлавіцамі, за што атрымаў прозвішча Главацкі і званне харунжага.

[4] Гвіздзіцкі – селянін, які вызначыўся ў бітве пад Рацлавіцамі.

[5] У № 40 “Korespondenta Narodewego i Zagranicznego” ад 24 мая 1794 г. – *Nie duskoz*.

[6] *Poezja powstania Kościuszkowskiego*, zebrał oraz zaopatrzył wstępem i objaśnieniami Juliusz Nowak-Dłużewski, Kielce 1946, s. XXXI.

На думку А. Вальтаноўскага, *Spiewka*... інспіравала нараджэнне ў Вільні зусім новага твора – *Piśni ukraińciw kozakiw*: "Бітва пад Рацлавіцамі, а таксама паўстанне ў Варшаве ў літаратурных амбіцыях нязнанага віленскага інтэлігента мелі паслужыць выбуху паўстання і на Украіне"[1]. Вядомы гісторык паўстання 1794 г. даводзіць таксама, што *Piśń*… надрукаваная была спачатку ў Акадэмічнай друкарні ў Вільні, а пасля ў варшаўскай тыпаграфіі Міхала Гроля, які ў той час шмат выдаваў і перавыдаваў паўстанцкіх улётак ды вершаваных тэкстаў, у тым ліку і з Літвы. У артыкуле *Legenda Racławicka: Echa i inspiracje poetyckie* ён падаў тэкст *Piśni*..., а таксама рэпрадукцыю першых дзвюх старонак варшаўскага выдання твора, не пазначаючы, праўда, месцазнаходжанне арыгінала. Сцвярджаў А. Вальтаноўскі таксама, што твор цалкам невядомы і што ягоныя асобнікі не захаваліся[2] ў польскіх бібліятэках[3]. Праўда, дзеля наступнай публікацыі на тэму літоўскай паўстанцкай паэзіі ён ужо меў выданне *Piśni*... з Акадэмічнай друкарні ў Вільні (з Курніцкай бібліятэкі) і ведаў згадку пра яго ў кнізе Генрыка Масціцкага *Generał Jasiński i powstanie kościuszkowskie*[4], слушна заўважаючы, што Г. Масціцкі памыляецца, прывязваючы *Piśń…* да падзей польска-расійскае вайны 1792 г.[5].

Аднак *Piśń ukraińciw kozakiw* ведалі даследчыкі і ў XIX ст.: Вячаслаў Мартысюк[6] выявіў у газеце "Dziennik Poznański" яе публікацыю з кароткім каментаром: "З друкаванага тэксту, які знаходзіцца ў бібліятэцы Тарнаў у Абязеры, а выдадзенага друкарняю п. Завадскага пры вуліцы Езуіцкай 71[7], у 8˚, 2 аркушы. <…> Гэтую песню мы атрымалі ад п. Куртцмана з наступным лістом: «Шаноўны Пане Рэдактар! У № 68 "Dziennika Poznańskiego" пададзена беларуская песня пра Касцюшку[8], а з тае прычыны, што публікацыя завяршаецца думкаю, што

---

[1] A. Woltanowski, *Legenda Racławicka: Echa i inspiracje poetyckie*, "Gryfita: Białostocki magazyn historyczny" 1994, nr 5, s. 17.

[2] А. Мальдзіс пісаў пра знойдзеную ім у "вроцлаўскай бібліятэцы «Асалінэум»" *Piśniu ukraińciw kozakiw*. Гл.: А. Мальдзіс, *Тры месяцы пошукаў і сустрэч* [у:] А. Мальдзіс, *Таямніцы старажытных сховішчаў. Да гісторыі беларускай літаратуры XVII−XIX стагоддзяў*, Мінск 1974, с. 119. Магчыма, малады ў той час навуковец прыняў за арыгінал ксеракопію *Piśni*…, зробленай з асобніка Курніцкай бібліятэкі і якая сапраўды захоўваецца ў ZNiO.

[3] A. Woltanowski, *Legenda Racławicka: Echa i inspiracje poetyckie*, "Gryfita: Białostocki magazyn historyczny" 1994, nr 5, s. 17.

[4] A. Woltanowski, *Nieznana poezja litewska powstania kościuszkowskiego*, „Studia Podlaskie" 1996, t. VI, s. 151, 156.

[5] Г. Масціцкі ўзнікненне верша *Piśń*... звязваў з дзейнасцю кіраўніцтва патрыятычных сілаў у кірунку падрыхтоўкі паўстання на Украіне. Карыстаючыся асобнікам прыватнае бібліятэкі выдаўца Яна Міхальскага, ён падаў у каментарах 13-ю і 14-ю страфы твора. Лічыў, што напісана *Piśń*... была ў 1792 г.

[6] Рэпрадукцыя апублікавана ў кнізе: А. Трафімчык, *"Наш Касцюшка слаўны!": гістарычная постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры*, Мінск 2017, с. 35.

[7] З красавіка 1793 г. па студзень 1796 г. на вуліцы Езуіцкай 71 у Варшаве знаходзілася друкарня Пятра Завадскага. А г. зн., што калі А. Вальтаноўскі не памыляўся і выяўленае ім выданне *Piśni*… паходзіць з друкарні М. Гроля, дык твор тройчы ў 1794 г. убачыў свет.

[8] Гаворка пра выяўленую А. Мальдзісам у 1970-я гг. публікацыю: Płomieńczyk, *Pieśń białoruska o Kościuszce*, "Dziennik poznański" 1882. Перадрук: М. Хаўстовіч, *У вянок Тадэвушу*

“найдрабнейшая на выгляд згадка пра Вялікага Мужа на справе можа мець вялікую вартасць і значэнне”, мяркаваў, што і дадзеная беларуская песня вартая памяці. Я знайшоў яе ў зборах пані генералавай Венгажэўскай з Квілецкіх, што месцяцца ў Абязярскай бібліятэцы»”[1]. А г. зн., што варшаўскае выданне, трапіўшы колісь на Пазнаншчыну, дзякуючы Людвіку Куртцману (1835–1895), знанаму выкладчыку, бібліятэкару і перакладчыку, стала вядома грамадскасці. Цікава, што Л. Куртцман, лічыць *Piśń*... беларускім творам: відавочна, ягоныя веды ўсходнеславянскіх моў не былі добрымі. Л. Куртцман і рэдакцыя дастаткова спраўна захавалі тэкст: памылкова пададзены толькі тры словы (*Szczot to*, *Kottu* і *hryjem* замест *Szczoż to*, *Kotru* і *hnyiem*).

Заўважым яшчэ, што выданні *Piśni…* 1794 г. адрозніваюцца нязначна: пісоўняю вялікае літары (*Spysy* і *spysy*) і літары ***s*** (г. зв. доўгага ***f*** і кароткага ***s***), пунктуацыяй (у варшаўскім выданні, можна так сказаць, папраўленыя недакладнасці віленскага), а таксама размяшчэннем радкоў і графічнымі вылучэннямі асобных слоў у варшаўскім выданні (у віленскім – толькі слова *Kastiuszki* вылучана курсівам).

Друкуецца паводле: PISN UKRAINCIW KOZAKIW[2] [асобнік Курніцкай Бібліятэкі (Polska Akademia Nauk. Biblioteka Kórnicka, sygn. 35190)][3] з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў публікацыі.

*Касцюшку*, “XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах” 1999, кн. першая, с. 45–47. Пламеньчыкаву публікацыю знаў яшчэ Аляксандар Ельскі. І, здаецца, ведаў, хто хаваецца пад псеўданімам “Płomieńczyk”. Але не адважыўся падаць сапраўднае імя і прозвішча аўтара, замяніўшы іх крыптанімам (вядома, калі гэта не памылка “Бацяна з-над Птычы”): “W roku 1882 a) **M. W**. (вылучэнне нашае. – *M. X.*) drukował w „Dzienniku Poznańskim” piękną pieśń białoruską na cześć Kościuszki” (A. J., *Białoruska literatura i bibliografia* [w:] *Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana*, т. VII, Warszawa 1892, s. 655).

[1] *Pieśń o Kościuszce*, „Dziennik Poznański” 1882, nr 75.

[2] Друкарні XVIII стагоддзя незаўсёды мелі вялікія літары з дыякрытычнымі знакамі.

[3] Ян Дзялынскі (1829–1880), вядомы палітычны дзеяч, уласнік Курніка, набыў для Курніцкае бібліятэкі асобнік выдання Акадэмічнай друкарні ў Вільні ў 1870-я гг. ад ксяндза Ігнацы Палькоўскага (1833–1888), архівіста і бібліёграфа, які, вярнуўшыся з эміграцыі, у 1866–1876 гг. быў бібліятэкарам прыватных збораў Скужэўскіх у маёнтку Любастронь (каля горада Лабішын у Вялікім Княстве Пазнанскім).

## PISN
UKRAINCIW KOZAKIW.

Berym Spysy[1], i Janczarki[2],
Chodim hordy[3] hnuty karki,
Nechay Moskal ustupaie!
Nechay Ukraińciw znaie.

Już Mazury ich pobyły,
Porobyły z nych mohyły,
Chodim z nemi połuczmosia,
Moskwi, Nimciom ne|daymosia.

Nute Chłopci! nute żywo,
Teper maiem dla nas żnywo,
Hospod Boh nam w pomoszcz staiet,
Perwszu sławu powertaiet.

Nute żywo wy Sotnyki[4]
Wy Mołodci Desiatnyki[5]
Daymo sobi ruki wzaiem,
A Batszczynu[6] widzyskaiem.

Atamany[7] i Kozaki
Byimo Moskwu i Prusaki,
Kohda ich wsiech wytołczemo,
Tohda w Sełо powernemo.

Pamiataiem szczo robyły
Kak[8] nas derły, kak nas były,
Dokiż budemo mołczaty
Chodim z rużem chutsze z Chaty.

Koni nam pozaiżdyły
Szczo chotiły, to robyły
Idmo żywo do *Kastiuszki*
Budem rubat Moskaluszki.

---

[1] *Spisa* – даўняя зброя; дзіда, піка.
[2] *Janczarka* – стрэльба з доўгім ствалом і кароткім прыкладам. Зброя янычараў.
[3] У публікацыі А. Вальтаноўскага – *namże*. Відаць, памылка друку. Гл.: A. Woltanowski, *Nieznana poezja litewska powstania kościuszkowskiego*, „Studia Podlaskie” 1996, t. VI, s. 156.
[4] *Sotnyk* – камандзір казацкае сотні (параўн. укр. *сóцький*).
[5] *Desiatnyk* – камандзір дзясятка жаўнераў (параўн. укр. *десяцький*).
[6] Параўн. укр. *Батьківщину*.
[7] Параўн. укр. *отáман*.
[8] Параўн. укр. *як*.

Na|szczo zemlu nam zabrały?
Na|szczo w puta pokowały?
Doczki, Zeny posromyły,
Chodim z nych poroty żyły.

Pohulaymo, pohukaymo,
Kommendantiw swych piznaymo,
A Moskaliw, Nimciw roty,
Budem ryzat, i kołoty.

Szczoż to? czy my ne Kozaki?
Hospodary ne Burłaki[1],
Za|szczo maiem nużdu znaty
Kotru terplat[2] naszy braty?

Prodawaymy Owci, Woły,
Przenyciu, z humna, stodoły
Nechay Pip nas sochraszczaiet[3]
Bo nam Hospod pomahaiet.

Buway zdorowa Kułyno!
Parasko! krasna Diwczyno!
Od was teper odiżdżaiem
A do Kostiuszki prystaiem.

Koły nazad powernem sia
Pośla z wamy ustysnem sia,
Wilnośt dla nas Pany daiut
Y za ludey nas uznaiut.

Archirey[4] nasz już w Senati,
A my jeszcze hnyiem w chati,
Berym Spysy i Janczarki
Chodim hordy hnuty karki.

Nute chłopci, nute żywo
Pohulaty maiem żnywo,
Pohulaymo! pohulaymo!
A Moskalom sia ne daymo!

[1] *Burłak* – бядняк, валацуга.
[2] *Kotru terplat* – якую церпець.
[3] *Sochraszczaiet*. Тут: разграшае.
[4] Як сцвярджае А. Вальтаноўскі, тут аўтар мае на ўвазе той факт, што 28 мая 1794 г. Т. Касцюшка прызначыў 18 новых наменікаў радцаў Найвышэйшае Нацыянальнае Рады, сярод якіх, як прадстаўнік праваслаўнага насельніцтва, быў архімандрыт віленскі (у іншых крыніцах: ігумен Бельскага манастыра) Сава Пальмоўскі (каля 1740 – 1803). Гл.: Т. Акудович, *Спроба стварэння аўтаномнай праваслаўнай царквы на Вялікім Сойме Рэчы Паспалітай 1788–1792 гг.*, "Український історичний збірник" 2008, вип. 11, с. 92–98; A. Mironowicz, *Ihumen Sawa Palmowski* [online], http://kamunikat.org/download.php?item=4797-5.html&pubref=4797.

Калі дакладна *Piśń ukraińciw kozakiw* выйшла з Акадэмічнай друкарні ў Вільні, устанавіць не ўдалося. Хутчэй за ўсё – у чэрвені 1794 г.[1]. Невядома таксама, чаму твор не быў перадрукаваны ў "Gazecie Narodowej Wileńskiej".

Звяртае на сябе ўвагу мова *Piśni*... Бяспрэчна тое, што аўтар не ведае добра ўкраінскае мовы (як і ў выпадку з вершам *Spiewka Włościan Krakowiakow*, тут можна казаць пра стылізацыю усходнеславянскіх гаворак). Нельга выключаць і тое, што аўтар мог паходзіць з беларуска-ўкраінскага памежжа – Палесся ці Падляшша. Атрыбутаваць твор сёння надзвычай складана, але, зыходзячы з таго, што аўтарам быў жыхар Віленшчыны, звязаны з кіраўніцтвам паўстання, а таксама з Віленскай акадэміяй, мы можам гіпатэтычна прапанаваць на яго ролю Міхала Францішка Карповіча (1744–1803), місіянера, выдатнага казнадзея, паэта, прафесара Галоўнае школы ВКЛ і Віленскае акадэміі, аўтара шматлікіх друкаваных казанняў. Ён нарадзіўся ў Камянцы, вучыўся ў Брэсцкім езуіцкім калегіуме (1757–1761), пасля – у варшаўскіх місіянераў. З 1767 г. – прафесар варшаўскай, кракаўскай (1771–1772), віленскай (1772–1774) семінарый. У 1774 г. у выніку канфлікту з кіраўніцтвам місіянераў выйшаў з ордэну. У 1784–1794 гг. прафесар Галоўнае школы ВКЛ і Віленскае акадэміі. Актыўна ўдзельнічаў у паўстанні 1794 г.: сябра Найвышэйшай Літоўскай Рады. У 1794 г. выдаў у Вільні ў друкарні базыльянаў два казанні: *Kazanie X. Michała Karpowicza na żałobnym obchodzie pamiątki tych obywateli, którzy w dniu Powstania Narodu w Wilnie i w następnym gonieniu nieprzyiacioł życie swe mężnie za wolność i oyczyznę położyli, w kościele s. Jana miane w Wilnie dnia 20 maja 1794 a z rozkazu Rady Narodowej Litewskiej do druku podane*, Wilno 1794[2] і *Mowa Kaznodziejska Obywatela X. Michała Karpowicza przy Poświęceniu Broni i Chorągwi, gdy Pospolite Ruszenie Województwa Wileńskiego wychodzące już na Wojnę, miana 25 Junii na Równinach, Jozafatową Doliną zwanych, pod Wilnem 1794. Na usilne naleganie całego Województwa i Powszechności za aprobatą Zwierzchności Duchownej do Druku dane z dodatkiem Modlitw, Pobudek i Przykładów Rycerskich z Pisma Świętego przez X. Skargę zebranych*, Wilno 1794.

Менавіта месца нараджэння М. Карповіча стала тым аргументам, які вызначыў наш выбар. Бо і Давід Пільхоўскі (фальварак Руткішкі каля Сувалак), і Марцін Пачобут-Адляніцкі (фальварак Саломенка каля Гародні) хутчэй за ўсё не ведалі палеска-падляшскае гаворкі ў такім аб'ёме, у якім ведаў яе М. Карповіч. Немалаважна і тое, што ён належаў да ордэна місіянераў, якія вялі працу

---

[1] Верагодна, твор узнік у той час, калі дывізія генерала Караля Серакоўскага (1752–1820) у чэрвені 1794 г. перайшла Буг і паспяхова змагалася з расейскімі аддзеламі на Брэстчыне. Можна прыняць пад увагу і тое, што пра прызначэнне Савы Пальмоўскага намеснікам радцы стала вядома ў Вільні не раней, чым у сярэдзіне чэрвеня 1794 г., калі абнародавалі на Літве нарматыўныя акты ННР і ейны асабовы склад. Гл.: A. Woltanowski, *Nieznana poezja litewska powstania kościuszkowskiego*, „Studia Podlaskie" 1996, t. VI, s. 156.

[2] У гэтым жа годзе казанне надрукавана ў перакладзе на літоўскую мову. Гл.: Mykolas Pranciškus Karpavičius, *Rinktiniai pamokslai*, orig. tekstus parenge, iš lenkų kalbos verte, įvadinį straipsnį ir komentarus paraše Kristina Mačiulyte; orig. tekstus adaptavo Regina Jakubenas; vertimą parenge Egle Patiejuniene, Vilnius: Lietuvių Literatūros ir Tautosakos Institutas 2003.

ў малых мястэчках і вёсках[1]. У сваіх казаннях ён абапіраўся на фізіякратычную тэрыю, надаваў вялікае значэнне ролі сялянства ў жыцці нацыі, крытыкаваў прыгон. У асобных біяграмах М. Карповіча маецца інфармацыя і пра ягоныя паэтычныя спробы.

Такі чалавек мог дзеля агітацыйных мэтаў напісаць па ўзоры[2] *Spiewki Włościan Krakowiakow* твор на мясцовай гаворцы, каб пасля надрукаваць яго.

Яшчэ больш складанае пытанне – калі і хто пераклаў *Piśń ukraińciw kozakiw* з палеска-падляшскае гаворкі на беларускую мову. Так, менавіта на беларускую, а не з беларускае, як меркаваў А. Мальдзіс[3]. Можна звярнуць увагу на выкарыстанне ў беларускім тэксце лексікі, якая амаль не ўжывалася на беларускай тэрыторыі (*ianczarki*); заўважаем таксама няўдалыя перакладныя канструкцыі (“Pradawaymo aucy, woły, // Żyta z swirna ***dy usie doły***” замест арыгінальнага “Prodawaymy Owci, Woly, // Przenyciu, z humna, ***stodoły***”), а таксама няведанне гістарычных рэалій: замест “Archirey nasz iuż w Senati” з’яўлецца “Zdrada iość użo u Senacie” – відавочна, перакладчык не ведае, што гаворка ў арыгінале ішла пра Саву Пальмоўскага.

Ніякіх сумневаў адносна арыгінальнасці надрукаванае ў 1794 г. *Piśni ukraińciw kozakiw* няма. А вось што датычыць *Piesni biełaruskich żaunierou 1794*

---

[1] Нагадаем: найдаўнейшая рукапісная версія рэлігійнае песні *О мой Божа, веру Табе* паходзіць менавіта ад місіянераў і, мажліва, нейкім з іх і напісана Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы...*, с. 25–32.

[2] Магчыма, аўтар ведаў даўнюю казацкую песню *Гей, нуте, хлопці*!

Гей, нуте, хлопці – славні молодці,
Чом ви смутні, невеселі?
Чом не чувати пісні гучної?
Чом стало тихо в оселі?
Ну ж, заспіваймо – духу піддаймо!
Може, нас лихо застало?
Може, в хазяйки мало наливки?
Пива чи меду не стало?..
Повнії чари всім наливайте,
Щоб через вінця лилося,
Щоб наша доля нас не цуралась,
Щоб краще в світі жилося!
Щоб в Україні нам засіяла
Ясная зіронька з неба:
Зіронька тая – Воля святая, –
Більшого щастя не треба!..
Випиймо ж, хлопці! Пиймо, молодці!
Пиймо, поки іще п’ється!
Поки недоля нас не спіткала!
Поки ще лихо сміється!..
Вдармо ж об землю лихом-журбою,
Щоб стало жить веселіше!
Пиймо за Волю! Пиймо за Долю!
Пиймо за все, що миліше!

(*Пісенний вінок: Українські народні пісні*, упоряд. А. Михалко, Київ 2007.)

[3] А. Мальдзіс, *На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.)*, Мінск 1980, с. 290.

*hoda*, дык тут шмат што застаецца нявысветленым. Ускосна закрануў дадзенае пытанне і А. Вальтаноўскі, адгукаючыся на артыкул Ежы Урвановіча[1], у якім была згадана беларуская *Piesnia biełaruskich żaunierou*: "У спрэчных моўных пытаннях належыць толькі коратка і станоўча сцвердзіць, што зыходным арыгінальным тэкстам з'яўляецца друкаваная ўлётка, а не магчымыя рукапісныя копіі"[2]. Дадзеную думку А. Вальтаноўскага, відавочна, не зразумеў Анатоль Трафімчык і, намагаючыся давесці, што "ўкраінскі" варыянт узнік на аснове беларускага, сцвярджае: "Прынамсі А. Вальтаноўскі лічыць, што стварэнне *Пісні українців-козаків* спароджана менавіта веданнем абодвух – і польскага, і беларускага – варыянтаў"[3]. Праўда, ён спасылаецца на іншую старонку працы польскага гісторыка, дзе няма гаворкі пра беларускую версію твора, а толькі пра залежнасць *Piśni*... ад *Spiewki Włościan Krakowiakow*[4].

На вялікі жаль, гісторыя беларускага варыянта *Piesni biełaruskich żaunierou 1794 hoda* застаецца недастаткова даследаванаю.

Рукапіс *Piesni*... калісь захоўваўся ў Віленскім беларускім музеі імя Івана Луцкевіча (Беларускім навуковым таварыстве). Як і адкуль ён трапіў туды – звестак не захавалася. Ведаем толькі, што ў верасні 1935 г. да VI з'езда польскіх гісторыкаў бібліятэка Віленскага ўніверсітэту наладзіла выставу "Polska i Litwa w łączności dziejowej: Do roku 1863". Бібліятэкар універсітэту і захавальнік музея Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie Міхал Браништэйн (1874–1938) у *Pamiętniku VI Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich w Wilnie: 17–20 września 1935 r.*: II. *Protokoły* змясціў апісанне экспанатаў выставы, у якім чытаем: "Rękopis nieznanej «*Piesni biełaruskich zaunierou*» z 1794 roku (Muzeum Białoruskie w Wilnie)"[5].

Дырэктарам музея ў 1921–1939 гг. быў Антон Луцкевіч (1884–1942), які, відавочна, і перадаў М. Браништэйну рукапіс верша. Наколькі нам вядома, А. Луцкевіч ніколі не згадваў у друку пра гэты надзвычай важны дакумент беларускага пісьменства. На шчасце, у ягонай рукапіснай спадчыне захавалася картка[6], у якой згадваецца *Piesnia biełaruskich żaunierou 1794 hoda*. Дадзеная картка з'яўляецца своеасаблівым дадаткам да навуковае працы А. Луцкевіча пра праблемы эвалюцыі палітычнай ідэалогіі беларусаў у XIX ст. Спачатку ён падрыхтаваў рэферат *Нарадавольцы-беларусы і іх орган "Гомон": К 50-лецьцю*

---

[1] Гл.: J. Urwanowicz, *Wolnaść, ciełaść, niezależnaść czyli o białoruskim spojrzeniu na insurekcję kościuszkowską*, "Gryfita: Białostocki magazyn historyczny" 1994, nr 5, s. 20–22.

[2] A. Woltanowski, *Nieznana poezja litewska powstania kościuszkowskiego*, „Studia Podlaskie" 1996, t. VI, s. 156.

[3] А. Трафімчык, *Наш Касцюшка слаўны!»: гістарычная постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры*, Мінск 2017, с. 35.

[4] A. Woltanowski, *Nieznana poezja litewska powstania kościuszkowskiego*, „Studia Podlaskie" 1996, t. VI, s. 151.

[5] M. Brensztejn, *Wystawa historyczna p. n. "Polska i Litwa w łączności dziejowej do r. 1863" w Wilnie, we wrześniu 1935 roku* [w:] *Pamiętnik VI Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich w Wilnie: 17–20 września 1935 r.: II. Protokoły*, Lwów 1936, s. 467. Маецца таксама адбітка *з Pamiętnika VI Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich*…, перавыдадзеная Віленскаю ўніверсітэцкаю бібліятэкаю (Wilno 1936, s. 13).

[6] Словы падзякі за падказку Анатолю Сідарэвічу.

*выхаду "Гомона"*[1], які прачытаў у студзені і сакавіку 1934 г. у Таварыстве Прыяцеляў Беларусаведы – студэнтаў Унівэрсітэта Стафана Баторыя ў Вільні; пазней на аснове гэтага рэферату падрыхтаваў артыкул *Narodowolcy-Białorusini i ich organ „Homon": Przyczynek do ideologii politycznej Białorusinów w XIX wieku*, які быў надрукаваны ў 1935 г. у Львове ў зборніку матэрыялаў да VI з'езда польскіх гісторыкаў[2]. З тае прычыны, што артыкул быў аддадзены ў друк напрыканцы 1934 – пачатку 1935 г., А. Луцкевіч дапрацоўваў тэкст[3] дзеля выступу на з'ездзе: так з'явіліся карткі, на адной з якіх – некалькі слоў пра *Piesniu biełaruskich żaunierou 1794 hoda*: "Так было ўжо ў час касьцюшкаўскай інсурэкцыі. Да тае пары адносіцца малавядомы беларускі верш – *Песьня беларускіх жаўнераў*, якім у копіі зь нязнанага арыгіналу валодае Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча ў Вільні (верш гэты выстаўлены зараз ва Унівэрсытэцкай Бібліятэцы). Невядомы аўтар заклікае беларусаў, якія ў той час былі ўжо пад уладаю Расеі, каб яны – беручы прыклад з мазураў – білі маскалёў і прусакаў пад камандаю Касьцюшкі. Бо "ВОЛЬНАСЬЦЬ ДЛЯ НАС ПАНЫ ДАЮЦЬ І ЗА ЛЮДЗІ НАС ПРЫЗНАЮЦЬ". Са зьместу верша і спосабу зьвяртаньня да беларускага люду становіцца ясным, што мы маем перад сабою твор інтэлігенцкі, праўдападобна, пісаны прадстаўніком мясцовага зямянства, які такім шляхам – шляхам прамаўленьня да беларусаў, якія раней служылі ў войску, у іх роднай мове – жадаў актывізаваць іх і прыцягнуць да збройнага змаганьня за вызваленьне Рэчы Паспалітай плячом да пляча з польскім грамадзянствам"[4].

А. Луцкевіч лічыў, што ў часопісе "Гомон" упершыню быў сфармуляваны "пастулят дзяржаўнай самастойнасьці Беларусі ў складзе расейскага фэдэратыўнага саюзу", але каб "у поўнай меры вызначыць мейсца «Гомона» ў гісторыі беларускага руху, трэба прыпомніць, які шлях прайшла беларуская палітычная думка да часу выхаду «Гомона»"[5]. А таму ён скіроўвае свой позірк у мінулае, да 1812 г., калі краёвая інтэлігенцыя, пасля ўтварэння Напалеонам Варшаўскага княства, задаецца пытаннем пра "лёс Беларусі". Аднак на апошнім этапе падрыхтоўкі выступлення на з'ездзе ён робіць удакладненне: палітычная ідэалогія

---

[1] Рукапіс рэферата захоўваецца ў LMAB, F. 21–339, 341. Надрукаваны ў кнізе: А. Луцкевіч, *Барацьба за вызваленьне*, уклад., навук. рэдактура, пераклады, камэнтары і прадмова А. Сідарэвіча, Вільня–Беласток 2009, с. 447–460.

[2] A. Łuckiewicz, *Narodowolcy-Białorusini i ich organ „Homon": Przyczynek do ideologii politycznej Białorusinów w XIX wieku* [w:] *Pamiętnik VI Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich w Wilnie. 17–20 września 1935 r.: I. Referaty*, Lwów 1935, s. 87–99. Упершыню па-беларуску (разам з матэрыяламі дыскусіі) надрукавана ў перакладзе Алеся Смаленчука ў часопісе "Спадчына" 2000, № 2–3.

[3] Чарнавік рукапісу захоўваецца ў LMAB, F. 21–340, k. 1–30. 341. Машынапіс рэферату (з чатырма рукапіснымі ўстаўкамі) захоўваецца ў БДАМЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 271, арк. 3–17, 19–23. Надрукаваны ў кнізе: А. Луцкевіч, *Барацьба за вызваленьне*, уклад., навук. рэдактура, пераклады, камэнтары і прадмова А. Сідарэвіча, Вільня–Беласток 2009, с. 461–468.

[4] А. Луцкевіч, *Нарадавольцы-беларусы і іх орган "Гомон": Да пытаньня пра эвалюцыю палітычнай ідэалёгіі беларусаў у XIX ст.* [у:] А. Луцкевіч, *Барацьба за вызваленьне*, Мінск 2009, с. 461.

[5] *Ibidem*.

беларусаў, беларускасць упершыню сябе выявіла ў часы касцюшкаўскай інсурэкцыі, калі – сцвярджае ён – узнікла *Piesnia biełaruskich żaunierou 1794 hoda*.

Зусім магчыма, што менавіта летам 1935 г. рукапіс *Piesni*... быў выяўлены сярод матэрыялаў Музею альбо нават трапіў у Музей, каб у верасні апынуцца на выставе ва Універсітэцкай бібліятэцы.

У 1960-я гг. А. Мальдзіс, "не без дапамогі знаўцы вільнюскіх архіваў Г. Кісялёва" выявіў рукапіс верша *Piesnia biełaruskich żaunierou 1794 hoda* ў 21 фондзе аддзела рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР (сёння: Бібліятэка Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх – Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka) і апублікаваў у адаптаваным і скарочаным выглядзе (12 радкоў з 60-ці), зазначаючы, што "невядомы аўтар (мяркуючы па мове, ён паходзіў са Слонімшчыны[1]) быў сынам свайго супярэчлівага веку"[2]. У 1988 г. у хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* быў змешчаны фрагмент твора[3] паводле артыкула А. Мальдзіса[4], а ў трохтомнай *Анталогіі беларускай паэзіі* – цалкам[5].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–970, k. 1–4.

[1] Анатоль Трафімчык, пішучы пра вялікую гістарычную і культурную каштоўнасць *Piesni biełaruskich żaunierou 1794 hoda*, выказаў меркаванне, што аўтарам твора можа быць ці то Міхаіл Клеафас Агінскі (1765–1833), ці то Якуб Ясінскі (1761–1794). Аднак можна запярэчыць: народжаныя на польскіх землях, яны не маглі дасканала ведаць беларускую мову, тым больш выкарыстоўваць рэдкі ў той час этнонім "беларусы". Гл.: А. Трафімчык, "*Наш Касцюшка слаўны!": гістарычная постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры*, Мінск 2017, с. 35–38.

[2] А. Мальдзіс, *Дзве знаходкі: Песня паўстанцаў 1794 г.*, "Літаратура і Мастацтва" 1969, № 74 (19 верасня).

[3] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, 2-е выд., склад. А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1988, с. 8.

[4] У сваёй "доктарскай" манаграфіі А. Мальдзіс прааналізаваў тэкст верша і ў якасці цытатаў падаў 38 з 60 радкоў твора. Гл.: А. Мальдзіс, *На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.)*, Мінск 1980, с. 287–290.

[5] *Анталогія беларускай паэзіі у 3 т.*, т. I, Мінск 1993, с. 597–598.

# Piesnia
# biełaruskich žaunierou
# 1794 hoda.

Woźmiem kosy dy ianczarki
Poydziem hordyie hnuć karki.
Niechay Maskal ustupaie,
Niechay Biełarusou znaie.
Užo Mazury ich pabili
S swaiey ziamli wyhanili
Poydziem z imi i złuczymsia
Maskwie, Niemcam nie|damymsia.
Nu|že Chłopcy! nu|že žywa
Ciapier maiem dla nas žniwa.
Haspodź Boh nam u pomac staieć
Naszu sławu nam wiertaieć.
Nu|že žywa wy Sotniki
Wy Małoycy Dziesiatniki
Damo sabie ruki uzaiem
Baćkouszczynu adzyskaiem.
Atamany i Kazaki
Biymo Maskwu i Prusaki
Kali usich ich wytauczemo,
Tahdy u siało pawierniemo.
Pomnim dobra szto rabili
Iak nas dziorli, iak nas bili.
Dakul budziem tak mauczaci?
Hodzi nam siadzieć u chaci.
Kaniey nam pazaieždžali
Szto chacieli, to i brali
Poydziem žywa da Kaściuszki
Rubać budziem Maskaluszki
Na|szto ziamlu nam zabrali?
Na|szto u puty zakawali?
Daczki, žonki nam hwałcili,
Tre kab my im zapłacili.
Pahulaiem, pahukaiem,
Kamendantau usich paznaiem.
Maskalou, Niemcou u bałoci
Budziem rezać i kałoci.
Ci užo my usi sabaki?
Haspadary – nie Burłaki

Za|szto maiem kryudu znaci?
Za|szto cierpić nasza Maci?
Pradawaymo aucy, woły,
Żyta z swirna dy usie doły.
Niechay Ksiondz nas paswiencaie,
Niechay Boh nam pamahaie!
Bywai zdrowa Hrypina!
Paraska! maia dziauczyna!
Ad was ciapier odyieżdżaiem
Da Kaściuszki usi prystaiem.
Kali nazad pawierniemsia
Tahdy z wami uscisniemsia.
Wolnaść dla nas Pany daiuć
I za ludziey nas pryznaiuć.
Zdrada iość użo u Senacie
A my budziem hnić u chacie?
Woźmiem kosy dy ianczarki
Paczniem hordyie hnuć karki!
Nu|že Chłopcy, nu|že żywa
Pahulaiem, maiem żniwa!
Pahulaymo! pahulaymo!
Dy Maskala uraz prahnaymo

А. Мальдзіс пісаў, што рукапіс верша – “з яўнымі арфаграфічнымі прыкметамі XVIII стагоддзя”, відаць, маючы на ўвазе напісанне ***y*** замест ***j*** ды ***i***[1]. На нашу думку, дадзеная асаблівасць рукапісу абумоўлена адно тым, што твор перакладаўся з улёткі канца XVIII ст. Аніякіх асаблівасцяў правапісу XVIII ст. у дакуменце мы не назіраем[2], бо абавязковым для тагачаснага пісьма было ўжыванне як літары ***f*** (***s*** доўгае), так і літары ***s*** (***s*** кароткае), а таксама напісанне літары ***z*** як ***ʒ***. І ніколі ў друкаваных і рукапісных тэкстах XVIII ст. замест літары ***ż*** не выкарыстоўвалася графема ***ž***. У беларускамоўных тэкстах літара ***ž*** з’явілася напрыканцы першага дзесяцігоддзя XX стагоддзя (хіба, адным з першых, хто пачаў выкарыстоўваць “гачак”, быў Вацлаў Іваноўскі: заўважаем гэта ў ягоных лістах да А. Ельскага ўжо ў 1906 г.). Можна звярнуць увагу і на тое, што літара ***ž*** выкарыстоўваецца непаслядоўна. Апрача таго, “гачак” не стасуецца дзеля абазначэння гукаў [ч] і [ш]. Гэта можа сведчыць пра тое, што перакладчык *Piśni ukraińciw kozakiw* даволі павярхоўна быў знаёмы з беларускай пісьменнасцю ці

[1] У рукапісе адсутнічае таксама літара ***ŭ***, але ў XIX – пачатку XX ст. літаральна некалькі пісьменнікаў, паперы якіх захаваліся, выкарыстоўвалі гэтую адметную літару беларускае графікі. Напрыклад, літара ***ŭ*** адсутнічае ў вершы Арцёма Вярыгі-Дарэўскага *Litwinam, zapisauszymsia u moj Albom, na pażegnańnia* (27 кастрычніка), які перапісаў у маі 1913 г. Р. Зямкевіч. Аднак Р. Зямкевіч, хоць і перапісваў “літара ў літару”, але не меў арыгінала верша, толькі “старую копію”. Заўважым, што нават у друкаваных тэкстах Р. Зямкевіча ***ŭ*** ужываецца непаслядоўна.

[2] Абазнаны А. Луцкевіч інфармаваў: гэта “копія зь нязнанага арыгіналу”!

не надаваў вялікага значэння беларускаму правапісу, хоць і меў даволі выразную беларускую самасвядомасць.

Наяўнасць у беларускім тэксце такіх формаў як *biymo, pahulaymo, prahnaymo* можа сведчыць ці пра валоданне перакладчыкам пэўным дыялектам беларускае мовы, ці пра няўменне перакласці лепш.

Лічым, што дакумент, які захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх (F. 21–970), створаны напрыканцы XIX – пачатку XX ст.[1] Адначасна звяртаем увагу на тое, што графіка рукапісу вельмі падобная на характар пісьма Рамуальда Зямкевіча[2], які – зноў жа дапускаем – мог мець у сваім архіве адно з выданняў *Piśni ukraińciw kozakiw*, а з тае прычыны, што ў 1909–1910 гг. перакладаў апавяданні Васіля Стафаніка, дык лагічна было б задаць пытанне: ці не ён пераклаў-перапісаў *Piśń ukraińciw kozakiw* на беларускую мову пад тытулам *Piesnia biełaruskich żaunierou 1794 hoda*?

Здзіўляе таксама, што А. Луцкевіч апрача згаданага выступу на з’ездзе (увогуле, невядома, ці выкарыстаў ён картку ў сваім выступе) ніколі больш не звяртаўся да надзвычай яскравага факта праявы беларускасці ў XVIII ст., а таксама не надрукаваў верш у заходнебеларускай перыёдыцы. Ці не сведчыць гэта пра тое, што яму ўдалося высветліць паходжанне дадзенага рукапісу?

На жаль, у наш час некрытычнае ўспрыняцце ўведзеных калісь у літаратурны кантэкст без належнае навуковае апрацоўкі мастацкіх тэкстаў прыводзіць да памылак у працах, якія прэтэндуюць на абагульняльны, тэарэтычны характар. Так, напрыклад, Аляксей Пяткевіч пісаў: “У Грэка-Каталіцкай царкве замацоўваецца беларуская мова як мова пропаведзяў (з 1636 г.) і мова літургіі. Гэты фактар быў адным з самых істотных, што паспрыялі размаху развіцця уніяцтва ў Беларусі пазней, у XVIII ст. і прычыніліся да фармавання свядомай краёвай інтэлігенцыі. Яна шукала сваю адметнасць сярод народаў-суседзяў. І хоць не была яшчэ ў поўным сэнсе стваральніцай нацыянальнай ідэі, але была яе прадвесніцай і пачынальніцай. Гэтая шляхецкая інтэлігенцыя ішла ў паўстанне 1794 года і стварала для паўстанцаў песні-гімны на беларускай мове. У прыватнасці, увайшла ў літаратуру *Песня беларускіх жаўнераў* (1794 г.). Гісторыкі даволі зладжана сцвярджаюць, што паўстанне мела адназначны характар – было скіравана толькі на адраджэнне Рэчы Паспалітай і не выявіла нейкіх рэгіянальных сепаратысцкіх імкненняў. Аднак беларуская мова паўстанцкіх песень – вельмі важны паказчык таго, што нараджалася ў гэтым асяроддзі менавіта беларуская свядомасць. *Песня* – не фальклорны твор. Відавочная яе літаратурна-кніжная структура, і гэта сведчыць, што ўзнік твор пад дахам шляхецкай сядзібы. Характэрна, што ў *Песні беларускіх жаўнераў* выказана

[1] Варта, аднак, дапусціць, што тут мы маем справу з копіяй, зробленай з больш даўняга рукапісу, але не пазней сярэдзіны XIX ст.

[2] Апрача таго, варта звярнуць увагу на словы Р. Зямкевіча ў лісце да А. Ельскага: “З дадзеным лістом асмельваюся пераслаць Шаноўнаму Пану копію выяўленых мною беларускіх вершаў, якія няхай прыме Шаноўны Пан з такім сэрцам, з якім я іх ахвярую. Адзін верш з 1794 г. (sic!), а другі – з 1858 Вярыгі Дарэўскага. Абодва архіцікавыя”. Гл.: *Даследаванні і матэрыялы...*, том трэці, с. 210.

глыбокая любоў да бацькаўшчыны, гнеў супраць яе крыўдзіцеля – царызму, кліч да змагання з ім. Адлюстраваны, такім чынам, не дробныя, побытавага ўзроўню клопаты, а кардынальныя пытанні быцця беларускага народу. Ці ж не дзейнічае тут беларуская звышзадача аўтара? Пэўна, што так”[1].

Вядома, можна і згадзіцца з аўтарам, што ўжо ў другой палове XVIII ст. існавала (лепш: нараджалася) свядомая беларуская інтэлігенцыя, і запярэчыць: сепаратысцкія тэндэнцыі ў паўстанні 1794 г. усё ж выразна выяўляліся. Але падмацоўваючы свой тэзіс сумнеўным прыкладам, навуковец тым самым зніжаў вартасць высноў. Аніяк насельнікі Віленшчыны не маглі ў 1790-я гг. называць сябе беларусамі, бо былі яны толькі ліцвінамі.

## *Postscriptum*

Даўно заўважана, што беларускамоўная паэзія XVIII ст. была моцна звязана з літаратурай украінскамоўнай. Больш за тое: паэтычная культура суседніх славянскіх народаў, якія шмат гадоў жылі поруч у адной дзяржаве – Рэчы Паспалітай – на пэўным этапе складала адзінае цэлае. Часта адна і тая ж тэма знаходзіла сваё адлюстраванне ў творчасці паэтаў суседніх народаў, бо аднолькавыя ўмовы існавання спрыялі засваенню і выяўленню ў аднолькавых формах падобных пачуццяў. Праблемы, што паўставалі перад тагачасным чалавекам – ці то ў Беларусі, ці то ва Украіне – мала чым адрозніваліся. А таму літаратурныя творы, якія закраналі такія праблемы, дастаткова хутка станавіліся “сваімі”: мясцовы аўтар перайначваў тэкст, занесены з суседняга краю. Надзвычай яркі прыклад – верш *Уваскрэсенне Хрыстова*. Літаратуразнаўцы так канчаткова і не высветлілі: які – беларускі ці ўкраінскі – варыянт твора ўзнік першы. Залежнасць *Уваскрэсення Хрыстова* ад украінскага *Вірши на Великдень* сумнеўная. Тыя матэрыялы, якія сёння маюцца, не даюць падстаў для катэгарычных высноў аб прызнанні першаснасці беларускага ці ўкраінскага варыянта: беларускі тэкст, запісаны ў другой палове XIX ст., не саступае ўкраінскаму, а часам і пераўзыходзіць яго. Парадзіраванне Святога Пісьма ў беларускім варыянце больш моцнае.

Блізкая па ідэйна-мастацкім гучанні і форме і г. зв. калядная паэзія абодвух народаў. Напрыклад, наступная песня: “Я, маленькі хлопчык, // Узлез на стоўпчык, // У дудачку йграю, // Хрыста забаўляю” ва ўкраінскім варыянце мае толькі адно адрозненне: дудачка заменена на “сопілочку”.

Трэба думаць, што ў XVIII ст. ва Украіне і ў Беларусі мела месца практыка дастасоўваць іншамоўны тэкст да ўласнае моўнае стыхіі. Мы можам нават казаць пра дастаткова добры пераклад: вось толькі ў нас няма падстаў сцвярджаць, што, напрыклад, *Уваскрэсенне Хрыстова* перакладзена-перапрацавана з украінскае мовы. І няма аргументаў на карысць гіпотэзы, што *Вірша на Великдень* – гэта пераклад-перапрацоўка беларускага твора.

---

[1] А. Пяткевіч, *Станаўленне беларускай ідэі ў кантэксце культурнага руху XIX ст.*, “Białoruskie Zeszyty Historyczne – Беларускі гістарычны зборнік” 2005, t. 23, s. 133–134.

Значна больш складанай выглядае гісторыя яшчэ аднаго нібыта беларускага верша таго ж самага XVIII стагоддзя. Пачатак гэтай гісторыі – у дванаццатым нумары газеты “Homan” за 1916 год. Невядомы аўтар[1] змясціў тут невялічкую нататку, якая завяршалася васьмірадковаю страфою: “U 1790 h. u Paczajewi wydan byu satyryczny biełaruski *Bohohłasnik* (kantyczka). Oś, jak pawodle hetaho *Bohahłaśnika* pramaulau Boh da Adama, wyhaniajuczy jaho z raju:

Paszou že won, Adamie, z raju!
Abjeusia jabłak – až sapiesz.
To tak ty dahladajesz haju: –
Biaz popytu, szto choczesz, rwiesz?
I ty idzi, niaboha, praści!
Adam ciabie kab nahladau,
A kab nia śmieła jabłak kraści,
Adamu ja nahajku dau”[2].

Дадзеную публікацыю згадаў А. Мальдзіс у сваёй рэцэнзіі на выданне хрэстаматыі *Беларуская літаратуры XIX стагоддзя*[3], сцвярджаючы, што працытаваныя радкі “блізкія паводле агульнай танальнасці і стылю да *Уваскрэсення Хрыстова* і, магчыма, гэта яго частка. Можна дапусціць думку, што існаваў вялікі травесційны твор, ад якога да нас дайшлі ўсяго два ўрыўкі – працытаваны вышэй і *Уваскрэсенне Хрыстова*”[4].

Іван Ралько (1929–1979), даследуючы вытокі беларускай сілаба-тонікі, звярнуў увагу на працытаваныя А. Мальдзісам радкі і выявіў, што існуе ўкраінская “версія” твора пад тытулам *Різдвяна вірша* (*Чи чули ви, панове, зроду*...), якая была апублікавана ў анталогіі *Дожовтнева україньска література*[5]. На жаль, ён не палічыў патрэбным выкарыстаць каментар да анталогіі, дзе падаваліся крыніцы апублікаваных тэкстаў, а, як і А. Мальдзіс, спасылаўся на *Богогласникъ* 1790 г. як першапублікацыю надзвычай дасканалага ў версіфікацыйных, перадусім, адносінах твора.

Не маючы магчымасці спраўдзіць тэкст па першавыданні, І. Ралько, відавочна, дапускаў, што ўкраінскія гісторыкі літаратуры дазволілі сабе адаптаваць твор, ці выкарыстаць пазнейшыя “фальклярызаваныя” яго версіі, а таму

---

[1] Здаецца, не сам Вацлаў Ластоўскі, бо ён у *Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі* падае толькі адзін *Богагласьнік* 1660 г. (рукапіс) і сцвярджае, што “ў нашым краю царкоўныя песьні, ў народнай мове, вельмі рана ўвайшлі ў звычай; аб зборніках гэткіх рэлігійных песень сустрачаюцца ведамкі з XV ст., ў XVII ст. былі ўжо друкаваныя *Богагласьнікі*. Расійскае праваслаўнае духавенства чамусьці лічыла *Богагласьнікі* спэцыяльнай азнакай уніяцтва, а дзеля гэтага яра іх прасьледавала і вынішчала. Праф. Карскі кажа, што з вялікага ліку друкаваных *Богагласьнікаў* не захавалася ніводнага экзэмпляра, а з ацалеўшых, найстарэйшы паходзіць з 1805 г., ды і той на ц.-славянскай мове” (с. 577).

[2] *Ab usim pa trochu. Z biełaruskich satyr*, “Homan” 1916, № 12 (24 marca).

[3] А. Мальдзіс, *Плён аднаго стагоддзя*, “Полымя” 1971, № 10, с. 223–224.

[4] *Ibidem*, с. 224.

[5] *Українська література XVIII ст.: Поетичні твори, драматичні твори, прозові твори*, Київ 1983, с. 154–155.

мае рацыю аўтар газеты “Homan”, калі залічвае калядную сатыру з *Богогласника* 1790 г. у кантэкст беларускай літаратуры.

Паводле Гісторыі ўкраінскае літаратуры *Богогласникъ*, выдадзены ў Пачаеве ў 1790–1791 гг. шмат разоў перавыдаваўся ў XIX і пачатку XX стагоддзя. І ў зрусіфікаваным выглядзе выкарыстоўваўся ў школах “Сѣверо- и Юго-Западнаго края”[1]. Нам удалося пазнаёміцца з выданнямі 1790, 1805 і 1825 гадоў. Яны адрозніваюцца толькі станам захавання.

Прааналізаваўшы *Богогласникъ* 1790 г., мы павінны сказаць, што аніякіх сатырычных твораў у ім няма і не магло быць, бо гэта – анталогія духоўнай паэзіі. Тут надрукавана 244 творы рэлігійнага характару з нотамі на некалькіх мовах: царкоўнаславянскай (большасць), старабеларускай (ці стараўкраінскай, з выкарыстаннем палескіх гаворак), польскай [у тым ліку *Pieśń historyczna o zabiciu Błogosł. Jozafata Męczennika* (na ton *Царю Христе незлобивый*), якую ў каментарах да паэмы *Sierżant filozof. Legenda albo sen o przechodzieniu dusz* прыгадаў А. Рыпінскі, сцвярджаючы, што люд пяе гэтую песню з *Kantyczek*], а таксама на латыні.

Устанавіць, чым карыстаўся аўтар газеты “Homan”, сёння немагчыма. Можна дапусціць, што гэта быў пашкоджаны (як асобнік, што захоўваецца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы УССР[2]), але з дадымі рукапіснымі карткамі, на якіх мог быць запісаны сатырычны верш, але – хутчэй за ўсё – аўтар нататкі проста пайшоў шляхам містыфікацыі: узяўшы адну з публікацый украінскага верша *Чи чули ви, панове, зроду...*, пераклаў невялікі фрагмент з яго на беларускую мову і падаў за беларускі сатырычны твор з *Богогласника* 1790 г.

Нам вядомы наступныя публікацыі верша *Чи чули ви, панове, зроду...*:

1. У часопісе “Киевская старина” (1882, т. XI, с. 399). (Падаём толькі той фрагмент, які быў перакладзены на беларускую мову).

Пішовъ-же вон, поганый, зъ раю!
Объївся яблукъ, ажъ сопешь...
Отъ такъ ты доглядаешь гаю?
Безъ поспиту що хочешь, те и рвешь?!
И ты иди, небого, прясти,
Адамъ тебе щобъ доглядавъ;
А щобъ не сміла яблукъ красти,
Такъ я Адамові нагайку давъ.
*Вирша на рождество Христово.*

2. У артыкуле Міхайлы Драгаманава *Матеріали для історії віршів українських* (“Житє і слово” 1894, т. І, с. 41):

---

[1] *Історія української літератури у восьми томах,* т. другий: *Становлення нової літератури (друга половина XVIII – трідцаті роки XIX ст.)*, Київ 1967, с. 33–35.

[2] Гл.: *Богогласник: пісни благоговіиныя*..., Почаїв: Друкарня Успенського монастиря, 1790 [online] http://irbis-nbuv.gov.ua/cgi-bin/ua/elib.exe?Z21ID=&I21DBN=UKRLIB&P21DBN=UKRLIB&S21STN=1&S21REF=10&S21FMT=online_book&C21COM=S&S21CNR=20&S21P01=0&S21P02=0&S21P03=FF=&S21STR=EIF0000001 [доступ: 18.02.2018].

Пішов же вон, Адаме, з раю!
Обйів ся яблук, аж сопеш!
Се так ти доглядаєш гаю?
Без попиту що хоч і рвеш!
І ти іди, небого, прясти!
Адам тебе щоб наглядав!
А щоб не сміла яблук красти,
Адаму я нагайку дав.

3. У газеце “Заря” (1884, № 284) [Перадрукаваны ў артыкуле М. Драгаманава]:

Пішов же вон, Адаме, з раю!
Обйів ся яблук, аж сопеш...
Ти так пільнуєш гаю:
Без попиту що хоч, то и рвеш!
І ти іди, небого, прясти,
Адам тебе щоб доглядав,
А щоб не нийшла яблук красти,
Адаму я нагайку дам.

4. У часопісе “Этнографическое обозреніе” (1892, кн. XIII–XIV, № 2–3, с. 96):

Пишовъ же геть, поганый, зъ раю!
Це ты такъ раю доглядивъ,
Що чортъ зъ Евою вси яблоки пойивъ!
Иды и ты, поганко, зъ ряю прясты!
Тебе Адамъ щобъ доглядавъ,
Щобъ більшъ не смила яблокъ красты,
Такъ я Адамови нагайку давъ.

Зусім верагодна, што менавіта публікацыя М. Драгаманава стала асноваю для містыфікацыі.

На нашу думку, і тэкст, пададзены ў газеце “Homan”, і *Песня беларускіх жаўнераў* узніклі на пачатку XX стагоддзя як спробы невядомых перакладчыкаў “датаваць” беларускамоўныя тэксты апошнім дзесяцігоддзем XVIII стагоддзя.

# *Рабункі мужыкоў* Яна Баршчэўскага

Напісаная адразу пасля французска-расейскае вайны 1812 года паэма Яна Баршчэўскага (1792–1851) *Рабункі мужыкоў*[1] часткова была надрукавана ў 1844 годзе: Рамуальд Падбярэскі (1812–1856), характарызуючы тагачасную беларускую літаратуру і творчасць свайго знаёмца-прыяцеля ў "krytycznym rzucie oka" *Беларусь і Ян Баршчэўскі*, назваў асобныя ягоныя тэксты, а таксама падаў у зносцы значны фрагмент паэмы. Пецярбургскі выдавец сцвердзіў, што *Рабункі мужыкоў* і праз трыццаць гадоў пасля стварэння "слаўныя на ўсёй Беларусі", прыраўняў іх да *Энеіды навыварат*, а таксама, спаслаўшыся на грамадскую, відаць, думку, залічыў да "poematów narodowych". Тэкст твора ён, відавочна, меў, а таму, хоць і пісаў, што "аб'ём артыкула не дазваляе нам прывесці цалкам", аднак палічыў патрэбным далучыць некалькі ягоных фрагментаў, "каб паказаць грубаваты дасціп, характэрны для краю", а, можа, яшчэ і таму, што "апрача тае шляхты[2] ніхто дагэтуль не ведаў, што гэта твор Баршчэўскага". Істотным з'яўляецца тое, што Р. Падбярэскі ведае і гісторыю тэксту, "напісанага з нагоды вядомага ў ваколіцы выпадку, у маёнтку п. Маліноўскага, у Шнітаўках, за 50 вёрст ад Полацка, у 1812 годзе", і што галоўны герой Мінка – рэальная асоба: "лёкай п. Маліноўскага, які найбольш сваволіў у гэтых разрухах, пасля павешаны ў Шнітаўках"[3].

Не выклікае сумневу, што Р. Падбярэскі менавіта з цэнзурных меркаванняў не толькі выбраў фрагменты для друку, але і адрэдагаваў іх: "пазбавіў" твор прапольскага і антырасейскага пафасу, пакідаючы, аднак, антыпанскі[4]. Можам гэта адназначна сцвердзіць, бо маем некалькі, пераважна рукапісных, версій *Рабункаў мужыкоў*: хутчэй за ўсё аўтарскае "Jakby Polszczu zwaracić" становіцца ў Р. Падбярэскага "Cztob paradak priwracić".

---

[1] У літаратуразнаўстве адсутнічае адзіны падыход да акрэслення не толькі тытула твора Я. Баршчэўскага (*Рабункі мужыкоў*, *Бунт хлопаў*, *Размова хлопаў*), але і ягонага жанру. Найчасцей выкарыстоўваюцца дэфініцыі, дадзеныя Р. Падбярэскім – "верш" (Я. Карскі, Р. Зямкевіч, Сцяпан Майхровіч, Ніна Тарэлкіна) і "паэма" (М. Гарэцкі, Навум Перкін, Міхась Лазарук), хоць часам сустракаюцца і даволі няпэўныя: "вялікі сюжэтны твор" (Алег Лойка), "аб'ёмісты вершаваны твор" (Кастусь Цвірка). А вось Уладзімір Мархель звычайна ўвогуле пазбягаў называць жанравыя прыкметы гэтага твора.

[2] Маецца на ўвазе засцянковая шляхта з родных мясцін Я. Баршчэўскага.

[3] Я. Баршчэўскі, *Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях*, Варшава 2012, с. 373–374.

[4] Нехта Г. Г. (часам сцвярджаецца, што гэта Рыгор Генадзі) у "Иллюстрированной газете" (1866, т. XVII, № 20 і 21), перадрукоўваючы ў перакладзе артыкул Р. Падбярэскага пад тытулам *Несколько словъ о бѣлорусской народной поэзіи и о бѣлорусскихъ поэтахъ*, выкасаваў з *Рабункаў мужыкоў* 21 "востры" радок (с. 327).

Аднак ёсць падставы казаць, што надрукаваны Р. Падбярэскім тэкст хоць і не з'яўляецца аўтарскім, усё ж – найбольш блізкі да арыгіналу. Назіранні Ю. Пацюпы, што ў публікацыі Р. Падбярэскага маюцца "дзве інверсіі: шэсць радкоў, пачынаючы ад «І мы доўга так гулялі», перамясціліся ўверх па вертыкалі (з кантэксту французаў у кантэкст сялянскага бунту), а яшчэ сем радкоў, пачынаючы ад «Прыдзеш у двор, баішся», таксама па вертыкалі з кантэксту рускіх паноў – у кантэкст польскіх"[1], а г. зн., што Р. Падбярэскі не меў аўтарскага рукапісу, на нашу думку, недакладныя. Бо, магчыма, грунтуюцца на беларускіх перадруках *Рабункаў мужыкоў* у XX стагоддзі, у якіх адсутнічаюць адмысловыя пазначэнні (кропкі напрыканцы радка або замест усяго радка) пра фрагментарнасць тэксту.

На пачатку XX стагоддзя творчасць Я. Баршчэўскага трапіла ў поле ўвагі Р. Зямкевіча. Спачатку ў "Нашай Ніве" (1911, № 51–52) ён надрукаваў невялічкі нарыс пра "першага беларускага пісьменьніка XIX сталецьця", а пасля выдаў яго з далучэннем трох беларускамоўных твораў асобнымі брашуркамі лацінскім і грамадзянскім шрыфтамі. У каментары да *Рабункаў мужыкоў* ён піша: "Верш гэты не дайшоў да нас цэлы. Урыўкі яго друкавалі Р. Подбэрэскі і А. Рыпіньскі. Верш адносіцца да 1812 году і французкай вайны. Калі селянам загадалі біць ўсіх французоў, якіе аставаліся за арміей Наполеона, ўсе з гэтаго ахвотна карысталі і нават злажылося колькі разбойніцкіх банд, каторые нападалі на двары і грабілі іх. Напаткаўшы дзе пана або аканома, калі гэта былі іх крыўдзіцелі, распраўляліся з імі без міласьці. <…> Мінка – лёкай пана Маліноўскаго з вёскі Шнітоўкі. Гэтаго Мінку, камандзера разбойніцкай банды, пасьля злавілі і павесілі ў Шнітоўках"[2].

Р. Зямкевіч механічна дадаў да 67 радкоў паэмы, надрукаваных Р. Падбярэскім, 16 радкоў з кнігі А. Рыпінскага *Беларусь*. Вядома ж, пэўныя падставы ў яго былі: хоць у пададзеным А. Рыпінскім тэксце не заўважаецца аніякае сувязі з французскаю вайною, аднак пра гэта сцвярджаецца ў – так назавём – пазатэкставым каментары парыжскага эмігранта. Р. Зямкевіч прыняў "легенду" А. Рыпінскага, але "праігнараваў" развагі Мінкі пра "старых" і "новых" паноў, зрабіўшы акцэнт на нападах сялян на французаў (хоць гэты матыў ва ўсіх вядомых варыянтах *Рабункаў мужыкоў* адсутнічае) і – калі напаткаюць – мясцовых паноў і аканомаў. Зменены калісь Р. Падбярэскім радок паэмы дазваляў на менавіта такую інтэрпрэтацыю твора Я. Баршчэўскага.

Версію Р. Зямкевіча прынялі Я. Карскі і М. Гарэцкі. Першы з іх без асаблівых пярэчанняў згадзіўся аднесці ўрыўкі, пададзеныя А. Рыпінскім, "как часть, в поэму Я. Барщевского" і твор "аналізаваў" (ці дакладней:

---

[1] Ю. Пацюпа, *Ці існуе фальклярызацы? Да праблемы бытавання і трансфармацыі літаратурных тэкстаў у вуснай традыцыі* [у:] *Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў: зборнік навуковых артыкулаў III Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, Полацк, 14–15 красавіка 2016 г.*, у 2 ч., ч. 1, Наваполацк 2016, с. 257.

[2] Р. Земкевіч, *Ян Баршчэўскі. Першы беларускі пісьменьнік XIX сталецьця. Успамін у 60-летнюю гадаўшчыну сьмерці*, Вільня 1911, с. 12.

прасачыў сюжэтную лінію) наступным чынам: “Заслышав пушечную пальбу, французы бросились к войску. Тогда мужики, «koli tak pahulali, radu sabie układali». <…> Говорили о достоинствах и доброте старых панов и порицали современных им. Собирались утопить свое горе в водке и созвать на веселье все село. Но тут, заметив приближение эконома, стали драться друг с другом и, наконец, разбежались”[1].

М. Гарэцкі дзеля *Хрыстаматыі* (1922) адрэдагаваў зборную рэдакцыю *Рабункаў мужыкоў* Р. Зямкевіча: скасаваў два радкі з тэксту Р. Падбярэскага[2] і чатыры – з тэксту А. Рыпінскага, а ягоная ацэнка твора (“ніякай ідэі ня відаць, апрача панскай ахвоты пераказаць дзеля жарту аб сьмешнай прыгодзе з благімі мужыкамі-бунтаўнікамі”) здзіўляе высноваю: “ня гледзячы на іх (*Рабункаў мужыкоў. – М. Х.*) проці-мужыцкія думкі, ад шляхты трапілі ў шырокую народную гушчу”[3].

Пасля працяглага перапынку ўжо ў 1960-я гг. беларускія літаратуразнаўцы вярнуліся да аналізу і праблем тэксталогіі паэмы *Рабункі мужыкоў*. І. Бас сваімі архіўнымі знаходкамі здолеў змяніць стаўленне даследчыкаў да Я. Баршчэўскага як да “апалагета культуры рэакцыйнай шляхты” (С. Майхровіч): верш *Рабункі мужыкоў* ведаў Паўлюк Багрым, перапісваў яго і быў пакараны за яго[4]. Відавочна, гэтая дэталь творчае біяграфіі Я. Баршчэўскага і стала вырашальнаю для Н. Перкіна (1912–1976) і А. Лойкі (1931–2008), якія на V з’ездзе славістаў заклікалі перагледзець адносіны да спадчыны пісьменніка: “Распаўсюджаны сёння ў беларускім літаратуразнаўстве погляд на творчасць Я. Баршчэўскага патрабуе істотных удакладненняў. Гаворка ідзе перш за ўсё аб пераацэнцы многіх, падчас дэмакратычных элементаў светапогляду і творчасці пісьменніка”[5]. З гэтага часу нязменна згадваюць Я. Баршчэўскага ў сваіх працах фальклярысты[6], даследчыкі фальклорнасці ў літаратуры[7], а таксама тэарэтыкі літаратуры[8].

У сярэдзіне 1960-х гг. А. Мальдзіс настойліва сцвярджае думку, што спадчына Я. Баршчэўскага заслугоўвае станоўчае ацэнкі, што яна мае “самае непасрэднае дачыненне да гісторыі беларускай літаратуры”[9].

[1] Е. Карский, *Белорусы*, в 3 томах, т. 3: *Очерки словесности белорусского племени*, Минск 2007, с. 279.

[2] Зусім незразумела, чаму М. Гарэцкаму “не спадабаліся” радкі “U Klassicach o dzwie mili // Krwawuju wajnu czynili”. Можа, тут памылка друку?

[3] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры*, выданьне другое (папраўленае), Вільня 1921, с. 67.

[4] І. Бас, *Каму належаць вершы*? “Беларусь” 1963, № 11, с. 29; ён жа, *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*, Мінск 1969, с. 61–76, 133–140; ён жа, *Невядомы варыянт верша Яна Баршчэўскага* [у:] *Дзень паэзіі – 69*, Мінск 1969, с. 129–136.

[5] А. Лойка, Н. Перкін, *Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX стагоддзі*, Мінск 1963, с. 30–31.

[6] В. Бандарчык, *Гісторыя беларускай этнаграфіі*, Мінск 1964, с. 53–55.

[7] М. Грынчык, *Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі*, Мінск 1969, с. 42–46.

[8] М. Лазарук, *Станаўленне беларускай паэмы*, Мінск 1968, с. 65–79.

[9] А. Мальдзіс, *Творчае пабрацімства*: *Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст.*, Мінск 1966, с. 32.

Асабліва каштоўна, што акадэмічная *Гісторыя беларускай літаратуры* ў асноўным станоўча характарызуе творчасць Я. Баршчэўскага[1].

Гэта дало магчымасць укладальнікам хрэстаматыі для філалагічных факультэтаў ВНУ рэспублікі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* падрыхтаваць раздзел, прысвечаны Я. Баршчэўскаму[2]: тут друкаваліся тры вершаваныя творы (*Дзеванька, Бунт хлопаў, Гарэліца*) і два апавяданні з кнігі *Шляхціц Завальня*. Тэкст *Рабункаў мужыкоў* даволі істотна павялічыўся: апрача апублікаванага Р. Зямкевічам, упершыню ў твор былі ўключаны вершаваныя радкі з раздзела *Пѣсни веселаго содержанія*, змешчаныя ў зборніку І. Насовіча *Бѣлорусскія пѣсни*[3].

У адрозненне ад Р. Зямкевіча, які проста дадаў да апублікаванага Р. Падбярэскім радкі, што захаваліся ў памяці А. Рыпінскага, укладальнікі *Хрэстаматыі* не толькі адаптавалі тэкст, які паходзіў з трох крыніцаў, але і апрацавалі яго. Можна нават казаць пра спробу рэканструкцыі паэмы Я. Баршчэўскага.

Што датычыць вершаваных радкоў з Р. Падбярэскага і А. Рыпінскага, дык цягам XX стагоддзя яны ўжо сталі нібыта неад'емнаю часткаю твора. А вось чаму быў далучаны І. Насовіч? Відаць, укладальнікі звярнулі ўвагу на інфармацыю Я. Карскага, што фрагмент А. Рыпінскага "в более распространенном виде напечатан М.А. Дмитриевым (*Опыт собрания песен и сказок крестьян Северо-западного края*. Гродно 1868, стр. 110–111) и И.И. Носовичем (*Зап*. V, 106–107)"[4]. Праўда, у каментарах да паэмы складальнікі не згадалі ні пра М. Дзмітрыева, ні пра І. Насовіча, хоць паведамілі пра публікацыю яшчэ аднаго этнографа і краяведа: "своеасаблівы пачатак гэтага твора ў запісе А.М. Семянтоўскага з'явіўся ў *Памятной книге Витебской губ. за 1864 год*"[5].

Цікавымі падаюцца і разважанні складальнікаў *Хрэстаматыі* пра тытул паэмы Я. Баршчэўскага: "Ёсць дзве назвы гэтага твора: *Рабункі мужыкоў* (Р. Падбярэскі) і *Бунт хлопаў супраць аканома* (А. Рыпінскі). Думаецца, што другая назва больш адпавядае ідэйнаму гучанню твора"[6].

Пры перавыданні *Хрэстаматыі* ў 1988 г. тэкст *Рабункаў мужыкоў* (дакладней: *Бунту хлопаў*) застаўся без зменаў, а каментар дапоўніўся спасылкаю на выяўлены І. Басам варыянт *Рабункаў мужыкоў* (дакладней: *Размовы хлопаў*) у следчай справе П. Багрыма[7].

---

[1] *Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры*, у 2 т., т. 2, Мінск 1969, с. 37–40.

[2] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, скл. С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1971, с. 80–100.

[3] *Бѣлорусскія пѣсни, собранныя И.И. Носовичемъ* [в:] *Записки императорскаго русскаго географическаго общества по отдѣлению этнографіи*, том пятый, С.-Петербургъ 1873, с. 106–107.

[4] Е. Карский, *Белорусы*, в 3 томах, т. 3: *Очерки словесности белорусского племени*, Минск 2007, с. 270.

[5] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, скл. С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1971, с. 348.

[6] *Ibidem*.

[7] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, скл. А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1988, с. 450.

Паводле *Хрэстаматыі* паэма Я. Баршчэўскага друкавалася яшчэ некалькі разоў у зборніках і анталогіях, напрыклад, К. Цвіркі[1], Уладзіміра Казберука[2], Алеся Сушы[3].

Варта ўсё ж больш уважліва прыгледзецца да тэксту, які – можна так сказаць – стаўся ўжо "хрэстаматыйным". У ім 111 радкоў. 67 паходзяць з нарыса Р. Падбярэскага; яны змешчаны на пачатку твора, прычым пасля 65 радка ўстаўлены 2 радкі эпіграфа А. Рыпінскага да раздзела *Poemat* (кніга *Беларусь* 1840), пасля якога ідуць 66 і 67 радкі Р. Падбярэскага. Наступныя 38 радкоў *Бунту хлопаў* узяты са збору І. Насовіча. Заўважым, што І. Насовіч апублікаваў 58 вершаваных радкоў твора, тытул якога ён не падаў. Урэшце, у якасці фінальнае часткі паэмы выкарыстаныя 4 радкі (пра ўцёкі Мінкі) з апублікаваных А. Рыпінскім 14. Праўда, яшчэ 6 радкоў А. Рыпінскага "пазнаюцца" ў зборным тэксце твора, але яны трапілі сюды ўсё ж са зборніка І. Насовіча.

Чаму ў зборным тэксце *Бунту хлопаў* адсутнічаюць 4 радкі А. Рыпінскага і 20 радкоў І. Насовіча, а таксама не ўлічаны варыянт А. Семянтоўскага? Па той прычыне, што, па-першае, *Хрэстаматыя* – гэта не навуковае выданне, а дапаможнік для філалагічных факультэтаў ВНУ; па-другое, адсутныя радкі ў даволі кепскім святле паказвалі сялян; па-трэцяе, яны не адпавядалі тытулу твора.

Аднак, як бы там ні было, менавіта з гэтым "хрэстаматыйным" тэкстам Я. Баршчэўскага знаёмілася некалькі пакаленняў беларускіх філолагаў. І чамусьці ніхто за апошнія дзесяцігоддзі не паруліўся, каб давесці ці то слушнасць ідэі Р. Зямкевіча палучыць тэксты з розных крыніцаў пад адным тытулам, ці то аспрэчыць яе.

Няма падстаў сумнявацца, што існавала паэма (верш, вершаваная аповесць, гутарка) Я. Баршчэўскага[4]. Назва яе – *Рабункі мужыкоў*. Менавіта так, па-беларуску, падае Р. Падбярэскі, які быў у блізкіх дачыненнях з аўтарам, мог мець тэкст ад яго і, апрача таго, наўрад ці існавала патрэба трансфармаваць тытул. За час вуснага бытавання твор даволі значна змяніўся, але ўсё ж не настолькі, каб немагчыма было не пазнаць яго. І нават калі Пятро Кушын цытуе ўсяго чатыры радкі з Я. Баршчэўскага, мы разумеем, што выкарыстаў ён *Рабункі мужыкоў*.

---

[1] *Літаратура Беларусі: Першая палова XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, уклад. К. Цвірка, Мінск 2000, с. 202–204; *Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: Анталогія*, уклад. К. Цвірка, І. Шпакоўскі, К. Антановіч, Мінск 2013, с. 131–133.

[2] *Заняпад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, уклад. У. Казберука, Мінск 2001, с. 38–41.

[3] *Беларуская літаратурная спадчына: Анталогія ў дзвюх кнігах*, уклад. С. Курбанава, А. Суша, Г. Галенчанка, В. Русак, І. Зайцаў, П. Лапо, кн. першая, Мінск 2011, с. 297–300.

[4] В. Мартысюк, правакацыйна заявіўшы ў тытуле артыкула *Паэма, якое няма*, умоўна называе яе *1812 год* і дае рэканструкцыю зместу чатырох ейных частак: "1. Наход французаў і ўцёкі шляхты з сваіх маёнткаў; 2. Рабункі мужыкоў; 3. Рада мужыцкая; 4. Гулянка мужыцкая і няслаўны канец бунтаўнікоў". Гл.: В. Мартысюк, *Паэма, якой няма* [online] http://bookster.by/posts/paema-yakoy-nyama [доступ: 20.02.2016].

На сённяшні дзень, апрача надрукаванага ў 1844 г., вядомы тры рукапісныя і адзін друкаваны варыянты паэмы *Рабункі мужыкоў*[1]. Адзін з іх – П. Багрыма – з'явіўся ў 1828 г., яшчэ да публікацыі Р. Падбярэскага. Двойчы надрукаваны ў 1969 г. І. Басам, ён дастаткова вядомы даследчыкам. Складаецца з 72 радкоў.

Пэўную цікавасць выклікае варыянт, апублікаваны А. Семянтоўскім: бо, менавіта, ці не па "жаданні" рэдактараў "Памятной книжки Витебской губерніи на 1864 год" "панова" імкнецца "вороциць" Польшчу, а сяляне дэкляруюць паноў і шляхту рабаваць, а "эконому" запрэгчы ў саху?

Пра яшчэ два рукапісныя варыянты паэмы Я. Баршчэўскага ў друку згадвалі толькі В. Мартысюк і Ю. Пацюпа. Маем на ўвазе запісаныя ў канцы XIX ст. Браніславам Эпімахам-Шыпілам і ў 1933 г. Язэпам Малецкім тэксты, якія даволі блізка, хоць прайшло амаль стагоддзе (у другім выпадку – 120 гадоў), "узнаўляюць" радкі як Р. Падбярэскага, так і П. Багрыма. Першы з іх складаецца з 96 радкоў, а другі – са 127.

З выяўленнем новых варыянтаў паэмы *Рабункі мужыкоў* востра паўстае праблема вызначэння прыналежнасці пяру Я. Баршчэўскага тэкстаў, апублікаваных П. Кушыным, А. Рыпінскім, М. Дзмітрыевым і І. Насовічам. Ю. Пацюпа сцвярджае, што "тыя радкі, якія цытаваў у кнізе *Беларусь* А. Рыпінскі як ўрыўкі з паэмы *Рабункі мужыкоў*, да Баршчэўскага не маюць аніякага дачынення. Відаць, кантамінацыя двух розных тэкстаў на падобную тэму адбылася на самым пачатку вуснага бытавання паэмы[2]. Далей кантамінацыя *Рабункаў мужыкоў* і *Гулянкі мужыцкай* адбывалася ўжо ў працэсе пісьмовага функцыянавання тэксту"[3].

Па-першае, варта заўважыць, што А. Рыпінскі нідзе не сцвярджае, што цытуе паэму *Рабункі мужыкоў*. У яго ідзе гаворка пра паэму *Бунт сялянаў супраць Аканома* (*Bunt chłopów przeciw Ekonomowi*). Гэта Р. Зямкевіч, а пасля ўсе мы палічылі, што цытуецца твор Я. Баршчэўскага.

Па-другое, думка В. Мартысюка (Ю. Пацюпа спасылаецца на вуснае выказванне калегі), што *Бунт сялянаў супраць Аканома* А. Рыпінскага – гэта *Гулянка мужыцкая* ксяндза Антона Грамыкі, падаецца цікавай. Аднак даследчык, відаць, проста гіпатэтычна паяднаў згаданыя творы на падставе звестак з апублікаванае В. Скалабанам працы М. Піятуховіча *Рукапісы А. Рыпінскага*[4]. У той жа час аргументаў, што паэма, якую чуў у дзяцінстве

---

[1] Вядома, мы не ўлічваем тут публікацыю чатырох радкоў з *Рабункаў мужыкоў* у нарысе П. Кушына *Гецыкі*.

[2] Уласна, мы не ведаем выпадкаў аб'яднання тэкстаў двух твораў на этапе "ранняга" вуснага бытавання. Упершыню бачым гэта толькі ў публікацыі Р. Зямкевіча.

[3] Ю. Пацюпа, *Ці існуе фалькларызацы? Да праблемы бытавання і трансфармацыі літаратурных тэкстаў у вуснай традыцыі* [у:] *Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў: зборнік навуковых артыкулаў III Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, Полацк, 14–15 красавіка 2016 г.,* у 2 ч., ч. 1, Наваполацк 2016, с. 258.

[4] М. Піятуховіч, *Рукапісы А. Рыпінскага* [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1990, с. 218–234.

(1810–1820-я гг.) А. Рыпінскі, і *Hulanka mużyckaja*, з якое мы не маем аніводнага радка, а ведаем толькі тытул твора, пададзены М. Піятуховічам, – гэта адзін і той самы твор, у нас няма. Якраз наадварот: калі б гэта было так, то М. Піятуховіч, маючы тэкст і А. Грамыкі, і *Рабункі мужыкоў* у розных версіях, абавязкова адзначыў бы: Р. Зямкевіч і М. Гарэцкі памыляюцца, калі ўключаюць 16 радкоў *Гулянкі мужыцкае* ў паэму Я. Баршчэўскага. І яшчэ: М. Піятуховіч аднёс *Гулянку мужыцкую* да тае самае, гумарыстычнае групы твораў, што і *Рабункі мужыкоў*, *Энеіду навыварат*, *Тараса на Парнасе*, *Двух д'яўлаў*, а тэму акрэсліў як "забавы сялян у карчме". Аднак цяжка назваць забавамі тое, што адбываецца ў тэкстах А. Рыпінскага, М. Дзмітрыева і І. Насовіча: тут хутчэй апавядаецца пра п'янства сялян, іхнюю бойку і пачатак расправы аканома (нешта падобнае маем у апавяданні Я. Баршчэўскага *Зухаватыя ўчынкі*).

Тое, што лучыць тэксты, якія мы разглядаем (а гэта, па-першае, заўвагі А. Рыпінскага пра тое, што дзеянне ў паэме *Бунт сялян супраць аканома* адбываецца ў часы французскае вайны; па-другое, падабенства тытулаў твора ў А. Рыпінскага і Б. Эпімаха-Шыпілы), – аніяк не можа пераважыць іх адрозненняў. Варта абавязкова звярнуць увагу на рознае месца дзеяння ў "хрэстаматыйным" творы: напачатку ў ім апавядаецца пра захоп сялянамі (з дапамогай французаў!) панскага двара, іхнія рабункі, п'янства і рада ў пакоях, а пасля падзеі дзіўным чынам пераносяцца ў карчму, нібы сялянам было мала алкаголю ў фальварку ці толькі там, у карчме, можна "завесці карагод". Апрача таго, улічваючы версіі Б. Эпімаха-Шыпілы і Я. Малецкага, дзе пра падзеі ў Шнітаўках вядома крыху больш, чым гэта падае варыянт Р. Падбярэскага, становіцца зразумелым і недарэчнае з'яўленне ў карчме аканома. Бо яго, аканома, героі Я. Баршчэўскага так напалохалі, што ён схаваўся "z wojtawaj sukčaj pad pieč".

Паэма *Рабункі мужыкоў* не была, як вядома, надрукаваная Р. Падбярэскім цалкам; вусныя пераказы, хоць і больш шырока апавядаюць пра падзеі ў Шнітаўках, але хутчэй за ўсё таксама не змаглі захаваць увесь тэкст твора. Фактычна паэма Я. Баршчэўскага паўтарыла лёс *Энеіды навыварат*, апошнія фрагменты якое сведчаць, што апісанне гулянкі Энея ў Дыдоны было больш поўнае, але яно не захавалася ў памяці апавядальнікаў, не кажучы ўжо пра падзеі, які ішлі следам за гэтым эпізодам падарожжа траянскага героя. Відавочна, твор Я. Баршчэўскага цалкам рэальна можна выявіць толькі ў архіве пісьменніка (ці Р. Падбярэскага), калі гэтыя архівы захаваліся. А да таго часу варта на падставе розных версій тэксту здзейсніць новую рэканструкцыю *Рабункаў мужыкоў*.

# З найдаўнейшага рукапісу

З вядомых сёння спісаў твора Я. Баршчэўскага рукапіс са следчае справы "Аб непадпарадкаванні сялян мястэчка Крошын свайму памешчыку Юрагу" ("О неповиновении крестьян местечка Крошин своему помещику Юраге")[1] з'яўляецца самым даўнім. У навуковы ўжытак матэрыялы справы ўвёў І. Бас[2]: спачатку ён згадаў пра верш у артыкуле *Каму належаць вершы*?, а пасля двойчы апублікаваў яго ў 1969 г.[3].

Цягам XX стагоддзя літаратуразнаўцы і літаратары, стараючыся ўсімі праўдамі і няпраўдамі ўзвысіць паэтычны талент "першага сялянскага паэта", надзвычай заблыталі "крашынскую справу" П. Багрыма з вершам *Rozmowa Chłopow*. Вядома, спрычыніўся гэтаму ў першую чаргу Ігнацы Яцкоўскі (1795–1873), бо ягоны Пётрак у *Аповесці з майго часу* "ведае" верш *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...*, хоць рэальны П. Багрым, як даводзяць архіўныя дакументы, па загадзе ксяндза Войцэха Магнушэўскага прачытаў, а пасля і занатаваў для саветніка гродзенскага губернскага праўлення Якава Нечвалодава верш *Rozmowa Chłopow*.

Матэрыялы, якія датычаць непасрэдна П. Багрыма і верша *Rozmowa Chłopow*, знаходзяцца ў некалькіх архівах. Колькасць дакументаў, у якіх ідзе гаворка на дадзеную тэму, дастаткова вялікая. Але, нягледзячы на тое, што беларускія гісторыкі літаратуры апублікавалі больш за 20 з іх[4], асобныя, даволі важныя, на нашую думку, усё яшчэ застаюцца невядомымі для даследчыкаў.

Так, мы ведаем, што верш *Rozmowa Chłopow* з'явіўся ў справе крашынскага бунту з-за пэўнай інтэрвенцыі гродзенскага цывільнага губернатара Міхаіла

---

[1] Копіі рукапісу П. Багрыма захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна (НГАБ у г. Гродна, ф. 1: *Канцелярия Гродненского губернатора*, воп. 2, спр. 1334, а. 42–43).

[2] Аўгусцінас Янулайціс дзеля напісання артыкула *Аб маладым паэце з Крошына* ("Маладая Беларусь" 1913, сер. I, сш. 3, с. 9–15) карыстаўся матэрыяламі віленскага архіва, дзе няма копій верша; а артыкул Міколы Прашковіча *Паўлюк Багрым* у газеце "Звязда" (1964, 3 студзеня), відаць, з'явіўся як водгук на публікацыі І. Баса: *Новыя факты да біяграфіі Паўлюка Багрыма: З архіўных матэрыялаў* ("ЛіМ", 1954, 15 мая); *Паўлюк Багрым* ("Полымя" 1955, № 3, с. 147–154; *Каму належаць вершы?* ("Беларусь" 1963, № 11).

[3] Гл.: І. Бас, *Невядомы варыянт верша Яна Баршчэўскага* [у:] *Дзень паэзіі*, Мінск 1969, с. 134–136 (зборнік здадзены ў набор 9 студзеня 1969 г.); І. Бас, *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*, Мінск 1969, с. 135–137 (кніга здадзена ў набор 14 сакавіка 1969 г.).

[4] І. Бас надрукаваў тры (у тым ліку верш), а таксама фрагменты яшчэ пяці ў кнізе *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*, Мінск 1969, с. 133–140, а Г. Кісялёў – сямнаццаць у зборніку *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 191–212.

Бабяцінскага[1] і чыноўніка для асобых даручэнняў гродзенскага губернскага праўлення Я. Нечвалодава ў справы парафіяльнае школкі пра крашынскім касцёле[2]. Але як гэта адбылося і чаму М. Бабяцінскі настойваў на важнай ролі парафіяльнай школкі ў справе крашынскага бунту? Пра гэта можна даведацца з рапарта, які выслаў гродзенскі губернатар цэсарэвічу Канстанціну адразу пасля вяртання з паездкі ў Крашын.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos valstybes istorijos archyvas (LVIA), F. 567-2-2317a, k. 3–7 v: *Дѣло о обнаруженномъ крестьянами мѣстечка Крошина неповиновенія противу владѣльца ихъ помѣщика Юраги и о заведеніи въ мѣстечкѣ Крошинѣ ксензомъ Магнушевскимъ для крестьянскихъ дѣтей училища. 13 Іюня 1828 г.*

Секрет[но][3]

**Копія рапорта Его Императорскаму Высочеству Цесаревичу Гродненскаго Гражданскаго Губернатора отъ 3го Іюня 1828го года № 88мъ.**

Въ дополненіе къ рапорту моему Вашему Императорскому Высочеству отъ 27. минувшаго мая № 5393й спѣшу всепокорнѣйше донести: что за прибытіемъ моимъ 28ого того мѣсяца въ Мѣстечко Крошинъ, тотъ часъ собраны были мною всѣ наличные того Мѣстечка жители хозяева въ домъ тамошняго плебана ксендза Магнушевскаго[4], тамъ у коего я останавливался; и по предьявленіи имъ въ присутствіи уѣзднаго Маршала[5], самаго сего плебана и другихъ чиновниковъ и стороннихъ лицъ повелѣнія Вашего Императорскаго Высочества отъ 14го Апрѣля сего года за № 1064мъ въ разрѣшеніе прошенія отъ именующихся повѣренными сихъ же жителей и по нѣсколькократномъ прочитаніи имъ онаго въ голосъ, самимъ убѣдител[ь]нѣйшимъ образомъ, были мною уговар[и]ваемы и склоняемы, чтобы повинились и пошли обработывать раздѣленную между ими по равнымъ участк[омъ

[1] Міхаіл Бабяцінскі (1773–1832) паходзіў са шляхты Віцебскае губерні. На расейскай дзяржаўнай службе з 1789 г. Працаваў спачатку ў Полацку, а пасля ў Вільні і Гародні. З 1824 г. па 1831 г. быў на пасадзе гродзенскага цывільнага губернатара. Вызначаўся надзвычайнай адданасцю самадзяржаўю. Пры яго ўдзеле быў стлумлены ў 1826 г. бунт у Бранску (горад на Падляшшы ў той час уваходзіў у склад Гродненскай губерні), які падняло Таварыства вайсковых сяброў Міхала Рукевіча.

[2] Не выклікае сумнення, што гэты крок М. Бабяцінскага і Я. Нечвалодава быў падступным. І, відавочна, менавіта іхнія, а не сенатара М. Навасільцава і рэктара В. Пелікана "хітрыкі" апісаў І. Яцкоўскі ў *Аповесці з майго часу*.

[3] Тут і далей у квадратных дужках узнаўляюцца (па магчымасці) літары і словы ў канцы радка, дзе папера аказалася пашкоджанай.

[4] Войцэх Магнушэўскі (каля 1758 – 24.12.1828), каталіцкі святар; выхоўваў дзяцей князя Мацея Радзівіла – Канстанціна і Антаніну, за што атрымаў парафію ў мястэчку Крашын, дзе была школа для сялянскіх дзяцей; пабудаваў у 1817 г. для школы новы будынак.

[5] Павятовым маршалкам Наваградскага павета быў Юзаф Верашчака (каля 1790–1871), брат Міхала (каля 1790–1857) і Марылі (1794–1863), прыяцель Адама Міцкевіча, Яна Чачота і інш. сяброў Таварыства філаматаў.

землю,] но всѣ сіи увѣщеванія и пр[?] наказаніи, какое ожидаетъ ихъ за непослушаніе, были тщетны по ложному воображенію, что если дотронутся къ обработкѣ раздѣленной между ими земли (которую почитаютъ своею собственностію, а себя мѣщанами), то тѣмъ самымъ лишатся права собственности и мѣщанскаго званія. Сіи самыя увѣщеванія повторяемы были имъ мною и на другой день, то есть: 29 мая, но и за симъ они остались при своемъ упрямствѣ. Затѣмъ не предьусматривая никакого способа склонить ихъ къ послушанію кроткими мѣрами, и не могши терять времени въ Крошинѣ, по поводу предстоящаго рекрутскаго пріема, предоставилъ я Г. Уѣздному Маршалу обще съ Земскою Полиціею[1], за прибытіемъ ожидаемой въ Крошинѣ изъ Вильна роты Литовскаго пѣхотнаго полка, дѣйствовать по ихъ обязанности согласно распоряженіямъ Гродненскаго Губернскаго Правленія и прописаннымъ въ оныхъ узаконеніямъ; между тѣмъ для удержанія въ мѣстечкѣ Крошинѣ спокойствія, находится теперь зводъ улановъ Волынскаго Улан[ска]го полка при одномъ офицерѣ.

Изъ постановленія Губернскаго Пр[ав]ленія отъ 24 мая, съ коего имѣлъ я с[час]тіе при вышеупомянутомъ рапор[тѣ] моемъ, поднесть Вашему Императ[ор]скому Высочеству списокъ, видно: ч[то] по сему дѣлу обвиняется 12. человѣкъ, [въ] томъ числѣ 8. Крошинскихъ крестья[нъ] и 4. человѣка разнаго состоянія, из[ъ] коихъ о 9[и] изданъ уже приговоръ во[ен]нымъ судомъ, о трехъ же послѣ пр[е]данныхъ военному суду Губернскимъ Правленіемъ, долженъ таковой скоро послѣдовать за прибытіемъ въ Крошинъ вышепомянутой роты Литовскаго Пѣхотнаго полка; такъ какъ составлявшіе о вышепомянутыхъ 9[и] подсудимыхъ офицеры волынскаго Уланскаго полка отправились теперь на Компаментъ[2] въ Пружанѣ. Приговоры сіи, на оснаваніи Высочайше утвержденнаго положенія Комитета 22. Іюня 1826[го] года состоявшагося, должны получить исполненіе съ утвержденія моего [?] число присуджаемыхъ къ [наказанію] составлять будетъ менѣе 10[и] человѣкъ; но если по приговору суда присуждаться будутъ къ тѣлесному наказанію или къ ссылкѣ въ Сибирь болѣе 9. человѣкъ, тогда приговоры сіи должны вноситься чрезъ Генералъ Губернатора Г. Министру Внутреннихъ дѣлъ для донесенія Комитету ГГ. Министровъ, что безъ сомнѣнія замедлило бы не только ходъ дѣла о Крошинскихъ крестьянахъ, но и самое приведеніе оныхъ въ должное послушаніе. По сему поводу, я осмѣливаюсь всепокорнѣйше испрашивать разрѣшенія Вашего Императорскаго Высочества, не позволено ли мнѣ будетъ оба вышепомянутыя опредѣленія обще съ подлиннымъ дѣломъ поднесть на высокое благоусмотрѣніе Вашего Императорскаго Высочества въ такомъ случаѣ, когда по сему дѣлу присуждено будетъ къ тѣлесному наказанію, или къ ссылкѣ въ Сибирь болѣе девяти человѣкъ.

Между тѣмъ долгомъ моимъ считаю присовокупить слѣдующее:

---

[1] Земскую паліцыяю (Ніжні земскі суд) узначальваў (з 1805 г.) спраўнік Пётр Берг, герой *Аповесці з майго часу* І. Яцкоўскага.

[2] Компаментъ (з фр. *campement*, праз польск. *kampament*) – вайсковы лагер.

Въ мѣстечкѣ Крошинѣ существуетъ не большая школка ил[и] училище, въ коемъ обыкновенно по око[н]чаніи лѣтнихъ работъ съ осѣни и в[ъ] продолженіи всей зимы обучаются дѣти обоего пола тамошнихъ ж[и]телей[1]. Основателемъ сей школки и Главнымъ наставникомъ обучающи[х]ся въ оной дѣтей, какъ самъ мнѣ о[бъ]явилъ, есть вышепомянутый плеба[нъ] Магнушевскій, управляющій сею плеб[а]ніею съ принадлежащими къ ней сли[ш]комъ 60. дворами крестьянъ отъ 18и лѣтъ тому назадъ.

По случаю нынѣшняго рекрутскаго набора, не могши нисколько оставаться далѣе въ Крошинѣ, я не былъ въ состояніи войти въ подробное разсмотрѣніе, какъ и чему точно обучаются въ Крошинской школѣ крестьянскія дѣти; но подносимый у сего списокъ стиховъ съ рускимъ на скоро переводомъ[2], рассказываемыхъ однимъ ученикомъ означенной школки сыномъ тамошняго слѣсаря мальчикомъ 15и летъ и его рукою писанныхъ, заставляютъ имѣть довольно не выгодное о сей школкѣ и о преподающихся въ оной наукахъ мнѣніе; ибо въ сихъ стихахъ, въ простомъ и слѣдственно самомъ внятномъ для крестьянъ нарѣчіи составленныхъ, воспоминается пребываніе здѣсь французовъ, дѣлавшіеся крестьянами грабежи, о равенствѣ состояній, о предполагавшемся возстановленіи Польши, о прежнемъ счастливомъ положеніи крестьянъ, о нынѣшнихъ ихъ бѣдствіяхъ отъ рекрутскаго набора и прочее; Но это можетъ быть только часть тѣхъ нелѣпостей, какими напитываются дѣти Крошинскихъ жителей, изъ числа коихъ есть и содержащійся нынѣ въ Новогрудскомъ тюремномъ замкѣ повѣренный Крошинскихъ крестьянъ Каминскій[3], обучавшійся также въ оной школкѣ, не имѣющій отъ роду какъ только съ небольшимъ 20. лѣтъ[4]; но самой закоснѣлой ослушникъ.

Сверьхъ того, во время моей бытности въ Крошинѣ, Новогрудскій Маршалъ Верещака, владѣлецъ имѣнія Крошина Юрага и прибывшій туда на то время шуринъ Юраги Князь Константинъ Радзивилъ[5], въ присутствіи моемъ, бывшаго при мнѣ чиновника для особыхъ порученій Нечволодова и прочихъ, упрекали плебана Магнушевскаго, что о[нъ] имѣя на жителей Крошинскихъ всевозможное вліяніе и пользуясь особенною ихъ довѣренностію и уваженіемъ, не только не принималъ участія, какъ бы слѣдовало къ вразуменію ихъ и послушанію, но тщательно старался избѣгать сего,

---

[1] У 1828 г. у Крашынскай школе быў 51 вучань ад 7 да 13 гадоў (35 хлопчыкаў і 16 дзяўчынак) у тым ліку брат П. Багрыма дзесяцігадовы Вінцэнт. Гл.: LVIA, F. 567-2-2317a, k. 19–19 v: *Regestr Uczniów Szkółki Parafialnej Kroszyńskiey roku 1828*. Рэестар быў складзены Ежым (Георгіем) Арлоўскім.

[2] У матэрыялах справы верша няма.

[3] Адзін з ініцыятараў сялянскіх хваляванняў у Крашыне Казімір Камінскі. Ягоныя паказанні следчай камісіі захоўваюцца ў НГАБ у г. Гродне, ф. 6, воп. 1, ад. зах. 199, арк. 366–371 v. (Апублікаваныя часткова ў кн.: *Гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах: Хрэстаматыя*, уклад. А. Смалянчук, Вільня 2007, с. 69–70).

[4] К. Камінскаму было ў той час 34 гады. М. Бабяцінскі, магчыма, свядома зніжае ягоны ўзрост, каб паказаць яго выхаванцам школкі В. Магнушэўскага.

[5] Канстанцін Мікалай Радзівіл (1793–1869), сын Мацея і Эльжбеты з Хадкевічаў Радзівілаў. Уладальнік маёнтка Паланэчка Наваградскага павета.

есліже и былъ вынужденъ промолвить къ нимъ нѣсколько словъ, то въ такихъ выраженіяхъ, которыя не могли быть никому вразумите[ль]ны, и тотъ часъ отходилъ, отговаривая[сь] страдаемою имъ болѣзнію. Князь же Константинъ Радзивилъ въ особенности укорялъ его Магнушевскаго, что всему случившемуся несчастію въ имѣніи сестры его, причиною учережденная имъ Магнушевскимъ школка и обращеніе его съ Крошинскими жителями, что онъ Князь Радзивилъ не преминетъ жаловаться на него Епископу. На конецъ Маршалъ Новогрудской и Президентъ Гродскаго Суда[1], составлявшій Судъ съ военными чиновниками о девяти человѣкахъ, увѣряли меня, что во время онаго Суда въ Крошинѣ, нѣкоторые изъ подсудимыхъ, въ томъ числѣ и по[верен]ный Каминскій, увѣщеваніям[и] [?] Суда и представленіемъ ожидаемой будущности, до такой степени были колеблены, что начавъ раскаиваться, [го]товы были къ послушанію и только просили позволенія видѣться съ плебано[мъ] Магнушевскимъ и съ нимъ посовѣтоваться; когдаже оказано было имъ сіе снисхожденіе, то за возвратомъ отъ Магнушевскаго, не только не показали прежняго вида раскаянія; но изъявили рѣшительность лучше подвергаться всѣмъ ожидаемымъ ихъ послѣдствіямъ.

До какой степени все вышеозначенное можетъ имѣть основаніе, я по краткости пребыванія моего въ Крошинѣ, не имѣлъ способу удостовѣриться; но не видѣлъ однакожъ и того, чтобы плебанъ Магнушевскій и въ моемъ присутствіи старался оказать какое либо особенное усиліе къ вразумленію крестьянъ, онъ по нѣсколькимъ приглашеніямъ моимъ всегда отказывался, что болѣзненное состояніе его не позволяетъ ему говорить много и тотъ часъ уходилъ съ глазъ моихъ подъ предлогомъ или въ самомъ дѣлѣ отъ того, что онъ не сидѣть, ни стоять на одномъ мѣстѣ долго не можетъ. Впро[чемъ] плебанъ Магнушевскій, имѣющій далеко за 60. лѣт. отъ роду, кромѣ всѣхъ прочихъ пороковъ, могущихъ въ немъ скрываться, по мнѣнію моему безполезенъ тамъ и потому уже, что онъ такъ же подъ предлогомъ болѣзни, отъ нѣсколькихъ лѣтъ не исполняетъ по своей обязанности церковныхъ требъ, и сколько примѣтно имѣетъ склонность къ напиткамъ, что доказываетъ самая его наружность, стра[н]ное и неприличное для духовного сана обращеніе съ лицами или мало или совершено ему не знакомыми; безсмысленные же отвѣты, его сопровождаемые не приличными и безразсудными пословицами, крывлениемъ рожи и смѣшными тѣлодвиженіями, даютъ поводъ заключать, что онъ вообще не имѣетъ даже достаточно здраваго разсудка, если однакоже вовсемъ семъ не заключается особеннаго притворства.

По сему уваженію, я ограничился дачею только Новогрудскому Земскому Исправнику секретнаго предписанія, чтобъ онъ находясь на мѣстѣ въ Крошинѣ, употребилъ всевозможныя средства безъ малѣйшей огласки узнавать, не существуютъ ли тамъ между крестьянскими дѣтьми еще другія какія не лѣпыя сочиненія въ стихахъ или прозѣ, и если что либо обнаружено

[1] Прэзідэнтам Гродскага суда ў Наваградку быў Ігнацы Туганоўскі.

имъ будетъ, тотъ часъ бы доносил мнѣ, представляя и самыя тѣ сочиненія; имѣя между тѣмъ за всѣми дѣйствіями плебана Магнушевскаго не примѣтное наблюденіе.

Предавая все сіе высокому благоуваженію Вашего Императорскаго Высочества осмѣливаюсь доложить: что по мнѣнію моему въ соблюденіи строгой справедливости, не зависимо отъ мѣръ принятыхъ къ приведенію въ послушаніе Крошинскихъ жителей, можно бы было нынѣже поручить Новогрудскому Земскому Суду разсмотреніе правъ ихъ законнымъ порядкомъ на доказываемое ими мѣщанское званіе и на землю, которую они почитаютъ не подлежаще раздѣленною между ими помѣщикомъ Юрагою. Вѣрно. Дѣйствительный Статскій Совѣтникъ [подпіс][1].

Дадзены рапарт гродзенскага цывільнага губернатара М. Бабяцінскага – гэта першая згадка пра верш (тытул яго ў дакуменце не падаецца) *Rozmowa Chłopow*. А менавіта, 28 ці 29 мая (старога стылю; адпаведна 9 ці 10 чэрвеня) 1828 г. у Крашыне адбыліся падзеі, якія ў 1850-я гг. у мастацкай форме адлюстраваў І. Яцкоўскі ў *Аповесці з майго часу*: высокі царскі саноўнік (вядома, у літаратурным творы, прызначаным для эмігрантаў, на ролю адмоўных персанажаў лепш падыходзілі М. Навасільцаў і В. Пелікан, чым мала каму знаны гродзенскі цывільны губернатар), выконваючы ўскладзеную на яго місію (“для содъйствія къ приведенію ихъ въ надлежащее послушаніе”[2]), палічыў сваім абавязкам звярнуць увагу цэсарэвіча Канстанціна на тое, што першапрычынаю бунту ў мястэчку з’яўляецца ксёндз В. Магнушэўскі і заснаваная ім школка для сялянскіх дзяцей. Ягоныя падазрэнні грунтаваліся на тым факце, што, магчыма, сялянскія дзеці навучаюцца на нечым падобным, што прачытаў, а пасля перапісаў уласнаю рукою “сынъ тамошняго слѣсаря мальчикъ 15и летъ”. Цікава, што М. Бабяцінскі дастаткова правільна характарызуе[3] твор Я. Баршчэўскага: “ибо въ сихъ стихахъ, въ простомъ и слѣдственно самомъ внятномъ для крестьянъ нарѣчіи составленныхъ, воспоминается пребываніе здѣсь французовъ, дѣлавшіеся крестьянами грабежи, о равенствѣ состояній, о предполагавшемся возстановленіи Польши, о прежнемъ счастливомъ положеніи крестьянъ, о нынѣшнихъ ихъ бѣдствіяхъ отъ рекрутскаго набора и прочее”.

Вядома, “подносимый у сего списокъ стиховъ съ рускимъ на скоро переводомъ” – гэта рукапіс самога П. Багрыма, які да сённяшняга дня яшчэ не выяўлены. Высланы 3/15 чэрвеня 1828 г. М. Бабяцінскім у Варшаву цэсарэвічу Канстанціну, ён разам з копіяй рапарта гродзенскага цывільнага губернатара быў неадкладна перададзены ў Варшаве апякуну Віленскае навучальнае акругі М. Навасільцаву (“нахожу нужнымъ препроводить при семъ къ Вашему Высокопревосходительству копію помянутаго рапорта и ***приложенныхъ къ оному***

[1] Неразборлівы подпіс сапраўднага стацкага саветніка (з 1826 г.) М. Бабяцінскага.

[2] LVIA, F. 567-2-2317a, k. 1: *Отъ Его Императорскаго Высочества Цесаревича, Главнокомандующаго Литовскимъ Отдѣльнымъ Корпусомъ Господину Дѣйствительному Тайному Советнику Сенатору и кавалеру Новосильцеву* [13 Іюня 1828 г.].

[3] Заўважым: больш дакладна, чым асобныя беларускія літаратуразнаўцы.

***стиховъ*** (вылучэнне нашае. – *М. Х.*), прося Васъ неоставить войти въ разсмотрѣніе учрежденіе Крошинской школы ксендзомъ Магнушевскимъ”[1], які – у сваю чаргу – пераслаў 16/28 чэрвеня 1828 г. дадзеныя дакументы з Варшавы ў Вільню рэктару ўніверсітэта В. Пелікану. Праз некалькі дзён, 22.06/4.07.1828 г. “копия с донесения его высочеству гродненского гражданского губернатора с приложенными польским (sic!) стихами вместе с переведением оных на российский язык”[2] “накіроўваюцца”[3] ў Слонім (?) дырэктару вучылішчаў Гродзенскае губерні Ігнату Брадоўскаму[4].

Асноўныя дакументы следства, якое вёў І. Брадоўскі, надрукаваў Г. Кісялёў паводле справы “О приходском училище, состоящем Новогрудского уезда в местечке Крошине, и о неповиновении крошинских крестьян противу владельца их помещика Юраги”, дзе захоўваюцца ў асноўным копіі матэрыялаў следства, хоць у тым самым фондзе ў справе “Дѣло о обнаруженномъ крестьянами мѣстечка Крошина неповиновенія противу владѣльца ихъ помѣщика Юраги и о заведеніи въ мѣстечкѣ Крошинѣ ксензомъ Магнушевскимъ для крестьянскихъ дѣтей училища. 13 Іюня 1828 г.” маюцца арыгіналы (больш дакладна: у справу ўключана “Слѣдственное дѣло произведенное Директоромъ Училищь Гродненской Губерніи въ Мѣстечкѣ Крошинѣ относительно учрежденной тамъ парафіальной школы и преподаваемаго въ оной дѣтямъ ученія. Іюля 17. дня 1826 года”, якое занатоўваў уласнаручна І. Брадоўскі)[5].

Мы лічым, што дзеля атрыбуцыі верша *Заграй, заграй хлопчэ малы* належыць надрукаваць усе матэрыялы следства адносна Крашынскага сялянскага бунту. Гэтым жа разам пададзім толькі асобныя дакументы, якія датычаць верша *Rozmowa Chłopow*.

---

[1] LVIA, F. 567-2-2317a, k. 2.

[2] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, Мінск 1977, с. 192.

[3] У “предложении” рэктара Віленскага ўніверсітэта маецца загад “войти в обстоятельства сего дела и о последующем донести мне по эстафете с вашим мнением ***при возвращении и означенных бумаг*** (вылучэнне нашае. – *М. Х.*)” (*Ibidem*). Аднак у матэрыялах і апекуна Віленскай навучальнай акругі, і рэктара Віленскага ўніверсітэта рукапіса П. Багрыма няма. У фондзе ж канцылярыі гродзенскага губернатара захоўваюцца адно копія верша *Rozmowa Chłopow* лацінкаю і пераклад яго на расейсую мову, выкананыя, відаць, чыноўнікамі губернскае канцылярыі.

[4] Надворны саветнік, магістр філасофіі Ігнат Мартынаў Брадоўскі ў той час з’яўляўся дырэктарам вучылішчаў Гродзенскае губерні, а таксама дырэктарам (смотрителемъ) гімназіі ў м. Свіслач. Відаць, менавіта м. Свіслач было месцам ягонага сталага побыту, а ў Слоніме ён апынуўся па службовых справах (менавіта са Слоніма 17/29 ліпеня 1828 г. ён вышле сваю справаздачу рэктару Віленскага ўніверсітэта пра праведзенае ў Крашыне следства). У Слоніме мелася павятовае вучылішча ксяндзоў канонікаў лютэранскіх. І. Брадоўскі згадваецца ў г. зв. *Мѣсяцословахъ*: з 1825 г. ён выконвае абавязкі дырэктара вучылішчаў Гродзенскае губерні. Гл.: *Мѣсяцословъ съ росписью чиновныхъ особъ, или Общій штатъ Россійской Имперіи, на лѣто отъ Рождества Христова 1825*, часть первая, Санктпетербургъ 1824, с. 581, а пасля займае пасаду дырэктара.

[5] Царскія чыноўнікі даволі дакладна капіравалі дакументы, хоць і ёсць пэўныя нязначныя памылкі-апіскі. Напрыклад, у адказах С. Юрагі на пытанні І. Брадоўскага ў арыгінале чытаем, што Крашын да спадчыны ягонае жонкі належыць з 1822 г., у *Пачынальніках*... жа год падаецца як 1828 (дапускаем, аднак, што тут можа быць памылка друку, хоць – усё ж – заўсёды дакладны Г. Кісялёў не выправіў памылку ў другім выданні зборніка).

Звернем увагу на тое, што М. Бабяцінскі не дакументаваў, здаецца, свайго “следства”, якое ён правёў у канцы мая (ст. ст.) 1828 г., бо захаваліся толькі ягоныя развагі пра ролю парафіяльнае школкі ў рапарце да цэсарэвіча Канстанціна, а таксама згадка пра перапісаны П. Багрымам верш крамольнага зместу. І. Брадоўскі ж прыехаў у Крашын толькі на пачатку (ст. ст.) ліпеня 1828 года. Г. зн. быў час, каб зразумець небяспеку, якая вынікала з факта пільнае ўвагі ўладаў да школы і верша, прачытанага і перапісанага П. Багрымам, а таму В. Магнушэўскі і іншыя зацікаўленыя асобы з Крашына маглі пазбавіцца небяспечных матэрыялаў і стварыць “легенду”, якая пасля была агучана ў іх паказаннях падчас следства І. Брадоўскага[1]. Паказальна, што ў матэрыялах следчае справы дырэктара вучылішчаў Гродзенскае губерні першым пададзены падпісаныя ўласнаручна паказанні П. Багрыма.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 567-2-2317a, k. 16–16 v: *Дѣло о обнаруженномъ крестьянами мѣстечка Крошина неповиновенія противу владѣльца ихъ помѣщика Юраги и о заведеніи въ мѣстечкѣ Крошинѣ ксензомъ Магнушевскимъ для крестьянскихъ дѣтей училища. 13 Іюня 1828 г.*

## [**Паказанні Паўла Багрыма**][2]

1828. года Іюля 3. дня я нижеподписавшійся Павелъ Багримъ, записанный въ сказкахъ вольныхъ людей при отцѣ моемъ Іосифѣ Багримъ въ имѣніи помѣщика Новогрудскаго уѣзда порутчика Польскихъ войск Станислава Юраги именуемомъ Крошинъ, призванный Г. Директоромъ Училищь Гродненской Губерніи и будучи имъ спрашиваемъ показалъ: Отъ роду мнѣ 15. лѣтъ, религіи Римско-католической, обуча[лся] въ плебаніи читать, писать и началамъ Арифметики у кс. Пробоща Войцеха Магнушевскаго и у бывшаго у него Викаріем покойного кс. Піуса Горбацевича. Послѣ того находясь и донынѣ во услуженіи у кс. Пробоща Магнушевскаго выучивалъ разные стихи, переписываемые мною у Органисты при Плебаніи Георгія Орловскаго, въ числѣ коихъ переписалъ и выучилъ стихи въ простомъ польскомъ языкѣ подъ именемъ *Rozmowa chłopów*. Стихи сіи мною выучены уже около 5. лѣтъ, но никогда Кс. Плебанъ ни предъ кѣмъ не заставлялъ меня въ своемъ присутствіи говорить оныхъ, и я самъ собою не помню чтобы когда нибудь и предъ кѣмъ либо говорилъ тѣ стихи. Но въ бытность Г. Гродненскаго Гражданскаго Губернатора съ чиновникомъ своимъ Г. Нечволодовымъ въ послѣднихъ числахъ маія мѣсяца сего года у Кс. Пробоща Магнушевскаго, онъ Магнушевскій въ своемъ присутствіи и бытности

[1] І гэта нягледзячы на тое, што наваградскі спраўнік П. Берг меў абавязак сакрэтна сачыць за В. Магнушэўскім.

[2] Занатаваныя на асобным акрушы паперы рукою І. Брадоўскага. Подпіс лацінкаю рукою П. Багрыма.

Г. Нечволодова приказалъ мнѣ помянутые стихи[1] проговорить на память, что я и исполнилъ, а потомъ по просьбѣ Г. Нечволодова и по приказанію Кс. Магнушевскаго переписалъ оныѣ и еще разъ прочитавши предъ Г. Нечволодовым отдалъ ему лично. Стихи сіи писанныя мною показывалъ мнѣ при семъ Г. Директоръ. Хотя стихи сіи находились у меня около 5. лѣтъ, но никогда никому ни изъ учениковъ приходскаго училища содержимаго Кс. Магнушевскімъ ни другимъ дѣтямъ и поселянамъ селенія Крошинъ не давалъ и не переписывалъ оныхъ. Такъ какъ я въ парафіальной школѣ не находился, то и не знаю чему въ оной обучаютъ. Все сіе показалъ по истинной справедливости и все оное разумѣю, ибо пересказано то мнѣ на польском языкѣ[2], въ томъ собственноручно подписываюсь.

Paweł Bahrym.

Тое самае згодна сцвярджаюць і Ежы (Георгі) Арлоўскі ды В. Магнушэўскі. Падамо з іхніх паказанняў толькі фрагменты, якія датычаць верша *Rozmowa Chłopow*.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 567-2-2317a, k. 17–18 i k. 24–24 v.

### [З паказанняў Ежы (Георгія) Арлоўскага][3]

Стиховъ или басенъ никогда и никакихъ ни одному[4] изъ учениковъ школы недавалъ выучивать, а тѣмъ более такихъ, которые бы клонились къ возбужденію крестьянъ къ какому либо не повиновенію или духу вольности, что готовъ утвердить присягою. Относительно же стиховъ, произнесенныхъ находящимся въ услугахъ у Кс. Плебана Магнушевскаго Павломъ Багримомъ объясняю слѣдующее: Послѣ войны 1812. года съ французами, непомню въ которое время одинъ прохожій изъ отставныхъ солдатъ, котораго я не|знаю ни имени ни прозванія проискивая себѣ службы, зашелъ для того и въ плебанію. Увидѣвъ что я занимаюсь писаніемъ, онъ подалъ мнѣ вышепомянутые стихи *Rozmowa chłopow*. По молодости лѣтъ и неразсудку я ихъ принялъ, переписалъ въ тетрадь, въ которой были у меня и прочія стихи извѣстныхъ Польскихъ поэтовъ, и отдалъ обратно тому прохожему, который небылъ принятъ на услуги в плебаніи. Съ тѣхъ поръ они у меня находились небудучи никому извѣстны, да и я объ нихъ забылъ въ послѣдствіи времени. Между тѣмъ Павелъ Багримъ выучившись тоже читать и писать въ плебаніи началъ просить меня не имѣю ли я чего либо такого,

---

[1] У сваіх паказаннях В. Магнушэўскі акцэнтуе ўвагу, што загадаў П. Багрыму “różne też bayki proklemować”, а не канкрэтна верш *Rozmowa chłopow.*

[2] Тут гаворка ідзе пра “польскій языкъ”, а не пра “простой польскій языкъ”, як у выпадку з вершам *Rozmowa chłopow.* Гэта можа сведчыць пра веданне П. Багрымам польскае мовы.

[3] Занатаваныя 3 ліпеня (ст. ст.) 1828 г. на асобным акрушы паперы рукою І. Брадоўскага. Подпіс лацінкаю рукою Ежы Арлоўскага.

[4] У *Пачынальніках...*: “никому” (с. 197).

что бы онъ могъ переписывать, дабы болѣе усовершенствоваться въ писаніи, на такую просьбу я далъ ему мою тетрадь со стихами *Rozmowa chłopow* совершенно непомня объ оныхъ. Симъ способомъ сіи стихи перешли къ Павлу Багриму, а какимъ уже образомъ узналъ объ них Кс. Плебанъ Магнушевскій и съ какою цѣлію приказалъ ихъ проговорить напамять своему слугѣ Павлу Багриму, совершенно о томъ не|знаю <…> все сіе своеручнымъ подписомъ утверждаю; равно истинно знаю и утверждаю то, что ни одинъ изъ учениковъ парафіальной школы неимѣетъ и неимѣлъ никогда у себя никакихъ стиховъ, а особливо *Розмовы хлоповъ*, даже и не слышали объ оныхъ.

### [**З паказанняў Воцэха Магнушэўскага**][1]

Kto iest autorem tych wierszy nie wiem, lecz teraz dowiaduię się że Żołnierz odstawny Polski po Rewolucyi 1812. roku powracając do domu o żebrzanym chlebie zaszedł do Plebanii Kroszyńskiey na noc i bawiąc dni kilka; a widząc Jerzego Orłowskiego uczącego się pisać, dał onemu do przepisania takowe wiersze pod tytułem *rozmowa Chłopow*, a od onego nauczył się Pawełek a że w tych wierszach prócz samey próżności i wyrazów śmiesznych nic więcey nie znaydywałem a zatem na one żadney uwagi nie miałem: że zaś Pawełek na Pamięć umie różne bayki z Autorów Naruszewicza, Ezopa, i Brukowych wiadomości nauczonego przez zeszłego Xiędza Piusa Horbaczewskiego byłego Komendarza Plebanii Kroszyńskiey, a zatem dla rozrywki JW. Sowietnika kazałem [pomie]nionemu Pawełkowi różne też bayki proklemować, a któreń w niewinney myśli i te wiersze nic z siebie nie znaczące tylko śmiechu warte na pamięć przepowiedział.

Дакументы са следчае справы І. Брадоўскага могуць пераканаўча сведчыць, што дырэктар вучылішчаў Гродзенскае губерні не надта імкнуўся выявіць ісціну. Ягоныя роспыты П. Багрыма і Е. Арлоўскага зводзіліся адно да пацвярджэння думкі, якую ён сфармуляваў у сваім рапарце ад 17 ліпеня 1828 г. рэктару Віленскага ўніверсітэту В. Пелікану: Крашынская парафіяльная школка “в отношении неповиновения крошинских крестьян своему владельцу вовсе не есть причинаю <…> ибо не дети не повинуются, но отцы их”, а “стихи *Rozmowa chłopów* не имели никогда никакого влияния на учеников школы и им не известны, в чем я экзаменовал их и рассматривал их тетради и книги”[2]. Яшчэ І. Бас звярнуў увагу, што І. Брадоўскі “быў зацікаўлены ў тым, каб у справе са «шкоднымі вершамі», якія чытаў Багрым, Крошынская школа заставалася ўбаку. У адваротным выпадку гэта ставіла пад удар і Брадоўскага, які (пра гэта пісаў М. Навасільцаву М. Бабяцінскі) не кантраляваў работу Крошынскае школы”[3]. Вядома, ставіць сябе “пад удар” І. Брадоўскі не быў зацікаўлены. Але, думаецца, такі

---

[1] На асобным акрушы паперы ў калонцы злева пададзены пытанні І. Брадоўскага ад 4.07.1828 г., а справа невядомая асоба (Ежы Арлоўскі?) 5.07.1828 г. занатавала адказы В. Магнушэўскага, які адно паставіў свой подпіс.

[2] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 207.

[3] І. Бас, *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*, Мінск 1969, с. 69.

шлях абароны свае рэпутацыі мог аказацца і неэфектыўным, калі б чыноўнікі губернскага праўлення на чале з саветнікам губернатара Мартынам Явароўскім давялі супрацьлеглае. Больш за тое: І. Брадоўскі мог правесці, так назавём, "выкрывальніцкае" следства, абвінаваціўшы В. Магнушэўскага ў заступніцтве за сялян, а настаўнікаў Крашынскае школкі ў падбухторванні местачкоўцаў супраць уладальніка С. Юрагі.

Але, на нашую думку, І. Брадоўскі ці не ў першую чаргу кіраваўся імкненнем абараніць В. Магнушэўскага[1], арыштаваць якога і накіраваць у Вільню прапаноўваў цэсарэвіч Канстанцін у лісце да В. Пелікана ад 13 чэрвеня 1828 г. Чаму? Магчыма, з тае прычыны, што ён паходзіў з Гродзеншчыны[2] і вучыўся ў Віленскім універсітэце, дзе атрымаў тытул магістра філасофіі ў часы філаматаў і філарэтаў, некаторыя з якіх мелі непасрэднае дачыненне да Наваградчыны.

А вось гродзенскі цывільны губернатар М. Бабяцінскі, атрымаўшы ад рэктара В. Пелікана копію рапарта дырэктара вучылішчаў Гродзенскае губерні, быў вельмі незадаволены праведзеным па лініі міністэрства адукацыі следствам. Ён не раз (захаваліся два чарнавыя варыянты) браўся за ліст рэктара В. Пелікана, ледзь не абвінавачваючы І. Брадоўскага ў непрафесіяналізме: "Але трэба быць другому падобнаму Брадоўскаму, каб адны гэтыя словы прымаць за праўду («Разглядалі іх сшыткі і кнігі, але не толькі гэтых, але і іншых ніякіх вершаў не аказалася»), таму што ці ж магчыма думаць, каб вершы, змест якіх мае на ўвазе разбэшчванне сялян, маглі спісвацца ў сшыткі школьныя, альбо захоўвацца ў кнігах, альбо каб вучні прызнаваліся ў веданні іх, калі ўжо пачаліся пошукі з боку ўрада. Я ўпэўнен, што той самы 15 гадовы хлопчык, слуга ксяндза Магнушэўскага, які ў бытнасць маю ў Крошына расказваў вершы гэтыя на памяць перад чыноўнікам маім для асобых даручэнняў Нервалодавым (sic!) і напісаў яму копію іх, калі б ведаў, што вершы гэтыя звернуць на сябе ўвагу ўрада і за іх будзе праводзіцца следства і распыты, то маўчаў бы і ніякія распыты не схілілі яго да чытання і дачы паказанняў. Водзывы ж ганаровага наглядчыка вучылішч Навагрудскага павета графа Храптовіча[3] даказваюць яшчэ больш неабгрунтаванасць дзеянняў дырэктара Брадоўскага, таму што п. Храптовіч сцвярджае, што ён таксама чуў упамянутыя вершы, якія чыталі служачыя ў ксяндза Магнушэўскага хлопчыкі, натуральна чытаў гэтыя не адзін хлопчык Багрым, але і іншыя хлопчыкі, без сумнення таксама ў Крошынскім вучылішчы навучаўшыяся, але Брадоўскі і пасля гэтага стараецца запэўніць, што ні аднаму з вучняў Крошынскага вучылішча вершы гэтыя не былі вядомыя" (з 1-га чарнавога варыянта данясення гродзенскага цывільнага губернатара Бабяцінскага сенатару Навасільцаву. ФЦДГА, Гродна, а. 150–154)[4].

---

[1] Нагадаем: В. Магнушэўскі карыстаўся ўсеагульнаю павагаю насельніцтва Наваградчыны, бо "быў чалавекам вялікае вучонасці і надзвычайнае маральнае дасканаласці". У Крашынскі касцёл на гадавыя святы прыязджалі вернікі за некалькі дзесяткаў кіламетраў. Гл.: І. Яцкоўскі, *Аповесць з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды*, Варшава 2010, с. 169–174.

[2] У Гродненскім губернскім праўленні пасаду губернскага страпчага крымінальных спраў займаў родны брат Ігната – тытулярны саветнік Антон Брадоўскі.

[3] Гаворка пра Адама Храптовіча (1768–1844), сына апошняга вялікага канцлера літоўскага Ёхіма Храптовіча.

[4] І. Бас, *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*, Мінск 1969, с. 137.

У другім чарнавым варыянце адказу В. Пелікану М. Бабяцінскі яшчэ больш шырока піша пра пралікі следства І. Брадоўскага: “Пасля ўсяго гэтага ці можна верыць словам следчага Брадоўскага аб абмежаванасці вучняў Крошынскага вучылішча і ці можна меркаваць, каб настаўнікі яго абодва тыя ж крошынскія сяляне настаўлялі дзяцей іх брацііі думаць аб карысці ўладальніка, а не аб сваёй уласнай, і каб яны прапусцілі выпадак на працягу гадоў, што прайшлі пасля 1812 года зрабіць вядомымі вучням памянёнай школы вершы пад назвай *Размова хлопаў* у той час, калі твор гэты сам па сабе не можа не быць прыемным для сялян і на іх мове напісаны.

Паводле Брадоўскага выходзіць, што вершы пад назваю *Размова хлопаў* складзеныя былі за мяжой і ўнесены да нас разам з нашэсцем непрыяцельскіх войск, што яны вядомы толькі ксяндзу Магнушэўскаму, арганісту Арлоўскаму і слузе Магнушэўскага Паўлу Багрыму, які перапісаў гэтыя вершы ад Арлоўскага ў Плебаніі, але ўсё гэта недастаткова абгрунтавана, бо са зместу відавочна, што яны былі складзеныя не за мяжой, а тут, і не ў 1812 годзе, а значна пазней. Напісаны яны былі на такой мове, якой гавораць простыя людзі Навагрудскага і іншых паветаў, а ў тым ліку і жыхары мястэчка Крошына. У гэтых вершах заключаюцца ўспаміны аб тым, што здарылася ў час нашэсця, а не якія-небудзь прадбачанні аб тым, што яшчэ можа здарыцца.

Брадоўскаму трэба было дашуквацца, дзе калі і кім дакладна складзеныя былі гэтыя вершы, роўным чынам даследаваць, з якім намерам захоўваў вершы гэтыя ў сябе Арлоўскі такі працяглы час, ці не даваў ён каму-небудзь іншаму спісваць іх, апрача названага хлопчыка Багрыма і калі дазволіў спісваць, то колькі разоў і каму іменна, бо цяжка паверыць, каб праз 16 год пасля нашэсця непрыяцеля сачыненне гэта <…> сучешальнае магло быць вядома аднаму толькі хлопчыку Багрыму...

Што ж датычыць тлумачэння ксяндза Магнушэўскага <…>, то адно гэта ўжо даказвае або поўнае невуцтва ксяндза Магнушэўскага, або злосную яго хітрасць, прыкрываемую прастатой, таму што дастаткова прачытаць вершы гэтыя, каб бачыць у іх хітрасць сачыніцеля, каб утрымаць у памяці сялян, зробленыя імі пры французах буйствы ў адносінах іх да памешчыкаў і нянавісці іх да цяперашняга парадку.

Сведчанне следчага Брадоўскага, што слуга ксяндза Магнушэўскага Павел перапісваў гэтыя вершы ад Арлоўскага ў Плебаніі, змешчана без сумнення для таго, каб такім чынам даказаць, што вершы гэтыя ўтрымліваліся нібыта ў тайне, што яны з Плебаніі не выносіліся і ў вучылішчы нікому вядомымі не былі. Але такое сведчанне не заслугоўвае ўвагі.

Справа заключаецца не ў тым, ці даўно пакінуў вучылішча хлопчык Багрым <…>, але ў тым іменна, што ён быў з ліку вучняў памянёнага вучылішча, што калі яму даваў настаўнік школы арганіст Арлоўскі спісваць копіі і ён вершы гэтыя вусна завучыў на памяць, расказваючы іх потым пры ўсякім выпадку і даваў з іх копіі, то такой жа паблажкай Арлоўскага без усякага сумнення карысталіся і іншыя сялянскія дзеці, якія навучаліся ў тым жа вучылішчы, таму што паміж іншымі дзецьмі і хлопчыкам Багрымам, таксама з крошынскіх сялян, не было ніякай розніцы <…>.

Дакумент аб “падложнай прывілеі” складзены быў Камінскім, і “дзеці крошынскіх сялян, якія навучаліся ў памянёнай (школе) ведалі лепш за сваіх бацькоў тыя прывілеі, што ім прадстаўляліся, тым лягчэй (яны) маглі выклікаць у бацьках сваіх непаслушэнства да двара, каб пры дапамозе дзеяння сваіх бацькоў набыць мяшчанскае званне і ва ўласнасць зямлю, прыхільнасць жа бацькоў да сваіх дзяцей не мела ніякай перашкоды да заваяванні іх шчасця” (з 2-га чарнавога варыянта данясення гродзенскага цывільнага губернатара М. Бабяцінскага сенатару Навасільцаву. ФЦДГА, Гродна, а. 156–172)[1].

Застаецца невядомым, ці даслаў гродзенскі цывільны губернатар ліст М. Навасільцаву. Перадусім, калі ён гэта і зрабіў, то пасля 19 ліпеня 1822 г., калі ўжо рэктарат Віленскага ўніверсітэту, атрымаўшы рапарт І. Брадоўскага, узяў яго за аснову дзеля сваіх прапаноў сенатару М. Навасільцаву адносна лёсу Крашынскае парафіяльнае школкі і яе настаўнікаў. Заўвагі М. Бабяцінскага, наколькі вядома, не паўплывалі на рашэнні вышэйшае ўлады. Наадварот, цэсарэвіч Канстанцін прымае “удостоверения о невинности” крашынскага святара, загадвае вызваліць ад “ответственности и уволить его из-под надзора”, а “гродненскому гражданскому губернатору открывшуюся в донесении его по сему предмету неоснавательность поставить на вид”[2].

Такім чынам, верш *Rozmowa Chłopow*, ягоная ідэйная скіраванасць не сталі прадметам пільнае ўвагі царскіх чыноўнікаў вышэйшага рангу. Спроба М. Бабяцінскага прыцягнуць да адказнасці тых асобаў, якія, на яго думку, ведалі і распаўсюджвалі дадзены літаратурны твор, а таксама прапанова “дашуквацца, дзе калі і кім дакладна” былі яны складзены, была знівелявана дырэктарам вучылішчаў Гродзенскае губерні І. Брадоўскім, які, магчыма, хоць і пісаў рэктару В. Пелікану, што “представляет” яму сваё “следства” “со всеми приложениями”[3], не выслаў у Вільню рукапіс П. Багрыма (перадусім, у матэрыялах канцылярыі рэктара Віленскага ўніверсітэту яго няма).

У выніку *Rozmowa Chłopow* захавалася толькі ў матэрыялах канцылярыі гродзенскага цывільнага губернатара. Выявіўшы твор у сярэдзіне 1960-х гг. у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна, І. Бас публікаваў яго (двойчы) з пазнакаю: “Тэкст верша мы падаём з захаваннем арфаграфіі і пунктуацыі арыгінала, што, між іншым, важна і для тых, хто вывучае гісторыю развіцця беларускай мовы, у тым ліку і літаратурнай”[4]. Нягледзячы на гэтае сцверджанне, апублікаваныя І. Басам тэксты не ідэнтычныя: мы налічылі чатырнаццаць арфаграфічных і пунктуацыйных адрозненняў.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна (НГАБГ), ф. 1, воп. 2, спр. 1334, а. 42–43: *Дело о неповиновении крестьян м. Крашина своему помещику Юраге*, 30 декабря 1826 – 29 марта 1829 г.

---

[1] І. Бас, *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*, Мінск 1969, с. 137–139.

[2] *Список с повеления его императорского высочества цесаревича к г. действительному тайному советнику сенатору Навосильцеву от 23 генваря 1829 года № 215*. Гл.: *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 210–211.

[3] *Ibidem,* с. 205.

[4] І. Бас, *Невядомы варыянт верша Яна Баршчэўскага* [у:] *Дзень паэзіі*, Мінск 1969, с. 134. тое самае і ў І. Бас, *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*, Мінск 1969, с. 135.

## *Rozmowa Chłopow.*

Ot|to moie wy bratuchny[1],
Choć nie adnaie matuchny;
Skażu ia wam adnu recz,
A chto nie uwieryć paszow precz:
Kaliszto prancuzkaia siła
Z za|niomna nastupiła:
Stało i nas karcić,
Jakby to Polszczu zwracić;
A my siedzieli cicho,
Pakul pryniesło licho.
Ony u nasz dwor,
Nutka[2] i my dzielić zdor[3]:
A tak miasa nawaryli,
Sztob my ich uhawaryli,
Swierny u dwaroch parazbiwać
Panou u les parazhaniać,
Pierszy cham[4] sieu za stoł
Hledzić u kut iak sakoł,
A iak nohi razaprieć
To choć szaściérycaiu iedź;
A iak zaczau hadać[5],
I recz razpaztraniać,
Ony rate parazzieulali,
I uszy panastaulali;
Dziecіukie! chudo nam żyć,
Pakińmo pryhon służyć,
zrabiem wolność i wrecz,
Nas uradnik nie budzie siecz;

---

[1] У публікацыях І. Баса, а таксама ў кн.: Я. Баршчэўскі, *Выбраныя творы*, Мінск 1998, с. 32–34 – *браціхны* (у другім радку адпаведна – *маціхны*).

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 342: “НЎТКА, множ. НЎЦЕТКА, межд. Понужденія. *Нутка, нутко*. *Нутка его хорошенько сцебани*! *Нуцетка, примицеся за дзѣло*! *Господынька нутка*, // *Ворочяйся хутко*, // *Ужо на дворѣ вечеръ*, // *Коровай не печенъ*. Изъ свадебн. пѣсни”.

[3] Tłustoie sadło (заўвага перапісчыка ці нейкай іншай асобы алоўкам на палях).

[4] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 675: “ХАМЪ, а, с. м. бранное слово. 1. Мужикъ, неотеса.*Чёго ты хочёшъ отъ гетаго хама*? *Досиць тобѣ хамомъ быць, пора быць разумнѣй*. 2. Рабъ. *Панъ усёгды паномъ, а хамъ хамомъ*. Посл. Въ Бѣлоруссіи существуетъ мнѣніе, что крестьяне происходятъ отъ Хама, неблагословеннаго сына Ноя. Это мнѣніе подтверждаетъ одно очень старинное стихотвореніе на Бѣлорусскомъ языкѣ псевдонима “Шелухи <…>”.

[5] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 107: “ГАДА́ЦЬ, гл. д. <…> 2. Говорить, разсказывать. *Гадали про войну. Дзикія рѣчи гадаець. Не гадай ничо́го лишняго*. <…>”.

Czy my ludzi nie takiie,
Szto nam hroźby usiakiie,
Idziesz u dwor i baissie
Pakul k Panu prystupissie,
Da ieszcze na tom nie kaniec
Pałaży na stoł dziesieć iaiec,
I tak ieszcze strach biereć,
Szto moy panok zapiaieć,
E wże s|taho nie łady,
Chudyje naszyie hady,
Pomnicie wy dzieciukie,
Tyie wiekie iak zywali palakie,
Szto to za pane bywali,
Nas u niekruty nie brali;
A rozumu|ż u ich czy mało,
Choć czuprynka zwierchu mała:
Choć wałasok na łbie niet,
Da uże usy na uwies świet:
A iak charaszo chadzili,
Sukni by żar nasili;
Dwa rukawa krasnyje,
A dwa z zadu zapasnyie;
A z|adniie pały u tych panow,
Ciepirasznie szyiuć pa siemioro sztanow,
A hetyie i sami zhaleli,
I nas z duszami paieli,
Ot baczycie wy dzieci
Jakiie ciepier pany na swieci,
Treba nam za kały bracca
Staroy polszczy dabiracca,
Jak hetak cham skazau,
Usiem achwoty dadau;
Pierszy Daniła
U katoraho wielikaia siła
Skazau, choć mnie pabiuć sztany,
Da uże nie buduć pany,
A tak pili i hulali,
Razam panou razbiwali,
Cynu i srebro brau iak chto moh,
Kab ablić dudu i roh,
Sukni brali na wiarowki,
Sztob paszyć zankam sznurouki,
A tak skoro zawiernuli,
Dware u pustki abiernuli. –

# Ян Баршчэўскі па-расейску

Разам з копіяй, зробленай з рукапісу П. Багрыма, у архіўнай справе захоўваецца пераклад верша на расейскую мову. Характар пісьма, а таксама праўкі, якія там маюцца, дазваляюць меркаваць, што гэта арыгінал. На нашу думку, пераклад выканала тая самая асоба, што скапіравала рукапіс П. Багрыма.

Відавочна, і сам беларускамоўны верш, і пераклад яго на расейскую мову капіраваліся чыноўнікамі Гродзенскае губернскае ўправы. Адну з копій перакладу выявіў у 2014 г. Лявон Баршчэўскі ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі імя кн. Чартарыскіх у Кракаве: Rkps Czatr. 13139: *XVIII–XIX w. Luźne i poszyty. Archiwum szczuczyńskie Druckich-Lubeckich. Wiersze, przeważnie patriotyczne, satyry polityczne, rozprawki, tłumaczenia, varia literackie. Archiwum Druckich-Lubeckich nr 66*, k. n.n. Яна даволі добрая, захаваны амаль усе асаблівасці перакладу (мы заўважылі два тэкстуальныя адрозненні, якія, зрэшты, могуць паходзіць ад недакладнага прачытання Л. Баршчэўскім значна знішчанага часам рукапісу).

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна (НГАБГ), ф. 1, воп. 2, спр. 1334, а. 40–41: *Дело о неповиновении крестьян м. Крашина своему помещику Юраге*, 30 декабря 1826 – 29 марта 1829 г.

Переводъ съ польскихъ Стиховъ простымъ нарѣчіемъ писанныхъ[1].

## *Разговоръ Крестьянъ.*

Вотъ Вы мои братія
Хотя не одной матери;
Скажу я Вамъ одну вещъ;
а кто не повѣритъ[2], пошелъ[3] прочъ;
“Когда то французская сила,
Изъ за Немна наступила,
Стало и намъ картить,
Какъ бы то польщу зворотить;
А мы сидѣли тихо

[1] Першапачаткова дакумент называўся так: *Переводъ съ польскихъ Стиховъ на нарѣчіи литовскихъ простолюдиновъ писанныхъ*.
[2] У копіі Л. Баршчэўскага: *повторитъ*.
[3] Папраўлена перакладчыкам на: *поди*.

Покуда принесло лихо,
Они у нашъ Дворъ
Нутка и мы дѣлить здоръ[1];
А такъ мяса наварили
Чтобъ мы ихъ уговорили:
Амбары въ Дворахъ поразбивать
Господъ въ лѣсъ по разгонять.
Первой Крестьянинъ сѣлъ за столъ
и смотритъ въ уголъ[2] какъ Соколъ;
А какъ ноги разопретъ –
то хоть шестирніою поезжай,
А какъ началъ говорить
И вещъ распространить,
Они роты порастворяли
и уши по наставляли.
Ребята! худо намъ жить,
Бросимъ пригонъ служить,
Сдѣлаемъ вольность и уречь
Насъ урядникъ не бздетъ сѣчь!
Развѣ мы люди не такіе,
Что намъ угрозы всякі́я,
идешъ во Дворъ и боишся
Покуда къ Господину приступи́шся;
Да еще на томъ не конецъ,
Положи на столъ десять яецъ,
И такъ еще страхъ беретъ,
Что мой Господчикъ запоетъ;
Э! уже съ этого не лады
Худые наши разгады,
Помните Вы ребята
Тѣ вѣки какъ живали Поляки;
Что то за Господа бывали,
Насъ у рекруты не брали!
А ума у тихъ ли мала?
Хоть чуприна сверху мала,
Хоть воло́съ на лбу нѣтъ
да ужъ усы на ввесь Свѣтъ!
А какъ хорошо ходили
Платье какъ жаръ носили,
Два рукава красные
а два съ зади запасные;
а заднія полы у тыхъ Пановъ

[1] *Сало, солонина* (заўвага перакладчыка).
[2] У копіі Л. Баршчэўскага: *въколъ*.

теперешніе шьютъ по сѣмеро штановъ,
а эти и сами сголѣли
и насъ съ душами поели!
Вотъ ~~Брат....~~[1], Вы дѣти,
Какіе теперь Господа на Свѣти,
Надобно намъ за колы братся,
Старой Польщи добираться".
Какъ этакъ Крестьянинъ сказалъ,
Всѣмъ охоты додалъ,
Первой Данила
У коего большая сила,
сказалъ: хоть мне побьютъ штаны
Да уже не будутъ Паны!
А такъ пили и гуляли
Вмѣстѣ Господъ разбивали
Олово и серебро, бралъ какъ кто могъ
Чтобъ облить дуду и рогъ,
Платья брали на вѣровки,
Чтобъ пошить женамъ шнуровки;
А такъ скоро завернули
Дворы въ пустки обернули. –

[1] Замест выкрасленага слова, якое цалкам не атрымалася прачытаць, зверху напісана: *видите*.

# Пра паэму з парыжскага зборніка Аляксандра Рыпінскага

З лёгкае рукі Р. Зямкевіча вершаваныя радкі, якія змясціў А. Рыпінскі ў кнізе *Беларусь*, лічацца фрагментам твора Я. Баршчэўскага. Пэўныя падставы Р. Зямкевіч, вядома ж, меў. Па-першае, апублікаваныя Р. Падбярэскім і А. Рыпінскім тэксты – тэматычна блізкія; па-другое, яны ўзніклі ў адзін час – пасля французскае вайны 1812 года; па-трэцяе, – і самае галоўнае, – не ведаючы працягу паэмы, фрагмент якое надрукаваў Р. Падбярэскі, лагічна дапусціць, што мужыцкія рабункі маглі закончыцца так, як падае гэта А. Рыпінскі.

Трэба сказаць, што пра беларускія літаратурныя творы ў сваім фальклоразнаўчым даследаванні А. Рыпінскі амаль не згадвае. Магчыма, з тае прычыны, што іх ён проста не ведаў. Паэма ж, якую эмігрант называе *Бунт сялянаў супраць Аканома* (*Bunt chłopów przeciw Ekonomowi*), – гэта адно з нешматлікіх выключэнняў. Магчыма, каб звярнуць увагу землякоў на гэты “важны для нашае літаратуры помнік”, А. Рыпінскі вылучае свае няпоўныя, што захавала памяць, звесткі пра твор у асобны раздзел. У якасці эпіграфа ён выкарыстоўвае двухрадкоўе, якое – лагічна дапусціць – магло быць у паэме Я. Баршчэўскага ў той частцы, дзе сяляне наракаюць на “новых” паноў. Зрэшты, на тым факце, што беларускія сяляне бунтуюцца супраць “новых” паноў, А. Рыпінскі не акцэнтуе ўвагу. А гэта можа сведчыць, што ён быў ці то павярхоўна знаёмы з творам Я. Баршчэўскага, ці то вядзе гаворку пра зусім іншы твор, у якім апяваецца звычайная пасля вайны 1812 года[1] мужыцкая гулянка, а не рабаванне сялянамі “маскоўскіх” паноў з далёкасяжнаю мэтаю адраджэння Польшчы. А. Рыпінскі “ведае” адно толькі “два ўрыўкі з вялікае паэмы, якую перадаюць у нас з вуснаў у вусны па ўсёй Беларусі”. Больш за тое, ён прызнаецца: “Я не ведаў яе ўсю на памяць ніколі, бо была вялікая”. Ці азначае гэта, што ў свае маладыя (дзіцячыя?) гады эмігрант быў знаёмы з усёй паэмай? Калі так, то ці дастаткова правільна зразумеў ідэйны змест твора?

Пра сюжэт паэмы А. Рыпінскі апавядае наступнае: “Разбэшчанае ў 1812 годзе маскоўскае сялянства цар Аляксандр сваімі пастановамі заахвочваў страляць, як вераб’ёў, замерзлых у полі французаў; гэтым крыху заразіліся ў асобных мясцовасцях і нашы пачцівыя мужыкі. І адны, і другія так было падахвоціліся да злачынстваў, што лёгка маглі забіць дзе-небудзь пры сустрэчы пана альбо цішком прыдушыць ягонага аканома”. Зрэшты, гэта нават не сюжэт,

[1] Зрэшты, у тэксце твора аніякіх згадак на тое, што дзеянне адбываецца пасля вайны 1812 года, – няма.

а толькі своеасаблівыя “ўводзіны” ў тэму. У паэме, па словах А. Рыпінскага, апісваецца падобная сялянская змова: “Калі яны так раяцца, сабраўшыся ў карчме, п’юць, чубяцца, б’юцца, – з’яўляецца аканом. Ша! Усе, як у школе, калі зойдзе настаўнік, хто як можа, уцякаюць”. Пазней, магчыма, сяляне ўсё ж адолелі свой страх і змаглі “цішком прыдушыць” аканома. Праўда, падобнае завяршэнне сялянскае гулянкі не падае аніводная з захаваных версій. Дык узнікае пытанне: ці быў увогуле такім фінал паэмы?

Верагодна, А. Рыпінскі захаваў у памяці толькі адзін матыў паэмы: бунт сялян супраць аканома (што магло быць у паэме Я. Баршчэўскага), бо дадзены фрагмент твора пашыраўся ў ягоных мясцінах (ваколіцах Віцебска).

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: A. Rypiński, *Białoruś. Kilka słów o poezji prostego ludu tej naszej polskiej prowincji; o jego muzyce, śpiewie, tańcach etc*. przez <...>, członka akademii przemysłu rolnictwa, rękodzieł i handlu francuskiego. Czytano na posiedzeniu Towarzystwa Literackiego Polskiego w Paryżu r. 1839, mca listopada 21 dnia, Paryż, w księgotłoczni J. Marylskiego, nakładem autora, 1840, s. 207, 208.

## *Bunt chłopów przeciw Ekonomowi*

Kali prapuścisz choć dzień:
Dadùć – jak u biereściѐń!...
<…>
– Wodka krepka! – miera spora! –
Budzim pić – zabudzim hora!...
Pojdzim ad chaty da chaty,
Czy chto hoły, czy bahaty;
A jak nam budzić wiesiałò:
Sabiarecca-ûsiò siałò!...
<…>
– Cyccy! bratcy! – uradnik nadchodzić!
A Dziamjàn Hryszku – za chachòł wodzić.
Jak razchadziû sia Prakòp:
Da Minku pa mordzie: chrop!
Widzić Minka – szto tut chuda!...
Obiarnùû sia: tudy, siuda;
Biednyj! na-ûcioki dzierѐć:
A kudy widzić – tudy bierѐć!!!...
etc.

## *Рабункі мужыкоў* у *Гецыкахъ* Пятра Кушына

Звернем увагу на два вершаваныя тэксты, якія літаратуразнаўцы лічылі фрагментамі паэмы Я. Баршчэўскага, што маюцца ў іранічным апавяданні П. Кушына[1] *Гецыки*. Аднак, што характэрна, аўтар выразна "падзяліў" іх на асобныя творы. Спачатку адзін з герояў апавядання дзяк Сямён спявае песню, у якой сустракаюцца радкі з ужо апублікаваных А. Рыпінскім фрагментаў паэмы *Бунт сялянаў супраць Аканома*, а таксама з тэкстаў, якія будуць пазней друкавацца М. Дзмітрыевым і І. Насовічам (гл. далей). П. Кушын, відавочна не ставіў мэту падаць песню цалкам, але, магчыма, ён і не ведаў яе ўсю. Зрэшты, шматкроп'е пасля асобных радкоў можа сведчыць пра тое, што аўтар апавядання свядома змяшчае толькі найбольш характэрныя фрагменты твора.

У іншым месцы апавядання дзеля характарыстыкі яшчэ аднаго героя твора – селяніна Янкі – падаюцца радкі з паэмы *Рабункі мужыкоў*. І нават называецца іх аўтар – сусед Янкі "краснобай Юда". Партрэт "новага" пана, які калісь намаляваў Я. Баршчэўскі, дастасоўваецца тут П. Кушыным да "заможнага" пасля збору новага ўраджаю Янкі, у якога пасля Іллі "есть хлѣбъ, выростаютъ уже бараны, услужливые корчмари привозят <…> сами водку, за которую получаютъ хлѣбъ и квитаются за прошедшие наборы". Відавочна, Янка ў такой паставе, як пан з паэмы *Рабункі мужыкоў*, сустракае тых, у каго піў у доўг увесь год гарэлку.

На апавяданне П. Кушына калісь звярнуў увагу Р. Падбярэскі, які ўбачыў у ім "несправядлівае знеслаўленне беларускіх жыхароў" і "палічыў за абавязак ветлівага госця, спагадліва прынятага, абвергнуць хлуслівую думку, якою бездапаможныя радкі цэлы край спрабавалі зняважыць перад чужымі"[2]. Немалаважным для Р. Падбярэскага, відаць, было і тое, што П. Кушын выкарыстаў у сваім творы два тэксты Я. Баршчэўскага: верш *Гарэліца* і чатырохрадкоўе з паэмы *Рабункі мужыкоў*. Беларускі рэдактар-выдавец пра гэта нічога не кажа, але не мог ён не пазнаць вершаваныя радкі, якія "цытуе" П. Кушын. Верагодна, што гэтае цытаванне зусім невыпадковае. На жаль, сёння наўрад ці магчыма высветліць акалічнасці тае палемікі. На адно толькі звернем увагу: П. Кушын апісвае тую мясцовасць, пра якую згадвалі (відавочна, і наведвалі) у сваіх тэкстах Я. Баршчэўскі і Р. Падбярэскі.

---

[1] Рэдактар-выдавец часопіса "Москвитянинъ" паведамляе пра П. Кушына наступнае: "Авторъ, природный Бѣлоруссъ, проѣздомъ изъ Витебска въ Вятку, доставилъ мнѣ нѣсколько стихотвореній, – я посовѣтовалъ ему занятся лучше описаніемъ своего края, нарѣчія, образа жизни жителей, и вотъ первая статья, имъ доставленная, которую я съ благодарностію помѣщаю". Нейкіх іншых звестак пра П. Кушына выявіць не ўдалося.

[2] Р. Падбярэскі, *Лісты пра Беларусь* [у:] М. Хаўстовіч, *Жыццё і творчасць Рамуальда Падбярэскага*, Мінск 2008, с. 81.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: П. Кушинъ, *Гецыки*, “Москвитянинъ” 1843, кн. VIII, с. 396–397, 398.

*   *   *

Дзя́цька сядзи́ць, пи́пку ку́риць,
Пье́ць гарѣлку, во́цы жму́риць,
А дзя́дзина ни вважа́йць,
Цалко́мъ ца́рацку глата́иць...
Пилимо́нъ зъ Бари́са шкѣлиць[1],
Пье́ць горѣ́лку, пиро́хъ мѣ́лиць.
Якъ расхадзи́вся Прако́пъ,
Да Ми́нку па мо́рдзи тро́пъ[2]!
Хвіодаръ за въ гло́мъ казлы́ дзяре́ць,
А Мики́та но́самъ аре́ць...
Ту́тъ здаро́вья пыта́юць,
Бо хахлы́ лита́юць...

<…>
Ге́та – сядзи́ць – я́къ па́нъ,
Наѣ́вся, я́къ бараба́нъ...
А но́ги я́къ распяре́ць,
Хуць каліо́самъ праѣздъ!

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 711: “ШКЕ́ЛИЦЬ, сов. Сошке́лиць (отъ скалить зубы), гл. ср. Смѣяться, шутить. *Досиць тобѣ шкелиць коло бабы. Ты сошкеливъ коло насъ*”.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 641: “ТРОПЪ, отгл. частица, означающая: <…> 2. Быстрый ударъ. Хвать. *Тропъ по щецѣ. Тропъ ногою*”.

# Публікацыя паэмы Рамуальдам Падбярэскім

Плануючы надрукаваць *Шляхціца Завальню*[1], Р. Падбярэскі імкнуўся зрабіць выданне як мага лепшым. Адным з абавязковых элементаў “добрага” выдання павінна была стаць прадмова, якая б знаёміла чытача (тут закрываліся вочы на тое, што значная частка прызначалася ўласна для беларусаў) з краем, апісаным у творы, узроўнем інтэлектуальнага і літаратурнага развіцця гэтага краю, а таксама з самім пісьменнікам. Атрымаўшы ад Я. Баршчэўскага яшчэ да мая 1843 г. дазвол-згоду на друк *Шляхціца Завальні*, Р. Падбярэскі, магчыма нават спецыяльна, едзе на чатыры месяцы ў Беларусь і на Інфлянты, каб сабраць на месцы матэрыялы пра край і яго літаратараў. А вось біяграфічныя звесткі пра Я. Баршчэўскага і яго творчасць, бясспрэчна, былі атрыманы ад самога пісьменніка, а г. зн., што для напісання артыкула *Беларусь і Ян Баршчэўскі* Р. Падбярэскі мог выкарыстаць аўтарскі рукапіс паэмы *Рабункі мужыкоў*. Звярнуўся па рукапіс ён, верагодна, пасля таго, як у Беларусі натрапіў на след паэмы: знаёмыя і незнаёмыя “беларускія грамадзяне”-землеўласнікі маглі пазнаёміць пецярбургскага выдаўца з творам і назваць імя аўтара. А гэта дало яму магчымасць пазней напісаць: “[Ян Баршчэўскі] напісаў у роднай вёсцы Марогах той слаўны па ўсёй Беларусі верш *Рабункі мужыкоў*, які залічылі да нацыянальных паэмаў і пра які, апрача тае шляхты, ніхто дагэтуль не ведаў, што гэта твор Баршчэўскага. Гэтая паэма, калі хочаце, − помнік беларускае гаворкі − ставіць яго нароўні з Манькоўскім на чале сапраўды нацыянальных беларускіх пісьменнікаў. Аб’ём артыкула не дазваляе нам прывесці цалкам гэты верш, гэтаксама папулярны ў Віцебскай губерні, як рыфмаваныя сентэнцыі Рысінскага”[2]. Апошнія словы Р. Падбярэскага нібыта сведчаць пра тое, што ён мае ўвесь твор. Аднак у нарыс *Беларусь і Ян Баршчэўскі* ўключаецца толькі 67 радкоў і зусім не таму, што “аб’ём артыкула не дазваляе”. Бясспрэчна, асноўную ролю адыграў тут ідэйны змест твора, а таксама тое, што не было яшчэ практыкі друкаваць беларускамоўныя тэксты вялікага памеру. Рыхтуючы *Рабункі мужыкоў* да друку, Р. Падбярэскі мусіў пэўным чынам адрэдагаваць тэкст. Перадусім, радок, які сустракаецца ва ўсіх захваных версіях твора, – “Jakby to Polszczu zwracić” (П. Багрым), “Якъ бы Польшу вороциць!” (А. Семянтоўскі), “Jakby Polszczu zwaracić”

---

[1] У лісце да Ю.І. Крашэўскага ад 3.05.1843 г. ён пісаў: “Выданне ды ілюстраванне таго твора Яна Баршчэўскага, вынятку з якога кс. Галавінскі даслаў пану, я бяру на сябе (супольна з Жукоўскім). І калі хоць адзін том будзе напісаны раней, дык можна будзе надрукаваць да кантрактаў кіеўскіх”. Гл.: BJ, rkps 6457$^{IV}$, k. 264.

[2] J. Barszczewski, *Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach*, [t. I], Petersburg 1844, s. XXVII.

(Б. Эпімах-Шыпіла), "Jakby Polšč waznawić" (Я. Малецкі) – ператвараецца ў "Cztob paradak priwracić". Зрабіць гэта маглі як сам Я. Баршчэўскі, так і аўтар прадмовы Р. Падбярэскі ці выдавец Ян Эйнерлінг. У выніку твор пазбаўляўся важнага патрыятычнага складніка, ды і апазіцыя "старыя паны – новыя паны" не мела такое выразнасці, як гэта прачытвалася ў арыгінале: "польскія (лепш: рэчыпаспалітаўскія) паны – расейскія паны". Аднак, нягледзячы на ўнесеныя змены, тэкст паэмы, надрукаваны Р. Падбярэскім, – самы блізкі да арыгіналу.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: J. Barszczewski, *Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach*, [t. I], Petersburg 1844, s. XXVIII–XXXII.

## *Rabunki Mużykou.*

Jak prancuskaja siła
Iz za Dzwiny nastupiła,
Nam stała karcić
Cztob paradak priwracić.
Adnakaż siadzieli cicha,
Asz tut prinosić licha
Prancuzou u nasz dwor,
I nutka dziełać zdor.
Kleci paraźbiwali
Panou naszych zahnali,
Nas kazali paźbirać
I harełku pić i brać.
Prancuzy nas pachwalali
Ob naszym kraju upouniali[1],
I na mihi nas prasili
Kab my s nimi dwor łupili.
I my douha tam hulali
Czto chacieli pili, brali.
Tot brał płacja na wiarouku,
Czym abszyć żonki sznurouku,
Cyny, miedzi skolko moh,
Czym ablić dudu i roh...
Inszyj bydło zanimajeć,
Druhij adzienie chapajeć,
Inszyj tolko jeść i pjeć,
Druhij szabloj kury bjeć.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 660: "УПЕ́ВНИВАЦЬ, сов. Упе́вниць, гл. д. 1. Удостовѣрять, увѣрять. *Не упевнивай другого въ томъ, чёго самъ певни не знаёшъ*. <..>". У *Хрэстаматыі* (1971) дадзенае слова заменена на "пыталі", змяняючы сэнс выказвання. Аднак, відавочна, у паэме ідзе гаворка пра тое, што французы запэўніваюць сялян, што край будзе вольны.

Kali użo tak hulajuć
Paczuli, s puszek strelajuć,
„Halon! halon!” zakryczali
I usie z dworu, wysypali.
U ***Klassicach*** o dzwie mili
Krwawuju wajnu czynili.
Jak Prancuzy wyszli sami
Mużyki byli panami.
I kali tak pahulali
Radu sabie układali.
Pierszyj Minka sieu za stoł,
U kuty hladzić jak sakoł,
Na kreśli hdzie siadzieu Pan,
Puza jak baraban.
A nohi jak razapnieć
Choć s kalosami prajeć.
– Pomniu ja tyje wieki
Jak żyli panou predki,
Nas u niekruty nia brali,
Ach! szto za Pany bywali!
Chać na łbie wałos i niet,
Da użoż usy na uwieś świet!
Dwa rukawa mieli krasnych
I jeszcze dwa z zadu zapasnych,
Z adnej poły u tych panou
Siemioro paszyu sztanou!
A hety i nas pajeli,
I sami użo zhaleli.
Pały sabie pabrezali
Chwasty s zadu padsiekali,
I ciapier użo usiakaj
Kusaj z zadu. i t. d......
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Prydziesz u dwor, baiszsia
Pakul k’ Panu zbliżyżsia
Dołha haławu skrabiesz....
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Jeszczeż heta nie kaniec
Pałażysz na stoł jajec,
I tut jeszcze strach biareć
Żdać szto Pan zapiajeć...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Puść mnie choć pabjuć sztany,
Da użoż nia buduć Pany! i t. d. i t. d.

# *Рабункі мужыкоў* як антыпольскі твор у артыкуле Аляксандра Семянтоўскага

Апісваючы гісторыю Віцебска часоў французскае вайны 1812 г., А. Семянтоўскі[1] выкарыстоўвае фрагмент паэмы Я. Баршчэўскага, які патрэбны быў яму дзеля таго, каб пацвердзіць думку, што віцебскія “палякі” здрадзілі расейскаму цару, але гэта не выратавала іх ад “грабежа и даже от личныхъ оскорбленій, неговоря уже объ огромныхъ поставкахъ запасовъ для войска. Въ довершеніе бѣдъ, мародеры начали возбуждать крестьянъ противъ помѣщиковъ, нерѣдко производя вмѣстѣ съ ними грабежъ последних”[2]. Такія звесткі А. Семянтоўскі сустрэў "въ одномъ изъ сообщенныхъ намъ стихотворныхъ разсказовъ витебскихъ бѣлоруссовъ о двѣнадцатомъ годѣ”[3]. Верагодна, ён меў нават некалькі твораў, прычым – менавіта твораў, а не іх фрагментаў. Рэдактар *Памятной книжки Витебской губерніи* мог атрымаць ад калегаў “адаптаваны” ўжо кімсьці раней тэкст паэмы Я. Баршчэўскага, але больш праўдападобна, што зроблена гэта было непасрэдна ў рэдакцыях тагачасных віцебскіх выданняў. Гэта быў якраз той выпадак, пра які пісаў невядомы выдавец літаграфаванай *Hutorki staraho Dzieda na Biełarusi*: “Maskalom hety hutorki nie pa|nutry: jany ich łowiuć ŭsiudu – i na miesta Ojczyzna nakawierkywajuć pańszczyzna. Ach jany biazmozhłyja takija! Da szto-ż jany dumajuć, szto my wot taki i nie|ściamlim – chto ŭsiu krutniu hetu robić, i szto my nie spaznaim – szto zdarowa, a szto atruta?! Wisz jany zamudryli, – niechaj pany z mużykami zadziarucca, a my, – i hetym, i hetym piatlu na szyju!”[4].

У часы паўстання 1863–1864 гг., відаць, “абавязковым” для “рускіх людзей” у краі было замяняць асобныя словы і выкідаць “непатрэбныя” радкі, каб антырасейскія патрыятычныя творы станавіліся антыпанскімі і антыпольскімі.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: А. Сементовскій, *Витебскъ: Историческій очерк*ъ [в:] *Памятная книжка Витебской губерніи на 1864 год*, Санктпетербургъ 1864, с. 104–105.

---

[1] Аляксандар Семянтоўскі (1821–1893) – публіцыст, гісторык, этнограф украінскага паходжання. З 1860 г. – губернскі ляснічы ў Віцебску; з 1863 г. – сакратар статычтычнага камітэта і рэдактар “Витебскихъ губернскихъ вѣдомостей” і *Памятной книжки Витебской губерніи*. Аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі Віцебшчыны.

[2] А. Сементовскій, *Витебскъ: Историческій очеркъ* [в:] *Памятная книжка Витебской губерніи на 1864 год*, Санктпетербургъ 1864, с. 104.

[3] *Ibidem*.

[4] Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, k. 85.

*    *    *

Кали французьская сила
Къ намъ за Дзвину наступила,
Якъ зачало панову корциць:
Якъ бы Польшу вороциць!
Ѣднакъ сядзѣли циха.
Ажъ устало большее лихо.
Наѣхало французау повинъ нашъ дворъ –
Нутко, братцы, будземъ дзѣлать зборъ.
У дворѣ клѣци поразбивали,
Панову нашихъ въ лѣсъ загнали,
А насъ вялѣли позбирацъ,
Штобъ горѣлку пиць и брацъ...
А чему жъ и бабъ не позвали?
Кали хуляць, такъ хуляць,
Будземъ и мы паноу рабовацъ;
Дробную шляхту пообдзираемъ.
Дай къ черту по прогоняемъ,
Досяць насъ бизуномъ сѣчъ,
Тяперь и мы будземъ ихъ пѣчь.
Тяперь наша пора жиць, гуляць,
А эконому у соху запрягаць!

# “Разгульная пѣсня” са зборніка Міхаіла Дзімітрыева

Фрагменты, бясспрэчна, таго самага твора, які А. Рыпінскі апублікававаў пад тытулам *Бунт сялянаў супраць Аканома*, а П. Кушын “уклаў” у вусны дзяка Сямёна, М. Дзмітрыеў уключыў у раздзел *Пѣсени разгульныя* фальклорнага зборніка *Собраніе пѣсенъ, сказокъ, обрядовъ и обычаевъ крестьянъ Сѣверо-Западнаго края*, які выдаў у 1869 г. у Вільні. Пазнака “Новогрудокъ” можа сведчыць, што тэкст быў запісаны самім М. Дзмітрыевым, калі ён працаваў у Навагрудку (з 1853 года), а таксама пра тое, што твор з Віцебшчыны (?) быў вядомы і на Гарадзеншчыне.

З 16 радкоў А. Рыпінскага ў М. Дзмітрыева “паўтарецца” 10, з 12 П. Кушына – 9, а з 58 І. Насовіча – 27. Прычым, з зусім нязначнымі лексічнымі заменамі. Цікавы і той факт, што 7 радкоў з тэксту М. Дзмітрыева не сустракаюцца ў іншых публікатараў.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: М. Дмитрієвъ, *Собраніе пѣсенъ, сказокъ, обрядовъ и обычаевъ крестьянъ Сѣверо-Западнаго края*, Вильна 1869, с. 106–107.

*   *   *

Кабъ намъ было пахмяльнѣй,
Кабъ намъ было пасмяльнѣй,
Пайдземъ мы у кабачокъ,
Выпьемъ гарѣлки кручокъ,
Крѣпка водка, мяра спора,
Будземъ пиць, забудземъ горо,
Якъ намъ будзе весело,
Зберецца къ намъ усе село,
Пайдземъ атъ хаты да хаты,
Ци хто худы, ци хто багаты,
Якъ намъ будзе добры годъ,
Заведземъ мы карагодъ,
Дзяцько сѣдзиць, пипку куриць,
Пье гарелку, вочи жмурицъ,
А дзядзина не уважая,
Цалкомъ чарку пралыкая,
Дземянъ зъ Барисамъ шкелиць, шкелиць,

Пье гарелку, пирогъ мелицъ,
Бѣдный умалокъ злавіу,
Лбомъ дзвери атчиніу,
А микита носамъ аре:
Ци васъ черци надали,
Што усѣ мѣрки прабрали,
Больши драки паднялися,
Якъ усѣ за лбы пабралися,
Тамъ здароуя пытаюць,
Кола палки летаюць,
Сциха укащикъ прискачіу,
У хахолъ пальцы утачіу,
Нихай-же іонъ невиниць,
Кали вуху зазвиниць,
Шынкаръ видзиць, што тутъ худо,
Абернуйся сюды, туды,
Бѣдный на уцекъ бере,
Куда видзиць, той дзере,
Насыпались наши розно,
Дзерецъ кажды куды можно,
Шинкаръ схавауся падъ поу,
А укащикъ за хахолъ,
Пракопъ сѣдзиць, Маньку лая,
А Манька пальцамъ кивая.

(Новогрудокъ)

# “ПѢсня веселаго содержанія” ў зборніку Івана Насовіча

Яшчэ адзін варыянт-рэдакцыю фрагментаў верша (ці паэмы) пра гулянку сялян у карчме (кабачку) занатаваў (не пазначыўшы, дзе і калі) І. Насовіч. З 58 радкоў “ягонага” тэксту толькі 28 радкоў сустракаюцца ў тэкстах, надрукаваных А. Рыпінскім, П. Кушыным, М. Дзмітрыевым.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: *Бѣлорусскія пѣсни, собранныя И.И. Носовичем*ъ [в:] *Записки императорскаго русскаго географическаго общества по отдѣленію этнографіи*, том пятый, С.-Петербургъ 1873, с. 106–107.

*       *       *

Гэй, кабъ намъ быць веселѣй!
Гэй, кабъ намъ быць посмѣлѣй!
Пойдземъ, братцы, въ кабачокъ,
Выпьемъ горѣлки крючокъ[1].
Водка крѣпка, мѣра спора,
Будземъ пиць, забудземъ горе;
Братцы, якъ у добрый годъ,
Заведземъ тутъ корогодъ.
Пойдзёмъ отъ хаты до хаты,
Ци голышъ хто, ци богатый;
Коли будзець весело,
Къ намъ зберѐцца ўсе село.
Карпъ, якъ по колядзѣ зъ мѣхомъ,
Грошей, альбо збожжа[I2], смѣхомъ
Соберець, такъ будзець ладъ;
Будземъ пиць горѣлку въ рядъ.
Пили бацьки и дзѣды

---

[1] У кабаках гарэлку спачатку налівалі ў казённую мерку – кручок, а пасля разлівалі ў чаркі, шклянкі і іншы посуд. Кручок – шырокая ўнізе і вузкая ўгары металічная, з гравіраванаю дзяржаўнаю пячаткаю ёмістасць – меў доўгую ручку з кручком на канцы, каб яго можна было павесіць. Існавалі чатыры віды такіх кручкоў: штоф (1,2 літра), паўштоф (0,6 літра), касушка (0,3 літра) і шкалік (0,06 літра).

[2] Рымскімі лічбамі пазначаны словы, пераклад якіх (ці каментар) непасрэдна ў тэксце альбо ў зносках зрабіў праўдападобна рэдактар тома Арэст Мілер.

И мы вступимъ въ ихъ слѣды:
Ены горя незнавали,
Горѣлку добре сцебали[II].
Челомъ, Гришка! челомъ, Дзёма!
Челомъ, Кузьма! зови Пахома!
Чего еще будзёмъ чекаць[III]?
Пора горѣлку пиць, скакаць.
    Помовчи лѣпшъ, не варися[IV],
Зъ нами йдзи скакаць, Марися!
Замовчи й ты, Силивонъ!
Не замовчишь, пойдзешь вонъ!
    Дзядзька сѣдзиць, пипку куриць,
Пьець горѣлку, вочми жмуриць;
А дзядзина[V] не ўважаець[VI],
Цѣлкомъ чарочки глотаець.
Савка скачець, пишёць, пышёць,
Уморився, ледва дышёць,
Борисъ, строгій телялёгъ (?)[1]
Упившися, подъ лавку легъ.
Силивонъ зъ Бориса шкелиць[VII],
Пьець горѣлку, лухту[VIII] мелиць;
За языкъ въ маликъ[IX][2] зловивъ,
Ажъ лбомъ дзвери отворивъ;
Хведосъ за угломъ козлы дзере[X],
А Микита носомъ орѐ[XI].
Ци имъ черци надавали?
Знаць, что мѣрку перебрали!
Нападаючи на Варьку,
Хведоръ зацѣваець сварку[XII];
Нехай же ёнъ не звиниць,
Коли въ вухѣ зазвиниць.
    Ўси съ собою въ драку сцялись,
Свое хохлы дзѣлиць взялись.
На лихо вось тутъ аконо̀мъ
Влецѣвъ, нагрянувъ зъ бизуном.
“Тобѣ, мужикъ, сваволиць досиць!
Свербиць, знаць, *тая*[XIII] – перцу просіць.”

[1] Пытальнік, відавочна А. Мілера, бо І. Насовіч слова ведаў. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 646: “ТЭЛЯЛЁГЪ, а, с. м. 1. Богословъ. *Нашъ бацюшка знаць великій тэлялёгъ; два разы въ годъ ѣздзиць на казанне и хрестъ отобравъ за то*. 2. Студентъ, обучаюшійся въ богословскомъ классѣ. *Сынъ нашего священника ужо тэлялёгъ*. 3. Человѣкъ изъ простыхъ, умѣющій читать въ церкви Псалтырь или Апостолъ. *Борисъ мудрый тэлялёгъ, упившись, подъ лавку лёгъ*. Изъ пѣсни”.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 278: “МАЛЍКЪ, а̀, с. ж. Затылокъ, шея. *Дали въ маликъ. По малику заробишъ. Нацерли троху маликъ*”.

Разсыпались уси наши розно,
Куды попало, куды можно.
Одинъ схovався бывъ подъ столъ,
Его ако́номъ за хохолъ.

***Заўвагі рэдактара тома Арэста Мілера (О. М.)*:** [I] *Збожже* – всякій хлѣбъ въ зернахъ и въ посѣвѣ. (Слов. г. Носовича, стр. 196); [II] *пили залпомъ*; [III] *ждать*; [IV] *не бранись*; [V] *тетка*; [VI] Въ смыслѣ – не обращаетъ вниманія; [VII] *смѣется*; [VIII] *вздоръ*; [IX] *затылокъ*; [X] т. е. его рветъ; [XI] Падаетъ пьяный; [XII] *брань*; [XIII] *Оная*, т. е. неудобоназываемая часть тѣла.

# *Радость и занятие крестьян...* у зборніку Паўла Шэйна

У Санкт-Пецярбургскім філіяле Архіва Расійскае акадэміі навук (СПФ АРАН, ф. 104, оп. 1, д. 327) захоўваецца твор літаратурнага паходжання, фрагменты якога літаратуразнаўцы ўключалі ў *Рабункі мужыкоў* Я. Баршчэўскага. Запісаны ён П. Шэйнам (ці адным з яго карэспандэнтаў) у Слуцкім павеце Мінскай губерні. Гэта найдаўжэйшы з пяці вядомых на сённяшні дзень тэкстаў падобнага зместу – усяго 76 радкоў. Л. Бэндэ ў 1930-я гг. перапісаў яго ў адмысловы нататнік "Архив П.В. Шейна" разам з шэрагам іншых вершаў неўстаноўленага аўтарства.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, арк. 39–40 аб.

## Радость и занятие крестьян во время Рождества Христова

Хвалиць Бога, што от даждали
Чаго усе людзи чакали;
Сегодня дзень з'явился,
Як господзь нарадзіўся,
Ангелы с неба паюць
Богу хвалу даюць
И мы на Божу хвалу
Будзем пиць до отвалу.
Гэй, каб быць нам посмелей
Зайдзем в корчму и хвацим
гарелки скорей.

Пили бацьки наши и дзеды
И мы уступим у их следы
[неразб.] гора не знали, бо горелку
добре сцебали.
Здоров Грицко, здоров Хома
Здоров Данило, здоров Кузьма!
Пора, братцы, уставаць
Пора пиць горелку и танцаваць.

Ой помоўчы, не сварыся

Устань Минько ды прыбярыся
Ой помоўчы Селивон
Уже не скажеш пойдзи вон

Саука скаче; глядзи: пише, пише
Замарыуся, ледзве дыше,
А Борис мудрый талейлор
Гдзе упау[1], там и лег.

Селивон с Бориса шкелиць
Выпивши горелки, уже пирог мелець
За тое ж у морду зловив,
Аж лбом двери одчинив.

Пилип, севши пипку курацъ[2]
А Пилипчиха очи жмурицъ,
А дядина не зважае,
Цалком чаречку лыгае
Хведор зо углом козлы дзере,
А Микитка носом аре,
Чи их черци надали, ~~сидяць~~ видаць[3]
мерку перебрали
Ой не знаю што тут будзе
Видаць з Минька дурень будзе
Нехай больше не щипле, бо за ~~то~~
то по уху достане.

Хведор сердзит Минку лае, а
Минка ему под нос кивае,
Як засердзився Прокоп, так
Минку по мордзе хоп.

Цихо, братцы, урадник пришов и
узяв Дем'яна за хахол,
Начав спачатку лупиць,
Усех сотнями дзелиць
Седи браце, кали цихо, нехай еще
спиць это лихо
Не успев уперед уцечи, то тепер
же помовчи.

Видзиць Минка, што худо
Обярнувся сюда и туда,
Бедны на розум бяре,

[1] Пазней (?) слова папраўлена на *упива*.
[2] Слова папраўлена на *курицъ*.
[3] Слова напісана зверху закрэсленага.

А урядник под лозу ведзе
Посыпалиць наши хлопцы
рожено,
Каждый бяре, куды можно.
Дзем’ян хвацився пад пол
А урадник узяв яго за хахол
Табе мужык шалець досыць,
Свербиць шкура, перцу просиць,
Бизун живцу дастае,
А шкура дразда пае.

С хмелю началася бура
Хмель винен цярпи шкура.
Проподай ты кабачок
И ты горелки кручок
Не будзем грешить мы на Бога
Ни на человека злога
Усе пошло братцы з нас
Поев дзедов и нас эти горки квас

1880 й год
8 июня
с. Бучатин[1]

[1] Сёння Буча́ціна – вёска ў Капыльскім раёне Мінскай вобласці.

# *Bunty poddanych...* у зборах Браніслава Эпімаха-Шыпілы

Вершаваны тэкст *Bunty poddanych przeciwko swoim panom* запісаў калісь Б. Эпімах-Шыпіла; рукапіс не датаваны і не мае аніякіх пазнакаў. На нашу думку, ён узнік яшчэ да таго часу, калі Б. Эпімах-Шыпіла пачаў занатоўваць сабраныя ім беларускія тэксты ў адмысловую кнігу, якой ён даў тытул *Biełarusskaja Chrestomatija*. Звяртаем увагу на тое, што *Bunty poddanych*... былі перапісаны на такой самай паперы і ў падобнай форме запісу[1], што і тры тэксты (*Ni|chaczu ja harelicy…*, *Wiecir wiejić…*, *Wisna*), апошні з якіх датаваны чэрвенем 1887 г.[2].

Больш за тое, прыкладна ў гэты час Б. Эпімах-Шыпіла перапісаў падобным чынам шэраг твораў XIX стагоддзя: *Hutorka и Karczmie zpisannaja Kondrasiom z pad Dokszyc*; *Кузьма*; *Pryhawar*; *Пѣсня Горабья*; *Рѣчь старовойта къ крестьянамъ о свободѣ*; *Дзякуй Богу и Государю*...; *Кабъ ты вѣдау братъ кумище*..., *Проповѣдь старика къ молодежи*..., *А на тыхъ горахъ*... Усе яны маюць падобны "архіўны" адрас (оп. № 12) і, відавочна, нумары "адзінак захавання" (адпаведна №№ 15, 22–25, 31, 35). За выключэннем перапісанага з газеты "Виленскій Вѣстникъ" (1889, № 70) *Панскага ігрышча*[3], іншыя тэксты не трапілі ў *Biełarusskuju Chrestomatiju*. Цікавым з'яўляецца і тое, што "адзінак захавання" было не менш за трыццаць пяць, прычым з таго, што мы ведаем, часам адна "адзінка захавання" ўтрымлівала некалькі вершаваных тэкстаў.

Важную ролю ў тэксталогіі паэмы Я. Баршчэўскага *Рабункі мужыкоў* можа мець вытлумачэнне паходжання тытулу рукапісу Б. Эпімаха-Шыпілы. Магчыма,

---

[1] Тры аркушы паперы, складзеныя папалам так, што ўтвараўся сшытак з 12 старонак. Тэкст занатаваны на першых шасці старонках (пазнейшая пагінацыя алоўкам, магчыма, самога Б. Эпімаха-Шыпілы, 1–3 аб.). Апрача таго, на першай старонцы алоўкам пазначаны даўні "архіўны" (верагодна, хатніх збораў навукоўца) адрас: "оп. № 12[,] № 7". Сёння, як і большасць матэрыялаў Б. Эпімаха-Шыпілы, захоўваецца ў фондзе Л. Бэндэ. Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1328, арк. 1–3 аб.: "Я. Баршчэўскі. *Бунты падданых супраць сваіх паноў*. Верш. Рукапіс Б.І. Эпімаха-Шыпілы".

[2] Два аркушы паперы, складзеныя папалам так, што ўтвараўся сшытак з 8 старонак. Тэксты занатаваныя на першых трох старонках (пазнейшая пагінацыя алоўкам: 1–2). Як і ў вышэйзгаданым дакуменце, на першай старонцы алоўкам пазначаны даўні "архіўны" адрас: "оп. № 12[,] № 3[.] 258". Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1361, арк. 1–2: "Неўстаноўлен[ыя] аўтар[ы]. *Не хачу я гарэліцы*, *Вецер вее*, *Вясна*. Вершы. Рукапіс Б.І. Эпімаха-Шыпілы".

[3] У *Biełarusskuju Chrestomatiju*, аднак, Б. Эпімах-Шыпіла ўключыў тэкст, запісаны ім самім 25 чэрвеня 1889 г. ад Міхаліны Стасевай Аскерка.

сам навуковец назваў па-польску занатаваны ім вершаваны твор – *Bunty poddanych przeciwko swoim panom*. Аднак верагоднасць таго, што тытул паходзіць ад асобы, якая ці то вусна яго пераказала, ці то перадала рукапіс, які мела, таксама нельга выключаць. У апошнім выпадку, дзякуючы тытулу, твор Я. Баршчэўскага "збліжаецца" з тэкстам, які А. Рыпінскі апублікаваў як *Bunt chłopów przeciw Ekonomowi*, а тым самым і з тэкстамі (фрагментамі тэкстаў), якія апублікавалі П. Кушын, М. Дзмітрыеў, А. Семянтоўскі, І. Насовіч.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1328, арк. 1–3 аб.: "Я. Баршчэўскі. *Бунты падданых супраць сваіх паноў*. Верш. Рукапіс Б.І. Эпімаха-Шыпілы".

## *Bunty poddanych przeciwko swoim panom.*

Jak Prancuzkaja siła
Z za Niemna nastupiła
Zaczała usimi siłami karcić
Jakby Polszczu zwaracić
Adnaka siadzieli cicha
Aż nastupiła licha
Najszło Prancuzau u nasz dwor
Nutka budzim dziolić zbior.
U dware zamki parazbiwali
Pana naszaha u les sahnali
A nas wialeli pozbirać
Harełku pić i hulać
I tak my tam hawaryli
Szto panoŭ czerci schapili
U pakojach pasiadali
Radu sabie układali
A na kreśle, hdzie siadzieŭ Pan
Tam sieŭ Mińka i Ściepan
A puza u ich jak baraban
Nohi jak razapreć
To choć z kalosmy prajeć
I rek nam heto słowa
Szto poustanie prawa nowa
My raty paraziwali
I wuszy panastaulali
Nutka bratci budzim żyć
Nia budzim pryhon służyć
Zrobim sobie wolnuju rzecz
Nia budzie nas uradnik siecz
Ci my ludzi niatakija
Szto nam hrachi usiakija

Prydziesz u dwor i baiszsia,
Pakul da pana prybliżyszsia
Da jaszcze ŭ haławie poskrobiesz
Djabeł heta życcio zjesz,
Da i tak nia kaniec
Pałożysz na stoł dzesiatak jajec
A tak usio strach biareć
Szto tam Pan zapiajeć
Wot widzicie dzieci
Jakija ciapier pany na świecie
Nada nam za kolla bracca
A staroj Polszczy staracca
A najpierszy Daniła
U katoraha wialikaja siła
Heta jon jak skazaŭ
Zaraz nam achwotu paddau
Choć mnie razabjuć[1] sztany
Da użoż nia buduć hetyja Pany.
Łatwiej było za Palakom żyć
I lahczej było prychon służyć
Razam pili i hulali
Razam z jimi dwary budawali,
Sierabro i cynu braŭ jak chto moh
Kab było ablić dudu i roh
Sukni brali i Golonki[2]
Sztob paszyć szapki i sznuroŭki
Sukni nasili, dwa rukawy krasnych
Dwa z zadu zapasnych
S adnej pały u tych panoŭ
Paszyŭby siemiero sztanoŭ
A hetyja nas pajeli
I sami pahaleli
Poły sabie paŭrazali
Z zadu chwasty paŭszywali
A czub jak natreć
Dyk aż brydka i hladzieć
I zrabili sabie modu
Aby za szto bić u mordu
Pilip, Jurka ci paszli[3]

---

[1] Тут і далей у асобных месцах літара ***r*** напісана як рукапіснае ꝛ лацінскае.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 116: “ГОЛЁНКИ, окъ, с. ж. употр. во множ. Голенище. *Голёнки годзя́цца пришиць пришвы*”.

[3] Наступныя тры радкі маюцца таксама ў тэксце, надрукаваным А. Семянтоўскім.

A czamuż i bab nie pazwali
Kali hulać dak hulać
Budzim i my dwary rabawać
Prynamniej ciapier nia pastukaić pad akno
Ciapier ci mużyk, ci pan usio raŭno
Ciapier brat recz nasza i my budzim dwary rabawać
Akanomau swaich zaprahać[1],
Namiesnikaŭ jak sabak
Budzić i ŭsim szlachtam tak
Szto brat haworysz, ci praŭda
A ŭżoż prauda
Uradnik nasz jak niabyło kudy uciecz
Dyk z wojtawaj suczkaj padpiecz
A ciwun schawaŭsia u kanapli
Jaho i adtul wywałakli
Nadchodzić Hryszka skrypalec
Toj im mnoha papsujeć
Szto wy robicia Dzieci
Barani Boh Prancuzau pra~~c~~honić[2]
Tady ŭradnik iznoŭ sraku zholić
Pahladzić adkul nohi rastuć
Jak zaczknieć u sraku bizunom duć
Niabudzisz tak hawaryć jak ciapier haworysz
Pryniasu kapu jajec
A nie dabywaj na sraku dubiec
Tak tamu kaniec.

---

[1] Наступны радок маецца таксама ў тэксце, надрукаваным А. Семянтоўскім.
[2] Літара ***c*** у гэтым слове перакрэсленая.

# *Рабункі мужыкоў* у артыкуле Язэпа Малецкага

У Інстытуце літоўскае літаратуры і фальклору (Lietuvių literatūros ir tautosakos institutas) у архіве этна-музыколага Антона Грыневіча захаваліся занатаваныя ў 1930-я гг. фрагменты паэмы Я. Баршчэўскага *Рабункі мужыкоў*[1]. Вядома, што А. Грыневіч у 1925 г. пераехаў з Вільні ў Мінск, дзе ўзначаліў песенную камісію Інбелкульта, перадаўшы часткова свае зборы ў Беларускі музей імя Івана Луцкевіча[2]. Супрацоўнікі музея пазней далучалі, відавочна, да фонда А. Грыневіча іншыя матэрыялы фальклорнага характару. Такім парадкам утварылася г. зв. Vilniaus baltarusiu muziejaus tautosakos rikiniai (фальклорная калекцыя Беларускага музея ў Вільні), сярод якое – запісы Язэпа Малецкага[3], зробленыя ім 16–17 жніўня 1933 г. у родных мясцінах ад 85-гадовага[4] жыхара засценка Драгуны[5] Віктара, сына Яна, Шука. Маем на ўвазе даволі вялікі вершаваны тэкст, асновай якога быў твор Я. Баршчэўскага, а таксама фрагмент *Гутаркі старога дзеда* (сорак радкоў). Старонка з запісам паэмы Я. Баршчэўскага пачынаецца характарыстыкаю інфарматара: “Wiktar syn Jana Šuk z ~~wioski~~[6] Draguny, Leonpolskaj (Liŭpolskaj) wołasci, hadoŭ 85, prawasłaŭny, – baćka unijat”. Пасля на пяці старонках Я. Малецкі занатаваў тэкст твора, часта папраўляючы і нават каментуючы асобныя словы і выразы. А завяршаецца запіс паэмы нататкаю маладога даследчыка: “Z hetaha tworu widać, szto sialanie u toj czas užo waroža byli uspasoblenyje suproć maskaloŭ i polskich panoŭ, a nat satyra biełarusa nie paminuła i pašyracielaŭ nowych idejaŭ – «prancuzaŭ», jakija dapuskalisia rabaniny. Heta hramadzka~~ja~~palitycznaja dumka jość pad~~łożam~~[7], na jakim dalej słaŭny naš ~~bahatyr Ka~~ zmahar za wolu narodu Kastuś Kalinoŭski ~~prawadziŭ~~ budawaŭ niezależnaść našych ziamiel, i na hetych mienš-bolš sacyjalnych[8] dumkach usiahoniašnije časy uzrastaje,

---

1 Тэкст выявіў В. Мартысюк. У 2017 г. факсіміле рукапісу апублікаваў Тамаш Настульчык. Гл.: T. Nastulczyk, *Gawęda starego dziada – Hutorka staroho dzieda*, Kraków 2017, nr 19, s. n.

2 В. Лабачэўская, *Па Навуцы... Антона Грыневіча*, “Культура” 2009, № 25; інтэрнэт-версія: [online] http://kimpress.by/index.phtml?page=2&id=2616 [доступ: 26.04.2018].

3 Язэп Малецкі (1906–1982) нарадзіўся ў в. Якужы Дзісненскага пав. Віленскай губ. Пасля заканчэння гімназіі ў Друі вывучаў медыцыну ў Віленскім універсітэце і браў актыўны ўдзел у беларускім культурным і нацыянальным руху.

4 У іншым месцы – 86-гадовага.

5 У другой палове XIX ст. Драгуны ля былога шляху з Дзісны да Друі былі прыватнаю вёскаю ў воласці Лявонпаль Дзісненскага павета (у 1866 г. – 4 дамы, 40 жыхароў). Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. II, Warszawa 1881, s. 139.

6 Слова закрэсленае, а зверху дапісана: *zaścienka*.

7 Частка слова *~~łożam~~* закрэсленая, а зверху дапісана: *kładam*.

8 Словы *mienš-bolš sacyjalnych* дапісаныя пазней зверху радка.

mahutnieje i prynimaje kankretnyje formy biełaruski niezaležnicki ruch. J. Malecki. Jakužy, dn. 17/VIII – 33 h.”.

Відаць, у гэты самы час Я. Малецкі пачаў працаваць над артыкулам *Sialanskaja hramadzkaja dumka na pačatku XIX stahodździa*, пачатак якога захаваўся: “Wiktar s. Jana Šuk hadoŭ 86, prawasłaŭny – baćka byŭ unijat, pražywajučy u zasć. Drahuny, Leonpolskaj Hm. Brasłausk. paw., caławiek na swoj čas adukawany – byŭ doŭhi čas wałasnym staršynioj, pieradaŭ mnie ~~prytočany~~[1] ~~narodny~~[2] wierš, jaki nawučyŭsia u 1861 hodzie z «pisanaj knižački»[3] u Leonpoli, dzie pamienieny W. Š. u toj čas wučyŭsia. ~~Narodny~~[4] hety twor charakteryzuje nastroi sialan u časie prychodu francuzaŭ u 1812 h. Kinuty Rewalucyjaj francuzkaj klič wolnasci, i roŭnasci i swabody, pranik až pad[5] sialanskie strechi i wyraziŭsia u hetym twory, jak praktyčny pakazaciel, u jaki sposab z hetaha kliča majuć karystać sialanska-rabotnickije masy. Uspaminajucca tut taksama „tyje wieki, kali u nas žyli palaki”. Wiek caławiečy nie siahaje dalej jak kala sto hadoŭ, a u 1696 h. ~~był~~ skasawana biełar. mowa u Wialikim Kn. Litoŭskim, heta značyć u nas. Ad hetaha času wałodali nami niby palaki, bo jany nas pieramahli u kirawańni supolnaj Polska-Biełaruskaj dziaržawy. Za ich adnak žyłosia ništo.

Pryšoŭ adnak čas, pany prahulali Polšč, a z hetym razam i nas dawiali da zhuby: addali maskalu. Biełaruskije masy ustajuć suproć hetaha, bo i žywiecca drenna, ale pry hetym nie miešaje taksama za adnym zamacham i panoŭ, h. zn. palakaŭ, abo spałanizawanych biełarusaŭ, wyhnać (Dziomka)”.

Варта разглядаць гэты рукапіс як чарнавік Я. Малецкага, на падставе якога, аднак, чысты варыянт не ўзнік. Магчыма, ён сам ці нехта са старэйшых калегаў звярнуў увагу, што запісаны на Мёршчыне тэкст – гэта версія апублікаванае ў *Хрыстаматыі* Максіма Гарэцкага паэмы Я. Баршчэўскага, што не раз станавілася ўжо прадметам аналізу беларускіх літаратуразнаўцаў і гісторыкаў, а Аўген Хлябцэвіч у артыкуле *Ян Баршчэўскі – першы беларускі пісьменнік XIX веку і ягонае апісанне партызанскага руху беларускіх сялян*[6] фактычна ўжо ахарактарызаваў змест паэмы з пункту гледжання сялянскага руху на пачатку XIX стагоддзя, пра што збіраўся пісаць Я. Малецкі.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: LLTI, LTR 7579 III–9, l. 1, 1–6.

---

[1] Слова закрэсленае, а зверху дапісана: *padany*.

[2] Слова закрэсленае.

[3] Больш праўдападобна, што Віктар Шук мог вывучыць у 1861–1862 гг. у Лявонпальскай школе *Гутарку старога дзеда*.

[4] Слова закрэсленае. Пазней быў перакрэслены некалькі разоў і ўвесь наступны тэкст.

[5] Пазней пасля гэтага слова дапісана: *biełarusk*.

[6] А. Хлябцэвіч, *Ян Баршчэўскі – першы беларускі пісьменьнік XIX веку і ягонае апісаньне партызанскага руху беларускіх сялян*, “Узвышша” 1928, № 4, с. 141–146.

## ***Jak prancuskaja siła...***

Jak prancuskaja siła
Z za Dzwiny nastupiła
S usi mi siłami stała kančyć,
Jakby Polšč waz~~racić~~[1]
~~Adnak~~[2] siadzieli cicha,
Ažno pryniasło licha
Prancuzoŭ naš dwor:
– Nutka buziem dzielić zbor.
U dware zamki parazbiwali,
Pana našaha ŭ les zahnali,
A nam kazali usio zabirać
Harełku pić i ~~brać~~ hulać.
Wot to jany tut[3] ŭhawaryli,
A samich čerci schapili,
A my, što tam byli ~~usie~~
Ŭsie harełku pili.
U pakojach pasiadali,
Radu sabie układali
Pieršy Minka sieŭ za stoł
I ~~ha~~ ŭ stol hladzieŭ, jak sakoł,
Na tym ~~miescie~~[4], dzie siadzieŭ pan
Što mieŭ ~~puza~~[5], jak baraban.
A nohi jak razapreć –
Choć ty z kalosami jedź.
Praz jaho kaža narod,
Što jon pomnić lebiadziny hod[6]
Naš Minka, jak staŭ bałtać
Reč swaju razpraŭlać.
My raty paraziawali,
Wušy panastaŭlali:
„Nada bratcy lepi žyć,
Pakiniem pryhon służyć,
Zrobim wolnaju reč.
Nia budzie nas uradnik sieč.
Ci my ludzi nie takija,

---

[1] Замест закрэсленага зверху дапісана: *-nawić*.
[2] Замест закрэсленага зверху дапісана: *Usie.*
[3] З дапамогаю лічбаў 1 і 2, дапісаных зверху, зменены парадак слоў на: *tut jany*.
[4] Замест закрэсленага зверху дапісана: *krešle*.
[5] Замест закрэсленага зверху дапісана: *brucha*.
[6] Byŭ nadta stary. Lebiedź žyvie da 200 hadoŭ. J. M. (Заўвага Язэпа Малецкага).

Što na nas hrachi usiakija.
Pajedzieš ŭ dwor i baisia,
Pakul k kamu prybližysia
Dy jščo[1] i ŭ hałavie paskrabieš,
A prancy heta žyccio zješ,
A iščo tamu nie kaniec,
Pryniasieš na stoł kapu jajec
~~I jaš~~ I tak iščo strach biareć,
Što uradnik zapiajeć.
A na hetyje niełady ~~nadyšli~~
Nadyšli chudyje hady
A pomnicie tyja viaki
Kali žyli ~~u nas~~[2] palaki
Jany nas i ŭ rekruty nie brali,
A to, to i pany bywali.
Choć čupry[ny] na łbie mała,
– Na haławie chachła niet –
Ale um na ŭwieś świet.
A jak bahata žywali.
Sukni bytta žar nasili
Dwa rukawy krasnych,
A na dwa z zadu zapasnych.
I ŭ daŭniešych panoŭ
Šyli poły na siamiora štanoŭ.
A hety nas pajeli,
Sami pahaleli,
Poły paadrazali,
Zadu chwasty paŭšywali.
Wot widziecie dzieci
Jakije ciapier pany na sviecie.
Nada za kała bracca,
A volnasci staracca”.
Heta Minka jak skazaŭ,
Usim achvotu paddaŭ,
Prysiahnuli: „Budziem bicca,
Choć usim kroŭju ablicca!”
Pieršy Daniła,
U katoraha vialikaja siła:
„Choć pabjuć štany,
Ale nia buduć pany!”
I tak pili i hulali
Razam panoŭ rabavali.

---

[1] Напісана так, што цяжка вызначыць, якая першая літара ў гэтым слове *j* ці *i*.
[2] Словы *u nas* дапісаны зверху, а пасля закрэсленыя.

Brali čarki i łyški
Brali sukny ŭ wiaroŭki
Sabie na šapki, A babam na šnuroŭki.
Budziem cyn i miedź brać,
Dobra budzie dudy ablawać.
I brali skolki chto moh,
Kab ablić dudu-roh.
A posla dźwie niadzieli
Cicha pasiadzieli ~~(Jak ła~~
~~Jak naš Łapacinski ustaŭ~~.
~~Dyk za dźwie niadzieli i nohi zadraŭ~~[1]
Zmitrok z Apanasam
Hawaryli časam:
„Minuli tyja hady,
Jak žywali našy dziady.
Bahaciej naša było siało,
Jak mudrych panoŭ nia było.
~~Lucše~~[2] my tady žywali.”
„Nie, cyt, brat Apanas
Lepšy ciapierašni čas:
Na adnej mili siem karčom,
Jak pajsci – kudy chačom[3].
Zachočaš pawiasialicca,
Nia nadta doŭha wałaczycca.
Jak tolki stupień stupiŭ,
Kab byli hrošy ŭsiob harełku piŭ”.
Piatrok u złość ustupiŭ,
Čuć Apanasa nie zabiŭ.
A Dziomka: „Prahnać panoŭ, jak sabak,
~~A~~ Budzie usim i šlachtam tak!”
Nu dyk picie harełku
Kali hulać, dyk hulać,
Budziem i my dwary rabawać,
A drobnych šlachtaŭ paabdziarajem
I k čortu paprahaniajem.
~~Tut nie~~ Dosyć im nas bizunami sieč.

[1] Autar praz uzhlad asabisty heta prosić nie drukawać. Heta miajscowy Liŭpolski dadatak. (Заўвага Я. Малецкага). Ляанпаль у 1745 г. набыў ваявода брэсцкі Мікалай Лапацінскі (назваў у гонар свайго бацькі Ляона). У XIX ст. маёнтак належаў Лапацінскім і толькі ў 1842–1845 гг. з-за адмовы сялян прыняць “новую” веру тут была ўведзеная ўрадавая адміністрацыя. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. V, Warszawa 1884, s. 147.

[2] Замест закрэсленага зверху дапісана: *Lepi*.

[3] Радок дапісаны пазней двойчы: спачатку між адпаведнымі суседнімі радкамі, а пасля на палях.

Budziem i my ich tak pieč.
Naša para pić hulać,
Akanoma ŭ chamut zaprahać”.
A patom prychodzić Charyton
„Nu što – kaže – pjeca harełku,
Dajcie i mnie čarku.
Akanom nasz schawaŭsia u falwarku
~~Ŭ falwarku~~. Jak nie było kudy ŭcieč,
To z wojtawaj sučkaj pad pieč”.
Nadchodzić Hryška,
– Ci mo tolki Ciška –
„Barani Boza Prancuzaŭ prahoniuć,
Pahladzić uradnik, adkul nohi rastuć.
Budzieš pakłony zanasić,
Zabudziesia nat hawaryć.

# Вершаваныя творы Ігнацы Яцкоўскага

“Te wiersze są zrobione przez Jackowskiego, płatnika z Londynu” – напісаў нехта алоўкам на ці не адзіным ацалелым асобніку надрукаванай не пазней 1852 г. балады *Kruciata*, адмаўляючы аўтару права называцца паэтам. Падобнае стаўленне да літаратурнай спадчыны І. Яцкоўскага – як пры жыцці, так і пасля ягонае смерці – назіралася не раз. Зрэшты, ён і сам напачатку, пэўна, не быў высокае думкі пра свае паэтычныя здольнасці, пра што пасведчыў на пісьме: “Owóż ja, chociaż i nie poeta...”[1]. Словы гэтыя, праўда, адносіліся да гадоў юнацтва і былі напісаны ў 1842 г., г. зн. у час, калі толькі літаральна некалькі разоў эмігрант паспрабаваў свае сілы ў версіфікацыі. А вось праз нейкі дзясятак гадоў у даробку І. Яцкоўскага мелася ўжо блізу тысячы вершаваных радкоў, 864 з якіх былі надрукаваны (361 – ананімна), і ён працягваў складаць вершы ледзь не да канца свайго жыцця.

Польскамоўныя вершаваныя творы І. Яцкоўскага прасякнуты характэрным для гэтага творцы патрыятызмам, які грунтаваўся на любові да малое Айчыны − Літвы-Наваградчыны і быў адначасна выяўленнем “дзяржаўнага” пачуцця да Рэчы Паспалітае, якую ў той час звычайна атаясамлівалі з Польшчай. Яшчэ больш яскрава дадзеная тэндэнцыйнасць ягонай творчасці выступіла ў празаічнай кнізе *Аповесць з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды*, у якой створаны найцікавейшы малюнак грамадска-палітычнага жыцця на Беларусі пачатку XIX стагоддзя, а таксама пададзены адзін з самых адметных беларускамоўных мастацкіх тэкстаў сярэдзіны XIX стагоддзя − верш *Зáграй, зáграй, хлóпчэ мáлы*...

Залічваючы І. Яцкоўскага ў пачат польскамоўных літаратараў Беларусі XIX стагоддзя, мы тым самым прызнаём ягоныя заслугі перад беларускаю культураю. А гэта азначае, што некалі ў новых энцыклапедыях з’явяцца папраўленыя і больш грунтоўныя біяграмы; гісторыкі і літаратуразнаўцы дэталёва прааналізуюць творы паэта і пісьменніка, характарыстыка якіх будзе грунтавацца на мастацкіх вартасцях тэкстаў, а не на палітычнай ці нацыянальнай заангажаванасці аўтара.

На жаль, сёння не заўважаецца цікавасці беларускіх даследчыкаў да асобы і творчасці І. Яцкоўскага. Здавалася б, ужо сам факт, што ў кнізе пісьменніка надрукаваны адметны беларускамоўны верш, павінен быў скіраваць навукоўцаў да грунтоўнага вывучэння ягонае спадчыны. Аднак так

[1] *List I. Jackowskiego do L. Niedzwieckiego z 25.04.1842 r.* [w:] Rkps. Kór. 2405: *Korespondencja Leonarda Niedźwieckiego: Litera J (Jabłoński Leon − Jung A.), 1832−1874*, s. 214 v.

не сталася. У раздзелах манаграфій і падручнікаў, прысвечаных П. Багрыму, звычайна знаходзілася месца толькі на некалькі радкоў пра І. Яцкоўскага, запазычаных з артыкула Станіслава Сератвінскага ў *Польскім слоўніку біяграфічным*[1]. Не звярнуў увагу на І. Яцкоўскага і І. Запрудскі[2], аўтар фактычна першага сур'ёзнага даследавання праблемы атрыбуцыі верша *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...* Ён, напісаўшы ў 1996 г., што "ніякіх фактаў сувязі І. Яцкоўскага з беларускай літаратурай не ўстаноўлена", паўтарае гэтую думку і ў наступных публікацыях свае працы пра верш *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...* – зборніках артыкулаў 2003 і 2012 г.[3]. І гэта нягледзячы на тое, што цягам 2006–2010 гг. у друку з'явіўся шэраг матэрыялаў, у якіх ідзе гаворка якраз пра дачыненні эмігранта з Наваградчыны да мастацкай літаратуры. А таму незразумела: чаму І. Запрудскі анічога пра гэта не згадвае. Нібыта пасля сваіх публікацый сярэдзіны 1990-х гг. больш ніколі не звяртаўся да гэтае тэмы, не чытаў нічога на гэтую тэму. Ці, наадварот, свята верыць у сваю атрыбуцыю і нават не дапускае думкі, што можа быць інакш.

І зусім ужо прыкра, калі канцэпцыю І. Запрудскага бярэцца "абараняць" асоба, што ніколі не вывучала літаратурны працэс на Беларусі ў XIX стагоддзі. Гаворка пра спробу Жаны Некрашэвіч-Кароткай аспрэчыць нашую нязгоду з прапанаванаю І. Запрудскім гіпотэзаю, што аўтарам верша *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...* з'яўляецца Юльян Ляскоўскі. Вучонай (так звычайна Ж. Некрашэвіч-Кароткая называе сваіх апаненкаў) не спадабалася, што мы ў адным з артыкулаў сцвердзілі: "як сведчаць даступныя сёння крыніцы, эмігранты з Беларусі не мелі яшчэ самі ў той час пачуцця беларускае самасвядомасці, а таму не магла ў іх нарадзіцца ідэя стварэння новай беларускай літаратуры з дапамогай падобнай містыфікацыі"[4]. Ж. Некрашэвіч-Кароткая ўбачыла ў гэтым выказванні імкненне "прасачыць эвалюцыю" абуджэння беларускай нацыянальнай свядомасці (што, відаць,

---

[1] Гл.: S. Sierotwiński, *Jackowski Ignacy* [w:] *Polski słownik biograficzny*, t. X/2, z. 45, Wrocław −Warszawa − Kraków 1963, s. 275−276.

[2] Думаецца, І. Запрудскага "адштурхнула" ад І. Яцкоўскага тое, што Ёахім Лялевель назваў яго ў лісце да Валентыя Звяркоўскага ад 11.02.1853 г. "не дэмакратычным таварышам" (калі больш дакладна: "Znam tylko *Panoramę* Jackowskiego o przepadłej przeszłości, ależ on nie demokracki towarzysz" (J. Lelewel, *Listy emigracyjne*, t. IV: 1849–1861, Wrocław–Kraków 1954, s. 142). Але тут Ё. Лялевель кажа ў першую чаргу пра прыналежнасць І. Яцкоўскага да г. зв. арыстакратычнай партыі Адама Чартарыскага. Рабіць выснову, што "гэтая характарыстыка зусім не стасуецца з антыпрыгонніцкім пафасам верша", – няправільна. Ужо сам факт, што І. Яцкоўскі надрукаваў у сваёй кнізе "антыпрыгонніцкі" верш, сведчыць пра адваротнае. І ў *Аповесці з майго часу...*, і ў карэспандэнцыі І. Яцкоўскага ("Добра ў нас кажуць: Служы Пану верне, то он табе пердне") знаходзім не адно пацвярджэнне гэтаму.

[3] Гл.: І. Запрудскі, *Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 2003, с. 25; ён жа, *Па дарозе на Парнас: Атрыбуцыйныя даследаванні і пытанні рэцэпцыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 2012, с. 23.

[4] М. Хаўстовіч, *Заграй, заграй, хлопчэ малы...: праблема аўтарства* [у:] *Беларусіка=Albaruthenica 31: Новае слова ў беларусістыцы. Літаратуразнаўства і фальклярыстыка: Матэрыялы V Міжнароднага кангрэса беларусістаў*, Мінск 2012, с. 257.

недапушчальна!), а таму дазваляе сабе паіранізаваць: “Здаецца, шаноўны даследчык валодае чароўнай мензуркай або аптэкарскімі шалямі, якія дазваляюць яму вызначыць ступень беларускай самасвядомасці ў той ці іншы перыяд часу”[1].

Застаецца толькі здзіўляцца: дзе гэта Ж. Некрашэвіч-Кароткая заўважыла ў той нашай працы спробу “прасачыць эвалюцыю” абуджэння нацыянальнай свядомасці? Гаворка там ішла толькі пра тое, што І. Яцкоўскі і А. Рыпінскі[2], належачы да “партыі” Адама Чартарыскага, што асноўнай сваёй задачай бачыла адраджэнне Польшчы (не Рэчы Паспалітай абодвух народаў, а менавіта Польшчы), у сваіх шматлікіх публікацыях і прыватных лістах (апошніх захавалася некалькі сотняў) нідзе не згадваюць пра свае беларускія нацыянальныя сімпатыі. Дык ці патрэбна тут нейкая чароўная мензурка? Няўжо не верыць дакументам эпохі?

Але найбольш істотнае тое, што Ж. Некрашэвіч-Кароткая ці то няўважліва чытала, ці то не зразумела прачытанае: у сваіх працах мы не аспрэчвалі прапанаваную навукоўцам дату напісання верша *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...* Якраз наадварот: як і І. Запрудскі, мы даводзілі, што вядомы беларускі верш узнік у 1840-я ці на пачатку 1850-х гг., калі стваралася *Аповесць з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды*.

І зусім ужо дылетанцкімі падаюцца развагі Ж. Некрашэвіч-Кароткай пра “шаты народнай эстэтыкі”. Маўляў, у беларускамоўных творах першае паловы XIX стагоддзя не стае “народнай эстэтыкі”: “пераважае або гумарыстычная і сатырычна-парадыйная скіраванасць (*Энеіда навыварат* Вікенція Равінскага, *На прыезд Адама Міцкевіча* Яна Чачота, *Рабункі мужыкоў* Яна Баршчэўскага), або занадта яўны дыдактызм у спалучэнні з наўмысна спрошчанай паэтыкай (*Дзеванька*, *Гарэліца* Яна Баршчэўскага)”[3]. Дзіўнае сцвярджэнне: хіба, толькі той, хто не чытаў *Энеіды навыварат*, адважыцца сказаць, што гэтай паэме “не стае «народнай эстэтыкі»”.

Піша ж гэта Ж. Некрашэвіч-Кароткая дзеля таго, каб давесці, што зусім слушна В. Дунін-Марцінкевіч, не ведаючы верша *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...* (дзе, відавочна, народнае эстэтыкі дастаткова), з гонарам заявіў у прысвячэнні Аляксандру Лапе, змешчаным на пачатку зборніка *Ciekawyś? – Przeczytaj*! (у Ж. Некрашэвіч-Кароткай – у прадмове да вершаванае аповесці *Купала*): “Няхай што хочуць гавораць, але ж гэта я першы паэзію

---

[1] Ж. Некрашэвіч-Кароткая, *Шматмоўная літаратура Беларусі ў кантэксце актуальных літаратуразнаўчых канцэпцый: дапаможнік*, Мінск 2015, с. 142.

[2] Не згадваем тут Ю. Ляскоўскага, бо аніякіх фактаў пра ягоныя дачыненні з І. Яцкоўскім і А. Рыпінскім не захавалася. Больш за тое: прозвішча Ю. Ляскоўскага адсутнічае ў спісах выгнанцаў-“палякаў”, якім англійскі ўрад аказваў дапамогу, а г. зн. з І. Яцкоўскім, што выплачаў гэтую дапамогу эмігрантам, магчымасці спаткацца былі чыста гіпатэтычныя (у Лондане ў той час знаходзіліся тысячы выхадцаў з былой Рэчы Паспалітай); а вось А. Рыпінскі жыў па-за Лонданам, які (па яго ўласных словах) ніколі “не агледзеў” (*Poezije*, Londyn 1853, s. 5).

[3] Ж. Некрашэвіч-Кароткая, *Шматмоўная літаратура Беларусі ў кантэксце актуальных літаратуразнаўчых канцэпцый: дапаможнік*, Мінск 2015, с. 143.

нашага сялянскага люду апрануў у шаты народнай эстэтыкі, увёў на сцэну жыцця і пакінуў у шэрагу твораў айчыннага пісьменства, чым і ганаруся”[1]. Маўляў, В. Дунін-Марцінкевіч усведамляў сваю ролю як пачынальніка беларускае літаратуры і “ганарыўся не тым, што пісаў па-беларуску: «апрануць» паэзію «ў шаты народнай эстэтыкі» – намнога больш важная задача для яго як для творцы”[2]. А г. зн., усё савецкае літаратуразнаўства памылялася, калі лічыла пачынальнікамі новай беларускай літаратуры тых, хто пісаў у першай палове XIX стагоддзя па-беларуску.

Аднак анічога падобнага В. Дунін-Марцінкевіч не сцвярджаў і аніякую паэзію не апранаў у “шаты народнай эстэтыкі”. Колішняя памылка Язэпа Янушкевіча[3] ўвяла ў зман Ж. Некрашэвіч-Кароткую, якая стварыла недарэчную і дзіўную тэорыю-абгрунтаванне, што “рэзка адрозны ў сваёй мастацкай дасканаласці верш *Зайграй, зайграй, хлопча малы...* выяўляе усёй сваёй паэтычнай фактурай слушнасць меркавання І. Запрудскага, які пераканаўча даказаў, што гэты верш не мог быць напісаны раней, як у 50-х гг. XIX ст.”[4].

Вельмі добра ведаць актуальныя літаратуразнаўчыя канцэпцыі, але калі пішаш даследаванне па гісторыі літаратуры, то найперш трэба ведаць літаратурны працэс, тыя абставіны, у якіх ён адбываўся, і той “архіўны пыл”, што данёс на нашага часу сведчанні “абуджэння нацыянальнае свядомасці беларускага народа”.

Не раз імя І. Яцкоўскага як аўтара верша *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...* згадваў у сваіх публікацыях баранавіцкі краязнаўца Міхась Маліноўскі[5]. Але тая манера выкладання сваіх, звычайна без аргументаў, домыслаў і фантазій, хоць не пазбаўленых часам рацыянальнага (як ні дзіўна!) зярняці, не дазваляе ўключаць напісанае ім у навуковы дыскурс.

На жаль, асобныя беларускія літаратуразнаўцы, палемізуючы з выказваннямі (часта літаральна абразлівымі) М. Маліноўскага, не здолелі вылучыць з недакладнасцяў ды інсінуацый краязнаўца тыя ягоныя здагадкі і меркаванні, якія могуць прывесці да выяўлення ісціны. Так, Г. Кісялёў у навуковай экспертызе кнігі М. Маліноўскага *Павел Іосіфавіч Багрым*

---

[1] Гл.: *Ibidem*.

[2] *Ibidem*.

[3] У арыгінале чытаем: “Niechaj co chcą mówią – ja przecież piérwszy poezyę naszego wieśniaczego ludu przywdziałem w szatę ***rodowej estetyki*** (вылучэнне нашае. – *М. Х.*), w wiodłem na scenę życia i postawiłem w szeregach utworów ***piśmiennictwa rodowego*** (вылучэнне нашае. – *М. Х.*), z czego się chlubię” (W. Dunin-Marcinkiewicz, *Ciekawyś? – Przeczytaj! Trzy powiastki i wierszyk ulotny*, Mińsk 1856, s. n. n.) Шаты ***rodowej estetyki*** В. Дуніна-Марцінкевіча азначаюць нічога іншага, а толькі шаты айчыннай, г. зн. польскай (рэчыпаспалітаўскай) літаратуры!

[4] Ж. Некрашэвіч-Кароткая, *Шматмоўная літаратура Беларусі ў кантэксце актуальных літаратуразнаўчых канцэпцый: дапаможнік*, Мінск 2015, с. 143.

[5] Звычайна, з негатыўнай канатацыяй: “польскі масон”, “нацыянал-шавініст”, “русафоб”. Відавочна, з гэтай прычыны (верш *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...* належыць пяру І. Яцкоўскага) М. Маліноўскі стараўся выкасаваць верш са школьнае праграмы, каб пасля з гонарам заявіць: “Усё-ткі я дамогся выключэння жыцця і «творчасці» Багрыма са школьных праграм”.

*(Паўлюк Багрым): Легенды, праўда, загадкі* (Баранавічы 2006), зацверджанай Інстытутам літаратуры НАН Беларусі, напісаў: "Бяздоказныя і беззадказныя навацыі М.М. Маліноўскага не могуць быць прыняты і ўхваленыя. Ганаровае месца сялянскага самародка Багрыма ў айчыннай гісторыі застаецца непарушаным"[1]. Праўда, крыху пазней, пазнаёміўшыся з нашымі публікацыямі на тэму атрыбуцыі аўтарства верша *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...*, вядомы гісторык літаратуры ў інтэрв'ю Беларускай праграме Польскага радыё 19 мая 2007 г. крыху змяніў сваё меркаванне: "[Кісялёў:] Мінулае, калі абрастае дадатковымі дэталямі, можа рабіцца яшчэ больш прыгожым. [Карэспандэнт:] А што вы скажаце наконт вэрсіі Ігната Яцкоўскага, як аўтара верша, што прыпісваецца Паўлюку Багрыму? [Кісялёў:] Ёсьць такая вэрсія. Але гэта толькі меркаваньне, яшчэ далёкае да таго, каб мы яго прызналі. Калі Яцкоўскі, дык мы атрымліваем яшчэ аднаго беларускага пісьменьніка. У рэшце рэшт нас цікавіць толькі ісьціна"[2].

Сёння абараняць міф пра першага сялянскага паэта, на нашу думку, ужо недаравальна. Гэта азначае проста заплюшчыць вочы і на ўведзеныя ў навуковы ўжытак новыя матэрыялы, і на логіку развіцця падзей у Крашыне ў 1828 г. Тым не менш, нават такі абазнаны ў гісторыі айчыннай літаратуры XIX стагоддзя даследчык як Я. Янушкевіч працягвае адстойваць даўні сацыялістычна-савецкі міф. Пошукі ісціны ён называе спробамі "апошняга часу адабраць ад П. Багрыма аўтарства верша", дасланыя ксяндзом Каралем Жураўскім на адрас Акадэміі навук Беларусі ў 1988 г. фотакопіі чатырох дакументаў пра сям'ю П. Багрыма лічыць унікальнымі, але падае іх у перакладзе – да сённяшняга дня мы не маем іх навуковай публікацыі[3]. Самае прыкрае тое, што Я. Янушкевіч стаў на шлях абразлівага трактавання апанентаў (відавочна, запазычыўшы прыёмы баранавіцкага краязнаўца): "Некаторыя аматары ад краязнаўства і ад навукі акадэмічнай палічылі за лепшае засумнявацца ў аўтарстве верша, адмаўляючы яго на карысць першапублікатара Яцкоўскага (згодна выслоўю: сумнявайся, каб і іншыя палічылі, што ты нешта ведаеш)"[4].

А вось унікальнасць апублікаваных (хутчэй: пераказаных) дакументаў даследчыкам яўна перабольшваецца: аніводным з іх не можа быць пацверджана аўтарства *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...* Якраз наадварот: менавіта, веданне даты нараджэння і даты шлюбу П. Багрыма, а таксама даты смерці Юзафа Багрыма дазволіла "засумнявацца ў аўтарстве". Сам таго не жадаючы, Я. Янушкевіч спрычыніўся да таго, што спачатку М. Маліноўскі,

[1] Л. Кісялёва, *З архіва Генадзя Кісялёва* [у:] *"Пачуць як лёсу валяцца муры": Памяці Генадзя Кісялёва*, Мінск 2009, с. 48.

[2] Г. Гарачка, *Загадкі й таямніцы роднай літаратуры* [online], http://www2.polskieradio.pl/eo/dokument.aspx?iid=52659 [доступ: 06.01.2017].

[3] У "кнізе-буклеце" (sic!) *"А ў маскалях трудна жыці..."* Я. Янушкевіч падае фотакопіі К. Жураўскага, але змяншаючы іх так (8x10,5 ператвараюцца ў яго ў 3x4), каб немагчыма было прачытаць.

[4] Я. Янушкевіч, *"А ў маскалях трудна жыці...": Багрым–Крашын–Яцкоўскі–неўміручасць: Да 200-годзьдзя Паўлюка Багрыма і 570-годзьдзя Крашына*, Ракаў 2012, с. 4.

а пасля і “прафесійныя знаўцы” прапанавалі свае гіпотэзы атрыбуцыі верша XIX стагоддзя.

Паказальна, што беларускія літаратуразнаўцы не аспрэчылі ні гіпотэзу І. Запрудскага (“на месца сялянскага падлетка Паўлюка Багрыма <…> прапанаваць шарачковага шляхціца Юльяна Ляскоўскага”), ні нашую гіпотэзу (найбольш верагодным аўтарам верша *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...* з’яўляецца І. Яцкоўскі). Бо, апрача “кнігі-буклета” Я. Янушкевіча, нам вядомы толькі артыкул светлай памяці Генадзя Праневіча *ПАН ТАДЭВУШ Адама Міцкевіча і АПОВЕСЦЬ З МАЙГО ЧАСУ, АЛЬБО ЛІТОЎСКІЯ ПРЫГОДЫ Ігната Яцкоўскага*, у якім нам бачыцца спроба і рэанімаваць даўні міф пра П. Багрыма, і абараніць уласную публікацыю пра крашынскага паэта з палемічнымі выпадамі супраць выказванняў М. Маліноўскага, надрукаваную яшчэ ў 1994 г.[1].

На залежнасць твора І. Яцкоўскага ад славутае паэмы А. Міцкевіча звярталі ўвагу яшчэ сучаснікі-эмігранты (напрыклад, Адам Міхалоўскі[2]), а пазней – Уладзіслаў Каратынскі[3], Станіслаў Пігань[4], Леанард Падгорскі-Аколаў[5], Збігнеў Судольскі[6]. Праўда, даволі дзіўна, што Г. Праневіч не палічыў патрэбным згадаць папярэднікаў і прааналізаваныя імі матывы тэкстаў абодвух выхадцаў наваградскае зямлі. Ягоныя ж уласныя назіранні часта можна назваць адно гіпатэтычнымі: “І. Яцкоўскаму, які паслаў земляку сваю кнігу, вельмі хацелася не толькі аспрэчыць і ўдакладніць ці дапоўніць некаторыя факты і дэталі *Пана Тадэвуша*, але і данесці да А. Міцкевіча трагедыю таленавітага беларускага хлопчыка, трагедыю яго незрэалізаванага ва ўмовах жорсткага царскага прымусу таленту”[7]. Усё ж “трагедыя” Пётрака (сам І. Яцкоўскі выказаўся больш дакладна: “няшчасця”) падаецца ў кнізе літаральна некалькімі абзацамі, а, думаецца, каб пісьменнік хацеў “данесці” гісторыю паэта П. Багрыма, то ён прысвяціў бы яму значна больш месца.

Што датычыць аргументаў, якімі Г. Праневіч імкнецца выразіць нязгоду з нашай гіпотэзай, дык яны зноў жа чыста гіпатэтычныя: “Не мог паэт сярэдняй рукі, якім быў І. Яцкоўскі, праз 20 гадоў пасля падзеі (а з верша выразна відаць, што напісаны ён падлеткам, непасрэдным сведкам трагедыі, а не пажылым, сталым чалавекам, якім быў на тую пару І. Яцкоўскі) раптам напісаць геніяльны твор”[8]. Прычым, сваю выснову пра паэтычны талент эмігранта Г. Праневіч “засноўвае” на нібыта нашай ацэнцы ягонае

---

[1] Гл.: Г. Праневіч, *Храм Багрымавага верша* [у:] *Паўлюк Багрым*, Мінск 1994, с. 141–149.

[2] Гл.: A. Michałowski, *Trzyletni pobyt na Wschodzie*, Londyn 1857, s. 250−254.

[3] Гл.: Wł. Korotyński, *„Powieść z czasu mojego”: Studium literackie*, „Kraj”, t. XXV, Petersburg 1895, nr 17, s. 15..

[4] Гл.: S. Pigoń, *Pan Tadeusz. Wzrost, wielkość i sława*, Kraków 2002, s. 30, 44–45.

[5] Гл.: L. Podhorski-Okołów, *Realia Mickiewiczowskie*, Warszawa 1999, s. 381.

[6] Гл.: Z. Sudolski, *Pan Tadeusz w romans przemieniony, czyli Powieść czasu mojego* [w:] *Pan Tadeusz i jego dziedzictwo: recepcja*, red. B. Dopart, Kraków 2006, s. 33–53.

[7] Г. Праневіч, *ПАН ТАДЭВУШ Адама Міцкевіча і АПОВЕСЦЬ З МАЙГО ЧАСУ, АЛЬБО ЛІТОЎСКІЯ ПРЫГОДЫ Ігната Яцкоўскага*, “Тэрмапілы: Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс” 2016, № 20, с. 252.

[8] *Ibidem*, s. 266.

творчасці, прыпісваючы нам “негатыўна-крытычнае” стаўленне да яе. На жаль, асобнік “Тэрмапілаў” трапіў да нас ужо тады, калі Г. Праневіча не было ў жывых, а таму задаць пытанне: “дзе гэта і як у нашых публікацыях выявілася “негатыўна-крытычная” ацэнка польскамоўнае паэзіі І. Яцкоўскага?” было немагчыма.

Аргументаў, якімі мы агрунтоўвалі сваю гіпотэзу, Г. Праневічу было “яўна недастаткова”. Праўда, ён ведаў толькі адну нашую публікацыю (*Я, хоць і не паэта...*, “Arche” 2008, № 7–8, с. 880–923), аднак мы разумеем: як усе ранейшыя нашыя аргументы на карысць І. Яцкоўскага, так і новыя, пададзеныя ў дадзеным выданні, не могуць канчаткова паставіць усе кропкі над “**і**”.

А таму, як адным з неабходных крокаў набліжэння да ісціны, мы палічылі патрэбным пазнаёміць і гісторыкаў літаратуры, і абазнаных чытачоў з паэтычнай спадчынай І. Яцкоўскага – падаць вядомыя нам тэксты з кароткім аналізам і каментаром, шчыра верачы, што некалі гэта дапаможа вырашыць праблему атрыбуцыі славутага беларускага твора XIX стагоддзя.

# Першы (?) вершаваны тэкст эмігранта

Вялікую ролю ў станаўленні І. Яцкоўскага-публіцыста, а, магчыма, і літаратара, адыграў яго зямляк-гарадзенец Леанард Нядзвецкі (1811–1892).

Першая, зафіксаваная ў пісьмовых крыніцах сустрэча І. Яцкоўскага з Л. Нядзвецкім адбылася ў 1834 годзе. Пазней яны, відавочна, часта бачыліся ў Лондане, хоць у “Нататніку” Л. Нядзвецкага запісы тыпу “Быў у Яцкоўскага” ці “Абед у мяне: Яцкоўскі і Шчапаноўскі” даволі рэдкія[1].

Не перапыніліся дачыненні паміж землякамі і пасля таго, калі Л. Нядзвецкі прыняў прапанову Уладзіслава Замойскага і стаў ягоным сакратаром. Жывучы з лістапада 1839 г. у Парыжы, Л. Нядзвецкі рэгулярна ліставаўся з І. Яцкоўскім, паведамляючы пра жыццё эміграцыі ў Францыі. І адначасна патрабаваў інфармацыі пра падзеі ў Англіі. Лісты, якія І. Яцкоўскі пісаў у Парыж двойчы на тыдзень, Л. Нядзвецкі выкарыстоўваў у газеце “Trzeci Maj” у рубрыцы *З Англіі*, звычайна не называючы імя свайго карэспандэнта. Ананімна быў надрукаваны і першы паэтычны твор І. Яцкоўскага байка *Ułamki głów*.

Твор І. Яцкоўскі даслаў Л. Нядзвецкаму ў лісце ад 22 сакавіка 1841 г.[2], а 12 мая 1841 г. ён быў надрукаваны ў газеце “Trzeci Maj”[3].

У алегарычнай форме паэт апавядае пра спробы эміграцыі аб’яднацца.

Чарапкі ад патрушчаных ветрам галоў разляцеліся ва ўсе канцы свету, а разам з імі і мазгі ды клёпкі. Першымі адчулі бяду чарапкі (прадстаўнікі ніжэйшых класаў) і, хоць сустрэлі пагардлівае стаўленне з боку мазгоў (арыстакратаў), здолелі пераканаць усіх у неабходнасці аб’яднацца. Але далей справы пайшлі не вельмі добра: высокія розумы адно толькі раіліся, як скласці галаву, прымянялі правілы вышэйшай матэматыкі і г. д. І нават калі нехта выказаўся слушна, на яго не звярнулі ўвагі, а працягвалі спрэчкі з-за дробязі.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: *Ułamki głów: Bajka: List I. Jackowskiego do L. Niedzwieckiego z 22.03.1841 r.* [w:] *Rkps. Kór. 2405: Korespondencja Leonarda Niedźwieckiego: Litera J (Jabłoński Leon – Jung A.), 1832–1874, s. 72–72 v.*

---

1 Rkps Kórn., sygn. 2415/2: *Raptularzyk Leonarda Niedźwieckiego*, s. n. n.

2 *List I. Jackowskiego do L. Niedzwieckiego z 22.03.1841 r.* [w:] Rkps. Kór. 2405: *Korespondencja Leonarda Niedźwieckiego: Litera J (Jabłoński Leon – Jung A.), 1832–1874*, s. 72–72 v.

3 *Ułamki głów: Bajka*, “Trzeci Maj” 1841, 12 maja, s. 67–68.

## Ułamki głow

(Bajka)

Gdzieś, kiedyś były głowy: jakie? co tam jakie
Bog wie jakie! ot, takie, i takie, i takie. –
Dosć że głowy, na ktore wicher miał chrup[1] wielki. –
Jakoż iednego razu wpadł na nie: pokłocił,
Rozburzył, powywracał, potłukł iak butelki –
Zamięszał iak groch z kapustą, i za drzwi wyrzucił. –

Na wszystkie strony swiata owych głow czerepki
Rozleciały się, z niemi ich mozgi i klepki:
Notabene nie|wszystkie: lubo ten co wiedział
Ile ich wszystkich było, że wszystkie powiedział.

„Ułomkami iesteśmy: brakuje nam klepek
Mozgi nasze popsute” zawołał czerepek. –
„A do szkoły, czerepki!” zawołały mozgi –
„Hey stryczkow!” w krzyk czerepki; a klepki „hej rozgi”.
Na resztę „a do kupy” ze wsząd zawolano
I ostatniego głosu niby posłuchano. –

Rada w radę zaczęto, aby głowę złożyć
Dodawać się, odciągać, dzielić się i mnożyć –
„Co u licha, wysokie badały rozumy
Że liczby całej nie|ma z|tych ułamkow summy?”

Nie leniono się niskie działania powtorzyć
I uradzono wyższych i najwyższych użyć:
Do rozmaitych potęg wszystko podnaszano
I pierwiastki z rozlicznych potęg wyciągano
Szukano X wartości. – Wszystkie zrownań stopnie
Bez omyłki odbyto – nawet w rożniczkowe
Puszczono się kałkuły. – W tem ktoś rzekł roztropnie[2]:
„Jak złożyć liczbę całą, lub iej wartość: głowę
Gdy własnie tego braknie co głowę stanowi”.
Ktoś inny potakiwał iakiemuś głosowi
Ktory wołał o pamięć na skronie, na czoła –
Rożni rożnie wołali, a gdy wstał ztąd[3] chorał
Jak na wieży babelskiej, odezwał się morał:
„Prędzej zgoda wynajdzie kwadraturę koła”.

---

[1] У газеце “Trzeci Maj”: *chrap* (у значэнні: “мець на штосьці ахвоту”).
[2] У газеце “Trzeci Maj”: *rostropnie.*
[3] У газеце “Trzeci Maj”: *stąd.*

# Жартоўная рэкамендацыя

Наступная спроба вершавання І. Яцкоўскага датуецца снежнем 1842 г.: наваградчанін далучае своеасаблівую рэкамендацыю да ліста Ігнацы Шчапаноўскага[1] ў Парыж Л. Нядзвецкаму.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: *W miejscu Kristmasowego indyka...*: *List I. Szczepanowskiego do L. Niedzwieckiego z 28.12.1842 r.* [w:] Rkps. Kór. 2405: *Korespondencja Leonarda Niedźwieckiego: Litera J (Jabłoński Leon – Jung A.), 1832–1874*, s. 302 v.

* * *

W miejscu Kristmasowego Indyka
Posyłamy Ci Anglika[2].
Jeżeli mu usłużysz *the best you can*[3]
    To możesz bydź Pan.
Bo on ma dwie dorodne cory
    I worek duże spory.
A ty iak wiemy iesteś romansowy
    I do przyjaznych usług gotowy.
O toż go poruczamy twoiej szczegolnej pieczy
    Słóż mu więc, synu człowieczy.

---

[1] Ігнацы Шчапаноўскі (1811–1869), удзельнік паўстання, эмігрант, сакратар (да 1842 г.) Літаратурнага таварыства сяброў Польшчы ў Лондане. Сябра І. Яцкоўскага. Паходзіў з Беласточчыны.

[2] Гаворка ідзе пра інжынера аднае з найвялікшых у Англіі фабрык сельскагаспадарчага абсталявання Чарльза Мэя (“Oddawca tego listu jest pan Charles May”), які exaў у Парыж, каб пазнаёміцца з дзейнасцю французскай чыгункі. Лонданскія эмігранты лічылі, што праз яго можна будзе наладзіць дачыненні з патрыётамі ў Галіцыі.

[3] *The best you can* (англ.) – найлепей як можаш.

# Травестацыя *Буколікаў* Вергілія

Належачы да лагера А. Чартарыскага[1], І. Яцкоўскі меў абавязак весці барацьбу з Польскім дэмакратычным таварыствам. Гэта азначала заўсёдныя напружаныя адносіны, заўсёднае чуйнае рэагаванне на акалічнасці нават прыватнага жыцця "дэмакратаў". Так, у лісце да Л. Нядзвецкага ад 29 мая 1843 г. ён піша: "Дэмакраты <…> добрае віно п'юць, цыгары паляць"[2]. А самае галоўнае, – І. Яцкоўскі перакананы, што супрацьлеглы лагер дзейнічае на шкоду агульнай справе эміграцыі – адраджэнню Рэчы Паспалітай. Ягоная крытыка "дэмакратаў" выявілася ў шматлікіх публіцыстычных артыкулах і нататках, змешчаных ў тагачасных перыядычных выданнях. Дадзеная тэма гучыць і ў вершаваным творы *Bukoliki Wirgiliusza* („Trzeci Maj" 1843, 19 wrzesnia). Уласна не мастацкі, а палітычны характар твора пазначаўся і вызначэннем жанру – фельетон, і падтытулам – *Пераклад на эміграцыйную мову буколікі Вергілія*.

Трэба сказаць, што вершы Вергілія няблага дастасоўваліся да тагачаснай эміранцкай сітуацыі: пасля грамадзянскай вайны ў Рымскай імперыі (40-я гг. да н. э.) Актавіян Аўгуст наладзіў перадзел маёмасці – забіраў маёнткі ў ворагаў і перадаваў іх прыхільнікам (канфіскаваны былі і ўладанні Вергілія, але дзякуючы ўплывовым сябрам яму ўдалося вярнуць сваё). Свае хваляванні і тагачасныя настроі рымскі паэт перадаў у цыкле з дзесяці вершаў пад агульнай назвай *Буколікі*: герой першай эклогі Вергілія Мелібей пакідае родны край, бо не можа больш жыць у ім. А вось Тыцір застаўся, дзякуючы сваёй паездцы ў Рым, дзякуючы разрыву з Галатэяй і саюзу з Амарылідай, дзякуючы таму, што "свабода прыйшла да яго".

І. Яцкоўскі ў сваім вершы выкарыстоўвае толькі асобныя матывы першай эклогі Вергілія. Апрача імёнаў герояў адно некалькі радкоў маюць непасрэдную сувязь з лацінамоўным творам. Напрыклад, першы радок Вергілія "Tityre, tu patalae recumbans sub tegmine fagi" перакладзены амаль дакладна: „Tytrze, ty pod cieniem rozłożystej brzozy" – адно бук заменены больш звыклаю бярозаю. Але ў далейшым паэт з Наваградчыны карэнным чынам мяняе характар развіцця дзеяння. Калі ў Вергілія гаворка грамадзян-пастухоў вядзецца пра добразычлівых багоў з Рыму, якія прымаюць рашэнне, каму застацца на радзіме, а каму пакідаць яе, то І. Яцкоўскі канцэнтруе сваю ўвагу на пытаннях узаемадачыненняў эміграцыйных груповак рознай палітычнай скіраванасці. Мелібей

[1] Дзякуючы гэтаму, ён меў працу (быў касірам-скарбнікам) у Літаратурным таварystве сяброў Польшчы ў Лондане.

[2] *List I. Jackowskiego do L. Niedzwieckiego z 29.05.1843 r.* [w:] Rkps. Kór. 2405: *Korespondencja Leonarda Niedźwieckiego: Litera J (Jabłoński Leon − Jung A.), 1832−1874*, s. 343 v.

увасабляе тых, хто ў сваім жыцці кіруецца патрыятычнымі ідэаламі, а Тыцір – з тае часткі патрыётаў, што расчараваліся ў бясплённасці барацьбы і мараць пра асабістае шчасце:

Dla mnie rozkosz największa, Melibeo drogi,
Leżeć sobie spokojnie, jeść i pić dowoli,
Nie troszczyć się czy w kraju szatany, czy bogi
Rządzą sobie – mnie o to głowa nie zaboli.

Здарылася гэта так у вялікай ступені з-за палітычных сварак эмігрантаў. Тыцір, з аднаго боку, з агідай глядзіць на "дэмакратаў":

Widząc tylu prużniaków pijących szampana...
Kiedy Ojczyznę naszą okrywa żałoba,
Oni w djabełka grają od rana do rana!
A okurzeni dymem i cygar i fajek,
Tracą zdrowie i pieniądz na lichej zabawie,

а, з другога, не разумее сваіх ранейшых аднадумцаў, якія думаюць толькі пра карысць. З гэтай прычыны Тыцір вырашыў не думаць больш пра палітыку, а ўзяўшы шлюб з мясцоваю Марыляю, спадзяецца спакойна дажыць свой век.

Тыцір Вергілія пакідае Галатэю, каб стаць вольным з Амарылідай, бо не было нават надзей дасягнуць гэтага з ранейшай сяброўкаю. Галатэя І. Яцкоўскага ўвасабляе сабою Айчыну, і калі ягоны Тыцір адмаўляецца ад Галатэі дзеля мясцовай Марылі, то, відавочна, ён таксама набывае тое ж самае, што і герой рымскага паэта – дастатак. А вось Мелібей І. Яцкоўскага цалкам адрозны ад свайго аднаіменніка Вергілія. Ён не пагаджаецца ісці на службу да іншых багоў, не хоча адмаўляцца ад святое справы.

Тыцір яшчэ нейкі час вагаецца, не верыць Мелібею, бо вакол сябе бачыць шмат пранырлівых і хітрых суайчыннікаў, якія зноў, як і ў 1831 г., схаваюцца за плечы такіх як ён, а пазней будуць голасна крычаць і дамагацца сабе крыжоў і чыноў. Але ўрэшце верыць запэўненням Мелібея:

Pójdę z wami gdzie chcecie, choć na koniec świata,
I prożniactwa, niechęci, Maryli się zrzekam,
Polaka patryotę uścisnę jak brata,
Kogo godnym sądzicie, ja słuchać przyrzekam.

Як і палітычныя артыкулы, верш *Буколікі Вергілія* падпісаны крыптанімам X. J. B.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: X. J. B., *Bukoliki Wirgiliusza*, „Trzeci Maj" 1843, 19 września, s. 655 –659.

# PRZEKŁAD NA JĘZYK EMIGRACYJNY BUKOLIKI WIRGILIUSZA

Tityre, tu patulae recumbans sub tegmine fagi, etc.[1]

MIELIBEO.

Tytyrze, ty pod cieniem rozłożystéj brzozy,
Leżysz sobie spokojnie, na roskosznym łanie,
A my kraj opuściwszy, od kozy do kozy
Włoczymy się czekając co się z Polską stanie.

TYTYRUS.

Dla mnie roskosz największa, Melibeo drogi,
Leżeć sobie spokojnie, jeść i pić dowoli,
Nie|troszczyć się czy w kraju szatany, czy bogi
Radzą sobie – mnie o to głowa nie|zaboli.

MIELIBEO.

Nie|zazdroszczę ci tego, ni gorszę się tobą,
Widać tylu próżniaków pijących szampana...
Kiedy Ojczyznę naszą okrywa żałoba,
Oni w djabełka grają od rana do rana!
A okurzeni dymem i cygar i fajek,
Tracą zdrowie i pieniądz na lichéj zabawie.
Nam zaś dawszy nazwisko politycznych szajek,
Odstręczają poczciwych od poświęceń w sprawie
Nieniosącéj korzyści prócz cierpień i trudu,
Oprócz krytyk i przeklęstw pomiędzy swojemi
Za to, żeśmy nie|mieli w ręku naszym cudu,
Podźwignienia Ojczyzny środkami małemi.
Dziś najwięcéj ci krzyczą, co nic nie|robili,
Kiedy kraj od nich żądał poświęceń i pracy,
Oni lisim ogonem wtenczas się nakryli;
A dziś na zgromadzeniach są pierwsi junacy!

TYTYRES.

Znam ja wszystkich dokładnie, drogi Melibeo,
I ja, głupio sądziłem, że ci rycerze
Którzy krzyczą najgłośniéj, najsprośniéj szaleją,
Dzisiaj widzę inaczéj, i inaczéj wierzę.

[1] Першы радок *Эклогі I* твора Вергілія *Буколікі*: “Тыцір, ты, лежучы ў цяньку разложыстага бука” і г. д.

MIELIBEO.

Cóż ci dało pobudkę zapoznać się z niemi?

TYTYRUS.

„Wszechwładztwo Ludu”. Imie pięknie brzmiące.
Lecz że kreślili prawa, gdy Moskal w ich ziemi,
Pomyślałem że to są tchórzliwe zające.
A postrzegłszy że włos mi na głowie siwieje,
I że czas już się żenić, i myśleć o sobie;
Dla obecnéj Maryli rzucam Galateę
Sądząc, że tym postępkiem, pogodzę je obie.
Tamta, może już o mnie całkiem zapomniała,
A ta, wnosi za sobą piękność i dostatek:
A więc miłość ma dla niéj, a dla tamtéj chwała
Że jéj luby na starość doczeka się dziatek.
Dość jest głupstwa na świecie, dość się zrobiło,
I sławy się szarpnęło, i cudzéj kieszeni.
Wspomnieć o tem niemiło, o! jak jest niemiło?
Teraz myślę: że los mój całkiem się odmieni
Gdy z Marylą złączony byt mój zabiezpieczą,
A z politycznego wymknąwszy się świata,
Zjem co ona zgotuje, albo też upiecze,
I spokojnie dokończę stare moje lata.

MIELIBEO.

Dziwię się twéj Maryli, że cię zagorzalca
Przeminiła tak prędko w brylę lodu chłodną:
Łatwiej było, myślałem, oswoić padalca,
Niźli w wieść cię na drogę, Polaka niegodną.
Patrzaj, w Polsce jest Habzburg, i Pruss i Romanów,
Twoja własność jest tamże, i twoja Rodzina...
Tyś wrogów nienawidział jak z piekła szatanów.
A dziś Tytyr tak łatwo przysiąg zapomina.

TYTYRUS.

No i cóż mam uczynić? proszę cię o radę,
Łbem muru nie|przebiję, tylko się skaleczę:
Nieraz kolegom moim wymawiałem zdradę,
Gdy który dla korzyści z pośród nas uciecze.
Cóżem postrzegł na koniec? ot, że te Mentory,
Co krzyczeli najgłośniéj na egoizm cudzy,
Byli w sobie, *de facto*, nienapchane wory,
I przy pierwszéj zręczności poszli tam gdzie drudzy.
Dzisiaj, służom Moskalom, lub mają winnice,
Albo sklepy wspaniałe z jakiemiś gałgany,

Obiegają z kartkami wzdłuż i wszerz ulice,
Prosząc aby towary u nich brali pany
Którzy, w polskiém nazwisku czcząc rycerza imie,
Hojnie im opłacają niecne materjały,
Bez względu że jałmużna, którą natręt przyjmie,
W uwadze cudzoziemca zniża naród cały.
Alo na to niebaczni, chytre spekulanty
Aby przychód zapewnić, szczękając z za kraty
Na panów, przed gminami, że jedzą *bażanty*,
A na gminy przeciwnie, że to *Demokraty*!
Oni by tu siedzieli do skończenia świata!
I przez wstyd by się sami tylko nie|zaostali,
Podburzają nieszczęśni przeciw bratu brata,
By przeszkodzić ich wyjściu przeciwko Moskali.
A na większe, prawego serca pohańbienie
Czego płaczem, pytają, gdy im tu tak miło?
Gdyby Polskę bezładem wskrzesić można było,
Oniemiałoby zaraz i to Zjednoczenie,
I te Pszonki, i Orły, i wszystkie dzienniki.
Co to tylko rzygają oszczerstwy samemi;
Wszyscyby się wnet wzięli do szabli, do piki,
I w milczeniu stanęli przed wodze swojemi.
Jakież proszę na przyszłość mogą być nadzieje?
Starzy, są niedołęgi – młodych nic nie|boli.
Ja się gryzłem, płakałem, a wróg z nas się śmieje!
Ot się lepiéj ożenię, i wezmę do roli.

MELIBEO.

Żal twój widzę, mocniejszy niżeli powody.
Zawsześ latał Tytyrze wyżéj jak potrzeba,
Przetrwać nie|umiesz słoty, nie|ujrzysz pogody,
I lecisz na dno piekła, z pod samego nieba.
Te warhoły, te krzyki były naturalne:
Nie|mogło być inaczej, po upadku sprawy,
Na któréj, szczęście nasze fizyczne, moralne
Spolegało: – mogłoż to nie|wywołać wrzawy?
Ja, nie na to narzekam, nie|ganię zapału;
Ale czas do rozwagi przychodzić po mału,
I to robić, bo po nas żąda sprawa święta.
Ja z pilnością słuchałem twoje rzewne żale,
I z méj strony dodałbym może jakąś dozę;
Lecz ja wołam do czynu, i nie|myślę wcale
Żeby większość tu z tobą przyszła spać pod brzozę.
Twoje skargi, na zmianę szatańskich mentorów,
Nie|są żadną dla ciebie Tytyrze pobudką,

Abyś czyny najgorsze, wybrane z tych wzorów
Naśladując, popłynął samoluba łódką.
Zapał, w stopniu najwyższym, nie|może być długi:
Natura nie|wytrzyma, mózg ludzki nie|zniesie.
Lecz z innego naukę brać powinien drugi,
I przez upór nie|chodzić do śmierci po lesie.
Ten kto z sercem poczciwém rozbierał przyczynę
I upadku naszego, i sposób powstania,
Postrzegł że za pradziadów my cierpiący winę,
Żebrzeć winniśmy naprzód niebios pobłagania:
A uczniwszy *votum* kraj zrobić szczęśliwym,
I rzuciwszy wymówki nieprzydatne na nic;
Znajdziemy się gdzie miejsce Polakom prawdziwym,
Wskaże *Najpoważniejszy*, i wyjdziem z zagranic.
Taki zostanie, czyje serce nie|bolało,
Na ich klęski publiczne, i na los współbraci,
Który jadł tylko i pił, ile sił mu stało...

TYTYRUS.

Taki pójdzie najpierwszy, *długu niezapłaci*.
I chociaż, nim obaczy Moskala, wprzód zginie,
Gdy wszystko się zakończy on się znów pokaże,
I krzyż zyszcze, i stopień jego nie|ominie.
Ci, co graniczne tylko połamali straże,
Gdy w Austryją, pamiętasz, w Prusy uciekali,
Ledwieśmy przyszli tamże prochem okurzeni,
Oni zaraz patenta na krzyże dostali,
I dziś prawią o czynach niezarumienieni.
I przyszli już do tego, przez nałóg kłamania,
Że nam w oczy wmawiają niestworzone rzeczy,
Jedyną odpowiedzią na dane pytania
Jest: że nie|musiał być w boju ten, który im przeczy.
I cóż chcecie mieć z takich? powiedzże mi Bracie,
Ot objedzą, obelgą, a wroga nie|drasną!

MELIBEO.

My nie liczym nic na nich, więcéj liczym na Cię,
Lub podobnych, co chcieli wskrzesić myślą własną,
Drogą wszystkim Ojczyznę: a widząc z rozpaczą
Niestosowność swych środków, nietrafność swéj myśli.
Na pozór obojętni, razem z nami płaczą,
Nad Ojczyzną, i kresem do którego przyszli
Daléj nieśmiąc postąpić, lub podać dłoń bratnią
Spotwarzonym kolegom publicznie i skrycie,
W odrętwienie wpadają. – Chwilę tę ostatnią

Przesileniem nazywam; po niéj śmierć lub życie
Zazwyczaj następuje. – Twa gorycz, Tytyrze,
I twoja obojętność, ze zrżódła pochodzi,
Zapowiadającego wyzdrowienie chyże.
Czynu tylko, a z ciebie rycerz się urodzi
Głos trąbki cię orzeźwi, huk działa uleczy;
Jak lew silny się rzucisz na wrogi Ojczyzny,
Przeszłość twoja na drodze słabej ubezpieczy,
Chwiejącego się dotąd; pogoją się blizny,
Zadane nieufnością w twém sercu i w głowie.
Nie|pozwolisz nikomu odtąd siać zwątpienie.
Zgromisz śmiało każdego ktokolwiek ci powie,
Że nie na nas polega Polski wywalczenie.
I zapomnisz urazy do kolegi swego
Czy słusznéj, czy niesłusznéj, gdy ujrzysz go w boju
Walczącego przy tobie, przy tobie rannego
Podniesiesz, i żyć będziesz odtąd z nim w pokoju.
Ni te sklepy, ni krzyże, ani te tytuły,
Które cierpko wymawiasz, nie|dają ci prawa
Zapomnienia, co Matce winien syn jéj czuły,
Gdy na płac występuje życie jéj i sława.

TYTYRUS.

Melibeo! przemogłeś, wskrzeszasz umarłego
Któremu się zdawało że już leży w grobie,
Tyś uczuciem przemówił do serca czułego,
Ja ożyłem na nowo. – Boże dzięki Tobie,
Żeś zesłał przyjaciela, w chwili méj zgryzoty.
Wstyd, żem licząc na rozum, zapomniał o *wierze*,
*O nadziei, miłości* – dziś wracam do cnoty,
Bogu i méj Ojczyznie będę służył szczerze.
Pójdę z wami gdzie chcecie, choć na koniec świata,
I próżniactwa, niechęci, Maryli się zrzekam,
Polaka patryotę, uścisnę jak Brata,
Kogo godnym sądzicie, ja słuchać przyrzekam:
Niech jeden rozkazuje, proszę tylko o to,
Bo, gdzie wiele jest nianiek, tam dziecko bez nosa,
Niema waloru w ziemi zakopane złoto:
Od wielbłąda straszniejsza rozjątrzona ossa.

X. J. B.

# Верш дзеля публічнага выступу

Трэба думаць, што І. Яцкоўскі час ад часу працягваў свае літаратурныя заняткі. Перадусім, Л. Нядзвецкаму ён даслаў у 1845 г. верш, напісаны на Вялікдзень. У лісце падаецца і гісторыя ўзнікнення тэксту: "Учора ў Літаратурным Таварыстве мы мелі свянцонае, якое ладзіў Шульчэўскі. Кампанія была вялікая і вельмі прыстойная – 54 асобы. Калі меліся дзяліцца яйкам, я, стаўшы ля стала і звярнуўшы на сябе ўвагу, праспяваў песню-кантычку, адмыслова напісаную мною дзеля гэтае акалічнасці. Паведамляю пра гэта не дзеля друку (бо таго нявартая), але як прыватную інфармацыю; песню знойдзеш на канцы. Нязмерна спадабалася яна слухачам – прагучалі шматлікія і доўга несціханыя «брава»"[1].

Верш невялікі – восем строф, напісаных чатырохстопным харэем (у якасці апошняга радка страфы выкарыстоўваецца рэфрэн "Алілуя! Алілуя! Алілуя!", напісаны шасцістопным харэем). Уваскрэс Хрыстос, і ўвесь люд весяліцца, а сябры паэта сабраліся на свята не толькі дзеля таго, каб есці і піць; няхай ніхто не думае, што яны – марнатраўцы. Тут – мужы, войны-героі, пакрытыя шрамамі, і амаль усе – сыны Рэчы Паспалітай. Сёння яны бавяцца, але хутка пойдуць у бой, каб змагацца за край, за вольнасць, за караля. І перамогуць. Як гэта зрабілі калісь "Jagiełów poprzednicy", што з яйкам і шабляю захапілі сталіцу Масковіі[2]. Аўтар гістарычнаю згадкаю пра паход Альгерда ў 1368 г. падмацоўвае веру суайчыннікаў у лепшую будучыню. Аптымістычна і ў велікодным духу гучыць наступная страфа:

Może, Carze, blizkim jest kres,
Że Cię schwycim pierwej niż bies
I wykrzykniem „Patrz Lach woskres!"
Al. al. al.

Але матыў перамогі не знаходзіць свайго развіцця ў творы. Аўтар нібы забывае пра прагназаваны поспех і вяртае свайго чытача да рэалій і будняў дня сённяшняга: варта ператрываць бяду тут, у Лондане. Складваецца ўражанне, што паэт, узняўшыся на пэўную паэтычную вышыню і нібы знайшоўшы неабходныя

[1] *List I. Jackowskiego do L. Niedzwieckiego z 24.03.1845 r*. [w:] Rkps. Kór. 2405: *Korespondencja Leonarda Niedźwieckiego: Litera J (Jabłoński Leon − Jung A.), 1832−1874*, s. 395–395 v.

[2] Верагодна, І. Яцкоўскі ведаў *Хроніку Быхаўца*, дзе пра гэты паход апавядаецца наступнае: Маскоўскі князь Дзмітрый Іванавіч "без каждое прычыны, опустошивши докончания и приязнь и прыслал до великого князя Ольгерда посла своей со отповедию, а прыслал к нему огонь и саблю" і перадаў, што будзе ў Літве летам. У адказ Альгерд перадаў маскоўскаму князю: "Я, дасть Бог, в него буду на Велик день, а поцалую его красным яйцом через шчыт сулицою". І сапраўды, раніцай на Вялікдзень ён нечакана з'явіўся на Паклоннай гары пад Масквой.

мастацкія сродкі, не развівае заяўленую тэму, а толькі імкнецца завяршыць адпаведным чынам велікодную прамову-тост на сяброўскай імпрэзе.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Rkps. Kór. 2405: *Korespondencja Leonarda Niedźwieckiego: Litera J (Jabłoński Leon − Jung A.), 1832−1874*, s. 396.

## 23 marca 1845

Wstał Pan Chrystus z martwych ninie
Uweselił swoj lud mile
Co nudne miał do tąd chwile.
Aleluja, aleluja, alleluja –

Czyż my się tu zgromadzili
Bysmy iedli, bysmy pili
Bysmy się tylko bawili?
Al. al. al. –

O! nie|mniemaj przędo jaki
Że to nasz zwyczaj jest taki,
Że tu są same prożniaki.
Al. al. al. –

Są tu męże rozmaici
Wielu bliznami okryci
A wszyscy prawi Lechici.
Al. al. al. –

Prędko|ż na nich przyidzie data
Wynijść z orężem do pola
Walczyć za Kraj, wolność, Krola.
Al. al. al. –

Wszak Jagiełow poprzednicy
Z jajkiem i z szablą w prawicy
Byli w moskiewskiej stolicy,
Al. al. al. –

Może Carze blizkim iest Kres,
Że Cię schwycim pierwej niż bies
I wykrzykniem „Patrz Lach woskres"
Al. al. al. –

Bracia! tylko w dobrej minie
Przetrwajmy biedę w Londynie
A szczęście nas nie|ominie –
Al. al. al. –

# І. Яцкоўскі пра крыжовы паход і “тэрарыста” Кракуса

Калі дакладна І. Яцкоўскі напісаў баладу *Kruciata* – мы не ведаем. Магчыма, напрыканцы 1840-х ці самым пачатку 1850-х гг. І неўзабаве, не пазней 1852 г., надрукаваў яе ананімна[1]. Захавалася выданне дзякуючы Яну Непамуцэну Яноўскаму[2], які, выдалены ўладамі з Францыі, жыў з кастрычніка 1849 г. да жніўня 1850 г. у Лондане[3] і, хутчэй за ўсё, у гэты час набыў брашурку І. Яцкоўскага ды далучыў яе да свайго кнігазбору.

Караль Эстрайхер у некралогу *Ян Непамуцэн Яноўскі*, змешчаным у кракаўскім „Czasie” (9 лютага 1888 г.), пісаў, што “Яноўскі ахвяраваў Ягелонскай бібліятэцы свой кнігазбор, больш за 1500 выданняў, пераважна эміграцыйных. Шмат якія з іх ён тлумачыў нататкамі на палях”[4]. Відавочна, дзякуючы нататкам на палях *Kruciaty*, К. Эстрайхер у VI (дадатковым) томе *Бібліяграфіі польскай* у 1881 г. як выданне І. Яцкоўскага занатаваў дадзеную баладу[5]. На захаваным асобніку, апрача абавязковых бібліятэчных пячатак і сігнатур (Ягелонскае бібліятэкі і кнігазбору Яна Непамуцэна Яноўскага), маюцца два надпісы алоўкам. На першай старонцы ў верхнім левым кутку выразна пазначана “Jackowski”, а на апошняй унізе пасля тэксту – “Te wiersze są zrobione przez Jackowskiego płatnika z Londynu”. Гэтыя пазнакі, пэўна, і былі для К. Эстрайхера падставаю дзеля атрыбуцыі дадзенага твора.

Выданне балады ўяўляе сабою аркуш фармату А4, складзены папалам, у выніку чаго атрымаліся чатыры старонкі w 8[ce]. Ужо, відаць, пазней бібліятэчныя супрацоўнікі падклеілі тэкст твора да аркуша картону сіне-зялёнага колеру.

На нашу думку, твор узнік як прывітальнае выступленне І. Яцкоўскага на нейкім сходзе-абедзе эмігрантаў і выдадзены, магчыма, як прэзент удзельнікам

---

[1] Звернем увагу, што гэта не першы тэкст, які І. Яцкоўскі надрукаваў у Лондане. У лісце да Л. Нядзвецкага ад 11 мая 1847 г. І. Яцкоўскі піша: “Дасылаю табе два асобнікі Статута нашага клубнага. Магу табе сказаць, што і верш, і друк – мае. Дзеля забавы можаш прачытаць у сваім клубе, не называючы аўтара. Цудоўнае ўздзеянне аказаў гэты Статут на нашу грамаду. Бо было прыкра і нават немагчыма кожнага паніча асобна папярэджваць, каб не пляваў на сцяну і г. д.”. Гл.: *List I. Jackowskiego do L. Niedzwieckiego z 11.05.1847 r.* [w:] Rkps. Kór. 2405: *Korespondencja Leonarda Niedźwieckiego: Litera J (Jabłoński Leon − Jung A.), 1832−1874*, s. 412–412 v.

[2] Ян Непамуцэн Яноўскі (1803–1888), публіцыст, актыўны дзеяч дэмакратычнага лагера Вялікай Эміграцыі.

[3] J.N. Janowski, *Notatki autobiograficzne. 1803–1853*, przygotował do druku, wstępem i przypisami zaopatrzył Marian Tyrowicz, Wrocław 1950, s. 587–592.

[4] Цыт. па: M. Wilczyńska, *Zbiór Jana Nepomucena Janowskiego (1803–1888) w Bibliotece Jagiellońskiej*, „Biuletyn Biblioteki Jagellońskiej”, r. XXXVI, 1986, s. 117.

[5] K. Estreicher, *Bibliografia polska XIX stulecia*, t. VI, dop., Kraków 1881, s. 304.

імпрэзы. Тэкставаю падказкаю атрыбуцыі твора могуць быць наступныя радкі: "Dzis nerestuja na brzegu Dunaju // Tyrany, w Wiedniu bronionym przez Jana!" Бясспрэчна, тыранамі І. Яцкоўскі называе кіраўнікоў краін-акупантаў, а ў Вене прадстаўнікі Аўстрыі, Прусіі і Расіі збіраліся ў 1849 годзе (летам Мікалаем І была выратавана Аўстрыйская імперыя). На карысць 1849 года будзе той факт, што сваю баладу І. Яцкоўскі выдаў, відавочна, тады, калі ў Лондане не было польскіх друкарняў[1]. У адрозненне ад іншых польскамоўных тэкстаў, выданнем якіх І. Яцкоўскі займаўся па даручэнні Літаратурнага таварыства сяброў Польшчы ў тыпаграфіях Францыі, баладу *Kruciata* ён надрукаваў у ангельскай друкарні, якая не мела польскіх дыякрытычных знакаў.

Паэт назваў свой твор *Kruciata – Крыжовы паход*, тым самым выяўляючы ягоную ідэйную скіраванасць, а таксама суаднесенасць з рыцарскімі выправамі пачатку ІІ тысячагоддзя да труны Хрыстовай (у разуменні паэта і эміграцыі труной Хрыстовай была Польшча).

Пачынаецца балада характэрным для І. Яцкоўскага застольна-бяседным зваротам і жаданнем даць "на дэсэрт" баладу, якую спяваюць нібыта ў Карпатах. Геаграфічнае ўдакладненне скіроўвае нас нібыта да ўказанай у падтытуле легенды пра Кракуса, які (ці, больш дакладна, яго сыны) накарміў лютага вавельскага цмока серкаю, ад чаго пачвара загінула. Аднак замест апявання легендарных часоў, паэт кажа пра сённяшніх рыцараў, якія лілі за край кроў. Гэтыя рыцары, выгнаныя са сваёй айчыны, не паддаюцца роспачы, працуюць (хоць іх кола з кожным днём змяншаецца) дзеля свае бацькаўшчыны. Можна было б дапусціць, што І. Яцкоўскі мае на ўвазе эмігрантаў, удзельнікаў паўстання, але ён двойчы выразна размяжоўвае рыцараў і "нас": "Co swa Ojczyzne, tak jak my kochamy" і "Choc w kolko sciesnieni, // Tak szczuple moze jak je dzisiaj mamy". Увесь наступны тэкст балады ўяўляе сабою звернуты да сяброў маналог гэтага рыцара. І ў ім заяўленая напачатку адрознасць рыцараў і "нас" спакваля знікае: цяпер чытач ужо разумее, што аўтар вядзе пэўную гульню з ім (а больш дакладна – са слухачамі-бяседнікамі), – зварот не ад імя "нас", а ад рыцараў падаваўся яму эмацыйна больш завостраным. Напачатку рыцар заклікае калегаў "objawic mlodziezy, // Sekret, jak oni moga byc pomocni // Swojej Ojczyznie". Зрэшты, сакрэт – гэта своеасаблівая праграма дзеянняў. Папершае, патрэбна адзінства, патрэбна забыць рознагалоссі, гнеў і інш., патрэбна аб'яднанне з моладдзю, дэвізам чаго мусяць быць такія словы: "Dzielny kto zaczal, dzielniejszy kto skonczy". Па-другое, акупантаў "trza niszczyc jakakolwiek sztuka". Тут, здаецца, паэт імкнецца канкрэтызаваць свой сакрэт, вытрыманы ў духу Макіявелі і Валенрода.

Даўняя легенда пра Кракуса таксама тут выкарыстоўваецца І. Яцкоўскім: яна патрэбна паэту, каб патлумачыць даўнюю алегорыю: цмок – гэта ўвасабленне захопніка-акупанта, а Кракус, які падступна забіў цмока, стаў справядліва кіраваць людам, раней падуладным пачвары. Гісторыя Кракуса – трэцяе палажэнне яго

[1] У маі 1852 г. І. Яцкоўскі ў лісце да Л. Нядзвецкага паведамляе, што ў Лондане ўжо дзейнічае польская друкарня, і абяцае хутка выслаць выданні, якія ўжо выйшлі з друку. Гл.: *List I. Jackowskiego do L. Niedzwieckiego z 15.05.1852 r.* [w:] Rkps. Kór. 2405: *Korespondencja Leonarda Niedźwieckiego: Litera J (Jabłoński Leon – Jung A.), 1832–1874*, s. 436.

сакрэту-праграмы: неабходны тэрарыстычны акт супраць манархаў-тыранаў. Раней абвешчаная “kruciata” – крыжовы паход на захопнікаў – цяпер удакладняецца: “Oby cie spotkal Krakus, Mikolaju!”. І нават падказваецца месца, дзе гэта можа адбыцца: сёння яны сабраліся ў колісь абароненай Янам Сабескім Вене, але не дзеля таго, каб “zatrzec nasze zazalenie”, а таму “Niech twe Krakusie Imie dzis sie slawi!” Неабходнасць менавіта такога віду барацьбы паэт тлумачыць наступным чынам: “Po co mordowac niewinne nam ludy, // Ktorych w szeregi pakuja przymusem, // Pogardzmy plewe, jadro zniszczmy wprzódy”. Такі від барацьбы І. Яцкоўскі лічыць эфектыўным – нават калі на месца знішчанага тырана прыйдзе іншы, дык ён не будзе такі дэспатычны, бо “i cesarskie zycie nie jest marne!”, а таму цар-акупант “chcac niechcac musza sie poprawiac”.

І. Яцкоўскі, развіваючы сваю праграму (ці сакрэт), перасцерагае: дзеля таго, каб ажыццявіць акт справядлівасці непатрэбныя змовы, якія звычайна заканчваюцца здрадаю. Мсціўцам народу няхай стане чалавек вялікага сэрца і цноты. У гісторыі ёсць прыклад такога чыну: Майсей, муж Божы, першы свой подзвіг здзейсніў, менавіта забіваючы прыгнятальніка свайго народу. А таму ці ж наша сумленне павінна быць спакойным, калі край енчыць пад ярмом лютых тыранаў: “I nie jednego, lecz trzech cierpi panow?”. Згадка пра айчыну, якую рыцары пакінулі з чужое ласкі, умацоўвае лірычнага героя ў ягоным жаданні помсты. Ён верыць, што Бог дасць такую магчымасць і, калі дух пераможа цела, тыраны будуць знішчаны. Паэт імкнецца апраўдаць тэрор: раз мы не маем войска, каб змагацца ў адкрытым баі, дык мусім перамагчы ворага любымі сродкамі.

Наступнае палажэнне праграмы-сакрэту Яцкоўскага – гэта зварот да суайчыннікаў у краі, да тых, хто бліжэй трона стаіць: шукайце магчымасці, каб паслужыць Маці-Айчыне. Нават калі на вас апранулі мундзір – слухайце свайго сэрца, сваю Маці, а не чужога цара.

А ў канцы рыцар звяртаецца да эміграцыі даць довад патрыятызму: не чакаючы дапамогі ні з Захаду, ні з Усходу, самі “tyrana pchnijcie ostrzem z przodu”. Калі любіш Айчыну – трэба быць ахвярным дзеля яе. Народзіцца Кракус і яго ўшануюць нашчадкі. Трэба дзейнічаць, бо той, хто толькі плача, няхай ведае, што “hanba jest zycie tulacze”. Так завяршае свой тэкст І. Яцкоўскі.

Заўважым, што ідэя тэрору супраць тыранаў, была шырока распаўсюджана ў эмігранцкім асяродку, а таксама і ў мастацкай літаратуры. Самы яскравы прыклад – *Кардыян* Юліуша Славацкага. Думаецца, што менавіта не прымаючы месіянізм гэтага паэта, не пагаджаючыся з яго этычнымі катэгорыямі, з яго заклікамі да пакуты, з яго лозунгам “Польшча – Вінкельрэдам народаў” (швейцарскі сярэднявечны герой, які ў час бою ўласнымі грудзьмі наскочыў на дзіды ворагаў), І. Яцкоўскі прапаведуе тое, ад чаго адмаўляўся Ю. Славацкі. Фактычна, паэт з Наваградку крытыкаваў усе асноўныя тэзісы Ю. Славацкага (Польшча не павінна запляміцца царазабойствам; вольнасць належыць здабыць у шляхетнай барацьбе). Верагоднасць нашага дапушчэння пацвярджаецца прачартарыскімі сімпатыямі І. Яцкоўскага, які мог убачыць у *Кардыяне* крытыку дзейнасці князя.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: [I. Jackowski], *Kruciata, ballada o Krakusie*, b. w. m. i r., 4 s.

# KRUCIATA.

## BALLADA O KRAKUSIE

Pokoj wam Bracia! choc wasza Biesiade
Przychodze przerwac piesnia wam nieznana,
I ze na wety podam wam Ballade,
Gdzie tam, zda mi sie, w Karpatach spiewana,
    O tych Rycerzach co krew za kraj leli,
    A potem dlugo, i duzo cierpieli. −

Grono ich liczne rzadnialo powoli,
Nie przez ucieczke, ni przez brak wytrwania,
A gdy sie zejda serce im zaboli,
Ze ich mniej coraz jest juz do witania;
    Bo smierc i trudy sile ich zszczuplily,
    Wielu ich wczesnie poszlo do mogily! −

Lecz ze to byli ludzie poswieceni,
Co swa Ojczyzne, tak jak my kochamy,
Nie rozpaczali, choc w kolko sciesnieni,
Tak szczuple moze jak je dzisiaj mamy;
    Ale przyjaznia wzajem sie wzmacniali,
    I sluzbe innych na swe barki brali. −

Jeden z ich grona tak rzekl do Rycerzy:
„Slabismy liczba, chociaz sercem mocni,
Nie wahajmy sie objawic mlodziezy,
Sekret, jak oni moga byc pomocni
    Swojej Ojczyznie, ktora tak kochaja,
    A ktory, nie wiem, czemu ludzie taja!

Nie trzeba gniewu, nie trza wylaczenia
Od wspolnej sprawy zadnego Polaka,
Bo nasza walka trudna do skonczenia,
A jej dewiza musi byc juz taka,
    Ktora nas starych z mlodymi polaczy:
    *Dzielny kto zaczal, dzielniejszy kto skonczy.*

Prozno narzekac zesmy rzecz zepsuli:
Lecz bledy nasze niech beda nauka,
Bysmy nie byli dla najezdcow czuli,
Ktorych trza niszczyc jakakolwiek sztuka. −
    A kto najezdce swa reka zadlawi,
    Niechaj sie taki po wiek wiekow slawi!

Kiedy sie zbrodzien zdrzemie przy maczudze,
Nie budz go ze snu, bo ciebie zabije,
Niech cie ukrzepia lzy wlasne i cudze
I spraw niech on sie krwi wlasnej napije.
    Do potomnosci przejdzie *Imie* twoje,
    Nikt nie wie o tych ktorych zmiotly boje.

KRAKUS trucizna ktory sprzatnal Smoka,
Nad uwolnionym narodem panowal –
Powiesc o Smoku jest tylko dla oka,
Przenosnia, jaka wiek stary przechowal –
    Bo tym to Smokiem byl najezdca kraju,
    Oby cie spotkal KRAKUS Mikolaju!

Po lbie Habsburga, po lbie Brandebura,
Temi sposoby jakie się[1] nastrecza,
Czyli z za drzewa, czyli to z za mura,
Bo na otwarte, oni nas zamecza. –
    A ktoz z tygrysem bierze sie w zapasy,
    Kiedy zwierz czleka rozedrze na pasy?

Dzis nerestuja na brzegu Dunaju
Tyrany, w Wiedniu bronionym przez Jana!
Jakze to dobrze byloby dla kraju,
Gdyby ktoremu pigulka podana,
    Lub sztylet zreczna reka wymierzony,
    Krwiozerczych Orlow zbezskutecznil szpony.

Zaden z nich pewno prawa tam nie pisze
Zdolnego zatrzec nasze zazalenie,
Lecz jak nas zgladzic. – Zatem, Towarzysze!
Pojmijmy dobrze: ze ich ocalenie
    Zla jest rachuba, bo to nas nie zbawi,
    Niech twe KRAKUSIE Imie dzis sie slawi!

Po co mordowac niewinne nam ludy,
Ktorych w szeregi pakuja przymusem,
Pogardzmy plewa, jadro zniszczmy wprzody,
A z tym co zniszczy bedzie jak z KRAKUSEM:
    Bo ten co Smoka swa sztuka zadlawi,
    Imie sie jego po wiek wiekow wslawi!

Tylko nie mowmy ze to nie pomoze,
Ze jeden zniknie a drugi nastanie,

[1] Адзіны выпадак, калі ў тэксце сустракаецца слова з “польскім знакам”.

Bo ja sie z wami wszystkiemi zaloze,
Ze nastepnego bedzie panowanie
    Nie tak juz smiale, nie takie bezkarne,
    Bo i cesarskie zycie nie jest marne!

Nie bardzo oni lubia sie nadstawiac,
Gdzie niebezpiecznie i gdzie zginac mozna;
A wiec chcac niechcac musza sie poprawiac,
Gdy sie dowiedza, ze to nie jest prozna
    Pogrozka, ktorej spisku nie potrzeba,
    Bo ja wypelni natchniony od *Nieba*!

Nie wchodzcie tylko w zadne ludzkie zmowy,
Ktore sie koncza na zdradzie i biedzie,
Radz sie twej cnoty, i serca i glowy, −
A kiedy zrecznosc pomyslna ci przyjdzie,
    Niech cie nie strasza losy *Libenego*,
    Stan sie mscicielem Narodu twojego!

Mojzesz, maz Bozy, pierwsze swe natchnienie,
Okazal wtenczas, gdy zabil ciemiezce
Narodu swego. − A naszez sumienie
Ma byc spokojne kiedy kraj nasz w klesce
    Jeczy, pod jarzmem okrotnych tyranow,
    I nie jednego, lecz trzech cierpi panow?

Panow okrutnych, ktorych wam zamkneli
Wszelka mozebnosc byc w domu szczesnemi,
Co syn mial posiasc, oni ojcu wzieli,
Cnocie nie daja odpoczac na ziemi
    Zlanej kwia nasza, od kranca do kranca,
    Z mlodych rekruta robia, lub wygnanca!

Hanba jest jednak opuszczac te role,
Za ktora tyle juz sie krwi wylalo,
Bog nam da zrecznosc, miejmy tylko wole,
Okazac ze w nas duch przemogl nad cialo;
    Gladzmy tyranow skoro ich spotkamy,
    Bo innej drogi przed soba nie mamy.

Nie mamy wojska, ni go bedziem mieli,
Bysmy otwarcie za wolnosc walczyli,
Bo nam zle wrogi wszystkie srodki wzieli,
Bysmy sie bronia z nimi rozliczyli,
    Wiec pojedynczo musim sie rozprawic,
    By z zatracenia Ojczyzne wybawic.

Do was najpierwej, ktorzy blizej Tronu
Stoicie, bracia! odzywa sie Matka,
Jesli z was zrecznosc nadarzy sie komu,
Nie dajcie wygniesc z niej zycia ostatka −
    Ratujcie Matke miloscia dzieciecia,
    Bog wam udzieli madrosci i szczescia!

Jesli wam mundur wrog na karki wtloczyl,
Dola Polaka przy was pozostala,
Pomnijcie by z was zaden nie wykroczyl
Przeciwko Matce, co wam zycie dala −
    W Moskwie nauka, jak wyjsc z pod Tatara,
    Jak swego sluchac, cudzego bic Cara!

A teraz do was co z lzami mowicie:
Ze swa Ojczyzne nad zycie kochacie,
Jesli wam honor tak mily jak zycie,
Patryotyzmu taki dowod dacie.
    Nie chcijcie wsparcia z Wschodu lub Zachodu,
    Ale tyrana pchnijcie ostrzem z przodu,
    Potomnosc hojnie meztwo wynagrodzi,
    Przyjmcie *zasade*, a Krakus sie zrodzi,

Zrodzi sie Krakus do rzadu i broni,
Co Polske z Rusia i Litwa polaczy,
Pod swietem haslem Orla i Pogoni,
Nieszczescia kraju tryumfem zakonczy,
    Bo kto nie dziala, ale tylko placze,
    Niech wie ze hanba jest zycie tulacze. −

# Верш-пасланне да сяброў-паэтаў

15 кастрычніка 1849 г. І. Яцкоўскі напісаў верш *Z Londynu: Do moich przyiacioł w Poznańskiem*, які, пэўна, адразу выслаў адрасатам[1]. Перадусім, аднаму з іх – Станіславу Эгбэрту Казьмяну (Stanisław Egbert Koźmian, 1811–1885), які з 1833 г. жыў у Англіі: спачатку ў Бірмінгеме, а з 1835 г. – у Лондане, актыўна ўдзельнічаючы ў дзейнасці эміграцыйных таварыстваў. Цікава тое, што С. Казьмян, будучы сакратаром лорда Дадлі Сцюарта (1803–1854), які ўзначальваў Літаратурнае таварыства сяброў Польшчы (Literary Association of the Friends of Poland), належаў да вузкага кола тых, хто дзяліў дапамогу, прызначаную ўрадам Англіі для польскай эміграцыі. Відавочна, у гэтых справах ён блізка супрацоўнічаў з І. Яцкоўскім, памочнікам касіра (Assistant Paymaster of the Polish Refugees) Літаратурнага таварыства. Літаратурнай творчасцю С. Казьмян займаўся са студэнцкіх гадоў, але вядомасць атрымаў толькі ў 1846 г., надрукаваўшы ў Парыжы асобным выданнем верш *Do mistrzów słowa*[2], адзін з якіх – Зыгмунт Красінскі, сябра са школьных часоў – адгукнуўся двума творамі *Ostatni* і *Dzień dzisiejszy* (1847), якія друкаваліся спачатку асобна (1847), а ў 1849 г. разам з вершам С. Казьмяна, але... пад прозвішчам С. Казьмяна.

Другі адрасат верша І. Яцкоўскага – Тамаш Аўгуст Алізароўскі (1811–1879) – іграў куды больш сціплую ролю на эміграцыйнай лонданскай сцэне. Пасля паўстання 1830–1831 г. ён доўгі час хаваўся (хоць і ўдалося выдаць у 1836 г. у Кракаве зборнік *Poezje*) ад аўстрыйскіх уладаў, якія па патрабаванні царызму пераследавалі былых паўстанцаў, а пасля выслалі яго з Трыесту ў Лондан. Жыў вельмі бедна, з 1838 г. па 1846 г. атрымліваючы дапамогу ад брытанскага ўраду і служачы ў цыгарэтнай лаўцы. Пры гэтам, аднак, браў чынны ўдзел у працы эміграцыйных таварыстваў: быў дырэктарам Таварыства Трэцяга Мая ў Лондане, рэдактарам газеты “Trzeci Maj”, сябрам камітэту і намеснікам сакратара Ogółu Emigracji Polskiej, віцэ-старшынём Польскага гістарычнага кола ў Лондане. З І. Яцкоўскім ён мог пасябраваць, дзякуючы сумеснаму супрацоўніцтву з выданнямі Адама Чартарыскага і іх агульнай прыхільнасці да Hotelu Lambert.

У лонданскім эміграцыйным асяродку Т. Алізароўскі быў адным з самых вядомых польскіх паэтаў. Вялікаю папулярнасцю карысталася ягоная паэма *Zawerucha* са зборніка *Poezje*, заснаваная на ўкраінскіх народных паданнях, а таксама творы са зборнікаў *Exercycye poetyckie* (Лондан 1839), *Woskresenki* (Парыж 1846).

---

[1] Іхнія імёны згадваюцца ў вершы, а прозвішчы будуць пазней (1852) змешчаны ў ягоным тытуле.

[2] А менавіта – да Зыгмунта Красінскага, Адама Міцкевіча і Багдана Залескага.

Цікава тое, што І. Яцкоўскі навязаў блізкія дачыненні з "лонданскімі" паэтамі, хоць і дзялілі іх палітычныя погляды: С. Казьмян быў "дэмакратам", супрацоўнічаў з Ёахімам Лялевелем, а Т. Алізароўскі, як і сам навааградчанін, належаў да "арыстакратычнага" таварыства.

У 1845 г. Т. Алізароўскі па запрашэнні Hotelu Lambert пераязджае ў Парыж, яшчэ амаль год атрымліваючы (ці не пры спрыянні І. Яцкоўскага?) дапамогу ад англійскага ўрада, а праз тры гады нечакана пакідае Францыю, спыняецца спачатку ў Дрэздане, а пасля тры гады жыве ў маёнтках генерала Дэзідэрыя Хлапоўскага (1788–1880) Турві ці Юркове, супрацоўнічае з часопісам „Przegląd Poznański". На пачатку 1850-х гг. урад Пазнанскага княства высылае яго з краю: мусіць кіравацца ў Бельгію, а ў 1858 г. – у Францыю.

С. Казьмян пасля рэвалюцыі 1848 г. спакваля аддаліўся ад палітыкі, з дапамогаю ўсё таго ж Д. Хлапоўскага, цесця брата Яна, атрымаў дазвол на пасяленне ў Пазнанскім княстве, куды пераехаў у 1849 г. Спрабаваў ён гаспадарыць у набытым за матчыныя грошы маёнтку, але больш ахвотна займаўся рэдагаваннем (разам з братам) „Przeglądu Poznańskiego" і літаратурнай творчасцю (перакладаў творы У. Шэкспіра).

Відавочна, ведаючы перыпетыі лёсу абодвух калегаў-прыяцеляў, І. Яцкоўскі піша верш, каб – трэба думаць – нагадаць пра сябе. Ён не меў ілюзій адносна свайго паэтычнага таленту, а таму найперш хоча апраўдацца, чаму піша вершам:

O bracia! teraz się dowiecie,
Co tęsknota za Wami zdolna jest dokazać,
Chcę wam serce me odkryć, czucie me pokazać.

Менавіта жаданне адкрыць сэрца, выказаць свае пачуцці і ўклала ў рукі І. Яцкоўскага пяро. Сябры пасля больш чым пятнаццаці гадоў туляцтва нарэшце на польскай зямлі, а таму і ў сэрцы навааградчаніна з'явілася надзея, што і ён трапіць на бацькаўшчыну, што яшчэ здолее паслужыць Айчыне:

Czy to z szablą, czy z kijem, jako wola Boga,
Dozwoli mi powracać pod górę Mendoga,
Ja was w drodze wynajdę, nacieszę się z wami,
Jeśli cieszyć się można, nie śmiechem lecz łzami.

Лірычны герой твора ўсведамляе, што ягонае сённяшняе няшчасце, ягоныя пакуты – гэта несправядлівая "ўзнагарода" за "cnotę" маладых гадоў, за патрыятычны парыў. І адзін Бог мае права асудзіць іх.

Пэўна, І. Яцкоўскі, як чалавек старэйшага пакалення, адчуваў сваю адказнасць перад малодшымі за "нешчаслівыя палітычныя выпадкі", што сталі прычынай эміграцыі, а таму ў творы часта сустракаюцца звароты: не праклінайце нас, даруйце нам, зрабіце лепей, чым мы, не адракайцеся ад нас, бо нас так мала.

У вершы І. Яцкоўскага грамадска-палітычная тэма, нацыянальна-патрыятычная рыторыка пераважае, але паэт не забывае і пра мастацка-вобразнае выяўленне сваіх пачуццяў. Імкнецца выкарыстоўваць метафары, параўнанні і інш.

Jak kwiatek, który na dnie swojego kielicha,
Czując rosę że ta w nim jeszcze nie wysycha –

Dumnie wznosi swe czoło, spiekę wytrzymuje,
Tak ja, skutki przyjaźni waszej w sobie czuję.

Завяршае свой верш І. Яцкоўскі просьбаю, каб С. Казьмян і Т. Алізароўскі мелі ласку захаваць сяброўскія пачуцці да яго.

Увогуле, і змест, і форма твора пакідаюць добрае ўражанне: 55-гадовы паэт прыстойна валодае прыёмамі версіфікацыі. Зрэшты, ці заслугоўвае ён тытулу "паэт"? Можа, дастаткова будзе следам за *Encyklopedja wiedzy ludzkiej* называць І. Яцкоўскага "współczesnym wierszopisem, osiadłym w Londynie"[1]. (Цікава, гэтымі самымі словамі характарызавала ў 1866 г. *Усеагульная энцыклапедыя* Самуэля Аргельбранда[2] А. Рыпінскага.) Гэтае пытанне, аказваецца, можа, стаць не такім простым, калі побач з пасрэднымі польскамоўнымі творамі І. Яцкоўскага ў ягоным творчым даробку стане верш *За́грай, за́грай, хло́пчэ малы́...*, аўтарам якога доўгі час лічыўся П. Багрым, але цяпер шэраг даследчыкаў аргументавана пярэчыць легендзе.

Рукапіс верша *Z Londynu: Do moich przyiacioł w Poznańskiem* захаваўся ў архіве С. Казьмяна. Цікава, што на наступнай старонцы знаходзіцца яшчэ адзін верш І. Яцкоўскага – *Dla Pana Stanisława Koźmiana (w dowód pamięci): Do zmarłych moich przyjaciół, wiersz napisany w 1863*[3]. А г. зн., што І. Яцкоўскі карэспандаваў са сваім прыяцелем на працягу доўгага часу, толькі вось лісты не захаваліся, адно вершы.

Калі ў 1852 г. Аляксандар Рыпінскі і суполка набылі ва ўласнасць друкарню ў Лондане, то верш-пасланне І. Яцкоўскага адразу ж апынуўся на друкарскім станку: першаю кніжкаю сталі перакладзеныя навагрaдчанінам *Zasady religii chrześcijańskiej* (Лондан, 1852), а другою – сумеснае з А. Рыпінскім выданне[4]: першыя 24 старонкі займае пераклад А. Рыпінскага паэмы Дж. Фергюсана *Polska*[5], апошнія шэсць – твор І. Яцкоўскага, які цяпер атрымаў іншы тутул і новую дату напісання[6].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: I. Jackowski, *Z Londynu: Do moich przyiacioł w Poznańskiem* [w:] Rps PAN Kr. 2216: *Wiersze różnych autorów z papierów po Janie i Stanisławie Egbercie Koźmianach*, s. 104–105 v.

---

[1] Цыт. па: Wł. Korotyński, *POWIEŚĆ Z CZASU MOJEGO: Studium literackie*, „Kraj" 1895, t. XXV, nr 17, s. 15.

[2] Rypiński Alexander, *Encyklopedyja powszechna S. Orgelbranda*, Warszawa 1866, t. XXII, s. 602.

[3] Гл.: Rps PAN Kr. 2216: *Wiersze różnych autorów z papierów po Janie i Stanisławie Egbercie Koźmianach*, s. 104–106 v.

[4] *Książki drukarni polskiej w Londynie*, „Przegląd Poznański" 1852, t. 15, z. 7/8, s. 370.

[5] *Polska*, poemat J.C. Fergusona, z angielskiego przełożył A. R., Londyn 1852, s. 1–24.

[6] I. Jackowski, *Do S. Koźmiana i T. Olizarowskiego*: *Wiersz pisany 1850 roku* [w:] *Polska*, poemat J.C. Fergusona, z angielskiego przełożył A. R., Londyn 1852, s. 25–30.

## Z Londynu
## Do moich przyiacioł w Poznańskiem

Jak się mam wam przypomnieć[1], Stanisławie drogi?
W darze nie|mam[2] co posłać, bo wiesz żem ubogi. –
Na pismo warte Mistrzow, także mi nie staie,
Gdyż Pegaz nie|poecie[3] dosiąść się nie daie.
Ja go głaszczę, oswajam i klepię po boku,
A ten wierzga − bo w sakwie nie widzi obroku
Z kądby[4] siły zmocniwszy przybył nieznużony,
Między wasze Pegazy, i nie|był wzgardzony
Od tych, ktore bieglejszych już powyścigały.
Jakąż sławę by[5] zyskał moj Pegazik mały? –

Ja mu prawię o waszej wyrozumiałości,
A ten wierzga a wierzga, pęka się ze złości,
Że się targam ku cuglom – ja, ktory na wozie
Nierazem się wywrócił, kłusując po prozie. –
Z kąd że[6] to mi w łeb przyszło siadać mu na grzbiecie?
Ha! dosiadłem. – O! Bracia teraz się dowiecie
Co tęsknota za wami zdolna iest dokazać,
Chcę wam serce me odkryć, czucie me pokazać. –

Dalej szkapo!.. Lecz brzebog, głowa[7] mi się kręci
To com sobie ułożył straciłem z pamięci –
Lecę w przepaść, niebaczny! wiatr ze mną szaleje –
W miejscu wiersza łza rzewna na papier się leje
Żem tak został[8] daleko od Stasia, Tomasza, –
Los nas rozwiał po swiecie − biednaż dola nasza!
Kiedyż w domu się zejdziem? Kiedy bracia mili,
Wspólnie matce Ojczyznie będziemy służyli?

Kiedy[9] zdania, choć różne, do jednego celu
Sklejać będziem w przyjaźni? – Nas tak iest niewielu

---

[1] У друкаванай версіі: *Jakże się wam przypomnę*.
[2] Тут і далей у друкаванай версіі *nie* з дзеясловамі пішацца асобна.
[3] У друкаванай версіі: *Bo Pegaz nie Poecie*.
[4] У друкаванай версіі: *Zkądby*.
[5] У друкаванай версіі: *sławęby*.
[6] У друкаванай версіі: *Zkądże*.
[7] У друкаванай версіі: *przebóg w głowie*.
[8] У друкаванай версіі: *Że tak jestem*.
[9] У друкаванай версіі: *Kiedyż*.

Co się znamy[1] z złej doby – co scisle się[2] znamy –
Znalismy się w nieszczęściu – a szczęscia nie|mamy!

Ach! nie przeczcie mi prawa do serca waszego –
Bo jeśli to co przeszło iest już do niczego,
Jeśli tyle przebytych zmartwień i nadziei,
Ma pochłonąć niepamięć w zwyczajnej kolei,
Po coż człeku iest dana niesmiertelna dusza,
Ktora tesknić za Krajem, za wami, mnie zmusza? –

Jak kwiatek który na dnie swoiego kielicha
Czując rosę że ta w nim ieszcze nie|wysycha,
Dumnie wznosi swe czoło, spiekę wytrzymuje
Tak ja skutki przyiazni waszej w sercu czuję[3],
Zapominam nieszczęścia, w srod[4] was się przenoszę
Nie o swoje, lecz wasze życie, Boga proszę. −

Bo dopoki połnocny wiatr was nie|wywieje
Jeszcze z wami się ujrzeć mam jakąś nadzieję −
Czy to z szablą, czy z kijem, jako wola Boga
Dozwoli mi powracać pod gorę Mendoga[5]
Ja was w drodze wynajdę, nacieszę się z wami,
Jesli cieszyć się można nie smiechem, lecz łzami. −

Potyrawszy w pielgrzymce me lata i siły,
Sobiem ciężar, i innym gość cale[6] niemiły,
Gdzież się biedny obrócę włoczęga wiekowy?
Przed grobem ja nie|znajdę spoczynku dla głowy
Winnej ziomkom, rodzinie, zdać sprawę z zawodu
Oczekiwań pochlebnych, rojonych za młodu. −

W kwiecie wieku, za cnotę, wyjęty z pod prawa
Błąkam się do znużenia, a gdy iuż ustawa
Siła ludzka, pod własnym brzemienia ciężarem,
Znow się zrywam na nogi, by nie|paść przed Carem,
I nie odkryć słabości zwykłych człowiekowi
Strudzonemu nieszczęściem, blizkiemu grobowi. –

[1] У друкаванай версіі: *Co znamy się.*
[2] У друкаванай версіі: *co się ściśle.*
[3] У друкаванай версіі: *w sobie czuję.*
[4] У друкаванай версіі: *wśród.*
[5] У друкаванай версіі маецца спасылка-тлумачэнне на доле старонкі: *Góra, czyli grób Mendoga, Xięcia Litewskiego, pod Nowogródkiem.*
[6] У друкаванай версіі: *wcale.*

O! roku osimsetny trzydziesty i pierszy[1]!
Nadzieje twe nie takich warte były wierszy
Gdyśmy domy rzuciwszy i wszelkie widoki
Rozleli się po Litwie jak bystre potoki. −

Niemen cały był wezbrał w gorę swoie wody
Grozno było! wesoło! − Dzis Niemen jak wprzody
Płynie własnem korytem. − My, przedarłszy gory
Odcięci od łożyska lotnimy się w chmury
Dziwnych jakichś uroień, i jak deszcz spadamy
Zalać krwawo te niwy, ktore tak kochamy. −

Bog nas za to osądzi − bo ludzie nie mogą
Przepisać człowiekowi jaką ma pojść drogą. −
Wstrzymajcież się[2] z wyrokiem, co zdania czynicie,
Trafnie niby na pozor, lecz ieszcze nie|wiecie
Tajemnej woli Bożej, ktora przez cierpienia
Prowadzi ulubieńca w przybytek zbawienia. −

Może cierpim za swoje i za wasze złości −
Nie klnijcie! bo nie|wiecie działań Opatrzności. −
Może nasze karanie bydź dla was nauką
Jak Kraj zyskać, i jaką urządzić go sztuką
Aby zgodnie na wewnątrz i zewnątrz z słusznością
Naród cały zasłynął cnotą, a nie złoscią[3]. –

Nim to wszakże nastąpi, chcę sobie rokować,
Że mi stałą swą przyiaźń zechcecie zachować. –
Ja was proszę o co mi prosić się nie godzi
Bo przyiaźń się nie z proźby, lecz z szacunku rodzi[4].
A więc sobie postąpcie jak wam się wydaje –
Skończyć muszę, bo Pegaz moj całkiem ustaie. –

Wasz Ign. Jackowski
15 Pazdziernika 1849.

[1] Таксама і ў друкаванай версіі: *pierszy*.
[2] У друкаванай версіі: *Wstrzymajcie sięż*.
[3] У друкаванай версіі наступная страфа пачыналася радкамі:

*Daj Boże! by się na nas nieszczęście kończyło,*
*W téj wierze cierpieć srożej i umrzećby miło.*

[4] У друкаванай версіі верш завяршаўся наступнымі двума радкамі:

*Czylim na ten zasłużył, niech serce wam powie,*
*Ja zaś kończę modlitwą: niech BÓG da wam zdrowie!*

# Вершаваная гісторыя Рэчы Паспалітай канца XVIII – першай трэці XIX стагоддзя

Гэта самы вялікі па аб'ёме твор І. Яцкоўскага. Ён складаецца з 413 радкоў, напісаных чатырохстопным харэем (417-ці, калі ўлічыць дапісаную страфу ў адным з асобнікаў рукою праўдападобна аўтара). Упершыню пад тытулам *Obraz usiłowań Polaków od rozbioru Polski* прыгаданы ў часопісе „Przegląd Poznański"[1]. 28 лютага 1852 г. І. Яцкоўскі прачытаў яго на абедзе w Free Masson's Tavern[2] у Лондане з аказіі ахвяравання суайчыннікамі пярсцёнка сакратару Літаратурнага таварыства сяброў Польшчы Каралю Шульчэўскаму (1813–1884). Надрукаваны ў тым жа годзе ў лонданскай друкарні А. Рыпінскага і суполкі.

Пачынаецца твор уступам, які нагадвае пачатак велікоднага верша *23 сакавіка 1845 года*, але радкі, напісаныя ў 1852 г., больш аптымістычныя: усё дзеецца паводле Божае волі, таму не трэба наракаць на мінулае і шукаць прычыны сённяшняга нэндзнага стану. Апошнія дзве страфы ўступу непасрэдна прывязваюць верш да ўрачыстасці ў гонар К. Шульчэўскага. Думаецца, што ўступ (як і заключэнне) паэт напісаў дзеля раней створанага тэксту.

Сам твор складаецца з пяці частак, ці малюнкаў, з якімі наратар па чарзе знаёміць чытача (слухача).

У першым малюнку расказваецца як пасля паражэння пад Мацэёвіцамі генерал Ян Генрык Дамброўскі пры падтрымцы Банапарта фарміруе польскае войска (студзень 1797 г.). Але польскі легіён пацярпеў паражэнне пад Мантуяй (ліпень 1799 г.), а пасля пад Нові (15 жніўня 1799 г.). Праўда, хутка Дамброўскі з Князевічам утвараюць яшчэ два легіёны, аднак паводле трактату, заключанага яшчэ 18 кастрычніка 1797 года ў вёсцы Кампа-Форміа ў Італіі, іх расфарміроўваюць і адпраўляюць у Сан-Ямінга (французская калонія на востраве Гаіці), каб задушыць паўстанне. З гэтай прычыны і нараджаецца першая непрыязь героя-наратара да французаў.

Другі малюнак апавядае пра пачатак XIX ст. „Upodleni" французы схілілі галовы перад імператарам Напалеонам, які пачынае вайну за перадзел свету. У жыхароў былой Рэчы Паспалітае з'яўляецца надзея: а, можа, аўстрыяк, маскаль і прусак таксама будуць пераможаны ўладаром французаў? Найперш пачынаецца "менуэт пад Аўстэрліцэм", але „Franciszek ukorzony" прызнае імператарскі тытул Банапарта. Прыкладна тым жа самым завяршаецца і паход на

[1] *Książki drukarni polskiej w Londynie*, "Przegląd Poznański: Pismo sześciotygodniowe", t. XV, 1852, s. 372.

[2] Больш дакладна: Freemasons' Tavern (Таверна вольных муляроў-масонаў), адкрытай на Great Queen Street у 1775 г. як месца спатканняў для разнастайных арганізацый.

Прусію: за прызнанне тытулу Напалеон аддае Беласток Расіі, а за паслугі палякаў утварае Вялікае Княства Варшаўскае. Аднак радасць застаецца нядоўгаю, “Bo wyrokiem tego Pana, // Polak został zbrodni sługą // I musiał iść na Hiszpana”.

Наратар абураны, што, па-першае, Напалеон пасылае польскае войска на іспанцаў, а па-другое, што Польшча, паводле Напалеона, толькі да Нёмана, што імператар мае сваё меркаванне пра палітычную геаграфію краю. За гэта, на думку аўтара, французскі імператар будзе пакараны: “Bóg cię skarze jak Judasza”.

Дамброўскі і Заёнчак у згодзе з Панятоўскім ізноў збіраюць польскае войска, якое перамагае аўстрыякаў, а Напалеон “z wojskiem wchodzi // W Wiedeń niczem nie broniony, // Lecz się w dumnem sercu rodzi // Chętka w Wiedniu szukać żony”.

Далей тагачасныя падзеі наратар падае ў форме дыялогу Напалеона і ягонага цесця, аўстрыйскага імператара. Апошні просіць Банапарта не адраджаць Польшчу. Словы, якія І. Яцкоўскі ўкладвае ў вусны Напалеона, гавораць пра разуменне паэтам палітычнай гульні, якую вёў французскі імператар:

„Smiej się z tego mój Teściku”, –
Napoleon odrzekł dumnie, –
„Wielkich planów jest bez liku,
Ale głupstwa nie ma u mnie.
Gdybym Polskę miał przywrócić,
Polacy jejby służyli,
Musieliby mnie porzucić,
A temby mnie osłabili”.

“Эпохаю разводу і вяселля” І. Яцкоўскі завяршае гэты малюнак свае *Панарамы*.

Наступны, трэці, малюнак дае агульную характарыстыку паходу Напалеона ў 1812 годзе. Палякі горача вітаюць імператара. Праўда, старэйшыя не вельмі вераць Напалеону, бо, па-першае, “za Niemnem w biuletenie, // Rzekł, «W MOSKIEWSKIEJ JEST KRAINIE!»”, а па-другое, “Wojska polskie poczwiartował, // Po francuskich wojskach schował, // By się razem nie zebrali, // Przeciw zdrajcy nie powstali”.

Паэт не мае намеру падрабязна апісваць паход Напалеона. Ён глядзіць на ўчынкі імператара адно праз прызму надзеі на адраджэнне Рэчы Паспалітае. Уцёкі французаў з Масквы апісваюцца І. Яцкоўскім толькі дзеля таго, каб яшчэ раз папракнуць імператара, але нават называючы яго здраднікам, паэт-наратар усё ж не можа канчаткова адрачыся ад яго (як гэта зрабілі іншыя) і гатовы да апошняга абараняць Напалеона. Бо Бог загадаў прабачаць.

У чацвёртым малюнку апавядаецца пра тое, як пасля Венскага кангрэсу польскае войска вяртаецца на радзіму, дзе тагачасныя ўладары Еўропы стварылі гэтак званую “Кангрэсоўку”. Усе цешацца з гэтага і спадзяюцца на большае. І. Яцкоўскі называе вядомых генералаў, вайскоўцаў, што пабадзяўшыся па свеце, урэшце вяртаюцца, каб служыць краю. Праўда, вяртаюцца не ўсе, шмат хто загінуў на чужыне, сярод іх – і князь Панятоўскі.

Чацвёрты малюнак – своеасаблівая прэлюдыя да пятага. Тут зноў гаворка пра войска, бо дзе войска – там сіла. Але адначасна аўтар паказвае, як складана

служыць, не прыслугоўваючы ворагу: шэраг вайскоўцаў занядбалі свой абавязак перад краем, здрадзілі народу. Яны “Narodową plagą byli”. А таму невыпадкова, “Gdy Listopad wnet wystrzeli, – // Znikli w mojej Panoramie, // Więcejśmy ich nie widzieli”. Бясспрэчна, І. Яцкоўскі мае на ўвазе пакаранне смерцю паўстанцамі ў 1830 г. некалькіх польскіх генералаў, якія шчыра служылі царызму.

У сваім творы І. Яцкоўскі ў першых трох раздзелах выяўляе свае антыбанапартаўскія настроі, а ў двух апошніх – свой пункт гледжання на праблему патрыятызму. Відавочна, падтрыманне патрыятычнага духу было найбольш важным для І. Яцкоўскага. А таму менавіта гэтым матывам ён завяршае свой твор. Цікава, што паэт у якасці ўзору для наследавання падае выгнаннікам патрыятызм сялян:

Uręczmyż się, o! Rodacy!
Jak jesteśmy w tem tu kole,
Kochać kraj swój jak wieśniacy,
Co ubogą orzą rolę.

А ў фінальнай частцы верша гучыць зварот да К. Шульчэўскага любіць свой край (“Polska jest to nasza rola”) і тлумачэнне сэнсу ахвяраванага пярсцёнка:

Obraz myśli jest w pierścieniu.
 Jak ten nigdzie się nie kończy,
Choć obwódka bardzo mała;
Tak niechaj nas przyjaźń łączy,
Niech nas krzepi Polski chwała.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: *Panorama, wiersz czytany przez p. Ign. Jackowskiego dnia 28 lutego 1852 roku, na obiedzie w Free Masson's Tavern w Londynie, z okazyi ofiarowania pierścienia Panu Karolowi Szulczewskiemu, sekreterzowi Tow. Literackiego, przez jego rodaków*, Londyn, w drukarni A. Rypińskiego i spółki, 5, Grove Place, Tottenham, 1852, 24 s.

# PANORAMA,

**wiersz czytany przez P. Ign. Jackowskiego dnia 28 lutego 1852 roku,
na obiedzie w Free Masson's Tavern w Londynie;
z okazyi ofiarowania pierścienia panu Karolowi Szulczewskiemu
sekretarzowi Tow. Literackiego,
przez jego rodaków**

Londyn
w drukarni A. Rypińskiego i Spółki,
5, Grove Place, Tottenham
1852

## Wstęp.

Przyjaciele! Bracia mili!
Po cośmy się zgromadzili?
Czy o klęskach rozpowiadać?
Głębszą ranę sercu zadać?

Czy o latach upłynionych
Na wygnaniu, w poniewierce?
O nadziejach zawiedzionych?
O! przestańmy, boli serce!

Serce boli, łza się sączy,
Ale łza to niehaniebna,
Szczęście, smutek łzą się kończy,
A więc i łza jest potrzebna.

Co tu prawić o wzdychaniu?
Boska wola chciała skryta,
Byśmy byli na wygnaniu,
A więc jesteśmy – i kwita.

Dziś jest bankiet, czy wesele,
A przynajmniéj zaręczyny,
Zatém kiedy przyjaciele
Nikt nie śpiewa z téj przyczyny,

Pozwólcież mi w Panoramie,
Losy Polski wam przedstawić,
Ja przybieram wieszcza znamie
By skuteczniéj was zabawić.

## PANORAMA.

I.

Oto pierwszy skręt rozwijam –
Patrzcie, jak się tam gromadzą
Z Maciejowic, którym sprzyjam,
Niedobitki i coś radzą[1].

A Dąbrowski listy pisze
Do młodego Bonaparty,
Bo on tylko jest, jak słyszę,
Naszych wrogów wróg zażarty.

Patrzcie Legion jak się rodzi,
Dzięki tobie wielki Boże!
Kto jest Polak to weń wchodzi
By w nim służyć, jako może.

Ten na koniu, ten piechotą,
Idzie służyć swéj Ojczyznie,
Patryotyzm tylko cnotą,
Piękność miła tylko w bliźnie.

---

[1] У асобніку, які колісь захоўваўся ў бібліятэцы Muzeum Polskie w Rapperswilu, пасля гэтай страфы рукою І. Яцкоўскага дапісаныя наступныя радкі:

Radzą oni o swym Kraju,
Co sąsiedzi rozgrabili,
Za Ustawę, jaką Maju
Cni Polacy ogłosili.

I ochotnie zaśpiewali:
„Jeszcze Polska nie zginęła”,
I twarzą się skierowali
W stronę gdzie ich krew płynęła.

Idą, idą – spotykają
Suwarowa okrutnego,
I pod Novi napadają
Jakby jakie lwy na niego.

Poniósł olbrzym stratę wielką,
Lecz Legion prawie zginął,
Francuz zwał to bagatelką,
Bo tym kosztem się wywinął.

Ach! tam w prawo patrz, dla Boga!
Mantua biedna się poddaje,
A Francuz tam w ręce wroga
Część załogi swéj wydaje.

A wszakże to są Polacy,
Którzy przeszli od Austryi,
Za to teraz Austryacy
Nie żałują dla nich kii.

Tu Dąbrowski z Kniaziewiczem
Układają w swojéj głowie,
By się nie zrażając niczém,
Znowu skupić polskie mrowie.

Więc odezwy publikują,
Rozsyłając w różne strony,
Aż się w krótce znów sformują
Dwa ogromne Legiony.

Lecz traktat w Campoformia,
Przez Konsula podpisany,
Z nadzieją polską się zmija,
Legion jest rozebrany,
W różne służby darowany.

O! Francuzi, niewdzięcznicy!
Jakąż zbrodnię dopełniacie,
W Sant-Domingo, gdzie są dzicy,
Resztki naszych wysyłacie!

Wysyłacie na pobicie
Nieznośnéj wam ich wolności,
Uczuć polskich nie cenicie,
Bo nam wolność dar świętości;

Nam krwi przelać się nie godzi
Tam gdzie grzechem jest swoboda,
Za to się wam tyran zrodzi,
I was samych w więzy poda.

Na tym karta się skończyła
Legionów i ułudy,
Że się polska krew toczyła
Za Ojczyznę i za ludy.

II.

Kartę drugą wam rozwinę –
Patrzcie, Cezar się pojawia,
Dumną postać, dumną minę,
Dumną wolę swą objawia.

A Francuzi upodleni,
Pochylili przed nim czoła,
I po świata wszéj przestrzeni
Ryknęła wojna dokoła.

I korony zastarzałe,
Z głów co dotrwać nie zdołały,
Na krewniaków główki małe
Jako czaple pospadały.

Może to się na co przyda?
Może w krótce w Austryjaka
I w Moskala, i w Prusaka,
Za rozbiór nas trafi biéda.

Oto Manuet się poczyna,
Od Austerlic aż do Widnia,
Pojdziemy na Moskwicina,
Nadzieja nam się rozwidnia.

Lecz Franciszek ukorzony
Przyznał tytuł Bonaparcie,
I skonczyły się zagony
Rozpoczęte tak zażarcie.

Prusak coś tam pomrukuje,
Podżegany od północy,
Imperator rzekł: spróbuję
Jakiéj też ty jesteś mocy?

I z pod Jenna do Berlina,
Wójsk francuzkich ciągną chmury,
Bez pomocy Moskwicina
Uciekają Brandebury

Więc w Poznaniu i w Warszawie
Lud biedny nasz się pocieszył,
Lecz w radości pełnéj wrzawie,
Napoleon serce przeszył.

Bo za tytuł mu przyznany
Białystok dał Moskalowi,
A z tym wrogiem pojednany,
Łowickie dał Dawustowi.

A zaś Polsce dał Warszawę,
Pod imieniem Wielkie Xięstwo.
Radość weszła w serca prawe,
Podniosło się nasze męztwo;

Lecz ten urok nie trwał długo,
Bo wyrokiem tego Pana,
Polak został zbrodni sługą
I musiał iść na Hiszpana.

Na Hiszpana!? wojny sprawco!
Czemuż wiedziesz Polskie plemie?
Chciéj ich potrzeb stać się znawcą,
Daj im Polską bronić ziemię!

Gdzie tam, gdzie tam - naprzód wiara,
Przez Saragos do Madrytu,
Bo potrzebna jest ofiara
By u szczęścia stanąć szczytu.

Cesarz ma was we swym względzie,
Patrzeć na was mu przyjemnie,
Czemuż zdrajco! że nie będzie
Polski wyrzekłeś na Niemnie?

Bóg cię skarze jak Judasza,
Żeś się zmówił z grabicielem:
Ufność nasza, i krew nasza
Będą krzywdy téj mścicielem.

Spójrzyj tylko w Pireneje,
Grupy jak śnieg tam znikają:
Ale, nie śnieg to topnieje,
To twe wojska uciekają.

Zagryź palce więc ze złości!
Wiarołomna bowiem żmija
Upatruje twe słabości,
Przewrotna jak ty Austryja.

Zbiera w kupę swe pierścienie,
A unika wszelkiej wrzawy,
By przez jedno wyprężenie
Z Włoch cię wyprzeć i z Warszawy.

Tu Dąbrowski i Zajączek
Z Poniatowskim się zgodzili,
By jak kłosy w snopka pączek
Wojsko Polskie zgromadzili.

Pod Raszynem grzmią harmaty,
Zerwała się Galicyja,
I już potłuczona w szmaty,
Rozciągnęła się Austryja.

Napoleon z wojskiem wchodzi
W Wiédeń niczém nie broniony,
Lecz się w dumném sercu rodzi
Chętka w Wiédniu szukać żony.

Cóż to szkodzi że żonaty,
Cesarzównę chce zaślubić?
Z bronią w ręku przyszły swaty,
A więc zięcia trzeba lubić.

Nie ma głosu zwyciężony,
W ród swój przyjmie Korsykana,
Dobrze że zażądał żony
I że chce ją wziąść bez wiana.

Tylko Polski niech nie wskrzesza,
Co od Turków nas broniła,
Bowiem to nas nie pociesza,
Że jéj coraz wzrasta siła.

„Smiéj się z tego mój Teściku,”
Napoleon odrzekł dumnie,
„Wielkich planów jest bez liku,
„Ale głupstwa nie ma u mnie.

„Gdybym Polskę miał przywrócić,
„Polacy jéjby służyli,
„Musieliby mnie porzucić,
„A témby mnie osłabili.

„Nie wskrzesi jéj kto bez ducha,
„A kto z duchem ten rozumie,
„Że słów pięknych Polak słucha,
„Lecz sił pojąć swych nie umie.

„On się zawsze przy tym czepia
„Kto go durzy i uwodzi,
„Obca sprawa go zaślepia
„I tém zawsze sobie szkodzi.”

I tu karta się skończyła,
Hymen łoże mu uściela,
A epoka nastąpiła,
I rozwodu i wesela.

Obraz trzeci się roztacza...
Ta figura, co naprzedzie,
Imperator − w Polskę wkracza,
Pięć kroć sto tysięcy wiedzie.

A wiedzie ich na Moskala,
Co z Aglikiem figla stroi,
Otóż wojna się zapala,
A on wojny się nie boi.

Aż drży ziemia pod harmatą,
Pod stąpaniem ludów wielu −
Długośmy czekali na to,
Będzie Polska, przyjacielu!

Biuletyny się czytają,
Nakazane uzbrojenie,
Młodzi wzajem się żegnają,
Niosą życie i swe mienie.

Czemuż starzy się gniewają,
Że wskrzeszenie tak się wlecze,
I do Wilna wysyłają
Pytać co się im przyrzecze?

Cesarz zląkł się Komisarzy,
Którzy tam się go spytali:
Czyli Polską nas obdarzy
Gdy pobijemy Moskali?

On niechętnie się tłumaczy,
Swém „jeżeli” mydli oczy,
Co odpowiedź jego znaczy
Nichaj zgadnie duch proroczy.

III.

Podejrzliwsi powiadają
Że ufności w nim nie mają,
Bo za Niemnem w biuletynie,
Rzekł, *w Moskiewskiej jest krainie!*

Wojska polskie poczwirtował,
Po francuskich wojskach schował,
By się razem nie zebrali,
Przeciw zdrajcy nie powstali.

I rozległy się płomienie
Po przestrzeni widnokręga,
Słychać tylko ziemi drżenie,
Oko łuny ledwie sięga.

Coraz daléj, coraz daléj
Posunęła się Belona,
Pewno zbito już Moskali,
Wojna straszna zakończona!

Ale czemuż, o! dla Boga!
Łuna znowu się przybliża?
Skądże się rozchodzi trwoga,
I z obłoków sęp się zniża?

Ach! to trupy tam padają,
I od zimna i do głodu,
To Francuzi powracają
Od Północy do Zachodu.

Cesarz z kijem im przodkuje,
Już piechotą, nie na koniu,
Szczęście ci już nie statkuje,
W miejscu trawy, śnieg na błoniu.

Jakby teraz się przydało,
Gdyby Polska cię podparła?
Wojsko ją twe zrabowało,
Polska leży jak umarła!

Duszęś wyrwał jéj z nadzieją,
Gdyś wymówił swe „Jeżeli,”
Jéj to wrogi dziś się śmieją,
A Polacy cię przekleli.

Potępieńcze nieszczęśliwy,
Wynosisz się dziś jak zbrodzień,
Ale Polak nie jest mściwy,
Choć litości tyś niegodzien.

My cię z szczęściem nie odstąpim,
Gdy cię wszyscy odstąpili,
Wiele sił w nas cię zastąpim,
By się wrogi nie pastwili.

Dość Cesarzu Bóg cię karze,
Nie nagrodzisz coś zawinił,
Przebaczyć nam Chrystus każe,
„Boś nie wiedział coś uczynił...”

IV.

Teraz obraz wcale inny,
Wojska nasze powracają.
Sprzymierzeni ogłaszają,
Że im Polak byt swój winny.

Dzięki Boże ci i za to,
Kongresówkę będziem mieli,
Pocieszmy się tą zapłatą,
Za to coś my wycierpieli.

Może z czasem się rozszerzym,
Pozyszczemy kraj nasz cały,
My w twą dobroć Boże wierzym,
Wróćże nam kraj dla twéj chwały.

Jakiż piękny mąż na przedzie,
Tych rycerzy do nas wiedzie?
Każdy krzyżmi oczepiany!
Ach! Krasiński to kochany.

Pan Wincenty! któż go nie zna?
Za młodu kochanek Drezna,
Dzielny w boju, dzielny w radzie,
Najdzielniejszy na biesiadzie.

A tu przy nim Sokolnicki,
I Umiński i Chłopicki,
Kozietulski z kitą zwisłą
Przestrzeloną nie nad Wisłą.

I któż wszystkich was wyliczy,
Boże wielki dzięki Tobie!
Zdrowia, szczęścia każdy życzy
− „A wieleż was legło w grobie?

A Wódzże wasz gdzie zostaje?
Czemu widzieć się nie daje?”
− „Wódz nasz jedzie w karawanie.
Rozstąpcie się piękne panie,

Niech te konie co w żałobie
Przejdą z Xięciem do Swiątnicy,
A wy ten dar złóżcie w grobie,
Co wam wieziem z zagranicy.”

Na te słowa z rozczuleniem
Mieszkańcy wóz otoczyli,
I z pobożném uklęknieniem,
Wieczny pokój odmówili.

V.

Jeszcze karta się została,
Którą muszę wam rozwinąć,
Polska inny kształt przybrała,
Nie możemy go ominąć.

Inne teraz, inne czasy,
Tu na Saskim Placu harce,
A Dąbrowski wszedł w zapasy
Z Konstantynem zgodzić starce.

Bo na sercu mu to leży,
Aby wojsko uformować
I naukę dać młodzieży
Jak Ojczyznę uratować.

Gdyż gdzie wojsko, tam jest siła,
A gdzie siła, tam zwycięstwo,
Lecz naszym się uprzykrzyła
Tyrania, okrucieństwo.

Tam Zajączek z nogą z drzewa,
Na starość gra w vice-króla,
Jest zmartwiony, coś się gniewa,
Że Konstanty bardzo hula.

Lecz dowiedź się miły Bracie,
Królikarnia ta nie dla cię,
W niéj Kostusia trzeba bawić,
Lub w Kronsztacie go zadławić.

Może tu się on nauczy
Być grzeczniejszym – bo Polacy
Jak wiadomo, są Junacy,
Nastraszą go jak dokuczy.

Może widok sam rycerza,
Co posiwiał w polu chwały,
Ułagodzi tego zwierza,
Nie będzie on tak zuchwały.

Lecz jak przykro jest malować,
Co on mógł tam dokazować.
Więc opuszczę te obrazy,
W których dla nas tyle skazy.

Skazą to jest charakteru
Być cierpliwym nazbyt długo,
Lub dla stopnia i orderu
Zostać wroga swego sługą.

Jakaż szkoda że Krasiński
I Rożniecki Jenerali,
Zapomnieli czym był Gliński,
Konstantemu pochlebiali.

Położenia nie cenili,
Jak to ceni patryota,
I w służalców się zmienili,
A służalstwo – jest niecnota.

U nich Xiąże był wyrokiem,
Co on myślał, ci czynili,
I pod mściwém Xięcia okiem
Narodową plagą byli.

Może tylko chorowali
Na te to *Ja* – Ludzie mali!
Jak Xięciu się spodobali
O nikogo już nie|dbali.

Patrzcie, co się z nimi stanie,
Gdy Listopad wnet wystrzeli, –
Znikli w mojéj Panoramie,
Więcéjśmy ich nie widzieli.

## ZAKOŃCZENIE.

Któż wie co się jeszcze zdarzy?
Nie chwalmy się z przewidzenia,
Może z nas być kto na straży
Potrzeb kraju i Imienia.
Uręczmyż się, o! Rodacy!
Jak jesteśmy w tém tu kole,
Kochać kraj swój jak wieśniacy,
Co ubogą orzą rolę.
Oni jéj się nie zrzekają,
Choć plon pracy nie nagrodzi,
O świtaniu do niéj wstają,
Schodzą, gdy słońce zachodzi.
Przed obcemi nie powiedzą,
Jakie wady ma ich ziemia,
Bo ci wzgardą się uprzedzą,
A na wzgardę rady nie ma.

Pozwólcież mi do Karola,
W Waszém Bracia rzec Imienieniu:
Polska, jest to nasza rola;
Obraz myśli jest w pierścieniu.
Jak ten nigdzie się nie kończy,
Choć obwódka bardzo mała;
Tak niechaj nas przyjaźń łączy,
Niech nas krzepi Polski chwała.
A gdy szczęśnie dokonamy,
Dziś trudnego dla nas dzieła,
Wtenczas chórem zaspiewamy:
„Otóż Polska nie zginęła!”

# І. Яцкоўскі (?), *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...*

Мы не ведаем дакладна, хто напісаў верш *За́грай, за́грай, хло́пчэ малы́*...

На нашу думку, Паўлюку (Паўлу) Багрыму твор прыпісваецца беспадстаўна. На сённяшні дзень даследчыкі не выявілі аніводнага дакумента, які б сведчыў пра датычнасць П. Багрыма да славутага верша. Фактычна, Аўгусцінас Янулайціс (1878–1950) у 1913 г. на падставе ўскосных сведчанняў стварыў легенду. Прычым так, што пазнейшыя даследчыкі нават не "заўважылі" гэтага. Літоўскі гісторык, даведаўшыся пра публікацыю Вацлавам Ластоўскім у "Нашай Ніве" перакладу-пераказу[1] XXIX раздзела *Працяг. Ксёндз Магнушэўскі. Юрага. Паэт Пётрак* кнігі І. Яцкоўскага *Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды*, параўнаў яго з вядомымі яму архіўнымі матэрыяламі пра сялянскі бунт у 1820-я гг. у мястэчку Крашын і давёў, што прататыпам паэта Пётрака з кнігі І. Яцкоўскага з'яўляецца рэальная асоба – Павел Багрым. Адначасна ён нідзе наўпрост не сцвярджае, што верш *За́грай, за́грай...* напісаў П. Багрым. І. Запрудскі, які быў адным з першых, хто звярнуў увагу на патрэбу навуковага падыходу да "зацверджанай" савецкай ідэалогіяй легенды, палічыў нават, што "А. Янулайціс не назваў П. Багрыма аўтарам верша *Зайграй*..., бо наяўныя дакументы падстаў для гэтага відавочна не давалі"[2]. Аднак гэта не зусім так. Па-першае, свой артыкул А. Янулайціс назваў *Аб маладым паэце з Крошына*, відавочна маючы на ўвазе не толькі Пётрака, а менавіта Пётрака і Паўла Багрыма ў адной іпастасі. Па-другое, у артыкуле ён піша: "Хлопчыкі пачынаюць пісаць вершы, яны то стараюцца пісаць на спадобу тых арыгіналаў, што чыталі, то зноў пробуюць напісаць сваё, беручы тое, што яны самі чулі і бачылі. З ліку гэткіх хлопчыкаў вядомы нам толькі адзін, Павел Багрым. Будучы ў школе, ён вельмі любіў пісаць вершы. Многа вершаў з Нарушэвіча, баек Эзопа і інш. умеў ён на памяць; перапісваў, што пападалася, не толькі друкаванае, але і рукапіснае. (Вершы і песні пападалі ў Крошын рознымі шляхамі. Адны браліся з кніг, другія хадзілі ў рукапісных запісах; гэтак было з вершам *Размова мужыкоў*)[3]. Яго, пачынаючага думаць, душыла цяжкая мужыцкая доля, і гарэлі вочкі, калі перапісваў словы і вершы аб мужыцкай свабодзе. <...> У аднаго з вучняў, Багрыма, знайшлі вершы, якія паказаліся падазронымі. <...> Кс. Магнушэўскі стаў хваліць

---

[1] Гл.: *Пятрок з Крошына*, "Наша Ніва" 1911, № 30 (28 ліпеня). У версіі грамадзянскім шрыфтам артыкул надрукаваны без подпісу аўтара, беларускаю лацінкаю падпісаны – *Włast*.

[2] І. Запрудскі, *Пытанні атрыбуцыі, паэтыка і эстэтыка верша Зайграй, зайграй хлопча малы*... [у:] І. Запрудскі, *Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 2003, с. 11.

[3] Тэкст, пададзены ў нас у дужках, змешчаны ў А. Янулайціса ў зносцы.

Паўла Багрыма, што ён болей вершаў ведае на памяць, а не толькі тыя, што ў яго ўзялі”[1]. На жаль, у дадзеным фрагменце пераважаюць здагадкі і фантазія гісторыка, бо ні ў І. Яцкоўскага, ні ў архіўных крыніцах мы не сустракаем інфармацыі пра тое, што: 1. хлопчыкі школы кс. Магнушэўскага пісалі вершы; 2. што П. Багрым вучыўся ў школцы; 3. што П. Багрыма “душыла цяжкая мужыцкая доля” (быў ён мешчанінам і слугою ксяндза В. Магнушэўскага); 4. што знайшлі ў П. Багрыма вершы (насамрэч, ён прачытаў па сваёй ініцыятыве *Rozmowu Chłopow*, бо кс. Магнушэўскі прасіў дэкламаваць “розныя байкі, а той прастадушна расказаў на памяць і гэтыя вершы”[2], а пасля перапісаў твор Я. Баршчэўскага па загаду чыноўніка); 5. што кс. Магнушэўскі хваліў П. Багрыма пасля таго, як у хлапчука ўжо “ўзялі” нейкія вершы.

Аднак на дадзеныя неадпаведнасці ніхто з літаратуразнаўцаў і гісторыкаў не звяртаў увагі. Відаць, больш істотным было тое, што створаны А. Янулайцісам вобраз “сялянскага паэта” адпавядаў сацыялістычнай ідэалогіі прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага руху (таксама і пазнейшай камуністычнай уладзе на Беларусі). М. Гарэцкі ў 1920 г. коратка пераказаў артыкул з “Маладой Беларусі” ў сваім падручніку *Гісторыя беларускае літэратуры*[3], а таксама даў кароткую характарыстыку “твораў” П. Багрыма: верша *За́грай, за́грай...*, *Гутаркі Данілы са Сцяпанам* ды *Размовы пана з мужыком*. Хто “ініцыяваў” павялічэнне творчага даробку П. Багрыма? М. Гарэцкі спаслаўся на няпэўнае “кажуць”, а вось Я. Карскі[4], які ў сваёй працы, выдадзенай у 1922 г., таксама даў адмысловы, хоць і невялікі, раздзел *Павел Багрым*, выкарыстоўвае “сведения” Р. Зямкевіча[5].

Істотным для легенды было і тое, што М. Гарэцкі “пераіменаваў” Паўла Багрыма ў Паўлюка. Такое адметнае гучанне імя героя легенды спрыяла пашырэнню гісторыі пра таленавітага падлетка, талент якога загубілі паны-

---

[1] А. Янулайціс, *Аб маладым паэце з Крошына*, “Маладая Беларусь” 1913, сер. I, сш. 3, с. 9–15.

[2] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 202.

[3] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры*, Вільня 1920, с. 59–62.

[4] Нам не ўдалося пазнаёміцца з усімі публікацыямі Я. Карскага па гісторыі беларускае літаратуры, якія ён змяшчаў у газеце “Беларусь”. Перадусім, цікавасць выклікае № 7 выдання (за 13 студзеня 1920 г.), дзе друкаваўся працяг артыкула *Беларускія творы Вінцэся Каратынскага* з № 4 газеты, бо менавіта напрыканцы яго маглі быць раздзелы *Г. Арцымоўскі* і *Павел Багрым*.

[5] Е. Карский, *Белорусы*, в 3 т., т. 3, кн. 2: *Очерки словестности белорусского племени*, Минск 2007, с. 301–302. Цікава, што Р. Зямкевіч у 1915 г. жыў у Крашыне, парадкуючы бібліятэку К. Святаполк-Завадскага. Гл.: В. Лабачэўская, *Фалькларыстычны архіў Беларускага музея імя Івана Луцкевіча: Вяртанне праз 65 гадоў* [у:] “Homo Historicus 2012: Гадавік антрапалагічнай гісторыі” 2012, с. 473−474, 484, 486. Як пацвярджэнне – нататка R. Sunicy ў газеце „Biełarus”: “Piszuć da nas. M-ko Kroszyn, Nawahrudzkaho pawietu. Miasteczka naszjae ŭsio katalickaje. Majem piekny kaściol, pastaŭleny wiadomym ksiandzam Magnuszeŭskim, jaki u 1826 hadu szmat dobraho zrabiŭ dla naszych mieszczan, katorych chacieli zapisać da sielan. Pamiać biełaruskaho paeta Paŭła Bochryma dahetul żywieć pamiż nami. Dzie chto i umiejeć jaho wierszy *Zahraj, zahraj, chłopcze mały* na pamiać. 24 maja byŭ u nas kiermasz dy pracessija Bożaho Cieła. Naszyja mieszczania zrabili kolki pieknych aŭtaroŭ u miasteczku”. Гл.: „Biełarus” 1915, № 21–22 (4 czerwienia).

прыгоннікі і царызм, хоць асноўным, вядома, было нібыта сялянскае паходжанне П. Багрыма. А таму ён – першы беларускі сялянскі паэт. Менавіта, “сялянскі”, а не “шляхецкі” і “польскі”, як амаль усе іншыя літаратары Беларусі XIX стагоддзя. Гэтая акалічнасць замацавала ў свядомасці як чытачоў, так і літаратуразнаўцаў дадзеную легенду, што цягам усяго савецкага перыяду непахісна дамінавала: на варце сялянскага паэта стаяла ўся ідэалагічная машына камуністычнага ладу.

Паказальна, што адразу пасля краху савецкай дзяржаўнасці і камуністычнай ідэалогіі з’явілася і першая крытыка легенды: у 1992 г. краязнаўца М. Маліноўскі выступіў у друку з артыкулам пад характэрным тытулам *Ці быў Паўлюк Багрым паэтам?*[1]. Гэта быў зухаваты выпад “ваяўнічага дылетантызму”[2], але ён прымусіў навукоўцаў больш пільна прыгледзецца да праблемы атрыбуцыі верша. У выніку ўзнікла першае грунтоўнае даследаванне[3], у якім былі акрэслены задачы як вывучэння праблемы аўтарства хрэстаматыйнага твора, так і літаратурнае спадчыны Беларусі XIX стагоддзя ўвогуле. У другой частцы даследавання І. Запрудскі паспрабаваў вырашыць пытанне атрыбуцыі верша *За́грай, за́грай*... Ён справядліва звярнуў увагу на лонданскую друкарню-выдавецтва А. Рыпінскага і кампаніі, дзе ў 1854 г. убачыў свет згаданы верш. Праўда, не маючы доступу да архіўных і іншых матэрыялаў, І. Запрудскі пайшоў шляхам “канструявання таго, што магло быць”, на падставе ўскосных сведчанняў. Ягоная гіпотэза (аўтарам верша прапанавалася лічыць Ю. Ляскоўскага[4]) падавалася цікаваю, але на яе карысць не было пададзена аніякіх аргументаў – толькі домыслы-дапушчэнні.

На нашу думку, найбольш верагодным аўтарам верша *За́грай, за́грай*... трэба лічыць Ігнацы Яцкоўскага. Незвычайнасць гэтае гіпотэзы ў тым, што даследчыку, які адважыцца яе распрацоўваць, давядзецца аспрэчваць самога І. Яцкоўскага, які нібыта выразна засведчыў, што пра крашынскія падзеі ў ягонай кнізе апавядаецца бесстароннім назіральнікам, а г. зн. максімальна праўдзіва. Тым не менш, варта паспрачацца з аўтарам, які мог мець свае прычыны выдаваць уяўнае за рэальнае.

Што варта браць пад увагу, аналізуючы архіўныя матэрыялы, літаратурныя крыніцы і навуковыя даследаванні, так ці інакш датычныя праблемы атрыбуцыі верша *За́грай, за́грай*...? Мы можам вылучыць наступнае:

---

[1] М. Маліноўскі, *Ці быў Паўлюк Багрым паэтам*? “Во славу Родины” 1992, 9 сент.

[2] Пачынаючы з 1992 г., М. Маліноўскі надрукаваў некалькі дзесяткаў артыкулаў і кнігу *Павел Іосіфавіч Багрым (Паўлюк Багрым): Легенды, праўда, загадкі* (Баранавічы 2006, 128 с.), у якіх мэтанакіравана імкнуўся дыскрэдытаваць асобу П. Багрыма, прыпісаць яму ролю правакатара ў крашынскіх падзеях 1828 г.

[3] Гл.: І. Запрудскі, *Скажыце, хто Вы?!: Літаратуразнаўчыя абразкі*, “Першацвет” 1996, № 2, с. 112–130.

[4] Гл.: І. Запрудскі, *У пошуках alter ego: Да 170-годдзя з дня нараджэння Юльяна Ляскоўскага*, “Першацвет” 1996, № 7, с. 88–109.

## 1. Мастацкі характар кнігі І. Яцкоўскага *Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды*.

Той, хто прачытаў твор цалкам, пагодзіцца са сцвярджэннем, што кніга І. Яцкоўскага – гэта аповесць, а не ўспаміны. Больш складана здагадацца, што адной з ідэй гэтага мастацкага тэксту з’яўлецца жаданне аспрэчыць *Пана Тадэвуша* А. Міцкевіча, а г. зн. рамантычнае ўспрыняцце падзей “французскае” вайны, якая вялася аніяк не ў інтарэсах Рэчы Паспалітае. Падобная інтэрпрэтацыя гісторыі выразна выяўлецца ў вершы паэта *Панарама*, што папярэднічаў напісанню *Аповесці*... Але не менш важная ідэя, якую імкнуўся давесці свайму чытачу аўтар, – гэта і думка пра жорсткі і несправядлівы лад, які ўсталяваўся на Бацькаўшчыне цягам апошніх дзесяцігоддзяў, лад, які з’яўляецца акупацыйным і варожым не толькі для шляхты, але і для сялян. Невыпадкова, думаецца, з’яўляюцца напрыканцы раздзела пра паэта Пётрака наступныя словы: “Бёрнс, парабак англійскі, пры менш цяжкіх акалічнасцях, уласным талентам, без усялякае навукі, забяспечыў сабе неўміручае імя, а сваёй сям’і – пашану і дастатак; Пётрак з Крашына за талент, дадзены яму Богам, зазнаў самае жорсткае няшчасце!”[1]. На наш погляд, менавіта вядомая І. Яцкоўскаму гісторыя Роберта Бёрнса стала падставаю (роўна як і гісторыя пра следства ў Крашыне над хлапчуком, які перад чыноўнікам „przeczytał poezie własne w ruskim narzeczu”) дзеля стварэння гісторыі паэта Пётрака, якая ў ХХ стагоддзі ператварылася ў легенду Паўлюка Багрыма.

## 2. Літаратурныя здольнасці І. Яцкоўскага.

Ніякіх сумневаў тут быць не можа: корпус апублікаваных і рукапісных тэкстаў даводзіць, што І. Яцкоўскі валодаў літаратурным талентам. Першыя згадкі пра гэта (датаваныя 1834 г.) знаходзім у нататніках Л. Нядзвецкага[2], а таксама ва *Успамінах*... Яна Барткоўскага[3]: І. Яцкоўскі ў коле эмігрантаў часта займальна апавядаў “шляхецкія” гісторыі, якія прысутныя называлі “каментаром” да *Успамінаў Сапліцы* Генрыка Жавускага. Пазней І. Яцкоўскі дасылае вершаваныя творы Л. Нядзвецкаму ў Парыж, прызначаючы асобныя для друку. Яны прасякнуты характэрным для гэтага творцы патрыятызмам, які грунтаваўся на любові да малое Айчыны − Літвы-Наваградчыны і быў адначасна выяўленнем дзяржаўнага пачуцця да Рэчы Паспалітае. Яшчэ больш яскрава дадзеная тэндэнцыйнасць ягонай творчасці выступіла ў празаічнай *Аповесці з майго часу, альбо Літоўскіх прыгодах*.

Л. Нядзвецкі яшчэ з 30-х гг. быў знаёмы з “літаратурнымі планамі” І. Яцкоўскага і, больш за тое, можа лічыцца адным з тых, хто заахвоціў напісаць твор. Ідэя напісання *Аповесці*..., відавочна, нарадзілася пад уплывам кнігі Г. Жавускага *Успаміны Сапліцы*, якую І. Яцкоўскі атрымаў з дапамогай

[1] І. Яцкоўскі, *Аповесць майго часу, альбо Літоўскія прыгоды*, Варшава 2010, с. 181.

[2] L. Niedźwiecki, *Naszych gromadek gadułki* [w:] Rps Kórn, sygn. 2414: *L. Niedźwiecki, Materiały do dziennika z okresu pobytu w Anglii w latach 1831–1839*, s. 72–74.

[3] J. Bartkowski, *Wspomnienia z powstania 1831 roku i pierwszych lat emigracji*, oprac. E. Sawrymowicz, Kraków 1967, s. 262.

Л. Нядзвецкага яшчэ ў 1839 г.: “Яму дашлі асобнік *Pamiętnik[a] pana Soplicy*. Ён дадумваецца, ці не напісаў іх стары Чачот, чалавек вельмі прыстойны, што маючы мала, уласнаю працаю дабіўся заможнасці і сёння ўжо ў гадах. Сапліцуаднаго сабе згадвае, але вялікага дурня”[1].

Літаратурная актыўнасць І. Яцкоўскага ў першай палове 1850-х гг. звязана з дзейнасцю друкарні-выдавецтва А. Рыпінскага ў Лондане. Не выключаем, што поспех беларускамоўнае балады А. Рыпінскага *Нячысцік*, якую з-за цікавасці да яе сярод эмігрантаў лонданская друкарня выдала тройчы (двойчы асобнымі брашуркамі), падахвоціў І. Яцкоўскага напісаць яшчэ адзін раздзел кнігі (XXIX), для якога, не памятаючы, а хутчэй не ведаючы верша, які чытаў перад следчымі П. Багрым, стварыў уласны – *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...*, – а таксама ягоны пераклад на польскую мову. Дваццаць дзевяць радкоў вядомага беларускамоўнага верша ў ідэйна-стылістычных і нават лексічных адносінах цалкам адпавядаюць паэтыцы польскамоўных твораў І. Яцкоўскага. Яго версіфікатарскі вопыт – а гэта 1013 вершаваных радкоў, 864 з якіх былі надрукаваны (361 ананімна) і 477 з якіх напісаны харэем – можа сведчыць пра паэта як пра аўтара верша *За́грай, за́грай*...

### 3. Выкарыстанне ў творах І. Яцкоўскага характэрных выразаў з верша *За́грай, за́грай*...

У сваіх публікацыя пра жыццёвы і творчы шлях І. Яцкоўскага мы ўжо звярталі ўвагу, што даволі характэрны выраз верша *За́грай, за́грай*... “***Hdzie|ż ja biedny abiarnusia***?” сустракаецца ў тэкстах, якія без усякіх сумневаў належаць самому пісьменніку. Так, у вершы *Do S. Koźmiana i T. Olizarowskiego* (1849) у 11-й страфе мы чытаем:

Potyrawszy w pielgrzymce me lata i siły,
Sobiem ciężar, i innym gość wcale niemiły,
***Gdzie|ż się biedny obrócę***, włóczęga wiekowy?
Przed grobem, ja nie znajdę spoczynku dla głowy.

У *Аповесці з майго часу, ці Літоўскіх прыгодах* дадзены выраз ужыты ажно тройчы: у IV раздзеле, калі ахмістрыня панства Войскіх Кукевічова, пачуўшы, што ёй павышаюць jurgielt (плату за службу), роспачна ўскрыквае: “− Ach! Moja Imość <...> pierwszy raz przede mną straszna otwarła się przyszłość. Tam gdzie jest jurgielt, tam jest i odprawa, ***a gdzie|ż się ja biedna obrócę***, kiedy się podoba Ichmościom oddalić mię od siebie?”, а таксама двойчы ў раздзеле XXIX, у вершы *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы*... па-беларуску:

Mnie pastuszkom wiek niabyci,
A ŭ Maskalach trudna życi,
A ja i raści bajusia,
***Hdzie|ż ja biedny abiarnusia***?

[1] L. Niedźwiecki, *Listy wybrane z lat 1832–1839*, oprac. St. Makowski, Warszawa 2009, s. 580.

і ў польскім перакладзе:

> Wieku z trzodą nie przepędzę,
> A zaś w wojsku widzę nędzę;
> Ja gdy rosnę, to się smucę,
> Bo ***gdzie|ż biedny się obrócę***?

Польскае ***obrócić się*** азначае сярод іншага і 'пайсці, накіравацца ў нейкі бок'. *Słownik języka polskiego* падае з Генрыка Сянкевіча наступны прыклад: "Ludzie, obłąkani z przestrachu, wypadali z namiotów nie wiedząc, ***gdzie się obrócić***, w którą stronę uciekać"[1]. Відавочна, у дадзеным кантэксце гэты выраз азначае 'дзе дзецца?' Беларускія слоўнікі не фіксуюць падобнага значэння, а тлумачэнне 'змяніцца, ператварыцца ў новую якасць. У казках – ператварыцца ў каго-н., што-н. пры дапамозе чараў', як падае *Тлумачальны слоўнік беларускай мовы*[2], цалкам адпавядаючы словам з трэцяе страфы верша "W Waŭkałaka abiarnusia, // Z szczaściam na was abzirnusia", не пакрывае тое сэнсавае поле, якое мае выраз "***Hdzie|ż ja biedny abiarnusia***?" з шостае страфы хрэстаматыйнага беларускага твора. Відавочна, паэт "запазычвае" дадзенае значэнне слова 'абярнуся' з польскае мовы.

Заўважым: у даўняй польскай мове дадзены выраз сустракаўся даволі часта. Напрыклад (паводле *Słownika języka polskiego*): "Gdzie ja się z tęsknym sercem obrócę?" Mieczysław Romanowski (1833–1863), *Poezye*, t. 1, Lwów 1883, s. 55; „Ja nie wiem, w którą stronę Król się obrócił i czy sam został, czy tam ma kogo przy sobie" Wojciech Bogusławski (1757–1829), *Henryk VI na łowach, komedia we 3 aktach z powieści angielskiej napisana*, Warszawa 1792, s. 52 і інш.

Можа, І. Яцкоўскі проста ўжыў у сваіх творах радок з верша Пётрака з Крашына (П. Багрыма)? Але больш праўдападобна, што польскае значэнне выразу "***Hdzież ja biedny abiarnusia***?" узнікла ў беларускамоўным тэксце пад уплывам польскае мовы аўтара – І. Яцкоўскага. Трэба ўлічваць і тое, што сам пісьменнік не раз у сваёй туляцкай адысеі павінен быў задацца пытаннем ***a gdzie|ż się ja biedny obrócę***?

Асобнае пытанне – мова твораў І. Яцкоўскага і мова ягоных лістоў. Бо якраз у польскамоўных лістах пісьменніка захаваліся шматлікія "правінцыялізмы". Больш адукакаваны Л. Нядзвецкі часам папраўляў сябра, папраўляў недакладнасць словаўжывання, на што І. Яцкоўскі адказваў: "Пішу, як навучыла мяне маці". Даволі часта ён выкарыстоўвае прыказкі і прымаўкі, большасць з якіх маюць беларускае паходжанне. Вось некаторыя з іх: "Паехаў вазамі без коней", "Маё шчырае жаданне, каб прусак пабіў маскаля і аўстрыяка, а яго самога забіў пярун", "Служы пану верне, то ён табе пердне", "Спяваць дармо, баліць гардло", "І воўк будзе сыты, і козы цэлыя", "На злодзеі шапка гарыць", "Не плюй у ваду, бо можа здарыцца табе яе напіцца".

---

[1] *Słownik języka polskiego*, red. W. Doroszewski, Warszawa 1963, t. V, s. 540.
[2] *Тлумачальны слоўнік беларускай мовы ў 5-ці тамах*, Мінск 1983, т. I, с. 94.

### 4. Магчымае “выкарыстанне” І. Яцкоўскім першага радка верша Тамаша Аўгуста Алізароўскага.

І. Яцкоўскі дазваляў сабе ў паэтычнай творчасці выкарыстоўваць матывы, вобразы і асобныя выразы вершаваных твораў сучаснікаў. На жаль, мы даволі кепска ведаем эміграцыйную паэзію, а таму можам падаць толькі асобныя прыклады наследавання І. Яцкоўскага. Адзін з самых цікавых – падражанне аўтара беларускага верша Т.А. Алізароўскаму. Дакладней, не падражанне нават, а – хутчэй – неўсвядомленае паўтарэнне-перайманне пачатковых слоў верша, які захаваўся ў дзвюх версіях.

Першая версія была напісана ў 1841 годзе і пад тытулам *Wiersz Olizarowskiego do A… M…* надрукавана ў газеце “Dziennik Narodowy”:

Zagraj, zagraj a zaśpiewaj
Pieśniareńku Lacki nasz!
Z serca w serce pieśń przelewaj –
Świętą pieśnią Cara strasz.

Na pogibel bisa synom.
Zawyj w struny *hurraha*!
Na rozbudę dzwoń drużynom –
Dzwoń pieśniaru héj, hu, ha!

W święte struny graj pieśniaru:
Sława Bogu! hurra! dzwoń –
Na pogibel Bisu-caru
Wzięła pióro Boża dłoń:

Tutaj widno ducha oku
Jakie pismo piszą *tam* –
O! czterdziesty drugi roku[1],
Ciebie kochać każą nam.

No! pieśniaru, nie|zamieraj!
W żywo struny hurra dzwoń –
A ty czasie w łańcuch zbieraj
Serce z sercem, z dłonią dłoń[2].

Гэта быў ужо другі верш-зварот Т.А. Алізароўскага да А. Міцкевіча. Але калі ў першым паэт выказвае словы ўдзячнасці вяшчуну за тое, што “Blask twego geniuszu przeszedł po mych piórach, // Wybił ze snu me skrzydła”[3], дык у другім

[1] Маецца на ўвазе, відаць, “прароцтва” Анджэя Тавянскага пра “цудоўнае вяртанне” эмігрантаў у Польшчу. Гл.: Ліст Л. Нядзвецкага да І. Яцкоўскага ад 8 жніўня 1841 г. [у:] Z. Sudolski, *Mickiewicz*, Warszawa 1997, s. 508.
[2] [T.A. Olizarowski], *Wiersz … do A… M…*, “Dziennik Narodowy” 1841, nr 32 (6 listopada).
[3] O., *Wiersz do* …, “Dziennik Narodowy” 1841, nr 23 (4 września).

заклікае яго больш актыўна спяваць дзеля абуджэння змагароў за вольнасць краю[1].

Яшчэ больш выразна дадзены матыў гучыць у другім варыянце твора, які быў напісаны, магчыма, для Багдана Юзафа Залескага (1802–1886). Называўся ён *Przynuka*: сармацкі звычай прынукі (прымусу) госця есці і піць за сталом дастасаваны тут да заахвочвання пісаць высокапатрыятычныя тэксты. Ад папярэдняга варыянту Т.А. Алізароўскі пакінуў (адпаведна змяніўшы) першую і апошнюю строфы, а замест трох, што былі ў сярэдзіне, напісаў пяць новых:

Zagraj, zagraj a zaspiewaj
Ukraiński piewco nasz!
Z serca w serce pieśń przeléwaj:
Swiętą pieśnią cara strasz.

Na zatratę sukinsynom
I psubratom hurraha!
Na rozbudę dzwoń drużynom,
Na rozbudę hej hu ha!

W alelujne mnogodźwięki,
W zmartwychwstański gwar a tłum,
W śród-orężne błyski, szczęki,
Puść swą dziejkę czarów, dum.

W ślad za złotym dum sokołem
Skoczy w świętéj zemście lew;
Krzyż i słońce z archaniołem
W świat rozsieją Boży gniew.

Zagoduje[2] ród słowieński
Od Bałtyka aż po Krym;
Gniazdo zbrodni, gród Wiedeński,
Na kadzidło skłębi w dym.

Orzeł spocznie blisko osi,
Niedźwiedź wyjdzie s puszcz na żyr;
I kiryśny[3] mąż ogłosi,
Ze zgliszcz Kremla, światu mir.

Piewco ruski nie|zamiéraj:
W żywostruny hurra dzwoń.

---

[1] Варта звярнуць увагу на тое, што на Т.А. Алізароўскага мог паўплываць 108 псалм (ва ўсходняй традыцыі –107) цара Давіда: “Gotowe jest serce moje, Boże, // zaśpiewam i zagram. // Zbudź się, chwało moja, // zbudź się, harfo i cytro! // Chcę obudzić jutrzenkę”.

[2] Магчыма, ад даўняга *zagoda* – прымірэнне, аб’яднанне.

[3] *Kiryśny* – гэта прыметнік ад *kirys* (ад франц. cuirasse, лац. coria – скура); *kiryśnik*, *kirasjer* – жаўнер, які меў на сабе латы са скуры.

A ty czasie w łańcuch zbiéraj
Z sercem serce, z dłonią dłoń[1].

Не выклікае сумневу, што І. Яцкоўскі добра ведаў творы свайго калегі і прыяцеля Т.А. Алізароўскага (пра гэта сведчыць напісаны ў 1849 г., а ў 1852 г. надрукаваны верш). А паўтарэнне ім у беларускамоўным творы пачатковых слоў верша (дзе, заўважым, сустракаюцца ўкраінізмы) тлумачыцца наступным: словы, якія моцна "ўкараніліся" ў памяць І. Яцкоўскага і якімі ён мог пачаць маналог сялянскага хлапчука Пётрака, аніяк не станавіліся плагіятам, бо былі нібыта напісаны 25 гадоў таму.

Трэба яшчэ заўважыць, што ў вершах (магчыма, так будзе больш правільна: твор адрасуецца розным асобам) Т.А. Алізароўскага матыў-просьба, матыў-зварот ***зайграць і заспяваць*** з'яўляецца вызначальным, ім прасякнуты ўвесь тэкст; ***іgranне і спяванне*** прызнаных майстроў слова павінна служыць важнай мэце і выканаць важную функцыю – сабраць "сэрцы і далоні" дзеля перамогі над ворагам. А вось у беларускамоўным творы дадзены матыў, моцна выяўлены ў першай страфе, пасля – фактычна "знікае", замяняецца матывам ***уцёкаў*** лірычнага героя з роднага краю, бо жыць тут становіцца немагчыма. А таму матыў ***іграння*** выконвае ў беларускамоўным вершы адно функцыю сігнальную, функцыю паведамлення пра невыноснасць жыцця на бацькаўшчыне.

Вядома, можна сказаць, што аднолькавыя пачатковыя словы ў беларускім вершы і ў творы(ах) Т.А. Алізароўскага – з'ява выпадковая. Але ці не занадта шмат "выпадковасцяў" у праблеме атрыбуцыі славутага тэкста?

**5. Выкарыстанне літаратурнага прыёму: калі ў творы адзін з герояў мусіць "выказацца" вершам, дык аўтар сам піша неабходны тэкст.**

Дадзены аргумент мае сваю вагу толькі ў тым выпадку, калі мы лічым кнігу І. Яцкоўскага мастацкім творам, а не ўспамінамі.

Варты ўвагі той факт, што наваградчанін у сваім рамане ўсяго некалькі разоў падае вершаваныя радкі. (Як на аматара паэзіі, дык і няшмат). Напачатку ён недакладна цытуе два апошнія радкі паэмы *Манахамахія* Ігнацы Красіцкага; пасля – чатырохрадкоўе-эпітафію пэўнага святара з вёскі Дзевянтковічы на Слонімшчыне:

Za owcami Pasterz swemi
Musi także pójść do ziemi,
Dajże Boże temu zdrowie,
Kto nam WIECZNY POKÓJ powie.

І, нарэшце, "некалькі строф", што засталіся ў памяці, крашынскага Пётрака.

Сэнс выказвання І. Красіцкага пісьменнік крышку змяніў, але ў дадзеным выпадку не можа быць гаворкі пра нейкую містыфікацыю. А вось ужо наступны ягоны зварот да "паэзіі" – цалкам магчыма – створаны фантазіяй І. Яцкоўскага: раманісту тут неабходна паказаць тую катастрофу на Бацькаўшчыне, якая была

[1] T.A. Olizarowski, *Woskresenki*, Paryż 1846, s. 31–32.

наступствам як французскае навалы, так і пошасці, выкліканай гэтаю навалаю. Вядома, у памяці пісьменніка маглі захавацца звесткі пра тое, як вясковы ксёндз-пробашч загадаў выбіць на помніку эпітафію ахвярам страшнага 1812 г., але вось ці памятаў ён той тэкст некалькі дзесяцігоддзяў? Сумнеўна, хутчэй сам напісаў яе. Нешта падобнае магло здарыцца і са "строфамі" крашынскага Пётрака.

**6. Як відавочны факт трэба ўспрымаць тое, што І. Яцкоўскі не валодаў такой памяццю, каб цягам 25 гадоў "трымаць у галаве" нібыта пачуты калісь беларускамоўны верш крашынскага падлетка.**

Пра следчую справу адносна Крашынскае школы І. Яцкоўскі мог ведаць з 1828 г. Ці мог ён захаваць у памяці верш, які нібыта пачуў чвэрць стагоддзя таму?

Сучаснікі сведчаць, што Ігнацы Яцкоўскі меў выключную памяць: "Яцкоўскі – гэта добры праўнік, мае невычарпальны запас авантур, показак, анекдотаў, у якіх табе падасць прозвішчы асоб, з імёнамі, узростам, датамі, памятае, ці тое дзеялася з суботы на нядзелю, ці ў саму нядзелю, якое было надвор'е. Калі гаворка пра куплянне, дык памятае ўсіх пакупнікоў, памятае сумы, якія заплацілі, якога дня і дзе. Здзівішся, калі табе скажу, што няхай табе сто разоў паўторыць, а заўсёды тое самае – памяць незвычайная і багацце дэталяў. Асобныя з яго аповесцяў былі такія цікавыя, што я, памятаю, запісаў іх быў некалькі. Ведай, я заахвочваў Яцкоўскага, каб узяўся за пяро і запісаў нам, калі можа, усё, што ведае, што нам расказаў. Заахвочванне, здаецца, толькі абуджала тое, што на дне яго думкі ляжала. Ён усміхнуўся, як смяецца задавальненне, і не разважаючы, сказаў, што зробіць гэта напэўна. А што больш, нібыта скрытна казаў, што можа лепш напіша за Сапліцу"[1].

Каб І. Яцкоўскі пісаў успаміны, дык, вядома, ён мусіў бы імкнуцца да дакладнасці, але выбраўшы дзеля выкладу матэрыялу жанр рамана, мог адвольна інтэрпрэтаваць факты рэчаіснасці. У гэтым няцяжка пераканацца, параўноўваючы малюнкі рамана з друкаванымі дакументамі таго часу – афіцыйнымі адрас-календарамі ("Мѣсяцословъ съ росписью чиновныхъ особъ, или Общій штатъ Россійской Имперіи на лѣто...").

Возьмем, напрыклад, аповед І. Яцкоўскага пра ўцёкі ліцвінскае моладзі на пачатку XIX ст. у войска Напалеона. У гэтай гісторыі ці не галоўнай дзейнай асобай стаўся навагрудскі спраўнік Пётр Пятровіч. І сапраўды ў Навагрудку з 1805 г. па 1828 г. пасаду спраўніка займаў Пётр Пятровіч Берг, які напачатку меў чын калежскага асэсара – чыноўніка VIII класа (відавочна, раней, у войску быў ротмістрам ці штабс-капітанам). Трапіў у Навагрудак П.П. Берг, хутчэй за ўсё дзякуючы свайму саноўнаму сваяку – сапраўднаму стацкаму саветніку (IV клас) Пятру Іванавічу Бергу, які на пачатку XIX стагоддзя займаў пасаду гродзенскага віцэ-губернатара.

[1] L. Niedźwiecki. *Listy wybrane z lat 1832–1839*, oprac. St. Makowski, Warszawa 2009, s. 580–581.

Сумленны і шляхетны П.П. Берг фактычна выратоўвае ад рэпрэсій шэраг вядомых навградскіх сем'яў. Так у кнізе. Магчыма, гэтак было і ў рэальнасці. Праверыць тое мы не можам. Але сёе-тое не адпавядае малюнку, створанаму І. Яцкоўскім: ордэн св. Анны, нягледзячы на сцверджанне І. Яцкоўскага, П.П. Берг у 1811–1812 гг. не атрымліваў. Перадусім, толькі ў 1816 г. ён займеў ранг надворнага саветніка (VII клас) і ордэн св. Уладзіміра 4 ступені, а ў 1820-я гг. – ордэн св. Анны 3 ступені.

П.П. Берга, відавочна, І. Яцкоўскі добра ведаў. Пэўна, ведаў і пра атрыманы ім ордэн св. Анны. Але чаму ён „узнагародзіў" спраўніка ў 1811 г.? Відавочна, гэтага вымагала мастацкая праўда рамана.

З гэтаю ж самаю гісторыяй звязаны яшчэ адзін персанаж кнігі І. Яцкоўскага. Бясспрэчна, вобраз сакратара Казіміра Матовіча таксама меў свой рэальны прататып. Праўда, і тут І. Яцкоўскі не зусім дакладны. Казімір, сын Юзафа Матовіч (у І. Яцкоўскага – сын Габрэля) у календарах звычайна называецца Козьма Осипов Мотович і толькі ў звестках 1830-х гг. – Казимир Осипов Мотович. Але справа ў тым, што ён ніколі не быў сакратаром Ніжняга Земскага суда ў Навагрудку. Гэтую пасаду ад пачатку XIX ст. да сярэдзіны 20-х гг. займаў тытулярны саветнік Герасім Сачава-Дзяшчынскі (прозвішча ў календарах падаецца ў шматлікіх варыянтах). А страпчым ад пачатку стагоддзя да 1815 г. быў расеец Іван Іванавіч Грабаў. Паводле адрас-календароў, губернскі сакратар (XII клас) К. Матовіч толькі ў 1815 г. займае пасаду страпчага ў Навагрудскім Земскім судзе. Ці не азначае гэта, што І. Яцкоўскі, у мастацкім творы не лічыў патрэбным слепа прытрымлівацца храналогіі падзей? Відавочна, ён „тварыў" з вядомых яму „дэталяў" неабходныя камбінацыі і фігуры, каб давесці тую ідэю, якая была вельмі важнай для яго.

Падобную „інтэрпрэтацыю" гістарычных (і перш за ўсё жыццёвых) здарэнняў І. Яцкоўскі будзе практыкаваць цягам усяго свайго рамана. Чарговае параўнанне лёсаў рэальных людзей з вобразамі *Аповесці з майго часу* можа пацвердзіць гэтую думку.

Напрыклад, у адным з раздзелаў свае кнігі І. Яцкоўскі піша, што ў 1811 годзе прэзідэнтава Пацыніна, удава, утрымлівала ў Навагрудку нешта накшталт пансіёну – брала на выхаванне шляхецкіх дачок. Апрача гэтага, мы даведваемся, што яе муж быў да падзелаў Рэчы Паспалітай гараднічым у Навагрудку. Пасля змены ўлады ён застаўся без пасады, але калі пры Паўлу І дазволілі шляхце выбіраць дробных службоўцаў, дык Пацына стаў „прэзідэнтам гродскім", г. зн. прэзідэнтам Гродскага суда ў Навагрудку. Праз некалькі гадоў Пацына памёр, пакінуўшы ўдаву без сродкаў да існавання. Тады ёй на дапамогу прыйшлі сябры мужа – Францішак Пілецкі, Тадэвуш Гаціскі і Тадэвуш Чачот, якія купілі ёй двор на Базыльянскай вуліцы.

І мы мусім верыць І. Яцкоўскаму, бо ягоны тэкст – успаміны. Бо ён валодаў незвычайнаю памяццю. Бо ён, верым мы, дакладны ў дэталях.

А цяпер прыгледзімся, ці пацвярджаецца гэтая гісторыя адрас-календарамі. Кім быў Пацына да падзелаў краю, нам высветліць пакуль не ўдалося. Першая вядомая нам згадка пра яго датуецца 1802 годам: Леон, сын Фларыяна

Пацына займае пасаду асэсара (засядацеля) у Ніжнім земскім судзе ў Навагрудку. Верагодна, ён якраз у часы Паўла І апынуўся на службе ў дадзенай установе. У наступным годзе мы бачым яго ўжо на пасадзе камісара Ніжняга земскага суда (крыху пазней змянілася найменне пасады: замест камісараў з'явіліся спраўнікі ці капітан-спраўнікі). І Л. Пацына будзе займаць гэтую пасаду цягам трох гадоў. А з 1806 г. ён у складзе Гродскага суда, прэзідэнтам якога з'яўляецца Міхал Куневіч, суддзямі (разам з ім) Матэвуш Маркевіч, Эраст Кміта, а пісарам – Казімір Мацкевіч.

На наступных выбарах (1809 год) Л. Пацыну абіраюць прэзідэнтам Гродскага суда (суддзямі – Тадэвуша Гацiскага, Яна Слізня і Стафана Багдашэўскага, пісарам – Фелікса Яблоньскага). Дадзеная інфармацыя надзвычай каштоўная – Л. Пацына ў часы Напалеонаўскай вайны мог жыць у Навагрудку!

Звестак пра Л. Пацыну пасля 1812 года адшукаць не ўдалося. Цяжка сказаць: ці памёр ён у гэты час, ці проста пакінуў службу. У Гродскі суд прыйшлі іншыя людзі: прэзідэнтам стаў Казімір Мацкевіч, суддзямі – Ян Забела, Аўгуст Сакаловіч і Ігнацы Туганоўскі, пісарам – Эраст Кміта. Зноў узнікае пытанне, чаму навагрудскія здарэнні відавочна пазнейшага часу І. Яцкоўскі пераносіць у 1811 год?

Фактычна тое самае пытанне ўзнікае і пры аналізе звестак з календароў адносна гродзенскага цывільнага губернатара. Ім у 1803–1812 гг. быў Васіль Сяргеевіч Ланской (1753–1831)[1], але ён, стаўшы ў 1809 г. сенатарам, выехаў з Гародні і толькі фармальна лічыўся цывільным губернатарам да красавіка 1812 г.).

Гэта азначае, што не ў 1811 г., а ў 1807–1808 гг. навагрудская моладзь уцякала да Напалеона і навагрудскі спраўнік Пётр Пятровіч Берг мог даручыць сакратару Ніжняга земскага суда Герасіму Сачава-Дзешчынскаму (але не Казіміру Матовічу!) напісаць лісты да гродзенскага цывільнага губернатара В.С. Ланскога. Магчыма, гэтую гісторыю І. Яцкоўскі пачуў ад Казіміра Матовіча, які хоць і не быў сакратаром, але мог служыць у канцылярыі Ніжняга земскага суда. І менавіта ён мог паспрыяць навагрудскім абывацелям. Аднак відавочна тое, што пасаду страпчага Казімір Матовіч атрымаў не ў сувязі з гэтай гісторыяй і пазней, у 1815 годзе, калі гродзенскім цывільным губернатарам быў Карл Карлавіч Ляшэрн.

Гэтыя, здавалася б, дробныя дэталі яшчэ раз пацвярджаюць нашыя сумневы, адносна дакладнасці аповеду І. Яцкоўскага. Ягоны тэкст пра часы, калі ён быў у дзіцячым веку, мае характар мастацкі, а не мемуарны.

Надзвычай цікавым можа быць аналіз звестак пра прататыпаў крашынскае гісторыі І. Яцкоўскага. Пісьменнік адной з прычынаў канфлікту двара і вёскі ў Крашыне, спасылаючыся на нейкіх „адных", лічыў тое, што ксёндз В. Магнушэўскі не мог спакойна глядзець на шлюб убогага шляхціца пана Юрагі з князёўнаю Антанінаю Радзівіл.

Вядома, пасля падзелаў Рэчы Паспалітай кожны, раней нават найзаможнейшы, мог стаць убогім. Магчыма, пасля напалеонаўскай вайны Станіслаў

[1] А не яго старэйшы брат Мікалай Сяргеевіч Ланской (1746–1812), як сцвярджалі мы ў каментарах да выдання беларускага перакладу *Аповесці з майго часу* (2010).

Юрага і быў убогім. Але адно пэўна: ён быў прадстаўніком арыстакратычнага роду – належаў да князёў Гедройц-Юрагаў. Паказальна: яго дачка была запісана як князёўна Тэафілія Гедройц гербу ўласнага. Ці мог ксёндз Магнушэўскі з пагардаю ставіцца да прадстаўніка княскага, хоць беднага роду?

Трагічным для сям'і Юрагаў-Радзівіл стаўся 1851 г.

У 1851 г. памерлі: фактычны „арганізатар" сялянскага бунту Станіслаў Казімір князь Юрага гербу Гедройц (каля 1790–1851), яго жонка – Антаніна Людвіка Тэафілія князёўна Радзівіл на Нясвіжы гербу Трубы (19.12.1790–1851) і дачка – князёўна Тэафілія Гедройц гербу ўласнага (17.10.1822–13.03.1851).

26 мая 1850 года, за дзевяць з паловаю месяцаў да смерці, Тэафілія Гедройц нарадзіла дачку (гэта было яе пятае дзіця) Марыю Тэафілю Эўгенію Святаполк-Завадскую гербу Ліс (1850–1920). Муж Тэафілі Гедройц, Эўгеніюш Роберт Святаполк-Завадскі гербу Ліс (1817–1880), да княскага роду не належаў. Як і іх сын – Пётр Станіслаў Вацлаў Святаполк-Завадскі гербу Ліс (03.06.1847 – пасля 1884).

Магчыма, атрымаўшы з бацькаўшчыны вестку пра гэтую трагедыю, І. Яцкоўскі ўключыў у сваю кнігу аповед аб крашынскіх хваляваннях 1828 г.

**7. Трэба лічыцца з тым фактам, што І. Яцкоўскі, ідучы на паўстанне, не мог забраць з сабою ўласны архіў і, тым больш, захаваць яго ў невыносных, часам, умовах паўстанчага, а пасля тулячага жыцця ў Еўропе.**

Да Літоўскага паўстання І. Яцкоўскі далучыўся вясною 1831 г. як паручнік "атрада навагрудскай конніцы". Цяжка сказаць, наколькі ён быў падрыхтаваны да паўстанцкага жыцця, але вось грошай з сабою не забраў: царская ўлада ў 1833 г. канфіскавала ягоны "наличный капитал 600 рублей ассигнациями", што знайшоўся ў маёнтку Малюшыцы пана Дубічынскага[1]. Малавыгодным быў ягоны трохмесячны побыт ў атрадзе Юзафа Кашыца (ці Францішка Міцкевіча), а пасля ў корпусе генерала Генрыка Дэмбінскага, калі паўстанцы з баямі прарываліся да Варшавы.

А яшчэ ў горшых умовах апынуўся І. Яцкоўскі пасля таго, як у верасні 1831 г. пакінуў Варшаву, якая капітулявала, і мусіў ратавацца ад расейскага войска. Спачатку ён хаваўся ў Кракаве, але аўстрыйскія ўлады ў хуткім часе інтэрнавалі яго і выслалі ў Галіцыю (магчыма, дзеля пазнейшае перадачы расейскім уладам). Доўга ягоны лёс заставаўся няпэўным, і толькі позняй восенню 1833 г. па дамоўленасці з Францыяй аўстрыйцы пачалі дэпартацыю былых паўстанцаў з Галіцыі. Іх сабралі ў Трыесце, у замку пад аховай войска. Расія дамагалася выдачы сваіх грамадзян-злачынцаў, але тамтэйшы французскі консул Левасэр (Levasseur) зрабіў усё магчымае, каб паўстанцы атрымалі дазвол на выезд у Францыю. Нягледзячы на тое, што французскія ўлады не жадалі болей прымаць уцекачоў, Левасэр выдаваў ім французскія пашпарты, нават не патрабуючы доказаў пра наяўнасць "маёнтку" – сродкаў на жыццё ў Францыі. Аднак аўстрыйскія ўлады вырашылі вывесці ўцекачоў у Злучаныя Штаты Амерыкі[2]. 18 верасня 1833 г.

[1] Гл.: "Dodatek pierwszy do gazety Kuryera Litewskiego" 1833, nr 96 (16 sierpnia v. s.).

[2] R. Bielecki, *Zarys rozproszenia wielkiej emigracji we Francji*, Warszawa – Łódź 1986, s. 19.

І. Яцкоўскі мусіў плысці ў ЗША[1], але з невядомай прычыны толькі 5 снежня 1833 г. на брыгу "Рэгіна" разам з 30 афіцэрамі ён быў накіраваны ў Марсель, куды прыплыў 15 студзеня 1834 г. Мясцовыя ўлады перасадзілі ўцекачоў на ваенны карабель „Malouine", каб везці, нягледзячы на пратэсты эмігрантаў і нават жыхароў Марселя, у Алжыр, у французскі замежны корпус[2]. І. Яцкоўскі трапіў у Аран (правінцыя ў Алжыры, з 1831 г. – калонія Францыі), дзе 10 красавіка 1834 г. прасіў дазволу выехаць праз Францыю ў Польшчу[3]. Відаць, дазвол ён атрымаў, але з Францыі накіраваўся не на радзіму, а ў Англію, урад якой у гэты час абвясціў, што будзе даваць дапамогу польскім уцекачам[4].

Перепетыі жыцця І. Яцкоўскага 1831–1834 гг. не дазваляюць меркаваць, што ён мог мець пры сабе шмат рэчаў. Тым больш – цалкам непатрэбны эмігранту аркуш паперы з беларускамоўным вершам крашынскага падлетка.

**8. Але ці не самым важным аргументам, які "схіляе" да аўтарства І. Яцкоўскага, з'яўляецца рытмічная арганізацыя верша *За́грай, за́грай*...**

На жаль, мала хто з беларускіх літаратуразнаўцаў звяртаўся да праблемаў версіфікацыі *За́грай, за́грай*... Толькі ў 1973 г., фактычна ўпершыню, Мікола Грынчык ахарактарызаваў твор П. Багрыма ў кнізе *Шляхі беларускага вершаскладання* з пункту гледжання ягонай метрыкі і рытмікі. Ён звярнуў увагу, што на пачатку XIX стагоддзя ў беларускай паэзіі назіраецца адначасовае ўжыванне дзвюх сістэм вершаскладання – сілабічнай і танічнай, а ў творчасці П. Багрыма адбываецца аб'яднанне дзвюх гэтых сістэм. На думку М. Грынчыка, першая страфа верша напісана ў традыцыйна-сілабічнай форме: "Дакладна захавана роўнаскладовасць бесцэзурнага васьмiскладовіка. Парнасць рыфмоўкі тут падмацоўваецца нават пры дапамозе так званай пераакцэнтоўкі, гэта значыць падгону натуральнага націску пад пануючую схему жаночай рыфмоўкі ("ма́лы – цымба́лы", замест малы́, "ду́ду – бу́ду", замест дуду́ і інш.)"[5].

Заўважым: дадзеная выснова памылковая. А прычына недакладнасці, відаць, тая, што М. Грынчык дзеля аналізу верша П. Багрыма карыстаўся адаптаванай версіяй твора. Адаптацыя ж у першай стафе пераінАчыла ейны рытмічны малюнак: *зайгра́й* (двойчы) замест *záhraj*, *скры́пачку* замест *skrypáczki*, *Кро́шыне* замест *Kraszýnie* і інш.

У далейшых сваіх развaжаннях, патлумачыўчы дадзены "сілабізм" П. Багрыма "класамі" (г. зн. навучаннем у школцы) В. Магнушэскага, даследчык бачыць у вершы "танічны прынцып" як выяўленне "самабытнай індывідуальнасці самародка-паэта", адзнакі "яго выключнай творчай інтуіцыі і развітага эстэтычнага густу"

[1] R. Bielecki, *Słownik biograficzny oficerów powstania Listopadowego*, Warszawa 1996, t. 2, s. 184.
[2] R. Bielecki, *Zarys rozproszenia wielkiej emigracji we Francji*, Warszawa – Łódź 1986, s. 19.
[3] Ibidem.
[4] В. Гарбачова пра гэты этап жыцця І. Яцкоўскага піша так: "Пасля заканчэння ваен. дзеянняў хаваўся ў Кракаве, інтэрніраваны. 18.9.1833 выехаў з Трыеста ў Паўночную Амерыку. У студз. 1834 апынуўся ў Англіі". Гл.: В. Гарбачова, *Удзельнікі паўстання 1830–1831 гг. на Беларусі*, Мінск 2006, с. 385.
[5] М. Грынчык, *Шляхі беларускага вершаскладання*, Мінск 1973, с. 88.

і характарызуе *Заграй, заграй*... як “народна-песенны двухакцэнтны танічны верш”[1].

Праўда, М. Грынчык заўважыў у *За́грай, за́грай*... адначасна і “харэічную кадэнцыю”. Прычым, нават у першай страфе, якая раней характарызвалася ім як “бесцэзурны васьміскладовік”. Харэічны памер, на думку даследчыка, набывае “ў II, III, IV строфах характар выразна метрычны, закончаны, сіметрычны і не думаецца, каб выпадковы. У падборы і вар’іраванні рытмічных элементаў заўважаецца імкненне да раўначленнасці і размеранасці стоп, часам нават шляхам пераакцэнтоўкі, гэта значыць сінтаксічнага, інтанацыянага «падгону» асобных стоп <...> харэічная стыхія з’яўляецца тут пануючай. Ёй падпарадкаваны пірыхіі, а таксама шматлікія прыёмы трансакцэнтацыі («ся́стра» замест сястра́, «па́йду» – пайду́, «мя́не» – мяне́ і інш.)”[2].

Задумваючыся над надзвычай складаным, на думку даследчыка, рытмічным малюнкам верша, М. Грынчык незаўважна нават для самога сябе “залічыў” І. Яцкоўскага ў суаўтары да П. Багрыма: “Магчыма, перанос акцэнтаў звязан тут з абставінамі вуснага ўзнаўлення твора Яцкоўскім, які мог прыўнесці ўласную трактоўку рытмічнага ладу забытага верша Багрыма”[3]. (Згадзіцеся, “узнаўляльнік”, які надае вершу новы рытмічны лад – гэта і ёсць суаўтар!)

Праўда, тут жа М. Грынчык палічыў патрэбным патлумачыць версіфікацыйныя прыёмы беларускага аўтара П. Багрыма ўзмацненнем (“хаця ўсе знешнія абставіны выразна супрацьдзейнічалі гэтаму”) танічнага прынцыпу вершаскладання і тым, што “малады паэт не пайшоў пратаптанымі сцежкамі, а звярнуўся да зусім нераспрацаваных і, відавочна, новых у той час рытміка-інтанацыйных форм, інтуітыўна арыентуючыся на фальклорныя традыцыі”[4].

Фактычна, у дадзенай працы ледзь не адназначна сцвярджалася, што пятнаццацігадовы П. Багрым быў адным з першых, хто ўвёў у беларускую паэзію сілабатоніку. Пэўную “ролю” мог у гэтым, – нясмела дапускаў М. Грынчык, – адыграць І. Яцкоўскі.

Такое “неадпаведнае” дапушчэнне М. Грынчыка аспрэчыў у 1977 г. І. Ралько ў працы *Вершаскладанне: даследаванні і матэрыялы*. (Пазней паўтарыў тое самае ў грунтоўнай манаграфіі *Верш і мова*). Ён, карыстаючыся тэкстам *За́грай, за́грай*... непасрэдна з пазнанскага 1858 г. выдання *Аповесці з майго часу*..., катэгарычна сцвердзіў: твор напісаны ў харэічным рытме з арыентацыяй на музычнае суправаджэнне. Пры гэтым, І. Ралько, як і М. Грынчык, звярнуў увагу на “наяўнасць пераакцэнтуацыі як сродку захавання харэічнае кадэнцыі і адначасова водгуку пэўнага ўплыву акцэнталогіі польскай мовы”[5]. Вядома, польскае мовы П. Багрыма.

Свае высновы даследчык пацвярджае і тым, што пераклад верша, выкананы І. Яцкоўскім, “вельмі дакладны і поўнасцю вытрыманы ў харэічным рытме. Аднак калі ў багрымаўскім тэксце інерцыя харэічнага рытму цягне за сабой неабходнасць

---

[1] *Ibidem*, s. 89.
[2] *Ibidem*, s. 89–90.
[3] *Ibidem*, s. 90.
[4] *Ibidem*, s. 90–91.
[5] І. Ралько, *Верш і мова: Праблемы тэорыі і гісторыі беларускага* верша, Мінск 1986, с. 14.

акцэнтавання граматычна не акцэнтаваных складоў, то ў перакладзе І. Яцкоўскага метрычныя акцэнты ўсюды супадаюць з граматычнымі – памер строга вытрымліваецца. Факт гэты, несумненна, сведчыць пра тое, што І. Яцкоўскі ўспрымаў рытм багрымаўскага верша як харэічны”[1].

Думка І. Ралько пра харэічны рытм верша *За́грай, за́грай*... вельмі істотная. Але не менш важным з’яўляецца і выснова даследчыка пра тое, што ў беларускім тэксце дзеля харэічнага рытму выкарыстоўваецца пераакцэнтуацыя, у тым ліку і пад ўплывам акцэнталогіі польскае мовы.

Сам І. Ралько не падаў аніводнага прыкладу пераакцэнтуацыі ў вершы П. Багрыма. Не паставіў націскі ён і тады, калі перадрукоўваў у сваёй працы транслітэраваны з лацінкі на грамадзянскі шрыфт тэкст твора. Чаму? Магчыма, таму, што выразна кідалася ў вочы даволі частае небеларускае вымаўленне беларускіх слоў.

На нашу думку, у вершы *За́грай, за́грай*... пераакцэнтуацыя закранула дваццаць адно слова. Як на сто трыццаць (улічваючы службовыя часціны мовы) слоў верша, дык і нямала – 16,15%. Пададзім іх у наступнай табліцы:

| **Паводле *Аповесці*... (1858)** | **Беларускае вымаўленне** | **Заўвагі** |
|---|---|---|
| Záhraj | Зайгра́й | польск. zágraj (двойчы) |
| máły | малы́ | польск. máły |
| skrypáczki | скры́пачка | польск. skrzypéczki |
| záhraju (?) | зайгра́ю | польск. zágram |
| u dúdu | у дуду́ | польск. na dúdzie |
| kíjami (?) | кія́мі | польск. kijámi |
| siástra | сястра́ | польск. sióstra |
| pájdu | пайду́ | польск. pójdę (двойчы) |
| miánie | мяне́ | польск. mnie (двойчы) |
| Szczáśliŭszaja (?) | Шчаслі́ўшая | польск. Szczęślíwszą |
| U pańszczýnu | У па́ншчыну | польск. W pańszczýznę |
| U rekrúty | У рэ́круты | польск. W rekrúty |
| ŭ Maskáli | ў Маскалі́ | польск. w Moskále (двойчы) |
| pastúszkom | пастушко́м | польск. pastúszkem |
| każánie | кажане́ | |
| Czámuż | Чаму́ ж | польск. czémuż |
| na mnié | на мяне́ | польск. ná mnie |

Як бачна, васямнаццаць (як выключэнне, – kíjami і Szczáśliŭszaja; тут, магчыма, ужываецца дыялектная форма, ці аўтар свядома, дзеля захавання рытму, парушае акцэнталогію беларускае мовы. А таксама запазычвае, думаецца, з фальклору прычытанне “Oj, każánie, każanié! // Czámu|ż nia siŭ ty ná mnie?”) з дваццаці аднаго пераакцэнтуаванага слова знаходзяцца ў пэўнай залежнасці ад акцэнталогіі польскае мовы. Не забывайма і пра неўласцівыя беларускай мове звароты: “Hdzie|ż ty pojdziesz” (замест – куды ты пойдзеш), “bez Panow abyŭsia” (ад польск. obyć się – абыйсціся, даць сабе рады), “na was

[1] *Ibidem*, s. 15.

abziarnusia” (ад польск. obzierać się – аглядацца), “Hdzie|ż ja biedny abiarnusia” (гл. вышэй). А гэта можа сведчыць і пра дастаткова неглыбокае валоданне аўтарам беларускаю моваю, і пра яго добрае веданне польскае мовы. У выпадку з П. Багрымам павінна было б быць якраз наадварот.

Цікавым для нас можа быць і тое, што ў запісанай П. Багрымам для чыноўніка Я. Нечвалодава *Rozmowie Chłopow* выразна выяўляюцца, прыўнесеныя ім, П. Багрымам, у тэкст Я. Баршчэўскага, наваградскія дыялектныя асаблівасці (*dzieciukie, palakie, pane, dware*); у той жа час у творы цалкам адсутнічаюць паланізмы (апрача, хіба, тытулу).

Калі ж працягваць настойваць на аўтарстве верша *Заграй, заграй*... П. Багрыма, дык застаецца адно дапусціць, што і рытмічны лад, і падмена слоў (ці радкоў нават) у творы ажыццёўлена І. Яцкоўскім. Аднак дадзеную “гіпотэзу” катэгарычна адкінуў яшчэ І. Ралько: “Рытмічны лад твора, як правіла, застаецца ў памяці нязменным, таксама як музычны напеў дазваляе падмену забытых слоў ці асобных фраз, але падмена гэта не можа пераўтварыць зыходны рытмічны малюнак напеву”[1]. Харэічны рытм дзевятнаццаці радкоў верша *За́грай, за́грай*... “трымаецца” на выкарыстанні пераакцэнтуацыі, якая ледзь не цалкам абапіраецца на акцэнталогію польскае мовы. З аднаго боку, І. Яцкоўскі, як сцвярджае І. Ралько, не мог перамяніць рытмічны малюнак верша на харэічны, а з другога, – П. Багрым, нягледзячы на тое, што вывучыў “розныя байкі з Нарушэвіча, Эзопа і «Brukowych Wiadomości»”, наўрад ці ведаў польскую мову лепш за сваю родную, а г. зн. не мог стварыць харэічны рытм верша.

Як жа тады ён узнік у дадзеным творы?

Адказ можа быць такі: ён створаны паэтам, асноўнаю моваю якога была польская; і гэта выразна адчуваецца ў вершы *За́грай, за́грай*..., які, па сутнасці, з’яўляецца макаранічным[2].

А найбольш верагодны аўтар твора – Ігнацы Яцкоўскі.

Верш *За́грай, за́грай*... упершыню быў апублікаваны ў кнізе *Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды*, якая выйшла ананімна і без указання друкарні ды месца выдання. Адно толькі тытул і год выдання – 1854. Вяртаючыся з эміграцыі, І. Яцкоўскі пакінуў вядомаму пазнанскаму друкару і ўладальніку кнігарні Яну Жупанскаму г. зв. “stereotypy” лонданскага выдання *Poweści z czasu mojego*, папярэдне ўнёсшы нязначныя праўкі. У 1858 г. кніга была перавыдадзена ў пазнанскай друкарні М. Зоэрна і прадавалася ў кнігарні Я.К. Жупаньскага[3]. Адзначым, што ў якасці выдавецтва пазначана “w komisie księgarni Jana Konst. Żupańskiego”.

Адрозненні між выданнямі 1854 і 1858 гг. зусім нязначныя. Апрача фактычна аднаго выпраўленага слова на старонцы 123 (замест “wypłacił” – “wypełnił”)

---

[1] *Ibidem*, s. 14.

[2] Макаранічнасць у беларускіх публікацыях “знімалася” як адсутнасцю акцэнтацыі, так і арфаграфічнымі падменамі: звычайна ад 15 да 20 слоў верша папраўлялася рэдактарамі.

[3] Каталогі кнігарні Жупанскага сведчаць, што выданне 1858 г. можна было набыць і ў 1867 і ў 1874 гг.

Для тагачаснай ліцвінска-польскай інтэлігенцыі перайсці на грамадзянскі шрыфт азначала не што іншае, а здраду. Тварыць на “нарѣчіи русскаго языка” (ці “мѣстномъ русскомъ нарѣчіи”) ніхто з іх не згадзіўся.

Праўда, у сярэдзіне XIX стагоддзя ўжо з’явілася ў краі іншая інтэлігенцыя, выхаваная расейскаю школаю і прасякнутая ў значнай ступені расейскай ідэалогіяй. Яны паходзілі пераважна з асяродку праваслаўнага, не звязанага з патрыятычным рухам, і, галоўнае, – “мѣстное русское нарѣчіе” было для іх родным, перадусім, яны вельмі добра яго ведалі. Ад іх можна было чакаць беларускамоўных тэкстаў, тым больш, што ў пэўныя перыяды царскі ўрад, праваслаўная царква і мясцовая адміністрацыя заахвочвалі да ўжывання ў працы з беларускім сялянствам “мѣстнаго русскаго нарѣчія”. Аднак толькі ў эпоху рэформаў Аляксандра II (1855–1863) з’явіўся шэраг літаратурных твораў працарскага – часта – характару. На нашую думку, такімі былі: *Вясна, голад, перапала*, *Гутарка Данілы са Сцяпанам*, *Тарас на Парнасе*, *Два д’яблы*, *Бясѣда стараго вольника зъ новыми*, *Рѣчь старовойта къ крѣстьянамъ о свободѣ*, *Рѣчь старовойта: Для чтения моимъ землякамъ*, *Разсказы на бѣлорусском нарѣчіи.*

Грамадска-палітычныя погляды аўтараў большасці з гэтых тэкстаў не выклікаюць аніякіх сумневаў: гэта погляды прадстаўнікоў г. зв. “антыпольскай партыі”. Напрыклад, Максімільян Маркс лічыў *Вясну, голад, перапала* “вершаванаю адозваю да беларусаў, напісанаю ў 1862 г.”, якая мае “пэўную палітычную і культурную вартасць”, і створанаю “нейкім чыноўнікам магілёўскага губернатара”[1]. Нешта падобнае, фактычна, “сцвярджаў” і Геранім Марцінкевіч ў “аказіі ў карчме пад Фальковічамі” *Адвячорак*. Што датычыць паэмаў *Тарас на Парнасе* і *Два д’яблы*, то тут справа больш складаная: антышляхецкі пафас у іх адсутнічае (увогуле: ці адсутнічае? А раптам паказ “хазяйства” багоў на Парнасе – гэта крытыка шляхецкае гаспадаркі?), але ёсць затое адназначная, асабліва ў *Тарасе на Парнасе*, прыхільнасць да расейскае літаратуры. Невыпадкова, думаецца, прадстаўнікі супрацьлеглай партыі імкнуліся “замяніць” Міхаіла Лермантава і Васіля Жукоўскага на А. Міцкевіча і Яна Каханоўскага. Важна і тое, што менавіта гэтую “расейскую” складковую натхнення аўтара самага папулярнага беларускамоўнага твора XIX стагоддзя браў пад увагу Г. Кісялёў, калі вырашаў праблему атрыбуцыі твора на карысць Канстанціна Вераніцына, а не Ялігі Пранціша Вуля[2].

Асаблівае месца сярод вышэй названых твораў займае празаічная *Бясѣда стараго вольника зъ новыми*, *пра ихнае дѣло*. Бо яна і напісана была па даручэнні, нібыта, магілёўскага губернатара, і адлюстроўвала спробу практычнага вырашэння аднае-адзінае праблемы: пераканаць беларускага селяніна ў вялізарнай карыснасці “вялікае рэформы” Аляксандра II. “Склаў” (Я. Карскі) *Бясѣду*... невядомы агітатар, відавочна, блізкі да адміністрацыі магілёўскае губернскае ўправы, вясною 1861 г., а выдадзена яна была, думаецца, неадкладна.

---

[1] W. Bruchnalski, *Z “Pamiętników” M. Marksa, witebszczanina*, “Lud” 1922, t. XXI, s. 151.

[2] Аднак трэба мець на ўвазе, што належачы да г. зв. “патрыятычнае партыі”, Ялігі Пранціш Вуль (Элігі Францішак Карафа-Корбут) вучыўся ў расейскай віцебскай гімназіі і вызначаўся сваімі ведамі менавіта ў расейскай літаратуры.

Я. Карскі, які, здаецца, першы згадаў у друку пра гэты тэкст, сцвярджаў, што напісаў яго Апанас Кісель у сакавіку 1861 г. Прычым, спасылаецца ён на няпэўнае "есть известие"[1]. Аднак у ягоным сцверджанні ёсць недакладнасць, бо ўжо на самым пачатку *Бясѣды*... мы чытаем: "ужо мѣсицы зъ два, якъ цэлая книжка таго палаження читаитца и у панскихъ палатахъ и пасялянскихъ хатахъ". Калі "мѣсицы зъ два", дык, памятаючы, што *Манифест 19 февраля 1861 года* абвешчаны быў, хіба, не ў дзень падпісання яго царом, а *Высочайше утвержденное общее положение о крестьянах, вышедших из крепостной зависимости* трапіла да адрасатаў яшчэ праз нейкі час, то атрымліваецца, што наш аўтар "вадзіў пяром па паперы" ў красавіку, а можа, і маі 1861 г.

Варта прыгадаць, што менавіта ў сакавіку – красавіку 1861 г. адбыліся найбольш значныя ў імперыі хваляванні сялян вёскі Бездна Казанскае губерні, пасля таго, як Антон Пятроў "правільна" прачытаў *Положение о крестьянах* і знайшоў уім сапраўдную "чистую" волю. Больш за тое, ужо 12 красавіка генерал Антон Апраскін патрабаваў ад сялян выдаць А. Пятрова, а калі тыя не згадзіліся, то загадаў сваім салдатам страляць у бяззбройных людзей. 19 красавіка А. Пятроў быў расстраляны.

Ці не дадзеныя падзеі ініцыявалі ўзнікненне *Бясѣды*...? Адказу на гэтае пытанне няма ў даступных нам матэрыялах. Аднак можам гіпатэтычна прапанаваць, што тагачасны магілёўскі губернатар Аляксандар Беклямішаў (1824–1877), не маючы дастатковай колькасці здольных чыноўнікаў, якія б маглі эфектыўна пераконваць сялян і не дапусціць паўтарэння казанскіх падзей, загадаў напісаць ад імя селяніна тэкст, які б даступна тлумачыў неадукаваным ці малапісьменным мужыкам *Положение о крестьянах*.

Дзякуючы публікацыі А. Шлюбскага, высветлілася, што інфармаваў Я. Карскага наконт аўтарства, а можа, і часу напісання брашуры *Бясѣда*... Р. Зямкевіч: "Вестку аб Кісялю Карскі атрымаў ад Р. Земкевіча, які аб гэтым у лісьце да А. Шлюбскага ад 9 кастрычніка 1926 г. піша: «акад. Карскаму весткі аб аўтары кніжкі *Бясѣда*... я падаваў. Седзячы ў 1913 і 1914 г.г. у Магілеўшчыне я аб'ехаў двары больш выдатных памешчыкаў і там мяне некалькі старых асоб запэўнялі, што аўтарам гэтае брашуры быў Апанас Кісель, калісьці «камиссар по крестьянским делам», вядомы ўсім памешчыкам як заўзяты мысьлівы – браконьер у чужых лясох"[2]. Нельга пярэчыць, што "старыя асобы" маглі памятаць, што адбывалася 50 гадоў таму. Тым больш, што як памешчыкі яны (ці ў той час іх бацькі) былі зацікаўлены ў афіцыйна-урадавым тлумачэнні *Положения о крестьянах*. Пэўнае пацвярджэнне дадзенае гіпотэзы знаходзім і ў тэксце самое *Бясѣды*...: яе аўтар-наратар падарожнічае па губерні, сустракаецца – хутчэй за ўсё па абавязку – з сялянамі, абмяркоўвае з імі *Манифест 19 февраля 1861 года* і *Положение о крестьянах*. Аднак звернем ўвагу, што пасада "комиссара по

[1] Е. Карский, *Белорусы в 3 т*., т. 3, кн. 2: *Очерки словестности белорусского племени*, Минск 2007, с. 317.

[2] А. Шлюбскі, *Адносіны расійскага ўраду да беларускае мовы ў XIX ст*., "Запіскі аддзела гуманітарных навук: Інстытут беларускай культуры" 1928, кн. 2, с. 316.

крестьянским делам” была з 1864 г., здаецца, толькі ў Царстве Польскім[1]. У наменклатуры чыноўнікаў магілёўскае губернскае ўправы, перадусім, у 1860–1870-я гг. такое пасады не было[2]. Зрэшты, магілёўскія памешчыкі-“палякі” на пачатку XX стагоддзя (па аналогіі з Царствам Польскім) маглі так назваць і пэўнага іншага чыноўніка, які вырашаў спрэчкі паміж панам і сялянамі. Сцверджанне Р. Зямкевіча ўяўлялася большасці беларускіх гісторыкаў літаратуры дастаткова пераканаўчым. У выніку ў біябібліяграфічным слоўніку *Беларускія пісьменнікі* маецца біяграма, прысвечаная, фактычна, *Бясѣдѣ*..., а фармальна – Апанасу Кісялю[3].

На колькі нам вядома, нейкай адмысловай навуковай працы, якая датычыла дзейнасці магілёўскае губернскае ўправы ў 1860-я гг., не існуе. А таму нам застаецца магчымасць “выявіць” чыноўніка Апанаса Кісяля толькі ў *Памятных книжках Могилевской губерніи*. Аднак у даступных нам тамах гэтага выдання Апанаса (Афанасия) Кісяля не аказалася. Не было таксама і Апанаса Кісялёва. Гэта можа азначаць, што меркаваны аўтар *Бясѣды*... не быў чыноўнікам таго рангу, якіх упісвалі ў адрас-каляндар. Праўда, у такім выпадку ці мог А. Кісель “браконьер[ыць] у чужых лясох”? Зрэшты, прыгадаем, што пішучы ў *Бясѣдѣ*... пра патрэбу даваць навуку дзецям, аўтар сцвярджае, што вучыць сваіх “сынкоў” і разлічвае на Божую ласку: “Можа каторы и лѣпшъ мянѣ будзиць, а каторы и хужэй”. А таму цікава: ці ёсць у адрас-календары які-небудзь “кісель” з імем па-бацьку “Афанасьевич”? Аказалася, што ёсць: Іван Афанасьевіч Кіслоўскі з 1864 г. служыў памочнікам сталаначальніка ў гаспадарчым аддзеле Управы VII аддзела шляхоў зносін. Кіслоўскаму да Кісяля ўсё ж далекавата, але аніякай іншай версіі мы не маем.

Не знайшоўшы Апанаса Кісяля, мы палічылі патрэбным праверыць яшчэ адну гіпотэзу, прапанаваную А. Шлюбскім: на асобніку *Бясѣды*..., што “захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліотэцы ў Менску (Б 2693) знаходзіцца надпіс: «Авторъ прот. Андрей Чоловскій, настоятель Могилевской Барисоглѣбской церкви»[4]. З пэўных – невядомых нам – прычынаў, даследчык лічыў, што “апошнія дадзеныя” больш праўдападобныя.

Прозвішча “Чалоўскі” даволі часта сустракаецца ў адрас-календарах Магілёўскай губерні. Носьбіты яго, праўда, не займалі значных пасадаў. Напрыклад, Платон Чалоўскі, 1823 г. н., працаваў больш за 27 гадоў памочнікам рэвізора Кантрольнай палаты; Аляксандар Чалоўскі, 1833 г. н., служыў памочнікам начальніка, а пасля і начальнікам Газетнага стала; Канстанцін Чалоўскі быў членам-карэспандэнтам Статыстычнага камітэту і настаўнікам сельскай гаспадаркі і інш.

---

[1] Л. Волков, *Комиссар по крестьянским делам* [online], http://www.imha.ru/1144523866-komissar-po-krestjanskim-delam.-1..html#.WnqtfejOXIU [доступ: 7.02.2018 г.].

[2] У Магілёўскай губерни дадзенымі пытаннямі займалася *губернское правление*, а дакладней – *губернское по крестьянским делам присутствие*.

[3] Гл.: Г. Кісялёў, *Кісель Апанас* [у:] *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах*, т. 3, Мінск 1994, с. 247.

[4] А. Шлюбскі, *Адносіны расійскага ўраду да беларускае мовы ў XIX ст*., “Запіскі аддзела гуманітарных навук: Інстытут беларускай культуры” 1928, кн. 2, с. 316.

Даволі часта згадваецца ў *Памятных книжках...* і імя Андрэя, сына Стафана (часцей пісалі "Степанович", і толькі зрэдчас – "Стефанович") Чалоўскага. Паводле выдання на 1861 г., ён з'яўляўся пратаіерэем Магілёўскае царквы Узвышэння святога крыжа (Крестовоздвиженской церкви)[1], а таксама благачынным 2-е акругі Магілёўскага павета[2]. У хуткім часе А. Чалоўскі атрымае пасаду сапраўднага члена Губернскага статыстычнага камітэта (гэткім жа сапраўдным членам камітэта быў у той час І. Насовіч), а таксама асэсара (засядацеля) Палаты грамадзянскага (цывільнага) суда і будзе цягам дзесяці гадоў "працаваць" па сумяшчэнні. Пратаіерэем ён стаў ці то ў 1848 г.[3], ці то 15 кастрычніка 1849 г.[4], а благачынным – у 1857 г.[5]. А святарства ягонае пачалося 31 мая 1832 г., г. зн. нарадзіўся А. Чалоўскі ў 1810-я гг. Ці быў ён праваслаўным ад нараджэння, ці перайшоў у дзяржаўнае веравызнанне пасля скасавання Уніі, – высветліць не ўдалося. Магчыма, ягоным сынам быў Чалоўскі Мікалай Андрэевіч, прыкладна 1844 г. н., які, закончыўшы Санкт-Пецярбургскі землярробчы інстытут, служыў з 1868 г. памочнікам выканаўцы люстрацыйных работ у Магілёўскай управе дзяржаўных маёмасцяў.

За заслугі перад праваслаўнаю царквою і Расейскаю дзяржаваю А. Чалоўскі атрымаў ордэн св. Анны 2 і 3 ступені, медаль "въ память войны 1853–1856 г.", а таксама медаль "за усмирение польскаго мѣтежа 1863–1864 г."; узнагароджаны каміла́ўкаю, скуф'ёю, залатым і цёмнабронзавым сінадальнымі крыжамі і інш.[6].

Пра А. Чалоўскага, як аўтара *Бясѣды*... можа сведчыць той факт, што ў склад 2-е акругі Магілёўскага павета ўваходзілі, сярод іншых: Лазіцкая Пакроўская царква, Галоўчынская Прэабражэнская царква, Галоўчынская Траецкая царква, Княжыцкая Аляксандра-Неўская царква[7]. А менавіта гэтыя мястэчкі і вёскі згадваюцца ў творы.

Увогуле, аўтар *Бясѣды*... дастаткова шмат "згадвае" ў творы пра сябе самога. Г. Кісялёў, праўда, не выключаў, што "гэта ўсяго мастацкія дэталі,

---

[1] Царква вядома з XVII стагоддзя. Галоўны яе "придел" (ці "престол") быў названы як "Узвышэння святога крыжа", а правы – "Святых Барыса і Глеба" (побач у XVII–XVIII стагоддзях знаходзіўся Барыса-Глебскі манастыр). Калі ў 1869 г. побач з ёю быў пабудаваны сабор Узвышэння святога крыжа (Крестовоздвиженский собор), то былую драўляную царкву пачалі называць Барыса-Глебскаю. Відавочна, з гэтай прычыны на асобніку *Бясѣды...* А. Чалоўскі называецца "настоятел[емъ] Могилевской Барисоглѣбской церкви".

[2] Гл.: *Памятная книжка Могилевской губерніи на 1861 год, изданная Могилевскимъ губернскимъ правленіемъ*, Могилевъ 1861, с. 83.

[3] *Памятная книжка Могилевской губерніи на 1865 год, составлена Могилевскимъ губернскимъ статистическимъ комитетомъ*, Могилевъ 1865, с. 110.

[4] *Памятная книжка Могилевской губерніи на 1871 год, составлена Могилевскимъ губернскимъ статистическимъ комитетомъ*, Могилевъ *на Днѣпрѣ* 1871, с. 47.

[5] *Памятная книжка Могилевской губерніи на 1866 год, составлена Могилевскимъ губернскимъ статистическимъ комитетомъ*, Могилевъ 1866, с. 118.

[6] *Памятная книжка Могилевской губерніи на 1873 год, составлена Могилевскимъ губернскимъ статистическимъ комитетомъ*, Могилевъ *на Днѣпрѣ* 1873, с. 61.

[7] *Памятная книжка Могилевской губерніи на 1870 год, составлена Могилевскимъ губернскимъ статистическимъ комитетомъ*, Могилевъ 1870, с. 88.

уведзеныя ў тэкст для больш праўдападобнай абмалёўкі партрэта «старога вольніка», ад імя якога вядзецца мова”[1], але варта ўважліва прыгледзецца да гэтых дэталяў, няхай сабе і мастацкіх.

Наратар, відавочна, жыве ў Магілёве. У дзяцінстве ён страціў бацькоў, дык мусіў наймаць у мешчаніна цягам 17 гадоў жыллё (двор): “Я самъ аставшись сирацинаю, ня мѣвъ ни двара ни кала и гадовъ болшъ якъ симнанцать нанимавъ дварокъ и гародзишка у Мишчанина, плацивъ яму якъ іонъ хацѣвъ справна, дый шанававъ яго, якъ хозяина”. Пазней пабудаваў на чужой, праўда, зямлі свой уласны дом і кватаруе ў ім важную магілёўскую асобу – саветніка[2]: “А цяперъ, Богу спасиба и людзямъ добрымъ, живу у сваіомъ дворэ, ды на чужэй зямли и ни за вялички кавалакъ плачу у годъ три цалковыхъ, и ни жалкуюсь на хазяина. Ци вининъ жа іонъ, што у мянѣ зямли нима и купиць яе ни змага мая. Дый у мянѣ у сасѣдзяхъ живець Савѣтникъ, и іонъ мнѣ плоциць, якъ яму сходна и мнѣ угодна, дый виличаиць и пачитаиць мянѣ якъ хазяина; а ни такъ? Я нашовъ бы сабѣ пастаялца иншаго”.

Па справах службы, на якую прызначаны царскім указам, ён мусіць ездзіць за некалькі міляў: “Я волны, а ци хацѣлась|бы мнѣ инши разъ на хуртавини па бяспуццю ѣхать за кольки миль; ды што|жъ дзѣлаць? Указамъ Царскимъ приставлинъ я къ дзѣлу, треба спалняць яго”.

Сябе ён не атаясамлівае ні з суддзямі, ні з чыноўнікамі, ні з архірэем: “Ды што|жъ я? Уси, якъ іосць, Судздзи, Чиновники, сами Старшэйшія, Архирей, Губарнаторъ, уси яны волныя, а служуць болши насъ”.

Пра свой узрост ён паведамляе толькі тады, калі просіць “новых вольнікаў” шанаваць старэйшых: “Дый ци ладна, ци пригожа, ци разумна ты здѣлавъ-бы, кабъ, сянни заставши волнымъ, руки назадъ, пипку у зубы, шапку набакъ, и носъ наносъ сустрэвшись съ паномъ, и галавы яму ни схиливъ? Чаму, инши блазинъ такъ-бы й здѣлавъ, а вы ***глядзиця на насъ старыковъ***” (вылучэнне нашае. – *М. Х.*). Праўда, у іншым месцы, калі ён кажа пра сваіх сыноў, то можна думаць, што яны яшчэ малыя дзеці, а г. зн, што бацька, можа, і не такі яшчэ стары: “И мянѣ Гасподзь благаславивъ сынками, я хачу и научаю ихъ, штобъ и яны такъ сама были якъ и я; Ды Богъ-жа вѣдаиць, куды катораго павѣрниць: Можа каторы и лѣпшъ мянѣ будзиць, а каторы и хужэй. А усіо-тки учиць дзяцей якъ намъ, такъ и вамъ патребна”. І ёсць сярод іх зусім малыя: “Гэта я самъ ни разъ дасвѣтчивъ. Ды у прышлы годъ, кабъ дзиціонакъ мой ахатнѣй ждавъ празничка, я у пятницу абицавъ яму даць на Вяликадня красниинькое яѣчка, ды й надзѣлавъ яму сліозъ, а сабѣ клопату. Цалютыньки дзѣнь давай гусьци, ды равци, ды адно клявшиць: Ни|хачу я на Вяликодня, дай сянни яѣчка краснинькае, а тутъ признатца и хварбы яще ни купляли. И дзивиць нѣчага: якія лѣты, таки и розумъ”.

---

[1] Г. Кісялёў, *Кісель Апанас* [у:] *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах*, т. 3, Мінск 1994, с. 247.

[2] Відавочна, маецца на ўвазе адзін з трох саветнікаў губернскае ўправы. А імі ў 1861 г. былі: Якаў Няелаў, Мікалай Акаловіч, Іван Мантлевіч. Мяркуючы па прозвішчах, менавіта прыезджы расеянін Я. Няелаў мог быць тою асобаю, што кватаравала ў аўтара *Бясѣды*....

Цікавым падаецца і напрыканцовы зварот наратара: “А кыли вамъ люба мая бясѣда, ***прыхадзиця маѣ милыя, прыхадзиця маѣ родныѣ*** (вылучэнне нашае. – *М. Х.*). Я вамъ и Палеження тоіе, што у книжцы, атъ дошки да дошки прачитаю и парадкомъ, якъ слѣдуиць, разталкую”. Ці не азначае гэта, што наратар запрашае сялян прыходзіць да яго ў царкву?

У сувязі з гэтым варта спыніцца таксама на жанравых асаблівасцях дадзенага твора. Аўтар, нібыта, сам тут дапамагае літаратуразнаўцам, надаючы свайму тэксту фармальныя і змястоўныя ўласцівасці “гутаркі”, а таксама адпаведна называючы яго. Аднак чаму менавіта *Бясѣда*..., а не беларуская *Гутарка*...? Бо не ўжывалася на Магілёўшчыне слова “гутарка”? (Прынамсі, І. Насовіч не падае яго ў *Слоўніку*). Думаецца, аднак, што асноўную ролю адыграла тут даўняя рэлігійная традыцыя, а менавіта г. зв. “душеспасительные беседы” вядомых царкоўных аўтарытэтаў мінулага.

Аўтар называе свае думкі-развагі *Бясѣда*..., вытрымліваючы іх у форме казання ці “проповеди”. Адно што рэлігійная тэматыка замяняецца грамадска-палітычнай, надзённай (з-за неабходнасці ўплываць на свядомасць неадукаванага, малацывілізаванага люду). Замест цытатаў з біблейскіх тэкстаў тут выкарыстоўваецца народная фразеалогія, прыказкі і прымаўкі. Архітэктоніка твора вызначаецца лагічнасцю і паслядоўнасцю. Відавочна, што аўтар валодае вопытам складання падобных прамоў, скіраваных да “прастачкоў”.

Напачатку *Бясѣда*... дэкляруе святасць царскага слова і сцвярджае значнасць прапанаванай царом рэформы, сутнасць якое адлюстроўваюць Маніфест і Палажэнні. Гэта, звяртаецца ён да сялян, – “вяликае дзѣло <…> волнасць ваша”. І адразу ж папярэджвае: шмат знайшлося такіх, хто, сам не разумеючы рэформы, збівае з толку “народъ праваславны”. Аб’ектам жа асаблівай крытыкі аўтара становіцца нехта “Княжицки”, селянін з мястэчка Княжыцы, што адважыўся сказаць: “Атъ, якая гэта волнасць – ни такія мы спадзивались”.

Якой вольнасці спадзяваўся былы прыгонны, аўтар не паведамляе, не пераказвае ягоных слоў. Замест гэтага падае такую трактоўку “вольнасці”, якая не можа выклікаць ухвалення прыстойнага чалавека: “Можа іонъ хацѣвъ бы; никаго ня слухаць, ни чога ня дзѣлаць, лижаць на баку й штобъ яму яще паднасили и ваду и яду”. Удала зробленая замена дазваляе наратару абясцэніць выказванні Княжыцкага пра “вольнасць”.

Наступная партыя тэксту – пераказ Палажэння: як жыць і чым можна будзе займацца селяніну. Яна завяршаецца абгрунтаваннем права кожнага чалавека “быць и купцомъ и суддзіою и усякимъ чиновникомъ, кыли тольки Бог яго пазавѣць”. А дзеля гэтага трэба вучыць сваіх дзяцей. Так, як гэта ўжо робяць у вёсцы Лазіцы пад Галоўчынам.

Далей у духу хрысціянскай пакорлівасці наратар тлумачыць, чаму селянін мусіць яшчэ два гады заставацца “часоваабавязаным”, г. зн. служыць панам, як і служыў раней, пакуль не будзе складзеная для цябе г. зв. “устаўная грамата”. Бо яна – “дзѣло ни малое”, тут “треба падумаць харашенька”. Увогуле ж служыце не толькі вы, сяляне. Служаць “уси, якъ іосць, Судздзи, Чиновники, сами Старшэйшія, Архирей, Губарнаторъ, уси яны волныя, а служуць болши насъ”.

Аднак вам трэба яшчэ "атдаваць каму што слѣдуиць. Атдавайця, Іонъ вялиць, усякаму, што яму налѣжиць: каму налѣжиць плациць оброкъ, абы рату, плациця; каму павинны узнасиць подаць, узнаситя; каго треба слухаць и шанаваць, слухайця и шануйця; а каго павинны баятца, бойцись". Апошняе тым больш важна, што і беларускія сяляне выказваюць сваё незадавальненне, "прицявплись до Мугулѣва гурбою, турбуваць скаргами сваими и Маршала и Прэзыдентовъ ды й самаго Губурнатора".

Вольнасць сялян у мастацкім успрыняцці аўтара – гэта заблытаны маток, які неабходна развязаць як той гордзіеў вузел. Але менавіта развязаць, як спакойна і няспешна робіць гэта Аляксандар II, а не рассякае яго, як зрабіў гэта колісь Аляксандар Македонскі. Расейскі цар, сцвярджае наратар, не пусціў "васъ на волю, якъ пташыкъ изъ клѣтки", хоць зрабіць гэта было прасцей, а дасць вам пазыку на выкуп сялібы вашай, установіць валасныя ўправы, зацвердзіць міравых пасрэднікаў і інш. А вы выбірайце старшыну, старасту, управу, якія дапамогуць вам скласці ўстаўную грамату, а яна – "канѣцъ дзѣлу". Дык трэба цярпліва чакаць гэтыя два гады ды дзякаваць Богу і цару, а не вымышляць, як той "Княжицки".

У адрозненне ад "казання" (проповеди) дадзены тэкст не носіць рэлігійнага характару і не мае мэты патлумачыць навуку Ісуса Хрыста, але можна выказаць думку, што прызначаўся ён дзеля прамаўлення ў царкве. Магчыма, пачутае нейкім з магілёўскай адміністрацыі павучанне святара, выклікала цікавасць губернатара Аляксандра Беклемішава, які загадаў[1] надрукаваць *Бясѣду*... дзеля выкарыстання яе святарамі і чыноўнікамі ў справе тлумачэння сялянскай рэформы на Магілёўшчыне.

Асаблівасцю гэта твора з'яўляецца і ягоная талерантнасць. Нават свайго галоўнага апанента, "Княжицкаго", аўтар называе адно "пустальгою", "дзиціонкамъ зъ барадою". Тут мы не сустракаем абразлівых выказванняў у адрас прадстаўнікоў іншых народаў і канфесій; тут няма і супрацьпастаўлення паводле класавага падзелу – сялянства і паны. Усё гэта дазваляе ідэнтыфікаваць аўтара як прадстаўніка духавенства, а не якое іншае сацыяльнае групы.

Вельмі верагодна, што аўтарам *Бясѣды*... быў чалавек, некалі прыгонны селянін, які дзякуючы сваім здольнасцям і таленту (гэта добра адчуваецца ў тэксце) змог дасягнуць пэўных жыццёвых поспехаў. І зусім верагодна, што ягоныя поспехі былі якраз у святарскай сферы.

У кантэксце беларускага пісьменства *Бясѣда*... з'явілася дзякуючы Я. Карскаму, які адзначыў яе "чисто деловой характер" і чамусьці ўключыў у раздзел *Антиреволюционные брошюры*[2]. Антырэвалюцыйнасць выяўлялася тут (з пазіцый сацыялістычных ідэй пачатку XX стагоддзя) хіба ў закліку аўтара "глядзи|жъ вольникъ, глядзи хрисцянинъ, штобъ ты да вѣку ни забывъ свайго

[1] Магчыма, інфармацыя (якую першы падаў Я. Карскі) пра даручэнне менавіта губернатара надрукаваць брашуру паходзіць з тытульнай старонкі выдання. На жаль, нам не ўдалося пазнаёміцца з асобнікам, які б меў тытульную старонку.

[2] Е. Карский, *Белорусы в 3 т*., т. 3, кн. 2: *Очерки словестности белорусского племени*, Минск 2007, с. 317.

збавициля АЛЕКСАНДРА, Цара Праваславнага, Атца Миласэрдага!” ды таксама парады “слухаць, шанаваць ды й яще якъ можна и дагаждаць панамъ”. М. Гарэцкі аднёс дадзены твор да “казённай расійскай літаратуры ў беларускай мове”[1]. Беларускія савецкія літаратуразнаўцы звярталі ўвагу, што аўтар *Бясѣды*... імкнецца “ўтаіць <…> класавы змест царскага маніфеста, <…> прыхарошвае і расхвальвае сялянскую рэформу, <…> стараецца дыскрэдытаваць у вачах сваіх чытачоў рэволюцыйна настроеных сялян”[2], “затушаваць класавыя супярэчнасці ў вёсцы, <…> заклікае падпарадкавацца, больш таго, – угаджаць любому памешчыку”[3]. Лічылася, што твор прасякнуты “рэакцыйнымі тэндэнцыямі, слабы і бездапаможны ў мастацкіх адносінах”[4]. Праўда, часам сцвярджалася, што “падрабляючыся пад тон сялянскага дабразычліўца, аўтар умела карыстаецца жывой гутарковай мовай, народнай фразеалогіяй, перасыпае тэкст цікавымі прыкладамі з мясцовага жыцця і старажытнай гісторыі”[5].

Спадзяемся, што публікацыя дасць магчымасць належным чынам ацаніць ідэйна-мастацкія вартасці *Бясѣды стараго вольника зъ новыми, пра ихнае дзѣло*, а таксама зразумець тыя тэндэнцыі ў літаратурным працэсе XIX стагоддзя, якія прыводзілі да ўзнікнення “казённай расійскай літаратуры ў беларускай мове”, польскай літаратуры па-беларуску і польскамоўнай беларускай літаратуры.

Звестак пра распаўсюджванне твора не захавалася. Асобнікі (без вокладкі) маюцца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы (раней: Государственная публичная библиотека им М. Салтыкова-Щедрина), у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы (у матэрыялах Мураўёўскага архіва, LVIA, F. 439), а таксама ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (Ба244293, ксеракопія).

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле фотакопій брашуры *Бясѣды стараго вольника зъ новыми, пра ихнае дзѣло*, (Без д., [1861], с. 1–31).

---

[1] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры*, Мінск 1994, с. 228.

[2] В. Барысенка, *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 1957, с. 133.

[3] І. Лушчыцкі, *Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку*, Мінск 1958, с. 99, 100.

[4] С. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова*, Мінск 1971, с. 14.

[5] Г. Кісялёў, *Кісель Апанас* [у:] *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах*, т. 3, Мінск 1994, с. 247.

# БЯСѢДА СТАРАГО ВОЛЬНИКА ЗЪ НОВЫМИ, ПРА ИХНАЕ ДЗѢЛО

Слово Царскае ни абы якое. Нашъ братъ падъ иншы часъ абицаиць, чаго пасля сполниць и ня всхочиць и ня зможиць, а Царъ што сказавъ – свята. У пѣршымъ укази[1], што пра волнасць, намъ читали, што ниузабави Царъ пришлѣць Палаження[2], на якомъ новыя волники маюць жиць далши, – и во, ужо мѣсицы зъ два, якъ цэлая книжка таго палаження читаитца и у панскихъ палатахъ и пасялянскихъ хатахъ. Вясьцима[3] кожнаму, якъ можна скарэй, хочитца правѣдаць пра сваю судзбину. Письміоннаму-то лацвѣй якъ видущуму, а сляпому канѣшни треба павадыръ, и ниграматнаму патребинъ: хто|бъ яму разчитавъ, дый якъ слѣдуиць и разталкававъ. А такихъ ни мала, ды – хоць на кій вярни! Инши за кварту гарэлки начитаиць и наталкуиць табѣ большъ, чимъ тамъ у книжцы стаиць, ѣткиі-то тлумачи и збиваюць зъ толку народъ праваславны. Гэта я самъ дасвѣдчивъ. У Копыскимъ уѣздзи[4] наѣхавъ я надовичи на бясѣду[5], правда, пачцивыхъ мужовъ, и яны прамижъ сабою гутарили пра волнасць. Ажну варомъ абдало мянѣ, якъ прислухався я къ ихъ бясѣдзи. Мужи, здалось мнѣ, разалютныя[6], а талкуюць, якъ гародзюць и нима знаць што. Ня уцѣрпивъ жа я, а сказавши дзѣнь добры, сумыслу запытавъ ихъ: А ци давольны|жъ вы, братцы, палажённимъ, што Царъ Миласливы приславъ вамъ? Ни тымъ ни симъ ни атгукнулись яны мнѣ; а я усіо-тки ящо запытавъ ихъ: якъ бачу я, вамъ читали пра волнасьць и палаження, ды хто|жъ-то читавъ и талкававъ вамъ пра ѣта? „Салдат" Салдат? „Ды нѣ; іонъ вочинна письміонны, читаиць, якъ у ледъ рубиць, дый бывалы – нѣчага сказаць. Якъ іосьць у нашымъ Царсцви Губэрніи, уси намъ пиричытавъ, дый ящо, якъ и|дзѣ паводзитца, што пьюць,

---

[1] Маецца на ўвазе *Высочайшій Манифестъ о Всемилостивѣйшемъ дарованіи крѣпостнымъ людямъ правъ состоянія свободныхъ сельскихъ обывателей, и объ устройствѣ ихъ быта* (1861 г., Февраля 19).

[2] Маюцца на ўвазе *Высочайше утвержденное Общее Положеніе о крестьянахъ, вышедшихъ изъ крѣпостной зависимости* (1861 г., Февраля 19), а таксама *Высочайше утвержденное Мѣстное Положеніе о поземельномъ устройствѣ крестьянъ, водворенныхъ на помѣщичьихъ земляхъ въ губерніяхъ: Великороссійскихъ, Новороссійскихъ и Бѣлорусскихъ* (1861 г., Февраля 19).

[3] Вядома. Уладзімір Даль (*Толковый словарь живого великорусского языка*) падае гэтае слова як абласное, тамбоўскае. У літаратурнай расейскай мове, здаецца, упершыню зафіксавана ў аповесці А. Пушкіна *Дубровскій* (1841).

[4] Паводле *Памятной книжки Могилевской губерніи на 1861 год* (с. 43–44), Копысь знаходзіцца за 65,5 вёрстаў ад Магілёва; насельніцтва складае больш за 3 тыс. чалавек; у горадзе было 7 праваслаўных цэркваў.

[5] Звернем увагу, што ў 1840–1850 гг. папулярнымі былі *Бесѣды* Васіля Вялікага. Гл. напрыклад: *Творенія святыхъ отцевъ въ русскомъ переводѣ, издаваемыя при Московской Духовной Академіи*, томъ 8-й: *Творенія иже во святыхъ отца нашего Василія Великаго, архіепископа Кесаріи Каппадокійскія*: *Бесѣды: Бесѣда 20: О смиренномудріи*, часть 4-я, изданіе 1-е, Москва 1846.

[6] Кемлівыя, разумныя, цямкія (ад польск. *rezolutny*).

што ядуць и у чомъ ходзюць, усіо намъ разказавъ; дый платы усяго па гривиннику зъ двора яму было; А ци разчитавъ жа іонъ вамъ и ци разталкававъ: на якимъ палаженню вы цяпѣръ и дальшъ праживаць будзиця? „Ды нѣ; гэтаго нѣшта и самъ іонъ ни разабравъ, абы[1] ни разшупивъ; мусиць хитра, абы иншыми литэрами тамъ написана." Ну ци ни правдзива|жъ тая приказка, што сляпы віовъ сляпога дый абоя у воду, абы у яму, а хоць и ни такъ, усіо-тки дароги ни знайдуць. Ни папущъ[2] гэтаго и мужы тыя, зъ сваимъ салдатомъ блудзюць – дый тольки! Сарочка свая, здаѣтца, ближей къ цѣлу; чимъ бы разчитываць: што дзѣитца, якъ паводзитца у другихъ Губэрніихъ, вы старэлись-бы пѣршъ на пѣршъ пазнаць, што вамъ Царъ Милосливы павялѣвъ, чимъ васъ ужо Іонъ благаславивъ и што ящо приабицавъ. А дзѣли гэтаго вы прасили|бъ каго-нибудзь совисливаго, хто самъ дзѣла суполна разумѣиць, а ни жидовъ, а ни салдатовъ и иншыхъ такихъ жа письміонниковъ. Яны, правда, читаюць, ды такъ, можа кыли чули, якъ котъ на гусляхъ абы цымбалахъ играиць. Іонъ играиць, а што играиць и самъ ни|знаиць. Ни станиць-жа табѣ вясялѣй атъ такихъ играцовъ, ни набярешъся ты розуму атъ такихъ читэльниковъ. Ахъ братцы маѣ милыя, братцы маѣ родныѣ, паслухали|бъ вы старага волника; іонъ бывалы и чувалы и дзѣло, якъ слѣдуиць разумѣиць. Ни станиць іонъ ни кпиць ни муциць, якъ иншыя, у бясѣдзи пра такое вяликае дзѣло – якъ волнасць ваша. У усякомъ дзѣли добра рада, добра дзвѣ, а три ящо лѣпши – а тутъ и сотни ихъ ни сапсуюць. Кыли|жъ вамъ тольки люба правда, паслухайця яѣ, друззя маѣ милыя. За ниправду пирыдъ вами и Начальствамъ я гатовъ атвѣциць, а за щирасць сэрца Бога у свѣтки ставлю. Памажи|жъ-ты намъ, Господзи, и читаць и слухаць и паняць и спалняць раду правдзивыхъ людзѣй и талковыхъ.

Болши пчолъ, кажуць, болшъ и гуку, а биваиць и, адна дурная муха, якій нибудзь даѣдливы шерсцинь нагудзяць галаву боли, чимъ сотни Божжыхъ пчолакъ. Мнѣ такъ и злучилась. На-завтра, якъ прачытали у церквахъ указъ Царски пра волнасць, на папасцы у Мястэчку Княжицахъ[3], што пирыдъ Мугулевомъ, мнѣ трапилась размавляць зъ аднымъ новымъ волникомъ, и іонъ мнѣ столько нагукавъ, што и сотни старыхъ такъ-бы прыкра ни нагаманили. Я атъ щыраго сэрца, праздравляю яго зъ Божжэю и Царскаю миласцію – зъ волнасцію, а іонъ, Богъ яго вѣдаиць, ци ни дачувъ Указу Царскаго, ци тамъ чаго ни разабравъ, ци хто изъ кѣпства набавтавъ яму нима знаць – чаго, чимъ бы пакланитца Богу и Цару, дыкъ іонъ ящо атвярнувся ды й забубнѣвъ: „Атъ, якая гэта волнасць – ни такія мы спадзивались.

Съ талковымъ и талкаваць люба, а зъ бизталковымъ ни разу толку ни дабяресся. Ни дайшовъ и я, якія|бъ волнысци яму хацѣлась. Можа іонъ

[1] Абы́ 'або' (віц., маг.). Гэткая форма сустракаецца, прыкладам, у творах Восіпа Арлоўскага.

[2] Не горш. Параўн.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 540: "ПУ́ЩИЦЬ, - ію, сов. Попу́щиць, гл. ср. Становиться хуже, приходить въ худшее положеніе. *Погода пущіиць, попущила*".

[3] Паводле *Памятной книжки Могилевской губерніи на 1861 год* (с. 13–14), Княжычы знаходзяцца за 13 вёрстаў ад Магілёва; насельніцтва складае больш за 600 чалавек (220 праваслаўных і 26 каталікаў); у мястэчку была адна праваслаўная царква.

хацѣвъ бы; никаго ня слухаць, ни чога ня дзѣлаць, лижаць на баку й штобъ яму яще паднасили и ваду и яду. Ахъ, закрый-жа насъ Боже атъ такія волнысьци! Сваяволцами мы ни были и быць ня хочимъ и дзицям нашимъ ни вялимъ. Пашли Господзи, здаровья рукамъ и нагамъ нашимъ, ни атыми розуму атъ галавы, мы сами, сваіою, працаю дабудзимъ сабѣ кавалакъ хлѣба, и ни захочимъ ѣсць чужога, якъ тэй труцинь паядаиць міодъ пчалины. А можа іонъ, якъ дзиціонакъ, хацѣвъ-бы слабоды, якую маюць звяры абы пташки у лѣсахъ, хацѣвъ-бы литаць абы бѣгаць куды яму заугодна? Ды нѣ, ма-быць ни знаиць іонъ, што звѣры и пташки, большъ яго можа працуюць. Звѣра ноги кормюць. Адны ноги и давъ яму Гасподзь дзѣли профиту[1]. Ни ляжиць-жа іонъ на баку, а дзѣнь и ночъ ни даѣць нагамъ супакою, а падъ инши часъ, падаиць-падаиць, дый зъ голоду заходзитца, и ни тамъ жа іонъ бѣгаиць, идзе|бъ[2] яму вясіоласць знайци, нѣ, идзѣ|бъ парваць паживу, ды йдзѣ|бъ яго ни паймали дый шкуры ни садрали. А пташычка Божжа? Іой и давъ Гасподзь адны крылышки на пракармлѣння. Ни сядзиць-жа яна, а зъ зары да зары литаиць, якъ бы папасць зернушка ды склюваць яго, а ни знашовши, идзѣць то у клѣтку, то у сѣтку. А пачуиць зиму, бѣдная – ляциць за тридзѣвяць зямѣль и дзисятая можа даляциць, а двадцатая вѣрнитца къ гняздзѣчку свайму. Ды-къ ци гэта|жъ волнасць, ци гэта|жъ слабода!

Нихай сабѣ тэй Княжицки сядзиць тамъ дый талкуиць, нихай паджидаиць сабѣ волнасци, якія на усіой зямли ни разу ни чувана и ни слыхана, а я васъ, маѣ милыя братцы, проздравляю зъ вяликою, вяликою Божжею и Царскою миласцію – зъ волнасцію, альбо слабодою. По Божжаму благаславѣнню, Царъ Миласливы павялѣвъ, и вы такъ сама волны якъ я, други и усяки волны чалавѣкъ у Царсцви Русськомъ. Ты волны; цяпѣръ и ты якъ я, други усяки, маишъ волю купиць сабѣ и сялицьбу и пахату и усякую якъ змага, маитнасць. Ты волны; нихто цябѣ ужо ни купиць, ни прадасць, якъ дагэтуль вадзилась. Ты волны: сямѣйка твая наусіоды пры табѣ, ни атдадуць дзиціонка твайго аднаго у Ригу, другога у Адэсу, абы ящо и далши. Ты волны: ни пирагонюць цябѣ изъ хаты у хату, абы у други канѣць дзяревни, – нѣ. Дзѣци тваѣ унуки и праунуки, пакуль захочуць, астанутца на сваемъ карани, хиба хата твая падъ вокнами панскими – гэта иншае дзѣло. Дагѣтуль ты самъ и усіо тваіо ни тваіо было, а усіо панское апрочъ души аднэй, а цяперъ усіо што ни дабудзишъ ты трудомъ чеснымъ, што ни пашлѣць табѣ Гасподзь у хату, стада, засики и на поле, усіо тваіо и дзяцѣй тваихъ. Мірскія, идзе іосьць, капиталы, мірския хлѣбныя магазыны зъ хлѣбомъ у ихъ, астаютца абщаству што яго зсыпала. Дагэтуль, апрочь сахи и бараны, ни знавъ ты ни якихъ промысловъ, акромъ сваѣ дзяревни, ни ухадзивъ зъ людзьми ни у якія антарэсы, а цяпѣръ, якъ уси волныя, и ты волинъ: брацъ кантракты и падрады на што табѣ зручна, дзѣлаць дагаворы и съ казною,

---

[1] Заробку, карысці з нечага, спажывы (ад польск. *profit*).

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 224: ИДЗѢ, послѣ согласной предъидущаго слова. Йдзѣ, нар. Гдѣ. *А йдзѣ ты бывъ? Нема йдзѣ подзѣ́цьца. Идзѣ грѣхъ, тамъ и пока́янне*”.

и съ купцами, и съ панами на усякую усячину: таргавацъ у малыхъ кромахъ а кыли хочишь и у болшихъ, ды тольки будзиць треба плациць у казну, якъ плоцюць купцы другія; записыватца у цахи и заниматца рымислами, купляць и строиць усякія будынки хвабрычныя, тарговыя и иншыя хоць и заводы якія, и быць суполнымъ ихъ хазяиномъ. А пазавѣць цябѣ Гасподзь на супакой вѣчны, ты бязъ гора сащепишъ грѣшныя руки и на сваей ужо лавцэ, бо вѣдаишъ, што будовля твая, пашня и уся рухамасць твая астаѣтца дзѣткамъ тваимъ, а ни таму ужо, каму панъ павялиць. А дзѣтки тваи? И яны, якъ дзѣци волниковъ, смѣюць быць ужо такъ сама якъ и маѣ, другога и усякага волнага. И твой сынъ волинъ быць и купцомъ и суддзіою и усякимъ чиновникомъ, кыли тольки Бог яго пазавѣць. Тольки вы ихъ научайця и закажиця, штобъ яны дзѣла свайго пилнавали, а Бог, кыли захоциць, атъ сахи и бараны пазавѣць и пасадзиць на самымъ высокимъ мѣйсцу. Гэтакъ ужо злучалось; кали вы цикавы, я што-нибудзь вамъ и скажу.

У Рыми бывъ зимлядзѣлицъ чесны, а звали яго Нума[1]. Ни|стала тамъ Цара; у Саноци пачали думаць ды разсуждаць, каго|бъ пасадзиць на Царства. Па Божжаму указанню уси у адзинъ голас аткликнулись: Нуму. Іонъ працавиты, старэѣтца пра хазайства, будзиць старэтца и пра царства; іонъ совисливы, правдзивы и разалютны, – таки намъ и патрэбинъ. А Нума ни чога знаць ни зная, рабатаиць на сваей паласѣ, а тутъ и приходзюць паслы изъ Санота зъ хлѣбамъ-соллю, дый просюць яго на Царства. Сумнився Нума, ды ни пасьмѣвъ атказацца. И што|жъ вы думаѣця, яки бывъ Царъ! И цяпѣръ пра яго помнюць и да вѣку ни забудуць. Гэта усіо я вамъ дзѣли таго дакладаю, штобъ вы дзяцѣй сваихъ научали пилнавацъ хазяйства, а ни дратца заразъ и лѣзьци у чины. Богъ самъ пазавѣць, каго аблюбиць. И мянѣ Гасподзь благаславивъ сынками, я хачу и научаю ихъ, штобъ и яны такъ сама были якъ и я; Ды Богъ-жа вѣдаиць, куды катораго павѣрниць: Можа каторы и лѣпшъ мянѣ будзиць, а каторы и хужэй. А усіо-тки учиць дзяцей якъ намъ, такъ и вамъ патребна. Я трошки и да гэтага вамъ скажу.

Іосьць чутка, што Царъ скора павялиць у каждэй парахвіи завадзиць школы дли научення дзяцей вашыхъ, штобъ яны знали Бога и людзѣй. Охъ, братцы, гэта вамъ Царъ даѣць яѣчка ды аблуплинае, на Яго Царскай Миласьци вы волны; Іонъ и хочиць, штобъ и вы ни астались атъ другихъ волныхъ людзей Яго-Царства, штобъ вы знали дый панимали, што знаюць и панимаюць уси другія волныя. Ды вотъ – ага, чаму вы ни знаиця Лазицъ[2], што подъ Галовчиннымъ[3]. На самую Зборницу[4] трапилась мнѣ атдыхаць

---

[1] Аўтар выкарыстоўвае апавяданне са старажытна-рымскай міфалогіі пра Нуму Пампі́лія (лац.: Numa Pompilius), другога пасля Ромула цара Старажытнага Рыма кан. VIII – сярэдзіна VII ст. да н.э., які вылучаўся сваёй справядлівасцю.

[2] Дзве вёскі (Вялікія і Малыя Лазіцы) і маёнтак Карніцкіх (796 дзесяцін) у воласці Таўпечыцы (сёння ў Таўкачоўскім сельсавеце Шклоўскага раёна).

[3] Паводле *Памятной книжки Могилевской губерніи на 1861 год* (с. 14–15), Галоўчын знаходзіцца за 30 вёрстаў ад Магілёва; насельніцтва складае больш за 900 чалавек (498 праваслаўных); у мястэчку былі дзве праваслаўныя царквы.

[4] Маецца на ўвазе шклоўскі кірмаш, які адбываўся на другім тыдні вялікага паста, у 1861 г. – з 25 па 31 сакавіка.

тамъ ѣдучи на кирмашъ да Шклова. Привярнувши къ каршми, ухаджу у хату, и виджу ня тэй строй, што у каршми, и заразъ даумився, што ни туды папавъ, дый й-заразъ жа и спазнавъ куды. Хлопчики и дзѣвачки сидзяць у лавкахъ асабливыхъ, ни такихъ якъ у хатахъ насських; пирадъ кажнымъ книжка и указка; на куце сиржантъ заслужоны: три хрясты и три мидали, висяць у яго на мундзѣри, а кала пѣчи сидзяць мужи два тамтэйшыя. Тольки на парогъ я, хлопчики и дзѣвачки заравъ[1] ускачили, и мнѣ дыликатна укланились. И я скланився и сказавши: Богъ на|помачъ, сѣвъ зъ мужами кала пѣчи. Ни зумѣю я сказаць вамъ, братцы, якъ то радасна сэрцу майму стала тольки зачытали дзѣтки тыя малитвы Гасподни – ды такъ смѣла, ды такъ громка, такъ выразна, якъ ня треба лѣпши. Пакуль яны читали, я, раззюкавшись зъ мужами, разажвавъ дзѣло. Тутъ, якъ я вѣдавъ, была каршма, ды панъ Карницки, пирадъ мѣншаю Прачыстаю у прышлымъ годзи, пастроивъ другую далши атъ дзяревни, а ближэй къ свайму двару, а гэтую будовлю падарававъ на школу дли дзяцѣй пасилянскихъ. Таго|жъ часу айцы вумныя й привяли дзяцѣй у науку. Священникъ тутэйшы узявся учиць, а да памоги яму пан Карницки давъ Сиржанту паiокъ ды й нѣшта грошы, штобъ iонъ живъ у школи, приглядывавъ за дзѣцьми, дый учивъ бы ихъ, кыли Священникъ биваиць нивздалѣиць, абы падъ иншы часъ и за нѣкальствамъ яму ня можна. Ни взабави затризвонили къ абѣдни. Уси устали, памалились дый скланились и парадычкомъ па пары пашли у Церковъ Божжу, а Сиржантъ за ими, а мы ужо посли. Низдзивився[2] я дзѣткамъ. Уси якъ аднаго атца, уси бѣлинькiя уси чисьцинкiя, якъ у аднаго платочки, якъ адзинъ паясочки. Ма быць панъ Карницки прибравъ такъ дзѣтыкъ? „Ды нѣ, выши падымай" адзинъ зъ мужовъ атгукнувся мнѣ, „гэта самъ Губернаторъ." Якимъ жа то злучаимъ? „Iонъ жа сiолита на Иллю Святога нарошня, ма быць, изъ цикавасьци, а можа и ни|павѣривъ, штобъ дзѣци пасилянъ учились письму, Самъ прiизжавъ у Лазицы, бывъ у школи, самъ кождаго дзицiонка заставлявъ читаць Яму, Самъ разглядывавъ кожнаго писання, и нѣчаго сказаць, якъ мы сами бачыли, дужа цѣшився. Благадарывъ пана, пахваливъ айцовъ, пагладзивъ дзѣтакъ, еще кожнаму учню ажну зъ Мугулѣва прислав и платки и паясы." Сами ж разсудзиця: якъ то радасна было мнѣ слухаць такiя рэчи, а яму расказываць. А вайшовъ я у Церкву, усiо ровна якъ у Рай Нябѣсны. Хлопчики на крыласи и читаюць и спѣваюць; Айцы старыки ни нарадуютца; самъ я видзивъ, якъ яны уцирали слiозы, што атъ радасьци у ихъ цякли. Ня уцѣрпивъ-жа и я, признатца праслязився; дый думаю сабѣ: щасливы гэты дзѣтки, яны на лѣта ужо сами будуць учиць и брацнивъ сваихъ и сясьцiоръ и, каму заугодна, сасѣдзѣй. Раю жъ вамъ, братцы, атъ щирой души, атдаваць дзѣтыкъ сваихъ у науку. А можа, ни папушъ[3] тыѣ казки, што скора кажитца, ды дзѣла ня скора дзѣлаитца, можа и чутка, што школы при

---

[1] Так у арыгінале. Трэба: *заразъ*.

[2] Параўн.: "Хоць хлеба-соли тут ни маим, // Ты ***низвини***, што так пришли" (*Чалом, чалом, оцец татулька*!..).

[3] Так у арыгінале. Трэба: *папущъ*.

церквахъ будуць, ня скора збудзитца, а тымъ часомъ дзѣтки ваши пирарастуць, дыкъ вы|жъ цяпѣръ волны: сабярицись, парахуйцись мижъ сабою и разчитайця, скольки хлопчиковъ и дзѣвачыкъ гатовы хоць заразъ учитца, скажиця хоць и Священнику свайму, іонъ даложиць Начальникамъ, и вы чирызъ годъ будзиця сами цѣшитца дзяцьми сваими ня пущъ Лазицкихъ. А падростковъ, можна атдаваць учитца и масьцярству. Цяпѣръ вы волны, и нихто вамъ паречиць въ гэтымъ ни станицъ. Нихай у вашэй валасьци будзиць свой и шавѣцъ и кравѣцъ и усяки други майсьциръ. Абшчаству будзиць добра и майстру кавалакъ хлѣба чистага. Пакуль што зямѣльки у цябе нигараздъ многа, а сямѣйка слава-Богу! Ци усимъ жа имъ варочица кала нявяличкага лапика зямли? Нѣ, треба усякой руцэ даць дзѣла, дый напяродъ придумаць, штобъ яны ни гуляли. Дагэтуль дзѣла паньскае было даць парадакъ тваимъ дзѣціомъ, а цяперъ нѣ; Па Царскаму палаженню ты волинъ, идзѣ хочишъ и съ кимъ знаишъ, адружиць ихъ, ни пытавшись у пана, ды табѣ жъ треба и рупитца: идзѣ пасялиць, куды атзялиць ихъ. Панамъ лацьвѣй было: у ихъ зямельки досиць, а у нашихъ и надта, а табѣ, пакуль што, бузиць усякава. Дыкъ дзѣли гэтага|жъ я вамъ и раю научаць дзяцѣй вашихъ, штобъ яны, апрочъ зямли, умѣли зарабиць кусокъ хлѣба иншимъ чеснымъ способомъ. Усіо ладна, што умѣишъ, ни насиць-жа яго за пличами, а палядзишъ бываиць и пригадзитца. И у насъ у Мугулѣви, часцютенька инши ходзиць, ходзиць зъ двара у дваръ то зъ иголкаю, то зъ шиломъ, абы зъ другимъ якимъ струмэнтомъ, а паглядзишъ, то зямѣльки шматокъ купиць, то дварокъ збудуиць, дый яще яки! Судзи Божа намъ и у васъ такія видзить. А чаму|жъ и ни такъ, кыли будзитя старэтца, дый слухаць добрыя рады, а ни такихъ пустамалотавъ, як тэй княжицки. Ды іонъ правда яще ускаржався, на|што у Царскимъ Укази написана: Служиць панамъ якъ служили.

Правда у Царскамъ укази такъ и стаиць, тольки|жъ служиць ужо, якъ волныя служуць волнымъ. А узгляницитка ды разсудзицитка: хто и йдзѣ тэй волны, штобъ іонъ ни служивъ ци абшчаству, ци каму нибудзь другому? Я волны, а ци хацѣлась|бы мнѣ инши разъ на хуртавини[1] па бяспуццю ѣхать за кольки миль; ды што|жъ дзѣлаць? Указамъ Царскимъ приставлинъ я къ дзѣлу, треба спалняць яго. Ды што|жъ я? Уси, якъ іосць, Судздзи, Чиновники, сами Старшэйшія, Архирей[2], Губарнаторъ, уси яны волныя, а служуць болши насъ. Вясьцима болшаму каню и болши возъ. Чимъ болши чинъ, тымъ болшъ и службы, а мѣншъ слабоды. Уси яны служуць, якъ Царски Указъ вялиць, спалняюць яны яго, и жалованння бяруць; а ни|спалняюць? Идзи – куды хочишъ! А Самъ Царъ? О и яго сэрца у Божжихъ рукахъ! Што ни павялиць Яму Господзь, то Іонъ спалняиць и пирыказываиць свайму народу. Дый сямѣйка-то яго нималая! А чимъ большъ симья, тымъ болшъ и клопоту хазяину. Вы сами чуиця, што Царъ кожны годъ выизжаиць то

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 684: "ХУРТОВИ́НА, ы, с. ж. Нечаянное происшествіе. *Хуртовина нѣйкая тутъ случилась*".

[2] Архіерэем у Магілёўскай губерні называлі ў той час архіепіскапа Магілёўскага і Мсціслаўскага Яўсевія.

у чужыя краи то зъ канца у канецъ свайго Царства, дый ни на|гулянку, дый ня у госци. А ци ни слабадней, ци ни спакайней бы яму сядзець у сваихъ палатахъ зъ Царицею и дзѣтками? Ды нѣ, якъ рупытливы хазяинъ, хочиць самъ усюды даглѣдзиць. У чужыхъ краяхъ глядзиць Іонъ на чужыя парадки, ци ня лѣпши яны нашихъ и ци няможна|бъ ихъ завѣсць у насъ. А па свайму Царству, хочиць упѣвнитца: ци усіо тамъ дзѣитца, якъ яму даносюць; ци нима якихъ бѣдныхъ, каму бъ успамочъ треба; ци ни паскаржитца яму хто на Судздивъ абы Начальниковъ; а сіолита можа іонъ паѣдзиць Самъ праведаць: ци рады-то новыя вольники, ци паняли-то яны вяликую и нисказанную Яго Миласць Царскую. Ну штобъ-то было бъ, акъ-бы Іонъ, Божа барани, наѣхавъ на такую пустальгу, якъ тэй Княжицки?

Ды-къ видзиця|жъ маѣ милые, што уси мы волныя, а служимъ, и бязъ службы жиць ня можна и Самъ Царъ, большъ, якъ матка у вуллю, усимъ намъ служиць. Вясцима, вы ужо волныя, а усіо|жъ-тыки: ци ня|треба и пѣць пѣсни, на чыемъ конику ѣдзимъ? Вотъ маѣ братцы, Царъ гэтаго только атъ васъ и хочиць. Якъ ѣта, я вамъ разталкую. Можа знаиця кыла Мугулева Лотву[1], тамъ цэлая аколица дваранъ, сидзяць яны на панской зямли, тримаюць панскую пахату, ну, и плоцюць па саглассю рату дый слухаюць пана, Виллямовськага. Ды ци мала и шляхтъ и волныхъ хлѣбапашцовъ, што яны дзиржаць пахату у пановъ дый плоцюць имъ, якъ умова, абы грашми абы ряботаю. А у мястэчкахъ а у гарадахъ и бизъ пахаты плоцюць волныя за тэй ласкуцикъ, идзѣ стаиць ихъ хатка хоць и бязъ сянецъ. Ды на што даліока? Я самъ аставшись сирацинаю, ня мѣвъ ни двара ни кала и гадовъ болшъ якъ симнанцать нанимавъ дварокъ и гародзишка у Мишчанина, плацивъ яму якъ іонъ хацѣвъ справна, дый шанававъ яго, якъ хозяина. А цяперъ, Богу спасиба и людзямъ добрымъ, живу у сваіомъ дворэ, ды на чужэй зямли и ни за вялички кавалакъ плачу у годъ три цалковыхъ, и ни жалкуюсь на хазяина. Ци вининъ жа іонъ, што у мянѣ зямли ни-ма и купиць яе ни змага мая. Дый у мянѣ у сасѣдзяхъ живець Савѣтникъ, и іонъ мнѣ плоциць, якъ яму сходна и мнѣ угодна, дый виличаиць и пачитаиць мянѣ якъ хазяина; а ни такъ? Я нашовъ бы сабѣ пастаялца иншаго. И табѣ Царъ вялиць: пакуль ты живѣшъ на панской зямли, дзяржишъ панскую пахату, пакуль ты ни аткупивъ ихъ на вѣчнасць, штобъ ты и служивъ ци плацивъ пану, па добраму саглассю мижъ сабою, такъ, штобъ и яму и табѣ ни было абидна. Для гэтаго, Палаженнимъ Царскимъ што у тэй книжцы, катора у усякую воласць прислана, павяляно составиць ци для усіой панщины, ци для кажной дзярэвни, ды хоць и дзѣли цябѣ однаго, кыли ты захочишъ атъ пана болшъ якой выгоды якъ иншая дыкъ приказана саставиць Грамату и яна будзиць зватца у бумагахъ: Уставная Грамота: бо у іой будзиць написанъ уставъ, абы урядъ абъ усіомъ: скольки, идзѣ и якія зямли и другія угоды даѣць табе панъ и чимъ ты яму, па добраму соглашенню, ци службаю ци платаю павининъ. Царъ приказавъ строга, штобъ ѣта Грамата, якъ іосць усюдыхъ, чрызъ два

[1] У воласці Таўпечыцы. Сёння – Старая Водва.

годы, атъ прышлэй ящо масляницы, спалнялись. Будзиць грамата падписана, тады ни захочишъ ты, лишнія щепки ни падымишъ. Ды абъ ѣтай Грамаци треба падумаць харашенька; яна дзѣло ни малое, для гэтага я вамъ вопасли скажу, якъ слѣдуиць, толкомъ и парадкомъ: А цяпіеръ, пакуль што, разсудзицитка вы сами:

Иншыя паны, грѣхъ худое слово сказаць. Дай Божа такихъ людзѣй на свѣци и болшъ было. И людзи ихъ, якъ людзи, и хатки пасилянъ, якъ хатки; ды иншыя зъ ихъ нидавна ящо и маіонтки пакупляли, палажили на ихъ капиталы, ды й на шыю ящо можа прихапили. Ну ци захацѣли|жъ бы вы сами, штобъ у ихъ усіо ѣта чесна дабытае атабрали, и штобъ яны пашли по|миру, сащапивши руки?. Богъ ня вялѣвъ, ня тольки браць, ды й бажаць[1] чужога. На ѣтай асновѣ и Царъ Праваславны, па Божжему закону, такъ и ладзиць, штобъ аднэй руцэ было ліогка и другой ни цяжка. Ды якъ-бы ты и самъ зрабивъ, кабъ у цябѣ бывъ сынъ ужо хазяинъ, и сваею працаю приспаромивъ сабѣ, што патребна у хазяйсьцьви, ну, ци павялѣвъ бы ты яму атдаць усіо ѣта мяншому брату, а самаму пайциць, абы зъ пугаю, абы зъ торбаю.? Ой нѣ и дужа нѣ! Скарѣй бы ты ставъ малитца болшаму, штобъ іонъ, чимъ ласка, спамогъ мяншому. Царъ Прэмилысливы и здзѣлавъ дзѣли васъ усіо, што тольки ацѣцъ родны узмогъ бы здѣлать свайму дзиціонку. Якъ матка за дзяцѣй причинився Іонъ къ панамъ за васъ, и яны здѣлали усіо, што тольки здѣлавъ-бы братъ брату, Хрисцянинъ Хрисцянину. Для гэтаго я вамъ и раивъ бы, якъ брацціямъ роднымъ: пацѣшиць Цара, дзиньковаць панство сваіою имъ слухмяносьцію и пашцивосцію. Дый ци ладна, ци пригожа, ци разумна ты здѣлавъ-бы, кабъ, сянни заставши волнымъ, руки назадъ, пипку у зубы, шапку набакъ, и носъ наносъ сустрэвшись съ паномъ, и галавы яму ни схиливъ? Чаму, инши блазинъ такъ-бы й здѣлавъ, а вы глядзиця на насъ старыковъ. Атъ чаго|жъ мы и привитаимся и парукаимся съ усякимъ знаіомымъ, а биваиць и ня стоющаму атдаемъ паштэніе; пакорныя галавы и мѣчъ ня|ймѣць; а пирыдъ старэйшимъ и шапки даловъ, а пирыдъ начальникомъ паклонимся и руки спусцимъ. Мы цяпѣръ уси волныя, а усіо-тки чинъ чина поважаиць, хто болши, тэй ня мѣнши. У адной хаци симья, а й тамъ ня будзиць ни спакою, ни парадку, кыли уси тамъ ровны, кыли мѣнши ни станиць слухаць и паважать старэйшаго. Дзѣли гэтага|жъ-то и Царъ у Укази сваіомъ и вялиць усимъ намъ словомъ Божжимъ атдаваць каму што слѣдуиць. Атдавайця, Іонъ вялиць, усякаму, што ямуналѣжиць: каму налѣжиць плациць оброкъ, абы рату, плацица; каму павинны узнасиць подаць, узнаситя; каго треба слухаць и шанаваць, слухайця и шануйця; а каго павинны баятца, бойцись.

Правда у сямьи ни бизъ уроды, и паны иншія усякавы были. А усіо тыки ня треба плюваць и у лужу. Ой биваиць згадзитца и напитца! Атъ сэрца щирага я раивъ бы вамъ, як сваимъ дзѣцямъ: слухаць, шанаваць ды й яще якъ можна и дагаждаць панамъ. Вамъ треба, хоць|бы и савсимъ ты аткупивъ

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 12: "БАЖА́ЦЬ, сов. Побажа́ць, Забажа́ць, гл. д. Сильно желать, просить. *Попа бажаець, забажавъ*".

сваю сялицьбу, жиць зъ ими, якъ зъ заможными и имянитыми сасѣдзьми. Дасць Богъ свая будзиць у цябѣ маинтнасць, а усіо тыки, пакуль ты абглѣдзисся, ды абживѣсся, ноды[1] ни|станиць у цябѣ хлѣба ци на сѣмя, ци на ѣмя; а можа патрэбуитца и бярно якое на будовлю, ды хоць и куль други саломки; хто жъ цябѣ вызвалиць? Даліокага низнаіомага и прасиць нѣчага; а прихились ты къ сасѣду имущуму, и іонъ, помнючи тваю пашцивасць, тады ужо якъ ты заставъ волнымъ, у всіомъ и заусіоды цябѣ вызвалиць. Сами вѣдаиця, што рука руку мыиць, у добрымъ сасѣдзстви такъ и бываиць: ты сягодни паслухаишъ сасѣда, а іонъ цябѣ заутры, ты разъ яму дагадзишъ, а іонъ табѣ дзѣсиць. Ды цяпѣръ, нѣчага сказаць, и паны, спазнавши Царскую къ вамъ миласць, стали ужо къ вамъ прихильливѣй, ды иншыя братця ваши сами псуюць дзѣло. Тольки прачитали пра волносць, ни разтуркавшись, ни сѣла ни пала, а ужо прицявплись до Мугулѣва гурбою, турбуваць скаргами сваими и Маршала и Прэзыдентовъ[2] ды й самаго Губурнатора, а абъ чомъ и на каго яны скаржились, таго й сами ня вѣдали. Адно слово: на|што три дни пригону. Да гэтуль мовча служили, скольки панъ хацѣвъ, и згону и пригону и, ня у счотъ таго, атбывали усякія нарады и узнасили розныя падачки, а якъ Царъ, штобъ волникамъ таго|жъ часу стала слабоднѣй, павялѣвъ скасаваць и згоны и нарады и падачки, а штобъ паны, апрочъ тріохъ дніовъ у нядзѣлю, ни чога большъ ни заказывали и ни къ чому ни примушали, ды-къ тымъ мужыкамъ што скаржились, цяжка стала. Ды и три дни гэтыя, пакуль тольки напишитца ды падпишитца тая уставная грамата, што я вамъ казавъ, а тады ужо пойдзиць дзѣло, якъ тамъ, па доброму саглассю, паложицись. Посли гэтага я запытавъ-бы васъ: на каго-то яны, тыя скаржились? Вясьцима на таго, хто ни вялѣвъ, апрочъ трохъ дзіонъ, служиць ни якихъ боли згоновъ, и ни узнасиць да скарбу панскага ни птасства, ни масла, ни яѣцъ, ни міоду, ни грыбовъ, ни палатна, ни вовны и ни пражи – и инших падачикъ. Ой нѣ! мусиць скора имъ надаѣла волнасць, и яны йскали няволи. Хвала Богу, што Царъ Милысливы паставляиць намъ и Начальниковъ Миласливыхъ. Яны разгадали, што тутъ ни сляпцы винаваты, а павадыры, и пагразившись на пѣршымъ, дый пусьцили ихъ. Ды нихай сабѣ пусьцили, а яково-то было имъ слухаць такую ниразалютную скаргу, ды якаво-то, ци пригожа-то иншымъ вольникамъ глядзѣць было: якъ тыя разумники у самую работу ишли гурбою до Мугулѣва, и нима знаць чаго, и якъ ихъ дзисятники справадзили ажъ за браму. Мабыць яны и ни чули и ни|знали, што Царъ благаславивъ ихъ волнасьцію, ци мусиць инакши ни|зумѣли спасибкаваць и Цару и панамъ, якъ заразъ жа падымаць суды на пановъ за тоіе, на|што яны атступились ихъ. Нявольникъ зъ турмы выходзиць, и якъ тольки прачытаюць яму слабоду, самъ ня вѣдаиць якъ дзиньковаць Богу и усимъ, усимъ, якъ іосьць, и самъ отъ радасьци ни угадаиць

[1] Ноды 'выпадкам, раптам'. Гл.: А. А. Крывіцкі, *У слоўнік Мсціслаўшчыны* [у:] *З народнага слоўніка*, Мінск 1975, с. 127.

[2] Прэзыдэнтамі па традыцыі называлі старшыняў палаты крымінальнага суда і палаты цывільнага суда, а таксама кіраўнікоў павятовага суда і земскага суда.

як-бы нижэй накланитца и таму салдату, што сцярогъ яго, а гэтыя, вольники, мусиць дужа рады слабодзи, што сами ня помнили, якъ бѣгли скаржитца: на што ихъ слабадзили, на што ихъ запрагли у мѣнши возъ, кыли яны даѣтуль змагли цягнуць болши. Ахъ братцы, ни глядзиця вы на гэтакихъ ниувагъ и бизталковыхъ и бизпакойныхъ, ня слухайця вы тлумачовъ, што яны талкуюць и раюць рэчи нипадобныя, а вѣрьця што усіо, што приабицавъ вамъ Царъ, усіо вамъ здзѣлана будзиць. Пра абиду, хоць|бы иншы рахманы и мовчавъ, іосьць каму уступицца: зъ усихъ дарогъ зъ усихъ, якъ іосьць, старонъ глядзяць, штобъ павялѣння царскае акуратъ было сполнина. Ѣтакъ-сама я разказывавъ и таму Княжицкаму, а іонъ: ну яще са мною дыспутуватца: „чаму ни заразъ, а яще чрызъ два гады мы будзимъ саусимъ волны.

Якъ-то іонъ ни дагадався яще жалкаватца, чаму Царъ у ѣтымъ укази ни прыславъ ужо и гроши яму на выкупъ, на будовлю, на коника и на каровку, ды хоць и яще мала на што. Дзяцины мусить розумъ у яго! Дзѣци, и бываиць, тады плачуць, якъ скакаць волна, тады скачуць, якъ плакаць налѣжиць. Гэта я самъ ни разъ дасвѣтчивъ. Ды у прышлы годъ, кабъ дзиціонакъ мой ахатнѣй ждавъ празничка, я у пятницу абицавъ яму даць на Вяликадня красninькое яѣчка, ды й надзѣлавъ яму сліозъ, а сабѣ клопату. Цалютыньки дзѣнь давай гусьци, ды равци, ды адно клявшиць: Ни|хачу я на Вяликодня, дай сянни яѣчка красninькае, а тутъ признатца и хварбы яще ни купляли. И дзивиць нѣчага: якія лѣты, таки и розумъ. А тэй|жа дзиціонакъ зъ барадою ня болшъ маиць яго. Зъ дзѣцьми жъ и талкаваць яму прикладна. А я вамъ, якъ мужамъ разалютнымъ, на увагу вашу, – во што скажу:

Цяпѣръ вы волны. Ѣта усіо ровна, што хата збудавана, ды многа|жъ яще думокъ и дзѣла хазяину: Идзѣ|бъ злажиць рухомасць, идзѣ|бъ размясциць сямѣйку, ды й яще горши: якъ и чимъ жить у ѣтэй хаци. Думка пра одну хату, бываиць, ни даѣць спакою галавѣ, ни дніомъ, ни ноччу; а Царскай жа адной галавѣ трэба падумаць, ни абъ адной, ни миліони, нѣ! абъ дзисяткахъ миліионахъ, дый ни хатъ, а людзѣй. Ваше дзѣло, усіо ровна матокъ, што яго сотни цэлыхъ гадовъ матали, дый вузлы вязали. Заматаць и вузловъ навязаць ня штука. Разумны, бываиць, у годъ таго ни развяжиць, што туракъ у часъ напутаиць. Ды гэта|жъ, правда, было. Можа вы ня чули пра вузіолъ Гардзѣивъ[1]. Гардзѣй бывъ такъ сабѣ, ды ня глупы. Дзѣли штуки, дзѣли смеху, яму уздумалась звязаць вузіолъ, ды такъ дзивна, ды такъ хитра, што канцовъ у іомъ знайциць было ня можна. Зъ ѣтымъ вузломъ Гардзѣй усюдыхъ насився и, дзѣли смѣху, замѣстъ загадки, даваўъ яго кождаму развязываць. Иншыя смѣялись, иншыя дзивились, а иншыя и у голаву захадзили, а вузла усіо-тки ни развязали. Дали и дали пашли пра вузіолъ рѣчи; зъ чужихъ зямѣль пріизжаюць и знахары и мудрацы, хто пахвалиць, хто падзивитца, а вузлу ничога ни дарадзюць. Уміоръ Гардзѣй, а узіолъ ягон и[2] развязанъ.

---

[1] Паводле грэцкае міфалогіі, фрыгійскі цар Гордзій завязаў надзвычай складаны вузел, які пазней рассек мячом Аляксандар Македонскі.

[2] Так у арыгінале. Трэба: *яго ни*.

Якъ дарагое дзѣло, якъ вяликае дзиво, бярагуць вузіолъ и хаваюць зъ царкаю[1] казною. Многа, многа прашло гадовъ, напаслѣдку вацарывся АЛИКСАНДРЪ. Ѣты царъ бывъ дужа мудры, дужа грозны, зямля траслась, идзѣ тольки ни прахадзивъ іонъ зъ войськомъ. Яму-то и поднясли вузіолъ Гардзиѣвъ на развязку. Ни миркувався многа, ня думавъ довга АЛИКСАНДРЪ. Выхапивъ палашъ, якъ рубанѣць – нашлись канцы и ни два ужо, а сотни ихъ атляцѣли, куды каторы. Ни здзивився народъ розуму АЛИКСАНДРА. Ды тольки ня вѣдаю, нябощикъ Гардзѣй ци падзививсябъ. А можа іонъ яще и жалкавався|бъ: на што АЛЕКСАНДРЪ супсувавъ вяровку, пасѣкши яѣ на крошки ни къ чому нягодныя. А усіо-тки АЛИКСАНДРЪ тэй бывъ мудры. Ня умѣю я и ня|вѣдаю, вы сами злажиця и скажиця: у скольки рѣдзь[2], у скольки мѣръ мудрэй яго нашъ АЛЕКСАНДРЪ, ацѣцъ прэмиласливы, царъ праваслаўны? Сам Іонъ сѣвъ за дзѣло вашэ, никому яго ни павѣривъ; самъ словомъ царскимъ обицаиць вамъ у два гады ни разсѣчь, а разматаць матокъ, якъ я казавъ, ды й такъ разматаць, штобъ и нитка ни парвалась и вузѣльчика ни осталось. Нихай жа Гасподзь пашлѣць яму до памоги Духа Свойго Святога; нихай Іонъ яму пасобиць звяршиць и закончиць вяликае, вяликае дзѣло нашэ.

Знаючи усіо гэта, ци скажиць хто: ни правда, што Цару нашаму лягчэй было|бъ здѣлаць, якъ здзелавъ тэй Аликсандръ, – разсечъ матокъ, – пусциць васъ на волю, якъ пташыкъ изъ клѣтки, дый тольки. Ды нѣ, якъ Ацѣцъ Миласерды, Іонъ болшъ васъ и думавъ и клапатавъ: як-то, и йдзѣ-то вы будзиця жиць, чимъ питацца, вышевши на волю. Панамъ ня грозна, у ихъ харомъ и будынковъ ни мала, ды й хлѣбца-то на скольки гадовъ яны сабѣ призапасили, а вы-то бѣдные идзѣ|бъ падзѣлись, выйшевши миліиономъ зъ дзяравѣнь? Лясы и равы были|бъ повны народу; ды ѣта нихай сабѣ, а чимъ-бы вы кармились? А па миласци Царской вы ужо мѣншъ, якъ чрызъ два гады, будзиця настоящими хазяинами. Дзѣли гэтага, якъ вы сами чули, ЕГО ЦАРСКОЕ ВЕЛИЧЕСТВО у укази своіомъ и абъявляиць, што Іонъ дасць вамъ ссуду, абы пазыку изъ сваѣй царской козны, на выкупъ сялицьбы вашэй, и якую тольки можна льготу, на успамаження вашэ. Гэтага здаѣтца тольки намъ и ни ставала! Ня вѣдаю, чаго|бъ яще иншы бажаволникъ[3] захацѣвъ? Таго АЛИКСАНДРА, што разсѣкъ вузіолъ Гардзѣивъ, празвали вяликимъ, ни здумаю и ни придумаю: Чимъ-то празавуць нашага АЛЕКСАНДРА, што Іонъ здѣлавъ то, чаго уси вяликія ня здѣлали.

Ды што вамъ талкаваць дали? я самъ бачу, што вы й чули и якъ слѣдуиць разталкавали указъ царски, и сами знаиця, што ня можна таго ни днями, ни мѣсицами развязаць, што сотни гадовъ завязывали, ды путали. Дагэтуль ни табѣ, ни пану ни было клопату, ци сигѣнь[4] болши, ци мѣнши

[1] Так у арыгінале. Трэба: *царскаю*.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 570: "РѢДЗЬ, и. с. м. 1. Разъ. Въ двѣ рѣдзи болѣй <…>".

[3] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 11: "БАЖАВО́ЛЬНИКЪ, а. с. м. Человѣкъ ничѣмъ недовольный. *Бажавольнику всего свѣту мало*".

[4] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 579: "СИГЪ, а. с. м. Шагъ. *Однимъ сигомъ достану*". А таксама: І.К. Бялькевіч, *Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны*,

у тваіой пахаци, а цяпѣръ нѣ; треба яѣ абмѣриць, якъ слѣдуиць: бо за яѣ треба плациць и яна дастаѣтца табѣ на вѣшносць. Дыкъ хто|жъ ѣта здѣлаиць, хоць-бы абмѣриць вашу воласць; ци мы съ табою? Ды нѣ, хоць-бы намъ и струмэнты и хварбы дали, мы съ табою ни зъумѣимъ: бо мы гэтаму ня учились и кала гэтага дзѣла ни хадзили. А дзѣло кожное масьцира баитца. Ды-къ и размѣриць зямлю вашу и намулюваць яѣ на плани, ды такъ, што ты самъ тольки узглянишъ, свой рэзъ[1] спазнаишъ, дзѣло каморника альба зимлямѣра; а скольки жъ ихъ патребна на милііоны дзиравѣнь? Ни пажалѣвъ бы царъ и жалавання имъ, хоць и скольки милііоновъ, у адну дзярэвню хоць и сотню ихъ паславъ бы, ды ци было|бъ дзѣло атъ таго скарэй и справнѣй? При адной сасѣ насськой досиць аднаго работника, а ци ня тожъ сама будзиць, кыли ты паставишъ дзѣсиць? Ды й хазяйка твая адна тчець кросны, а кыли ты кала яѣ пасодишъ ящо хоць дватцать памашниць, ци скарэй-то тыя кросны вытчутца? Ды й каровку тваю, хоць на паранки, а хоць на паудзіонки адна ганяиць дзяучонка, ци скарэй-то у дзисицяромъ яѣ прагонюць? Можа и скарэй, ды яково-то, каровцы тэй бедной будзить? Тамъ заусіоды дзиця бязносаіе идзѣ няникъ многа. Такъ само и ваше дзѣло: парваць, пасѣчь матокъ минутою можня, а разматаць астрожна, якъ слѣдуюиць, треба часъ ды й ни малы! А хоць дзѣло ваше и можна|бъ падспориць, ды ци ни было|бъ яно и вам цяжка, якъ тэй каровцы. Звѣсно дзѣло, лыки парою дзярутца и на усякую работу Гасподзь давъ пару. Зимою и вясною, пакуль прасохниць зямля, мѣриць, сами знаиця, ня можна. А дасць Бог прасуху: табѣ трэба пахаць и сѣиць, а цябѣ, кожнаго хазяина, а ни бабыля и парабка, зимлямѣры патрэбуюць на мяжу, бо кожны хазяинъ павининъ самъ даглѣдзить, што яму дастаѣтца; табѣ пара запахываць, а коморникъ вялиць табѣ ланцугъ цягаць, ды яще бываиць и тамъ, идзѣ ужо пасѣина и узашло; а на иншимъ шматку ужо и хлѣбиць красуитца, а яго треба прирэзаць, абы къ тваимъ гонямъ, абы къ сасѣднимъ, абы къ паньскаму пляцу, ды й правѣсть новую мяжу. А ци ни заплакавъ бы ты самъ, кыли|бъ твая праца и даръ Божжы ни у вашто абярнули. А можа иншы ровны Княжицкому, и памыслиць ды й прабуркниць: кали-то тыя граматы уставныя устанавятца? Апрочъ таго, што я сказавъ, и ящо вамъ скажу. Ни адзинъ бы падзивився, ни адзинъ бы пасмиявся зъ насъ зъ табою, кыли|бъ мы зацѣивши якую-кольвикъ будовлю, ды хоць бы наприкладъ и пуню, ды й пачали бъ пѣршъ на пѣршъ будаваць крышу. Можа и сами разсмиялися бъ мы съ табою, паглядзѣвши на нашу работу. Вы сами знаиця, што у усякимъ дзѣли треба парадакъ, а зъ начатага бизъ парадку ня выйдзиць дзѣла. И грамата тая уставная паслѣднѣе, ды й канѣцъ усяму дзѣлу аб волнасци. Пѣршъ на пѣршъ парадакъ, ды й указъ Царски вялиць устанавиць валасныя управы

---

Мінск 1970, с. 404: “СІГЕ́НЬ, -гня, м. Сіг, крок. *Пять сігнёў зьдзелыў толькі і дыгнаў*. Хвёдараўка Краснап.”.

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 571: “РѢЗЪ, а, с. м. <…> 2) (въ Виленской, Гродн., Витебск. и Минск. губ.). Часть пахатной земли извѣстной мѣры. *Три рѣзы земли занявъ*”.

и выбраць Миравога Пасредника. Паны ужо таго|жъ часу сабрались и памиркавались: у якой дзярэвни, абы сялѣ быць валасному управлѣнню – такъ, якъ у казенщини[1], и выбрали миравыхъ пасредниковъ, ды гэта усіо самъ Губарнаторъ пираглѣдзиць и пирычитаиць, ды й пашлѣць ажну да Саноту. Пасредниковъ – ихъ многа выбрали, а быць таму, каму Санотъ павялиць. Тады трэба и вамъ сабиратца у управлення, парадзитца, ды й выбраць зъ сваей воласци Старшину, Стarасту и другихъ чиновныхъ. Тады ужо вы будзиця схадзитца и радзитца: якъ-бы лягчэй и зручнѣй дзѣли васъ саставиць тую грамату: бизъ рады и парады яе ни писаць, ни падписываць ни хапайцись: бо яна канѣцъ дзѣлу, у іой усіо будзиць стаяць, якъ далши жить табѣ на свѣци. Будзиць пасредникъ, будзиць Старшина и другія начальники, яны вамъ и параюць и пасобюць. Сами|жъ видзитя, што ни пара ящо, ни да сходокъ, ни да грамотъ. А штобъ было, кабъ вамъ сходы заказали? Тое само, якъ я казавъ ужо. Табѣ пара ци сѣиць, ци касиць, а цябѣ завуць на сходку, ды на выборъ, ды на раду. Лѣцичка адно усимъ давъ Гасподзь, а якъ бы вы цяпѣръ хадзили|бъ, ды выбирали, – астались бы бязъ хлѣбца и выбарные ваши и вы сами. Сами вѣдаиця, што иншы дзѣнь году стоиць. Для гэтага|жъ и Царъ у укази сваіомъ павялѣвъ: Ни турбуваць васъ у дни рабочыя, ни дзѣли сходки, ни памѣра зямли, ни дзѣли выборовъ. Такъ-то матка вязѣць дзиціонка и ни вялиць паганяць коня, штобъ дзиця ни завихнулась и ни здрагнулась, а дзиця тое, ни знаючи маткиной жали, и крычиць: чаму ни паганяюць, чаму ѣдуць ня скора. Такъ сама и тыя, што бурчаць и крычаць: чаму ня скора, чаму ни заразъ мы вольны, ня смыслюць яны тэй маткиной жали, зъ якою Царъ Ацѣцъ прихиляиць ихъ къ сабѣ.

Штожъ-ба цяпѣръ вы сами атвѣцили на скаргу таго, што жалкавався: чаму ни заразъ, а чрызъ два гады мы будзимъ волны? Мы волныя, а ци ня горька было гладзѣць намъ на няволю вашу? Ни нарадавались жа мы, якъ тольки пачули пра волнасть, а усіо тыки мыслили, што, дай Божа, кабъ гадовъ чрызъ двананцаць, абы и дали, суполнилась яна, а якъ пришовъ указъ Царски, ды разабрали мы, што вы таго часу волны, а тольки два гады сроку на канѣшную разборку ѣтага дзѣла, якъ сами видзитя вяликага, дыкъ мы уси, ды што мы, – Архирей зъ Асвященнымъ Саборомъ, Губарнаторъ зъ Савѣтниками, уси, якъ іосць начальники и чиновники, уси у Церкву Государеву, на калѣнках благадарыли Бога миласердага, и зъ слизами прасили многих лѣт спасицилю вашему Цару Прэмиласливаму АЛЕКСАНДРУ. Кыли жъ такія асобы и такъ щира малились за васъ, налѣжить жа и самим вамъ ни вымышляць, якъ тэй Княжицки, чаму ни такъ, ды ня ѣтакъ, а благадариць Бога и Цара. Ды Царъ жа у паслѣднихъ строчкахъ свайго указа и павялѣвъ такъ: пираксцись народъ православны!

Пираксцись жа, новы вольникъ, и ни разъ и ни два, ни цяпѣръ тольки, ни сягодни и ни завтры, а пакуль рука твая будзиць падымацца, пакуль сэрце у цябѣ будзить битца, дый помни, што Гасподзь хрястомъ сваимъ

[1] Маюцца на ўвазе сельскія абшчыны дзяржаўных (ці казённых) сялян.

збавивъ цябе атъ вѣчныя смѣрци, а Царъ твой Александръ вяликою сваіою миласцію збавивъ цябѣ атъ няволи. Многа тысячъ годовъ прашло, якъ Масѣй слабадзивъ жидовъ атъ няволи Ягипицкія, ды яны цяпѣръ яще яго помнюць и посли Бога за пѣршага маюць. Глядзи|жъ вольникъ, глядзи хрисцянинъ, штобъ ты да вѣку ни забывъ свайго збавициля АЛЕКСАНДРА, Цара Праваславнага, Атца Миласэрдага!

Пакуль што, бывайця и здаровы и вясіолы! А кыли вамъ люба мая бясѣда, прихадзиця маѣ милыя, прихадзиця маѣ родныѣ. Я вамъ и Паложення тоіе, што у книжцы, атъ дошки да дошки прачитаю и парадкомъ, якъ слѣдуиць, разталкую.

## Postscriptum

У 1927 г. у часопісе "Крывіч" (№ 12, с. 105–106) у нататцы *Запіскі* невядомы аўтар (вельмі верагодна, што сам рэдактар – Вацлаў Ластоўскі) паведамляў, што ў брашурцы *Katechizm o czci cesarza Wszech Rossyi, czyli objaśnienie czwartego przykazania Boskiego w stosunku do Zwierzchności Krajowej. Za Najwyższym rozkazem, dla użycia po szkołach i kościołach Rzymsko-Katolickich wiejskich wydrukowany*, выдадзенай у Вільні ў 1845 г. у друкарні Тэафіля Глюксберга, кнігара і тыпографа школ Беларускае навучальнае акругі, на старонках 2–9 змешчаны *Katechizm większy o czci cesarza Wszech Rosii, czyli objaśnienie czwartego przykazania w stosunku do Zwierzchności Krajowej*, а на старонках 10–15 – *Katechizm mniejszy o czci Cesarza Wszeh Rossyi, czyli objaśnienie czwartego Boskiego przykazania, w stosunku do Zwierzchności Krajowej* з паралельным тэкстам па-беларуску (*Katechizm mieńszy o czci Cara Wsierossyjskoho czybo to abjaśnienie czwartoho Bozkoho prykazania, szto do Krajowoho Naczalstwa*). Беларускі тэкст катэхізма падаецца ў гэтай жа нататцы. Апрача гэтага, аўтар дадаваў, што "кніжыца пераховывалася ў кнігасхове двара Чабішкі, некалісь уласнасьць Пілсудскіх (Вількомірскага пав.), зьяўляецца ўласнасьцю М. Гірдзевіча з пад м. Крэва".

Гэта адзіная згадка пра *Катэхізм* 1845 г. з беларускім тэкстам.

Увогуле крыніцазнаўцам вядомы шэсць брашураў пад тытулам *Katechizm o czci cesarza Wszech Rossyi, czyli objaśnienie czwartego przykazania Boskiego w stosunku do Zwierzchności Krajowej*: 1832 года (дзве; адна для "użycia po szkołach i kościołach rzymsko-katolickich w Rossyy", другая – "dla użycia po szkołach i kościołach rzymsko-katolickich wiejskich"), 1840 г., 1844 г., 1853 г. і 1859 г. (усе – "dla użycia po szkołach i kościołach rzymsko-katolickich wiejskich")[1]. Кожнае з іх уключае толькі польскамоўныя *Katechizm większy*... і *Katechizm mniejszy*...; аб'ём – 12 старонак (у выданні 1853 г. тэкст на 11 старонках).

Звернем, аднак, увагу, што ў 1830–1840-я гг. у Вільні для патрэбаў Беларускае навучальнае акругі катэхізмы выдаваліся даволі часта. Напрыклад, захавалася выданне 1833 г., аўтарам якога быў нібыта Міхал Бароўскі[2]: *Krótki katechizm dla*

[1] *Estreicher Karol: Bibliografia polska XIX stulecia*, t. XVI, wyd. 2 [nowe], Kraków 1991, s. 12.
[2] Гл.: *Ibidem*, s. 14.

*młodzi rzymsko-katolickiego wyznania uczącej się w naukowych zakładach w Rossyi za naywyższym rozkazem ułożony i wydrukowany* (Wilno: druk. Dyecezalna, 95 s.), ідэнтычнае – 1834 г. Цікава, што ў 1845 г. убачыла свет яшчэ адно выданне, здаецца, таксама паводле М. Баброўскага: *Krótki katechizm dla młodzi rzymsko-katolickiego wyznania uczącej się w naukowych zakładach w Rossyi za najwyższym rozkazem ułożony i wydrukowany*. *Вновъ изданъ по распоряженію начальства Виленскаго учебнаго округа* (Wilno: nakład i druk T. Glücksberga księgarza i typografa szkół Białorusk. nauk. okr. 1845, w 8ce, 79 s.), перавыдадзенае і ў – 1846 г. Апрача таго, адначасна з "кароткім" катэхізмам друкаваўся і "вялікі": *Katechizm większy dla młodzi rzymsko-katolickiego wyznania uczącey się w naukowych zakładach w Rossyi za naywyższym rozkazem ułożony* (Wilno: druk. Dyecezalna, 1834, w 8ce, 300 s.), ідэнтычны па тытуле, але меншы па аб'ёму (w 12ce, 231 s.) выйшаў у свет у 1846 г.

Верагодна, патрэбы адукацыі вымагалі ў сярэдзіне 1840-х гг. вялікае колькасці падручнікаў рэлігіі. Лагічна будзе дапусціць, што катэхізіс з беларускамоўным тлумачэннем "чацвёртага Божага прыказання", апісаны і пададзены ў часопісе "Крывіч", сапраўды існаваў; што публікацыя не з'яўляецца пэўнай містыфікацыяй В. Ластоўскага.

Пацвярджэнне сказанаму можа быць той факт, што шэраг катэхізмаў, выдадзеных у Вільні, не захаваўся. Напрыклад, новае выданне *Bibliografii polskiej XIX stulecia* падае толькі тры (1869, 1873, 1883) з сямі выданняў расейскамоўнага катэхізму: *Katichizis (Kratkij) dla uczaszczagosia w russkich uczebnych zawiedienijach junoszestwa rimsko-katoliczeskago ispowiedanija. Sostawlennyj po Wysoczajszemu powieleniju. Pieriewod z Polskago jazyka po ekziemplaru, izdannomu po rasporiażeniju Wilenskago Uczebnago Okruga w Wilnie w 1855 godu. S prisojedinienijem odobriennych Uprawlajuszczim Mogilewskoju Rimsko-Katoliczeskoju Archijeparchijeju, Jepiskopom Suffraganom Staniewskim, powsiedniewnych molitw*, izdanije wtoroje (na okładce nadto: isprawlennoje). Wilna, izdanije knigoprodawca-Tipografa A.G. Syrkina, pieczatnaja A. Syrkina, 1869, w 12ce, str. 72, 1 nl.[1].

Цікава і тое, што дадзенае выданне было падрыхтаванае паводле не зафіксаванага ў бібліяграфіях катэхізіса 1855 г. Мова перакладу *Katechizm[u] mieńsz[oho] o czci Cara*… таксама можа сведчыць, што ўзнік ён у сярэдзіне XIX стагоддзя, а не ў першай чвэрці XX ст.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу *Katechizm mniejszy o czci Cesarza*... паводле *Katechizm o czci cesarza Wszech Rossyi, czyli objaśnienie czwartego przykazania Boskiego w stosunku do Zwierzchności Krajowej. Za Najwyższym rozkazem dla użycia po szkołach i kościołach Rzymsko-Katolickich wiejskich wydrukowany*, Wilno: nakład i druk T. Glücksberga księgarza i typografa szkół Białorusk. nauk. okr. 1844, 12 s., a *Katechizm mieńszy o czci Cara*... – *Запіскі*, "Крывіч" 1927, № 12, c. 105–106.

[1] Гл.: *Ibidem*, s. 24.

**KATECHIZM MNIEJSZY**
O CZCI CESARZA WSZEH ROSSYI,
czyli objaśnienie czwartego Boskiego
przykazania, w stosunku do
Zwierzchności Krajowéj.

1. *Pytanie*: Co w duchu Religii Chrystusowéj my poddani jesteśmy winni CESARZOWI naszemu Samowładnącemu Wszech Rossją?

*Odpowiedź*: Winni jesteśmy czcić i kochać CESARZA, okazywać MU posłuszeństwo i wszelką życzliwość i modlić się zań do BOGA.

2. ***P***. Oprócz CESARZA, czy należy czcić wszelkie władzę i słuchać ich:

***O***. Należy; bo te sprawują pewną część rządu, w miarę, jak co któréj jest poruczono, stosownie do praw i porządku.

3. ***P***. Czy należy kochać Ojczyznę naszę Rossję.

***O***. Należy kochać i dobrze jéj życzyć i dla niéj usługi swe poświęcać, według tego, jak przypisuje prawo i Wola CESARZA.

4. ***P***. Czy te obowiązki rzeczywiście i wyraźnie podaje Religia?

***O***. Rzeczywiście i wyraźnie w Ewangelij i w innych księgach Pisma świętego[1].

5. ***P***. W jaki sposób Religia to przykazuje?

***O***. Przypominając i wrażając mocno Chrześcijanom: że wszelka władza a najpiérwéj MONARSZA, jest od BOGA ustanowiona, a to dla pokoju, bezpieczeństwa i większego dobra ludzi doczesnego i wiecznego.

**KATECHIZM MIEŃSZY**
o czci Cara Wsierossyjskoho
czybo to abjaśnienie czwartoho
Bozkoho prykazania, szto do
Kraj woho (sic!) Naczalstwa.

1. Pytanie: Szto w duchu relihii Chrystusowaje my poddanyje powinny CARU naszomu Samadzierżaucy Wsieje Rossyi?

Adpowiedź: Powinny my czcići i lubići CARA, okazywaći IEMU posłuszność i wszielakuju życzliwość i mal c sia (sic!) za jeho do BOHA.

2. **P**. Oprocz CARA, czy treba szanowaći wsielakije właści i ich słuchaći?.

**A**. Treba; bo jeny heto spauniajuć tuju czaść rondu, u mieru, jak szto katorym paruczano, sto owno (sic!) do prau i paradku.

3. **P**. Czy nalezyt się lubici Ajcrynu naszu Rossyju.

**A**. Należyt się libići i dobre jej życzyći i dla jeje usłuhi swoje poświeczaci, wodłuh taho, jak prypisuje prawo i Wola CARA.

4. **P**. Czy hety obowiazki reczywisto i wyrazna podaje Relihija?.

**A**. Reczywisto i wyrazna w Ewangelii i w inszych knihach Pisma świetoho[2].

5. **P**. W jaki sposob Relihija to prykazuje?

**A**. Prypominajuczy i wraż juczy mocno Chreścijanom: szto wsielaka właść a najpiersz MONARSZA, jość od BOHA wstanoulena, a to dla spokoju bezpiecznosci i bolszoho dobra ludziej doczasnoho i wiecznoho.

---

[1] Nota. W Ewangelji ś. Mateusza, w r. XXII. W Liście I ś. Piotra, w r. II. W Liście Pawła ś. do Rzymian, w roz. XIII. Do Efezyan, w rozdziale VI. W Liście 1. do Tymoteusza, w roz. II. W Psalmie XIX.

[2] Nota. W Ewangelii S. Mateusza, w r. XXII. W Liście 1 ś Piotra, w r. II. W Liście Pawła ś. do Rymian, w r. XIII. Do Efezyan, w rozdziale VI. W Liście 1. do Tymoteusza, w II. W Psalmie XIX.

6. ***P***. Byłożby grzechem uchybić téj czci i wierności, a uczynić zniewagę i zdradę?

***O***. Byłoby bardzo ciężkim grzechem. Bo wyraźnie mówi Pismo świętę, że kto się sprzeciwia Zwierzchności, BOSKIEMU postanowieniu sprzeciwia się i ściąga na siebie wieczne potępienie.

7. ***P***. Czy Kościoł święty zwykł modlić się za MONARCHĘ i za wszystkie stany w Ojczyznie?

***O***. Jest ten zwyczaj w Kościele od początków Chrześcijaństwa, i trwać będzie aż do końca świata, na dowód prawdziwéj sumiennéj życzliwości ku MONARSZE, ku dobru wszystkich spólnemu, i dla zasługi u Pana BOGA: który oświadczył w Pismie święt***e***m, że takie postępowanie i takie modły wiernych, są Jemu przyjemne.

6. **P**. Czy było-by hrechom chibići hetoj creści i wierności, a wczynići źniewahu i zdradu?

**A**. Było-by wielkim ciażkim hrechom. Bo wyrazno mowić Piśmo świetoje, że chto się spraciulajetsię Zwierchości, BOSKOMU pastanouleniu spraciulaetsię i ściahajeć na siebie wiecznuju pahibiel.

7. **P**. Czy Kaściol światy molitsię zu MONARCHU i za wsie stany w ajczyźnie?.

**A**. Jość hety zwyczaj w Kościele od poczatkow Chryścijańs wa i trywaći budzieć aż do konca świeta, na dowod prawdziwej sumlennej życzliwośći do MONARCHY, dla dobra wsich ogulnomu, i dla zasłuhi w Pana BOHA: kotory pryświetczyu w Piśmie Świetym, że takije postupki i takije modły wiernych, jość Jemu pryje nnyje.

# Пісанні сялянскага паэта

Упершыню ў хрэстаматыю беларускамоўныя тэксты Франца Блуса ўключыў М. Гарэцкі ў 1922 г. – усяго 84 радкі[1]. А вось наступная "сустрэча" з імі адбылася толькі ў XXI стагоддзі: спачатку з'явіўся фрагмент (109 радкоў) зборніку, складзеным У. Казберуком[2], а пасля ў адным з тамоў *Залатой калекцыі беларускай літаратуры* (301 радок)[3], хоць літаратуразнаўцы тыя тэксты згадвалі даволі часта: Я. Карскі, адзначыўшы шматслоўнасць, частыя паўторы, непатрэбныя прадмовы і інш., назваў іх "спробаю" дыдактычнае паэмы[4]; М. Гарэцкі коратка пералічыў асобныя матывы твораў[5]; В. Барысенка даў ім палітычную ацэнку ("На працягу ўсяго твора праводзіцца рэакцыйна-прыгонніцкая ідэя законнасці манархіі цара, недатыкальнасці ўлады памешчыкаў")[6], А. Лойка сцвярджаў, што сваімі псеўданароднымі творамі Ф. Блус і інш. імкнуліся супрацьстаяць публіцыстыцы Кастуся Каліноўскага[7].

Што датычыць асобы самога паэта, дык гісторыкі літаратуры XX стагоддзя не мелі аніякіх звестак, не маглі нават акрэсліць гады яго жыцця. Праўда, ужо ў 1930-я гг. у іх мелася пэўная інфармацыя: спасылаючыся на ленінградскія архівы, М. Ларчанка і Л. Фіглоўская пісалі пра цэнзурныя матэрыялы аб выданні твораў Ф. Блуса[8], а Л. Бэндэ ў 1947 г. падрыхтаваў невялікі артыкул пра паэта, прызначаючы яго для часопіса "Беларусь"[9].

Копіі матэрыялаў Ленінградскага аддзелу Цэнтральнага гістарычнага архіва (ЛОЦИА)[10], якімі карыстаўся Л. Бэндэ, захаваліся ў БДАМЛіМ. Там жа маецца і копія артыкула даследчыка *Ілля Філіпаў Блус*.

---

[1] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*, Вільня 1922, с. 118–119.

[2] *Заняпад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, Мінск 2001, с. 330–333.

[3] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 1, Мінск 2013, с. 591–598.

[4] Е. Карский, *Белорусы в 3 т.*, т. 3, кн. 2: *Очерки словестности белорусского племени*, Минск 2007, с. 317–318.

[5] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры*, Мінск 1994, с. 228–229.

[6] В. Барысенка, *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 1957, с. 132.

[7] А. Лойка, *Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд*, у 2 ч., ч. 1, 2-е выд., дапрац. і дап., Мінск 1989, с. 109.

[8] Гл.: М. Ларчанка, Л. Фіглоўская, *Новыя матэрыялы аб беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, "ЛіМ" 1939, 9 сак.

[9] На машынапісе артыкула рукою Л. Бэндэ напісана: "Отослано в «Беларусь» 19.01.47 г." Аднак, здаецца, артыкул не быў надрукаваны. Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 206, с. 6.

[10] Гэтак у 1929–1934 гг. называўся Расейскі дзяржаўны гістарычны архіў (РГИА). З тае прычыны, што копіі дакументаў пашпартызаваны як "ЛОЦИА. Фонд III Отд. Канц. Гл. Упр. по делам печати 1881 г.", можам меркаваць, што Л. Бэндэ быў першым, хто выявіў іх.

Відавочна, сялянскае паходжанне Ф. Блуса, а таксама тое, што паэт "даволі поўна і праўдзіва малюе змрочную карціну цяжкога жыцця прыгоннага сялянства", сталіся падставаю для Л. Бэндэ стварыць "біяграму" літаратара. Паводле справы "По разсмотрению стихотворений крестьянина Блусса, предназначенных для посвящения Государю Императору" Л. Бэндэ падае, што "сапраўднае" імя паэта – "Ільля Філіпаў", што ён паходзіць з сялянаў Даўгамошскае воласці Быхаўскага павета Магілёўскае губерні, што ён служыў у Магілёве; што апрача "сочинения под названием *Речь Старовойта*" ён напісаў яшчэ адно "сочинение в 1863 году противу агитаторов польского восстания", за што набыў "достаточное количество врагов и недоброжелателей" ды мусіў пераехаць у горад Бузулук, дзе служыў агентам Арэнбургскай чыгункі; звольнены з пасады, ён пераехаў у Самару, дзе "вел жизнь разгульную, проводя время в гостиницах".

Архіўная справа датычыць просьбы "Ільлі Філіпава Блуса" надрукаваць тры ягоныя вершы ў гонар Аляксандра II. Саміх вершаў у ёй няма: падаюцца толькі невялікі фрагменты, на якія звярнуў увагу цэнзар.

З нейкіх іншых крыніцаў ці пэўных уласных меркаванняў Л. Бэндэ дадае ў "біяграму" наступную інфармацыю: 1. У "беларускі" перыяд жыцця Ф. Блус пісаў віншвальныя вершы, "за якія атрымліваў ад памешчыкаў значны ганарар. Так напрыклад, за верш, прысвечаны памешчыцы Марыі Яншынай у дзень яе імянін, Блус атрымаў звыш 600 рублёў серабром". 2. "Яму належыць брашура, надрукаваная ў 1861 годзе ў Магілёве пад назвай *Бяседа старога вольніка з новымі, пра іхнае дзела*"[1].

Магчыма, нават не ведаючы пра колішнюю ініцыятыву Л. Бэндэ, Г. Кісялёў яшчэ раз выявіў тую самую архіўную справу (хутчэй за ўсё – да 1961 г., калі архіў называўся Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў у Ленінградзе), і выкарыстаў яе дзеля напісання біяграмы Ф. Блуса ў біябібліяграфічным слоўніку *Беларускія пісьменнікі*[2], а таксама раздзела *Агітацыйная публіцыстыка 1860-х гадоў* у акадэмічнай гісторыі беларускае літаратуры[3].

На жаль, мы не мелі магчымасці пазнаёміцца са справаю "По разсмотрению стихотворений крестьянина Блусса, предназначенных для посвящения Государю Императору" з Расейскага дзяржаўнага гістарычнага архіва (РГИА)[4], а таму дазволім сабе выкарыстаць для перадруку машынапіс копіі справы, якая захоўваецца ў БДАМЛіМ (фонд Л. Бэндэ), усведамляючы, што перапісчык не ставіў перад сабою мэты захаваць арфаграфію арыгіналу.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў машынапісу паводле: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 996: Перапіска Санкт-Пецярбургскага Цэнзурнага камітэта і Галоўнага ўпраўлення па справах друку аб напісанні селянінам І.Ф. Блусам верша *Александру Освободителю Второму от 19 февраля 1881 года*: Машынапісныя копіі [1950-х гг.[5]].

---

[1] Л. Бэндэ, *Ільля Філіпаў Блус* [у:] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 206, л. 1–6.

[2] Г. Кісялёў, *Блус Франц* [у:] *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах*, т. 1, Мінск 1992, с. 294–295.

[3] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 307–310.

[4] Сённяшнія пашпартныя дадзеныя: РГИА, ф. 776, оп. 20, д. 347.

[5] На нашу думку, копіі выкананы да 19 студзеня 1947 г.

**№ 1**

ЕГО СИЯТЕЛЬСТВУ господину министру внутренних дел графу Лорис Меликову[1].

Крестьянина Могилевской губернии Быховского уезда Дого~~лом~~ской[2] волости Ильи Филиппова[3] Блусса.

П р о ш е н и е.

Честь имею покорнейше просить вас ваше сиятельство сделать зависящее распоряжение о процензуровании прилагаемого при сем моего сочинения под названием поздравление государя освободителя в день 19-го февраля сего 1881 года, которое если окажется достойным печати то покорнейше прошу вашего соизволения о напечатании такового брошюрою, если не для поднесения его величеству государю освободителю о сем предполагать как самый меньший из граждан нашего отечества не смею, то для чтения преимущественно в заводах и на фабриках мастеровым и рабочим людям для общей пользы нашего отечества, так как пропагандисты социализма всего более обратили свои недостойные усилия для возбуждения народного неудовольствия народа находящегося в заводах и на фабриках противу властей страны и правительства, сочинение же при сем прилагаемое может послужить до некоторой степени противудействием возмутительному учению социализма.

Присовокупляя при сем, что при|возникшем народном недоразумении в 1862 году в Белорусском крае по случаю крайнего непонимания народом крестьянского населения Положения о крестьянах изданного высочайшим повелением 19 февраля 1861 года, я имел честь также представить Могилевскому губернатору, для напечатания мое сочинение под названием *Речь Старовойта*, написанную стихами на Белорусском наречии с целью усмирения волнения умов черни, которое сочинение быв напечатанным в нескольких тысячах экземпляров по распоряжению бывшего в то время Могилевским губернатором его превосходительства Александра Петровича господина Беклемишева, и будучи разосланым по губернии принесло собою значительную и своевременную пользу.

В виду же распространяющегося в настоящее время антиправительственного учения социалистов, желаю чтобы мое прилагаемое сочинение если окажется того достаточным[4], было бы напечатано под моим именем и фамилией, будучи при том вполне уверен, что сочинением этим буде

---

[1] Маецца на ўвазе Міхаіл Лорыс-Мелікаў (1824–1888), расейскі вайсковы і дзяржаўны дзеяч, які ад 6 жніўня 1880 г. да 5 мая 1881 г. быў міністрам унутраных спраў.

[2] Перакрэслена алоўкам, пасля слова пастаўленая зорачка-спасылка, а на доле старонкі пасейску: *Долгий мох – Чауского района*.

[3] Трэба думаць, што каталік Ф. Блус, пераехаўшы з Магілёва ў г. Бузулук, перайшоў у праваслаўе.

[4] Слова папраўлена атраментам на: *достойным*.

таковое будет по благоусмотрению вашему издано, приобрету себе достаточное количество врагов и недоброжелателей, и что должно некоторым образом отразиться на самой моей службе, чему уже и был пример в последующих годах, по случаю написанного мною моего сочинения в 1863 году противу агитаторов польского восстания.

Но в то же время будучи преисполнен глубочайшего благоговения к августейшей особе нашего государя освободителя, и выразив в моем сочинении малую часть тех чувств, которыми сердце мое так переполнено, желал бы к 19 февраля сего 1881 года увидеть в печати прилагаемое сочинение, хотя бы и пришлось за него пострадать от втайне сумосбродствующих и неизлечимо больных членов нашего отечества.

Крестьянин Могилевской губернии Быховского уезда Илья Филипов Блусс.
1881 года Января 20 дня. Г. Самара.

ЛОЦИА. Фонд III Отд. Канц. Гл. Упр. по делам печати 1881 г. № 39, л. л. 1–2[1].

Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 996, к. 2–3.

Просьба Франца (Іллі) Блуса трапіла ў Галоўную ўправу па справах друку, якая існавала пры Міністэрстве ўнутранных спраў як вышэйшая цэнзурная інстанцыя, і была накіравана ў Санкт-Пецярбургскі Цэнзурны камітэт.

## № 2

11 февраля 1881 г.
№ 749.

С. Петербургскому Цензурному Комитету.

Прошу С. Петербургский Цензурный комитет рассмотреть в Цензурном отношении приложенную при сем рукопись под заглавием “Александру Освободителю второму на 19 февраля 1881 г.” и о последующем с возвращением приложения донести Главному Управлению по делам печати.

Подписал[:] Начальник Главн. Управления по делам печати
Сенатор Н. Абаза[2].
Скрепил: правитель дел В. Адикаевский.

ЛОЦИА. Фонд III Отд. Канц. Гл. Кпр. (sic!) по делам печати 1881 г. № 39, л. 3.

Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 996, к. 4.

Санкт-Пецярбургскі Цэнзурны камітэт літаральна за некалькі дзён разгледзеў рукапіс Ф. Блуса і даслаў у Галоўную ўправу па справах друку сваё рашэнне.

---

[1] Тут і далей пасля тэкста дакумента падаваліся ягоныя пашпартныя дадзеныя.
[2] Маецца на ўвазе Мікалай Савіч Абаза (1837–1901), расейскі дзяржаўны дзеяч, які ад 4 красавіка 1880 г. да 7 красавіка 1881 г. быў начальнікам галоўнае ўправы па справах друку.

## № 3

Министерство
Внутренних Дел
С. Петербургский
Цензурный Комитет
С.-Петербург
14 февраля 1881 г.
№ 201.

В Главное Управление по делам печати.

С. Петербургский Цензурный Комитет имеет честь донести Главному Управлению по делам печати, что цензор, рассматривавший препровожденную на цензурное рассмотрение при предписании от 11 февраля за № 749 рукопись стихотворений крестьянина Могилевской губернии Ильи Филиппова Блусса, доложил комитету, что она заключает в себе три стихотворения.

Первое стихотворение *Александру Освободителю Второму на 19 февраля 1881 года государю императору всероссийскому от освобожденных* – выражает теплые чувства освобожденного крестьянина своему освободителю монарху. На стр. 4-й описывается барин притеснитель сибаритствующий “...в палатах

Воздвигнутых чужим трудом
Воздвигнутых трудами брата
Блестящих златом и сребром,
А братт[1] тот в поте и труде,
Слезами хлеб свой обливая,
Нес тяжести на раменах,
Под гнетом тяжким упадая;
Виновник многих в мире благ
Был голоден, был бос и наг.
Он сам и все его страдало,
Его сильнейший угнетал *и т. д.*

Несмотря на явное преувеличение пресыщения барина и нищеты бедняка, последующее обращение к русскому царю и описание счастья освобожденного крестьянина, в его семейном быту, отнимают всю язвительность предложенного отрывка и других резкостей. О покушениях на жизнь монарха, делаемых “за нас”, по выражению автора из народа, поэт упоминает с сердечным горем и прибавляет (стр.15).

И будет о тебе молиться
Всегда свободный человек
И на сердечной всех скрижали
Завет напишется святой,
Чтоб все тебя благославляли
Освобожденные тобой.

---

[1] Так у машынапісе.

2-е стихотворение *Государю императору Александру освободителю на последнюю турецко-русскую компанию* (стр. 16) описывает дурное положение Порты и освобождение от цепей народа (23)

3-е стихотворение *На чудесное и счастливое избавление от опасности злодейского покушения злоумышленников на особу государя освободителя, совершившееся 19 ноября 1878 г.* (стр. 26) с негодованием говорит о гнусных замыслах заговорщиков "демократо-социалов (стр. 37), но вместе с тем на стр. 32 и 33 как бы сожалеет, что они не действовали до освобождения:

Зачем в народе том участья
Они тогда не принимали,
Когда народ был тот в несчастьи,
В горе веченом (sic!) и печати (sic!).
Тогда дать в помощь не хотели,
Как он страдал на самом деле *и пр*.

Из этих слов, свидетельствующих только о незрелости автора в мышлении, можно вывести заключение об одобрении им преступных действий до времени освобождения крестьян.

Посему цензор, не находя ничего противного правилам цензуры до этого места, считает возможным дозволить всю рукопись, с исключением всего отрывка на стр. 32 и 33 от слов: "зачем в народе том" до слов: "Сладко пил да вкусно ел", отмеченного красным карандашем.

Соглашаясь с таким заключением цензора С. Петербургский Цензурный комитет имеет честь о сем донести Главному Управлению по делам печати, с возвращением рукописи и доложить, что если эта рукопись посвящается государю императору, то она должна быть, предварительно дозволения, препровождена на рассмотрения в Министерство императорского двора.

Председатель А. Петров.
Секретарь Н. Пантелеев.

ЛОЦИА. Фонд III Отд. Канц. Гл. Упр. по делам печати 1881 г. № 39, л. л. 4–5.

Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 996, к. 5–7.

Рукапіс Ф. Блуса – гэта тры расейскамоўныя вершы даволі вялікага аб'ёму (не менш за 37 старонак тэксту). Не можам пагадзіцца ні з Л. Бэндэ, ні з Г. Кісялёвым, якія сцвярджалі, што вершы "было дазволена друкаваць з некаторымі купюрамі (выкінуты радкі аб беднасці і ўціску народа)". Насамрэч, выкрэсліваліся радкі з трэцяга верша, дзе гаворылася пра тое, што "демократо-социалы" не дзейнічалі да царскага маніфеста 19 лютага 1861 г.

Санкт-Пецярбургскі Цэнзурны камітэт, даўшы дазвол на друк вершаў Ф. Блуса, праінфармаваў Галоўную ўправу па справах друку, што неабходна яшчэ атрымаць дазвол ад Міністэрства Імператарскага двара.

## № 4

Начальник
Главного Управления
по делам печати.

Милостивый государь
Александр Дмитриевич.

Проживающий в г. Самаре крестьянин Быховского уезда Могилевской губернии, Илья Филиппов Блусс обратился в Главное Управление по делам печати с ходатайством о разрешении ему посвятить государю императору стихотворения им сочиненные.

Предварительно каких либо распоряжений по настоящему предмету, имею честь обратиться к Вашему превосходительству с покорнейшею просьбою сообщить мне сведения: чем именно занимается Блусс и каковы его нравственные качества.

Примите милостивый государь, уверения в совершенном моем почтении и преданности.

№ 827
18 февраля 1881 г.
Его Прев-ву А.Д. Свербееву.

ЛОЦИА. Фонд III ОТД. Канц. Гл. Упр. по делам печати 1881 г. № 39, л. л. 6.

Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 996, к. 8.

Атрымаўшы пастанову Цэнзурнага камітэта, Галоўная ўправа па справах друку звярнулася да самарскага губернатара А. Свярбеева дзеля высвятлення маральных якасцяў паэта-селяніна, вершы якога прысвечаны Аляксандру II.

## № 5

М. В. Д.
Самарского Губернатора
11 марта 1881 года.
№ 3181.
г. Самара.

Милостивый Государь,
Николай Саввич.

В ответ на письмо от 18 февраля за № 837[1], имею честь уведомить ваше превосходительство, что крестьянин Быховского уезда Могилевской губернии, Илья Филипов Блусс, как оказалось по дознанию полиции, по увольнении от должности агента Оренбургской железной дороги в г. Бузулуке, проживал в г. Самаре не долго, вел жизнь *разгульную, проводя время*[2] в гостиницах.

Покорнейше прошу ваше превосходительство принять уверения в совершенном моем почтении и преданности.

А. Свербеев.
Его Превосходительству Н.С. Абаза.

---

[1] Так у машынапісе.
[2] Словы, вылучаныя курсівам, напісаны атрамантам над радком.

ЛОЦИА. Фонд III Отд. Канц. Гл. Упр. по делам печати 1881 г. д. № 39, л. л. 7.

Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 996, к. 9.

Як сведчыць наступны дакумент, “разгульная жизнь” Ф. Блуса не перашкодзіла Галоўнай управе па справах друку працягваць працэс падрыхтоўкі вершаў паэта да публікацыі.

## № 6

6 апреля 1881 г.
№ 1395.

С. Петербургскому Цензурному Комитету.

Препровождая при сем рукопись под заглавием *Александру Освободителю Второму от 19 февраля 1881 г.* представленнюу[1] г. министру вн. дел проживающим в Самаре крестьянином Могилевской губернии Быховского уезда Долгомошской волости Ильею Филипповым Блуссом, прошу СПБ. Цензурный Комитет сделать в установленном порядке сношение с Министерством императорского двора относительно посвящения ее в бозе почившему государю императору и затем по исключении в этой рукописи мест признанных неудобными к печати возвратить ее с дозволительною надписью крестьянину Блуссу.

Подписал: Начальник Главн. Управления по делам печати
Сенатор Г. Абаза.
Скрепил правитель дел В. Адикаевский.

ЛОЦИА. Фонд III Отд. Канц. Гл. Упр. по делам печати 1881 г. д. № 39, л. 8[2].

Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 996, к. 1.

Чарговы зварот Галоўнае ўправы па справах друку да Санкт-Пецярбургскага Цэнзурнага камітэту – гэта распараджэнне атрымаць ад Міністэрства Імператарскага двара дазвол на прысвячэнне вершаў імператару-нябожчыку, а пасля даслаць рукапіс аўтару. Звестак пра тое, як завяршылася дадзеная справа, не захавалася.

На нашую думку, беларускамоўныя вершаваныя творы Ф. Блуса вартыя ўвагі. І не толькі таму, што з’яўляюцца надзвычай яскравым дакументам эпохі. Дадзеная ім калісь беларускімі літаратуразнаўцамі ацэнка ўспрымаецца сёння як тэндэнцыйная і несправядлівая[3]. Бо толькі асобныя матывы (“абыякавасць

[1] Так у машынапісе.

[2] Пасля тэксту дакумента атрамантам рукою, верагодна, Л. Бэндэ пададзены тытул архіўнае справы: “По разсмотрению стихотворений крестьянина Блусса, предназначенных для посвящения Государю Императору. Началось 7 февраля 1881 года”.

[3] Гл.: М. Ларчанка, *Па шляху рэалізма: Развіццё рэалізма ў беларускай літаратуры дакастрычніцкай пары*, Мінск 1959, с. 28–30. Навуковец адносіў да “прагрэсіўнага напрамку” ў літаратуры 1860–1870-х гг. такія “ананімныя апавяданні, як *Размова валуйскіх двух мужыкоў*, *Дзядзька Антон...*, *Плач беларускай зямлі.* Амаль уся іншая беларускамоўная

беларускага сяляніна да царквы”[1], “карціны быта сялян таго часу”[2]) ацэньваліся даследчыкамі савецкага часу як станоўчыя, пры, вядома, агульным адмоўным стаўленні і да формы, і да зместу твора.

Што да формы, дык чатырохстопны ямб (відавочна, уплыў пушкінскіх твораў) у Ф. Блуса нявытрыманы. Версіфікацыйная тэхніка аўтара – на даволі нізкім узроўні. Складаецца нават уражанне, што ён вельмі мала ведае пра версіфікацыю.

Вядома, паэзіі ды мастацкасці шукаць тут марна. Гэта твор публіцыстычны; тут ставіліся іншыя задачы, галоўная з якіх – быць пераканальным. Аўтар – мы не ведаем ці то самастойна, ці то паводле “сацыяльнага заказу” – імкнецца пераканаць люд у той “праўдзе”, якую ён прымае за адзіную праўду сялянскага жыцця. Ён, відавочна, добра ведаючы “ерархію” сялянскае грамады, робіць галоўным героем свайго твора, па-першае, войта, па-другое, старога чалавека. Старавойт – гэта мастацкае адкрыццё Ф. Блуса. Нават нягледзячы на “існаванне” ўжо Старога дзеда[3], стосаракагадовага Пустэльніка Пятра і гаспадара Яські з-пад Вільні[4]. Думаецца, што свайго героя Ф. Блус вывеў на сцэну незалежна ад ліцвінаў-патрыётаў, прыхільнікаў адраджэння Рэчы Паспалітае. Іх гутаркі не былі для яго ўзорам дзеля наследавання: у ягоным тэксце адсутнічае матыў варожасці, нянавісці. Ён адно асуджае сялянскую грамаду, асуджае, каб навучыць сваёй праўдзе.

Старавойт Ф. Блуса яшчэ не бачыць ворагаў у панах-“паляках”. Нават слова дакору не кіне ён пад іх адрасам. Яны ў яго за верную службу заслужылі зямлю, “за розумъ имъ яе дали”. Ёсць у гутарках Ф. Блуса і спроба “гістарычнага” абгрунтавання таго стану рэчаў (прыгону), у якім знаходзіцца сялянская грамада. Праўда, наратар кепска ведае гісторыю. Адзін толькі цар Барыс, “прэзваннямъ Гадуновъ” фігуруе ў яго ў шматвяковых дзеях даўніны. Ды згадваюцца яшчэ татары і 1812 год. Аднак Старавойт свята верыць, што той лад, які існуе, склаўся паводле даўніх і справядлівых законаў, што паны атрымалі зямлю за службу і за розум, а селянін, неразумны і нявучаны, можа толькі служыць, цяжка працаваць за тое, што сядзіць на чужой зямлі. Паводле Старавойта, паны мелі абавязак “прывучаць сялянъ къ парадкамъ”, а цар, палічыўшы, што гэта ўжо споўнена, – вырашыў даць волю ўжо нібыта цывілізаваным, прывучаным к парадку сялянам. І зрабіў гэта. Але, на думку Старавойта, сяляне па-ранейшаму цёмныя і дурныя, па-ранейшаму сядзяць у карчме, а пасля “біомся на сялѣ”. А таму ён

літаратура (за выключэннем “Мужыцкае праўды” Кастуся Каліноўскага) – рэакцыйная: ці то “кансерватыўна-памешчыцкая”, ці то “ліберальна-буржуазная”, ці то “польска-нацыяналістычная” (с. 25).

[1] С. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова: Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX стагоддзя*, Мінск 1971, с. 15.

[2] Л. Бэндэ, *Ільля Філіпаў Блус* [у:] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 206, л. 2.

[3] *Hutorka staroho dzieda* была апублікавана ў газеце “Dziennik Literacki” (Lwów) 8 лістапада 1861 г. Але, магчыма, яшчэ раней з’явілася літаграфаванае выданне *Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi*, b. m. i r. (LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497, l. 61–68 v.).

[4] Гісторыкі сцвярджаюць, што першы нумар “Мужыцкае праўды” ўбачыў свет у чэрвені 1862 г.

баіцца, што атрымаўшы поўную волю былы прыгонны, як той дурны конь "пабяжыць и къ вовку, // Абы въ балота упадзѣць; // Скора скруциць сваю галовку". А таму ён прапануе пэўны план сваім аднавяскоўцам, якія "у празникъ гадавы" замест царквы пайшлі ў карчму. План Старавойт сфармуляваў паводле ўзору "разумныхъ" людзей, што нібыта ёсць у акалічных вёсках: 1. не малоць языком, а цярпець да часу; 2. хадзіць у царкву, прасіць Бога, а не сядзець у карчме; 3. паважаць старэйшых; 4. не чыніць крыўды нікому; 5. жыць па сумленню; 6. вучыць сваіх дзяцей. Толькі гэты план, сцвярджае Старавойт, прывядзе да таго, што наш брат не будзе жыць як звер, не будзе жыць горш "за татаръ и калмыковъ".

Праўда Старавойта – гэта "праўда" расейскае ўлады ў Беларусі. "Праўда", якую нёс і расейскі, і свой, але "арасеяны" чыноўнік, судовы асэсар, школьны настаўнік; гэта "праўда" расейскае газеты і кніжкі; "праўда", у якую паверыў дваццаці-трыццацігадовы[1] Ф. Блус і, як аўтар Старавойта, прымусіў паверыць у яе свайго васьмідзесяцігадовага героя.

Але – трэба прызнаць – гэта была тая "праўда", у якую магла паверыць сялянская грамада. "Праўда", якая давала шанец шматмільённаму беларускаму сялянству выйсці на шлях цывілізаванага развіцця.

Бо іншая "праўда", "праўда Кастуся Каліноўскага", такіх шансаў не мела: па-першае, люд яшчэ не быў падрыхтаваны, каб успрыняць такую "праўду", а, па-другое, аграмадная расейская дзяржаўная махіна не дапускала "праўду К. Каліноўскага" да шырокае сялянскае грамады.

Ф. Блус, пэўна, ведаў, што атрыманы ім дазвол "паразмаўляць" з народам на народнай гаворцы, – гэта вымушаная саступка расейскай адміністрацыі; што ў іншых умовах гэтая гаворка не будзе патрэбная: улады ж не парупіліся надрукаваць ні Маніфест, ні Палажэнні па-беларуску. Дык наўрад ці наступны прапагандысцкі тэкст Ф. Блуса "противу агитаторов польского восстания" пісаўся на мове народа.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: Францъ Феликсовъ Блусъ, *Рѣчь старовойта къ крестьянамъ о свободѣ. (Для народнаго чтенія)*, "Могилевскихъ губернскихъ вѣдомостей часть неоффиціальная" 1862, № 51, с. 588–595.

[1] Наўрад ці Ф. Блусу ў 1862 г. было больш за трыццаць гадоў.

# Рѣчь
# старовойта къ крестьянамъ о свободѣ.
## (Для народнаго чтенія.)

### Къ Господину Редактору.

Вяльможны паня[1] дабрадзѣю!
Прашу, прыми мае труды;
Падай мнѣ добрую надзѣю,
Кабъ могъ служыць ими всягды!
А цяпѣръ пакуль што будзя
И етага на первый разъ.
Кали спасиба скажуць людзи;
То йще на ета будзиць часъ.

За етымъ дзѣла въ насъ ни станя,
Кали захочуць... напишу,
Тольки цяпѣръ, вяльможны паня,
Етымъ письмомъ займись прашу:
Пираглѣдзь яго усюды,
Кали абмылки іо паправъ, –
Кали яно йдзѣ троху худа,
Кали ни|такъ я написавъ.

Ни за сваіо, прызнацца, взявся,
Вже троху й галава свярбиць;
Баюсь кали|бъ хто ни смиявся,
Ни знаю самъ, што и рабиць. –

Али|жъ ни вялика въ тымъ бида,
Што вумный троху пасмяецца;
За то дурень завсигда
Спасибкаць довжанъ бы, здаецца;
Бо тутацьки карысць іонъ найдзя,
Кали захочыць яе найци,
Кали захочыць вѣриць правдзи
И па іой всягды ици.
Дыкъ уже, ласкавы паня и вяльможны,
Пусци въ свѣтъ ета, кали можна;
Нихай чалавѣкъ чытаиць
И што тутъ сказана спавняиць.

———

[1] Тут і далей дыялектная форма “паня” ўжываецца ў значэнні вакатыву “пане”.

**Къ Господамъ читателямъ.**

Пановѣ! – з добрымъ серцамъ я трудзився,
Ажъ лобъ атъ щырасти пацѣвъ,
Пакулицьки къ концу прыбився,
Савсимъ, яй Богу, макамъ сѣвъ;
Бо писаць яно няскольки,
Людзѣй жа можна насмяшыць,
Дыкъ што|жъ трудзицца вже бязъ толку;
Бумагу глупасцю чарниць?

Трудзицца бизъ пуця ня треба:
Трудзись для выгады людзей!
Хоць ни заробишъ аццюль хлѣба;
Да серцу будзиць висялѣй.
Виць ни насъ жа бредни, а трудзились
Людзи добрыя вумомъ;
И скольки змоги было, бились,
Кабъ свой жа братъ ня|бывъ асломъ.

Виць и законъ къ таму|жъ взываиць,
Штобъ ни для зла жили, – жили|бъ къ дабру.
Тей дурна робиць, хто ни знаиць;
А я вже того ни зраблю:
Бо я всяго прызнацца бачивъ,
Давольна добраго и худога;
Хоць мала въ свѣци памаячывъ,
Да прымѣравъ видзивъ многа.

Дыкъ знаю вже якъ то пріятно,
Кали хто раду добру дасць;
Кали хто повчыць цябѣ ладна,
Гатовъ бы всіо яму аддаць.

Вотъ такъ для етага|жъ узявся
Я брата мѣньшага навчиць.
Хоць іонъ то мнѣ и наприклявся;
Да мушу вже на всіо забыць,
Бо якъ гляну па людзяхъ,
Дыкъ серца стукаиць въ грудзяхъ:
Бачу то: другѣй гаруя,
А толку нима въ галаве,
Лета целая працуя,
А за восинь усіо прапье. –
Посли бязъ хлѣба прападая,

Ды|йще на кагось раптая.
А якъ пришлюць жа яму волю,
Тагды будзи всяго въ волю.

Панъ на пана пяромъ скрыпиць;
И мнѣ штось циха гавариць?
Учы, учы, ды астарожна;
Бо всердзиць етымъ кагось можна.

Дыкъ я вже и баюся таго,
Кабъ ни угнявиць каго.
Хоць яна и добрая навука,
Да злому всердицца ня штука.
Тольки|бъ, здаецца, што паны
За ета злицца ни далжны.
А мужикъ за етыя труды
Спасибкаць довжанъ бы всягды;
А всѐрдзицца, дыкъ хиба той,
Хто правдой гребуиць святой;

Да|йще што въ каршми вонъ сядзиць,
Тей можа скоса палядзиць. –
Дыкъ бы за етымъ ни бида.
За тымъ пращайця гаспада!

———

Якъ тутъ къ дзѣлу приступаць,
У пѐрвый разъ савсимъ ни знаю.
Штось боизка зачынаць,
Аднакъ, памажи Богъ, зачинаю.

Было в адной издѣсь дзяревни,
Ня|помню добре въ якой пѣвня,
Жывъ якись тамъ старавойтъ,
Дый такѐй бывъ дужа бойки,
Такая вумна галава,
Што разумнѣй всяго сила.
Адзинъ разъ, въ каршму прыходзя
И тамъ гурбу людзей находзя.

Вотъ атъ стала вси атступились,
Яму низка пакланились. –
Каторыя пашли къ чулану,
И къ шинкару и къ Сципану, –
Аттуль гарелки принясли,
Дый яму чарку паднясли;

Каторыя зъ имъ размавляли
И пра слабоднасць талкавали.
Али гарелки іонъ ни взявъ
И на вапросы ихъ мавчавъ;
Посли, шапку здзѣвъ, зъ лавки паднявся
И такъ къ народу атазвався:

**Рѣчь Старовойта.**

ГЛАВА I.

Братцы, братцы! падаждзиця,
На всіо въ свѣци іо свой часъ;
Ня гукайца ни гаманиця:
Царъ ни забудзицца пра насъ,
Бо царська слова ни абы якоя[1], –
Што тольки скажиць Царъ каму,
То завсягды суповниць тоя;
Бо іонъ и слову царъ свойму.

То нашъ братъ што прыабицаиць,
Чаго й|ня|зможиць суповниць,
Дый тоя посли занихаиць. –
Што вже пра насъ и гаварыць?
А Царъ ни|разу ни пуская
На вѣциръ своихъ царскихъ словъ.
И што каму прыабицая,
То завсягды спавниць гатовъ.

Здаецца жъ, чули, якъ чытали,
Што быццамъ волю намъ дадуць;
Да сроку на два гады паклали;
Вже пѣвня будзиць што нибудзь.
Али ци такъ жа скора вхопишъ?
Ета ни малинькая дзѣла:
Пакуль то яго рашшалопишъ;
То й пяць гадовъ дыкъ пройдзя смяла.

А тутъ мы хочымъ, кабъ абъ дзѣнь
Яго намъ кончыла начальства!
Вясцима, нашъ братъ галавень!
Виць тутъ работы іо ни мальства:
Пакуляцьки то насъ аддзѣлюць
Атъ нашихъ старыхъ уладыкъ;
То ладна лобъ камусь спацѣиць
И намазолицца языкъ.

[1] Гэтымі словамі пачынаецца *Бясѣда стараго вольника зъ новыми, пра ихнае дзѣло*.

Виць кали бацька аддзиляя
Каторага изъ сыновъ;
То вже галовку паламая,
Кабъ хто зъ ихъ крывды ни нашовъ,
Штобъ посли яны ни скарбились
И бацьку|бъ добрый поминъ бывъ,
Штобъ ни сварылись, ни судзились,
Кабъ другѣй въ кулакъ ня вывъ;
Сусѣдзивъ тымъ бы ни смяшили,
А в сагласіи|бъ жили;
Хлѣбецъ да нови|бъ малацили,
И грошы въ калицѣ|бъ гули.
Вотъ жа и Царъ хоча такъ сама
Насъ добра з панами раздзялиць,
Кабъ мужика атняць отъ пана,
Да кабъ и панъ могъ добре жыць.

Виць Царъ жа, бацька усихъ насъ,
Ня хочыць крывды ничые;
А здзѣлаць добра, дыкъ у часъ,
У нядзѣльку, ци у дзвѣ
Ни вправисся, мае братцы.
Добра прыказка гудзиць:
Кали за дзѣла хочышъ брацца,
То ни хватайсь скора рабиць.

Виць треба|жъ усіо прыгатовиць,
Размѣриць правидна зямлю,
Кабъ посли яго ни бизпакоиць,
А вси спасибкали|бъ яму.
А всихъ насъ братцы супакоиць,
То ладный-ладный треба часъ.
Мала што другѣй гавориць;
Виць дурнявъ многа іо мижъ насъ.

Иншый и такъ и сякъ талкуиць,
А што карысци въ пусцяках?
Чаго васъ братцы врагъ мардуиць?
Въ васъ тольки й толку што въ каршмахъ:
Всягды збяруцца якъ цыгани,
Дый цѣлый дзѣнь сидзяць въ каршмѣ.
Ахъ вы турки вы пагани!
За васъ дыкъ ажъ стыдно мнѣ.

Пашли|бъ вы въ церкву, памалились
Христу и Мацяры Яго,

Угодничкамъ бы пакланились. –
Дыкъ тамъ нима зъ васъ ни каго!?...
Тутъ тыки дыкъ, хвала Богу,
Якъ у нѣраци вирабьіовъ;
Тутъ въ васъ и розуму и толку многа,
Тутъ іо на Цара и на пановъ.

Царъ за то въ васъ винаватъ,
Што волницу няскора шлѣць;
А панъ – за то, што іонъ багатъ,
Да зямли дарамъ ни|даець.
Паслухайця вы мае рады:
Ци всимъ жа намъ багатымъ быць?
Іо бѣдныхъ мижъ насъ и багатыхъ,
А всимъ жа Богъ пазволивъ жыць. –

Ты бѣдный сіонни, то старайся,
Да щыра Госпада праси,
У линцяйства ни вкидайся,
Труды и гора – вси знаси!
Авось Богъ и оглянѣцца,
И долю на цябѣ пошлѣць. –
Нихай сабѣ хто и смяецца; –
Ета всіо Богъ такъ даець.

Богъ хоча цябѣ угадаць –
Ци добрый ты іо чалавѣкъ,
Ци варта долю табѣ даць,
Кабъ ты бывъ вдзяшанъ Яму вѣкъ,
И посли кабъ ни раскидався;
Бо вже гора паспытавъ
И всякія бяды набрався,
Якъ жыць на свѣци угадавъ.

Дыкъ вот|жа панимайца ета!
Вы мыслиця, што паны
Ажъ атъ сатваренні свѣта
Усіо багатыми были. –
Ой нѣ! къ багатству трудная дарога.
Треба старацца да служиць,
Працаваць, малицца Богу
И цярплива всіо знасиць.

А кали хто гора звидзивъ,
Па сабѣ я знаю самъ,
Быля|бъ ни кога ни абидзивъ,

А вже|жъ и дарма ни|дамъ:
Якъ всіо людзямъ параздаси,
Да астанѣсся ни пры чѣмъ;
Тагды схадзитка папраси...
Дыкъ йще хто дасць каршніомъ[1].

Дый ще вотъ якъ цябѣ скрывдзя,
Гарей чымъ па мордзи дасць,
Скажыць: мусиць ты рабиць лянився,
А цяпѣръ ходзишъ, кабъ што вкрасць?
Вотъ такъ жа сама и паны
Зямли ня|хочуць дарамъ даць;
Якъ маишъ за што, дакъ купи,
А такъ, чужымъ нильзя владаць.

А што мы жыли на іой, –
Дакъ за тымъ наша яна?
Што карыставались іой, –
Дыкъ ета паньская вина?
Мала хто чимъ уладзѣиць,
То можа й сабѣ тоя взяць?
Ета хто ни разумѣиць,
Тей можыць тольки такъ сказаць.

А вумный уже такъ ня судзя. –
Во жыдъ у каршми въ насъ живець,
И хоць ище въ іой жыць ён будзя,
Да ни дадуць всягды владзѣць.
Кали владзѣць чужимъ захочышь,
То па сагласію заплоцишь,
А ни въ маготу заплацишь,
То мусишъ ты за то служыць.

Виць ни мы, ни нашъ бацька и ни дзѣдъ
Етай зямли ни купили,
И дакументавъ у насъ нѣтъ,
Што мы яе заслужыли.
Прыгонъ служили жъ мы за то,
Што карысць изъ яе мѣли.
Кабъ на прыгонъ ня|йшовъ ни хто,
То мы|бъ зямлёю ни владзѣли;

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 247: “КОРШЕ́НЬ, шня́, с. м. 1. Ударъ въ затылокъ кулакомъ. *Дай яму коршня*. 2. Затылокъ. *Въ коршень его; по коршнямъ, да й вонъ*”.

Насъ бы изъ яе сагнали. –
Гасподзь знаиць идзѣ|бъ хто бывъ.
Хоць ба мы и ни прапали,
Да на адномъ бы мѣсци ты ня живъ.
А можа|бъ хто изъ пановъ
Съ свае|бъ зямли насъ и сагнавъ,
Дыкъ Царъ Барисъ, прazваннямъ Гадуновъ,
Спасиба, згняць ни прыказавъ[1].

А прыказавъ насъ приглядаць,
Якъ бацька сына прыглядаиць,
Къ лѣпшымъ парадкамъ прывучаць;
Бо панъ троху боли знаиць.
Али|жъ давно бывъ еты часъ; –
Мы вже уси яго забыли;
Дыкъ и паны, забывшы насъ,
Были къ сабѣ закрапасцили.

Хоць и спамогу намъ давали,
Вясцима, пани[2], якъ сваимъ;
Али за то вже насъ ганяли,
Кабъ были выслужны имъ.
А такъ якъ Богъ ни приказавъ
Другъ дружку за носъ валачыць;
Дыкъ Царъ узявъ дый атабравъ,
А за зямлю далжны служыць, –

За то, што мы сваіой ни маимъ,
А на чужой, пани, сядзимъ. –
Яно то ета мы вси знаимъ,
Да всіо штось вѣрыць ни хацимъ.
Скажыця|жъ мнѣ, хто тутъ ня служа,
Каму галовка ни балиць? –
Кожны гаруя, кожны тужа, –
На етымъ увѣсь свѣтъ стаиць.

Бачишъ, нашъ братъ дыкъ служиць дома;
А салдатъ горки у поли служиць,
И ни жалицца никому,
Ни ташнуиць и ни тужыць:

[1] Аўтар, відаць, мае на ўвазе ўказы Барыса Гадунова па запрыгоньванню сялян (адмена Юр’евага дня, указ аб “урочных летах”), хоць падае іх – відавочна, па няведанню і неразуменню – як пэўнае дабрадзейства расейскага цара.

[2] Тут і далей форма “пани” ў пераважнай большасці выпадкаў ужываецца ў значэнні “пановѣ”, як было гэта на пачатку раздзела *Къ Господамъ читателямъ*.

А ци адзин тольки салдатъ? –
Вси – на свици. А Царъ дыкъ спиць
Нябойсь? И Цару заботы іосци шмат[1].
А мы луччъ Цара хочымъ быць?...

Ище войтъ дзѣла ни канчивъ;
Бо яму хтось пирабивъ.

Вотъ и съ карчомнаго чулана,
Впалавину тольки пьяны,
Якѣйся вышавъ маладзѣцъ....
И видна, што бывъ удалѣцъ!...
На войта скоса палядзѣвъ,
Дый насупроцивъ яго сѣвъ.

На іомъ новинькая свитка,
А в зубахъ тарчала пипка;
Калита висѣла зъ боку,
И синякъ бальшый падъ вокомъ;
Пападрана уся морда;
А галава дакъ якъ у чорта;
Якъ вожыкъ валасы стаяли;
Видна людзи прыпадняли.

Сядзѣвъ онъ довга за сталомъ,
И грукавъ абъ мостъ чабатомъ,
Али зачмыхавъ штось у носъ;
Бародой зъ серца затросъ.

Мусиць таго ни взлюбивъ,
Што старавойтъ имъ гаварывъ;
Вотъ іонъ чупрыну закасавъ,
Ды къ старавойту пачавъ
Махаць рукой и гавариць:
На што пригонъ радзиць служиць?

Што паны? – паны святыя,
А мы нягодныя якія? –
За што маюць яны зямлю,
Атъ чаго да па чаму?

Старавойтъ троху падумавъ,
Барадою пакивавъ.....

[1] Параўнай адпаведны матыў у кніжцы *Бясѣда стараго вольника зъ новыми, пра ихнае дзѣло.*

Али кажыць: ну ты, вумны,
За што маюць, ци узнавъ?

Ага, мавчишъ? – Хваробу знаишъ;
А дьяваламъ пани арешъ.
И мянѣ ты зниважаишъ,
И другихъ у грѣхъ вядзѣшъ.

Ну слухайця|жъ, кали хочиця вѣдаць;
А ня то – пайду абѣдаць.
Што пустоя талкаваць?
Ци чуиця|жъ? – прашу мавчаць!

Паны ня вси зямлю купили;
Али|жъ и дарамъ ни взяли.
У свѣци, пани, нима ничога
Даремнага и дармаваго.
За вѣрну службу заслужыли;
За розумъ имъ яе дали.

А хто|жъ етага ни знаиць,
Што розумъ защыта усяму?
Хоць дурень пусцяки бавтаиць,
Хоць сабѣ й кровъ праливаиць,
Да ни паможыць ни чаму.
А было|жъ па Божжай воли,
Што кровъ лилася якъ вада;
У хаци кровъ и кровъ у поли
Смѣрць усюды и бида.

А што|ж|бы дурень тагды дзѣлавъ,
Кабъ розумъ у помачъ ни прышовъ?
Плакавъ бы, крычавъ да бѣгавъ,
Пакуль пагибель бы нашовъ.
Вотъ разумнѣйшыя изъ насъ
Тагды за правду груддзю стали,
И хоць жа ни въ кароткій часъ,
Да ураговъ сваихъ прагнали.

А дзѣилась ета кали,
Мы йще на свѣци ни|были;
Али|жъ магли атъ старыхъ чуць,
И якѣй вѣдаць тагды пуць
На нашей бывъ, пани, зямли,
Якъ татары забрыли,
Да усихъ насъ пазабрали,

Якъ катовъ за хвостъ цягали.
Тагды-то гора прыняли!

Ехъ вы, нясмылиный народъ,
Дванавцатый забыли годъ[1],
Якъ пранцуза чортъ прыніосъ,
Якъ вадзивъ іонъ насъ за носъ?!...

Насъ мучыли да ганяли,
А церквы Божжы зниважали,
Кони ставили въ церквахъ,
Всіо ровна такъ якъ у каршмахъ?
Тагды паны вси груддзю стали,
И ихъ и къ дьявалу прагнали;
Дый ще яны якъ захацѣли,
Дыкъ урагами й завладзѣли,
У сама царства ихъ пашли,
Дый копаци всимъ задали.

Яно и бизъ насъ ни абышлось,
И намъ солана было;
Тольки йдзѣ дурню давялось
Парвацъ еткая сила,
Якоя намъ тагды на шыю
Враги шатанскія влажыли?...

Вотъ разумнѣйшымъ за труды
Царъ многа зямли раздарывъ[2].
Иншимъ давъ дваранства и храсты,
Падзякававшы имъ тагды;
Иншыхъ вотчынай панадзяливъ.
И насъ спасиба ни кидавъ:
Усимъ панамъ іонъ прыказавъ,
Штобъ зъ зямли с тей, што дастали,
Никуды|бъ насъ ни зганяли,
Ды|йще|бъ къ парадкамъ прывучали.

А цяпѣръ Царъ захацѣвъ
На нашы палядзѣць парадки,
Кабъ кожны самъ сабою уладзѣвъ;
Бо мы|жъ вси дзѣци адней матки[3].

---

[1] Беларускі чытач і слухач, пэўна ж, ведаў ці чуў ад старэйшых пра вайну 1812 года.
[2] Аўтар, відавочна, “надзяленне” расейскіх саноўнікаў і чыноўнікаў зямлёю, што было здзейснена пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, нібыта за заслугі ў вайне 1812 г.
[3] Магчыма, аўтар выкарыстоўвае тут радок з верша Шалухі *Одной матки ўси мы дзѣтки*.

Царъ мысливъ, што вже мы навчылись,
Якъ парадки навадзиць,
Што й к добраму вже прымянились,
И можымъ бизъ пановъ пражыць...
А мы на ета ни вважаимъ,
Сядзимъ пастараму въ каршмѣ,
Па тры дни у іой гуляимъ,
А посли быомся на сялѣ

Ну а|што|жъ будзя, якъ дадуць волю?...
Другѣй бязъ хлѣба прападзѣць;
Виць кожный будзиць тагды волинъ,
Па мѣсяцу въ каршмѣ сядзѣць.
Всіо ровна, якъ каня дурнога,
Пусци ня спутавшы яго,
То іонъ пабѣгаиць нямнога,
Скора нападзѣць свайго.

Іонъ прама пабяжыць и къ вовку,
Абы въ балота упадзѣць;
Скора скруциць сваю галовку,
Бо дурынь скарей на воли прападзѣць.

## ГЛАВА II.

Якъ хочыця, мае каханы,
Ня выдиржка бярець мянѣ...
Ахъ нѣхрысци вы бусурманы!
Чаго сядзѣць вамъ у каршмѣ?
Виць кали абъ етымъ дзѣли
Паны да Цару данясуць,
Што вы сукромна жыць ня вмѣли
То насъ изновъ имъ аддадуць.

Вы гарей, чымъ бусурманы...
Сягонни|жъ празникъ гадавы:
А вы, якъ шавцы, вже тыя пьяны,
Ня вдзѣржиця и галавы.
Виць я|жъ дзѣдъ вашъ, хвала Богу,
А въ церкавку пяшкомъ схадзивъ.
Въ церкву прышовъ – нима никога,
Быццам въ сялѣ нихто й ня|живъ.

Якъ ня грѣхъ вамъ и ня стыдна?
Якъ ета людзямъ сказаць?
Виць и таму за васъ абидна,

Хто и волницу уздумавъ даць.
Ище добра што Царъ придумавъ,
Начальства выбраць промижъ насъ:
Якъ галава въ насъ будзя вумны,
Дыкъ іонъ прымицца за васъ.

Ня будзица сядзѣць вы въ каршми.
Пустыя рѣчи гавариць,
На прикляцца тамъ шынкарцы,
И галаву всю ночь тлумиць,
Да ва всякага пытацца:
Пра волнасць ци ня|чуць чаго?
А другѣй, кабъ насміяцца,
Вамъ нагаворыць усяго.

Иншей, якъ зъ дурнявъ, изъ васъ шуця;
А вы и вѣрыця яму. –
Іонъ скажыць, што вамъ царства будзя,
Панами будзиця всяму:
Дыкъ етаму й треба павѣрыць,
Дый зъ радасци пѣсни пѣць,
Ничога у дварѣ ня|дзѣлаць,
У каршми всягды сядзѣць? –

Пакуль вы даждыціося паньства,
Дыкъ и сарочки на спинѣ
У васъ ня будзя за нидбальствомъ,
И пуста будзиць на сталѣ.
А паньства всіо тыки ня будзя:
Якъ бывъ то й будзишъ мужикомъ.
А йдзѣ вумныя іосць людзи,
Дыкъ тамъ ня мѣлюць языкомъ.

А да часу всіо цирпяць,
Ходзюць у церкву, молюць Бога;
Якъ вы, у каршми ни сидзяць:
Ни талкуюць тамъ пустога;
Старѣйшага паважаюць;
Ня чынюць крывды ни каму.
Яны людзѣй и Бога знаюць,
И дзякуюць за всіо Яму.
Бо думаюць, якъ жыць на свѣци,
И дзѣткамъ пуць сваимъ даюць;
Письма вучуцца ихъ дзѣци[1],
И сами совисна жывуць.

[1] Параўнай адпаведны матыў у кніжцы *Бясѣда стараго вольника зъ новыми, пра ихнае дзѣло.*

## ГЛАВА III.

Цяпѣръ ни|давнина вже братцы:
Треба письма вучиць дзяцѣй;
Ня вѣкъ жа дурнями бавтацца...
Пара троху быць вумнѣй.
Треба дзѣлаць на дзяревни
Вабщаствомъ школы дзицямъ;
Бо вже етага запѣвня
Ни хто ня будзиць дзѣлаць намъ.

Вже панъ ня будзя прыглядаць,
Кабъ мы дзяцѣй сваихъ учили;
Іонъ тольки будзиць пануждаць,
Кабъ за зямлю скарей плацили.
А Цару тольки и работы
Усіо на пуць насъ навадзиць?
Іосць Яму нябойсь заботы, –
Галовка аб усіомъ балиць.

Виць Іонъ давъ табѣ слабоду;
А розумъ Богъ намъ падаривъ.
И всіо для нашыя выгоды
Богъ на свѣци сатваривъ.
Тольки правиць знай сабою,
Напрасна часу ни цирай;
То й Богъ завсягды съ табою,
Паказуе дурогу въ рай.

Али|жъ мы таго ня хочимъ;
Мы въ пекла рвіомся атъ Яго:
Нивдзяшнасцю Яму плоцимъ...
А Богъ патомъ ня крывдзя ни каго;
Усіо цярпиць да дажидая,
Ци ни направимъ мы сябѣ.
А нашъ братъ на то ни вважая,
Сядзиць сабѣ да пьець въ каршмѣ.

Вотъ чимъ дзякуя іонъ Богу, –
Пьѣць гарѣлку на хвалу...
И датуль пьѣць, пакуль змога,
Пакуль за што іосць пиць яму.

Ды й хочимъ, кабъ Богъ долю намъ паславъ
За то, што мы кпимъ изъ Яго воли;
Штобъ дли таго багаства давъ,
Кабъ мы гарѣлки пили боли...

Запавидзь мы ни спавняимъ,
Ня хочимъ вѣрыць ни чаму;
Атъ церквы якъ вовка уцикаимъ,
Хвалиць Бога идзіомъ въ каршму.

Тольки адно у насъ и дзѣла:
Пиць съ сябрами да гуляць,
А дамовъ прышовшы смѣла
Сямью съ хаты разганяць,
Мы бацьки й матки ни вважаимъ,
Пры старасци лѣтъ ихъ бьемъ,
И дзяцѣй жа прывучаимъ,
Кабъ такъ жыли, як мы жывіомъ.

Дыкъ и за што жъ Богъ пашлѣць
Такимъ нягоднымъ людзямъ долю?
Іонъ щасця тольки тымъ дасць,
Хто спавняиць яго волю...
А мы, бачышъ, якъ спавняимъ:
Пьіомъ гарѣлку, да гуляимъ.

Яно въ хазяйстви усіо треба,
И гарѣлку можна пиць,
Етымъ ни прагнѣваимъ мы нѣба;
Зъ людзями знацца треба, треба жыць.
Якъ бы гарѣлка винавата,
Што мы нищасця палучаимъ
Чаразъ яе, дый такъ багата,
Што й мѣры яму ни знаимъ.

Али|жъ намъ пиць уже – дыкъ пиць!
Тагды усіо уже пращай! –
Вонъ якъ тей, што пад лавкаю ляжиць, –
Вотъ намъ и долю Богъ давай!...

Другѣй вочь ня вспѣе пралупиць,
У каршму якъ живъ бяжиць.
Шубку паслѣдню заставляя,
А симья бязъ хлѣба прападая.
А якъ даждецца іонъ жнива,
Асіотки[1] со дзвѣ нажнѣць жита;
То й таму мѣры нима,
Бязъ мѣры пираносиць жыду.

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 367: “ОСЁТКА, и, с. ж. умен. слово Осéць. Небольшой овин. *Осётка не великая, скоро змалоцимъ*”.

А хоць ня всіо іонъ занясѣць:
Дыкъ за пьянствомъ ни даглѣдзя, –
Само у поли прападзѣць.
Ды й хочимъ мы, кабъ жыць на свѣци?...
Нима таго, кабъ дзякаць Богу,
Што восини здаровъ даждавъ;
За всіо спасибкаць, хоць ня многа
Зъ ласки Богъ сваіой паславъ.

Эхъ нягодныя вы людзи!
Гарейшы быдла усяго...
Столькѣй Цару падзяки будзя,
Скольки Богу іо чаго.
Царъ думавъ, што вы старацца
Лѣпши будзиця тагды,
И къ добрымъ людзямъ прыминицца,
И дзякаваць Яму всягды.

Якія, мыслиця, падзяки
Хочыць Царъ отъ васъ цяпѣръ?
Кабъ вы ни были сабаки,
Кабъ нашъ братъ ня жывъ, якъ звѣръ;
А на людзѣй бы пахадзили,
Па чалавѣччаму бъ жыли.
Штобъ дзяцѣй письма вучили,
Штобъ навуку имъ дали.

## ГЛАВА IV.

Цяперъ усимъ намъ братцы треба
Нипрымѣнна вчыць дзяцѣй,
Кабъ знали, што то – зимля, а што то – неба,
Кабъ были троху вумнѣй.
Иншый бы дома занимався,
Да хадзяйства|бъ навадзивъ;
Други|бъ краю служыць старався,
Вабщаству|бъ угодзинъ бывъ,

Сабралися|бъ вы куды въ хату,
Стали|бъ пра дзѣла гавариць:
Ци лѣпши пану аддаць плату
За зямлю, ци атслужыць.
Да кабъ школу збудаваць
Для вчення сваихъ дзяцѣй,
Штобъ добрую вамъ раду маць,
И прыминяцца да людзѣй.

Дыкъ етага у васъ нима,
А хочыця быць панами?...
И глухи и нѣмы, якъ сцина,
Тольки што изъ галавами.
Яно то на дурноя вы ня глухи
И ня нѣмы?! – Што казаць! –
Здаліока чуиця дурныя слухи,
И пусташъ можыця бавтаць.

Да тольки жъ да пановъ даліока,
Такъ якъ нѣба да зямли...
Щабѣчыця якъ сароки,
Да што изъ тыя щыбятни?

Паны Цару и краю служаць,
Въ савѣци изъ Царомъ сидзяць,
За всихъ насъ думаюць и тужуць,
Законы супавниць хацяць.
Паны защитаю для края;
У кожнымъ дзѣлѣ всіо паны.
Вотъ и я|жъ васъ братцы навучаю,
И вы быць можыця такъ якъ яны.
Кали ня будзица вы глупы,
То вже слабоднасць вамъ дана:
Усюды быць можица даступны,
И вамъ, якъ имъ, будзиць хвала.

Дыкъ вотъ для етага|жъ то братцы
Треба намъ дзяцѣй вучыць. –
Хоць намъ етай хвалы и ни даждацца,
Дакъ дзѣтки могуць заслужиць.

Тымъ часамъ пана треба слухаць[1],
Пакуль нашъ братъ пабагацѣя.
Всягды изъ имъ пакорна гукаць.
Виць ета кожны разумѣя,
Што цихая, пани, циля
Завсягды дзвюхъ матакъ сьсѣць.
Пользы з хвабрасци нима,
Къ пану кожны носъ прыткнѣць.

Якъ сіолита была висна, –
Нима хлѣба ани въ пипку,
Хоць уцикай, пани, съ|сила,

[1] Параўнай адпаведны матыў у кніжцы *Бясѣда стараго вольника зъ новыми, пра ихнае дзѣло.*

Бабы варуць адну снытку[1].

Дзвярей у хаци прычиниць
За людзми нильзя, яй Богу:
Кожный къ табѣ идзѣць прасиць
Хлѣба сабѣ на спамогу.
То дзисятаму даси...
Мнѣ жъ барками ня возюць хлѣба.
Другому кажишъ: идзи къ пану папраси.
Пѣвня дасць якъ, вартъ, а треба.

Вотъ якъ и къ пану прихилились;
То панъ усихъ и пажалѣвъ.
Низка въ ноги пакланились;
То панъ и давъ што самъ имѣвъ.
Дакъ вотъ жа братцы навучайцись,
Якъ Богъ давъ, то такъ жывиця
И лишнимъ яго ни гнявица.
А мае слава храница, –
Ни с кимъ ни вѣкъ ни пастыляйцись[2].

За етым жа уже пращайця!
Якъ хочыця, рабице такъ:
Угодна раду паважайця,
Кабъ нашъ братъ ня бывъ дуракъ;
А ня хочыця паслухаць, –
Мнѣ вбытку зъ естага нима –
Пращайця жъ братцы, годзи зюкаць,
Час ици вже до двора!

---

*Заключеніе.*

Войтъ изъ каршмы выхаджаиць,
Дый самъ зъ сабою размавляиць:
Вотъ людзи на свѣци жывуць!
Гарей татаръ и калмыковъ;
Шумяць, крычаць, гарѣлку пьюць,
Гамонюць въ трыста языковъ,
А ничагѣньки ни сказали

[1] Шматгадовая расліна, пустазелле (лац. Aegopodium podagraria). Выкарыстоўвалася ў народнай медыцыне і (маладая) як гароднiна дзеля гатавання супоў (разам са шчаўем).

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 482: "ПОСТЫ́ЛИЦЬ, -лю, сов. Опосты́лиць, гл. д. Дѣлать кого постылымъ, возбуждать противъ кого въ другомъ холодность, нерасположеніе посредствомъ наговоровъ. *Ты мене постылишъ, опостыливъ пану. Мачиха пасынка усёгды постылиць бацьку*".

И къ парадку и къ пуцю,
То якъ сароки щыбитали,
То брахали, якъ цюцю.
Ты и къ дабру ихъ навучаишъ,
А яны и слухаць ни хацяць;
Ты большъ пажывъ и боли знаишъ,
Хочышъ имъ прыклады даць:

Дыкъ яны йще сѣрдзюцца за ета,
Вси надулись, якъ сычы;
Глядзяць, зима быццамъ на лѣта.
Вотъ такихъ ты и навчы!...
Ой ни|знаю, што ета будзя,
Кали ня будуць насъ вучыць!...
Али здаецца, што насъ Царъ ни пазабудзя,
Кали начавъ, дыкъ и канчыць.

Францъ Феликсовъ Блусъ.
Іюнь 1862 года.

## РѢЧЬ СТАРОВОЙТА[1].
## (Для чтенія моимъ землякамъ.)
### *Къ Читателямъ.*

Прашу, панове, прабачайця,
Што васъ узновъ я утруждаю!
Хоць сварицися и лайця;
А я пишу пра то, што знаю:
Бо першая жъ моя мова
Была прынита въ пичаць;
Дыкъ атъ чаго|жъ ба мнѣ изнова
Кой абъ чемъ ни написаць?

Пра пусцаки|жъ я ни бавтаю,
Такъ якъ иншей пра ихъ бавтаиць! –
Къ пуцю пишу и навучаю
Таго, хто пуця въ жыцци ни маиць;
Бо я, признацца, хвала Богу,
Убачивъ гора, хаць нямнога: –
Знаю якъ на свѣци жыць;
То й другихъ хочу навчыць. –

Нихай жывуць, Бога всхваляюць
И мянѣ лихамъ ни паминаюць:
Бо цяперъ хаць многа іо розумныхъ,
Багатыхъ, мосныхъ, ясныхъ, вумныхъ, –
Здаецца, годныхъ ка всяму;
Али навчиць нима каму.

Пращайця|жъ, добрыя панове,
И мнѣ за все вже прабачайця;
Бы васъ ня скрывдзиць въ жаднымъ словѣ,
То й помсты|жъ вы ка мнѣ ни майця.

*Вступленіе.*

Старавойтъ, пани, тей самы,
Што вже троху намъ знакомъ,
Бывъ нагдысь въ каршмѣ на Йвана
И зъ меньшимъ сынамъ Питраком. –
Али што намъ съ кимъ іонъ бывъ?

[1] Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: Францъ Феликсовъ Блусъ, *Рѣчь старовойта. (Для чтенія моимъ землякамъ)*, “Могилевскихъ губернскихъ вѣдомостей часть неоффиціальная” 1862, № 60, с. 655–658; № 61, с. 663–667.

Будзимъ писаць, што гаваривъ. –
Мужы выкругъ яго сабрались,
И што іонъ скажыць прыслухались.

А іонъ шапку сваю знавъ,
И так гутарыць начавъ:

***Рѣчь Старовойта.***

ГЛАВА I.

Што вы вздурылися рабяты?
Чаго васъ за мазги бярець?
Ци всимъ быць на свѣци багатымъ
И маіонтками владзѣць?
Падаждитя, пацярпиця, –
Виць гета всіо у Божжай воли!
Вы тольки Господа малиця;
То Іонъ пашлець для васъ и долю.

Вытка паслухайця, панове,
Што я вамъ буду гаварыць! –
Чувъ лѣтась я у Магиліовѣ,
Што намъ волнасць маиць быць.

Ци чуиця: *волнасць*?... Здзѣньця шапки!
Гета для насъ святоя слова!...
Да ближей станцитка, дзицятки,
Паслухайця маіой мовы!

Я давно вже сабирався
Вамъ пра гета гавариць,
Кабъ зъ васъ кожанъ навучався,
Якъ на бѣлымъ свѣци жиць.
Яно то я вамъ талкававъ
Пра то, кабъ вы йще пацярпѣли,
Пра вольницу што Царъ прыславъ,
И кабъ сукромна жиць вумѣли,

И дзякавали|бъ ажъ да сканчення свѣту...
А што треба, то треба падаждаць;
Бо въ скорамъ дзѣли проку нѣту...
Вы сами можаця паняць!

И спасиба!... усіо паняли.
Хаць и трудна да цирпиціо!
Али што за волнасць, ци узнали?
... Ну што|жъ брацци мавчыціо?

А впрочамъ, добра, ... и мавчыця!
Я вамъ луччы расталкую.
Ни кашляйця|жъ, ни гаманиця;
Нихай кожанъ изъ васъ чуя!

Хто тольки хоча жыць на свѣци
И чалавѣкамѣ хочиць быць;
Нихай усіо мая въ примѣци
Абъ чимъ я буду гавариць.
Али вперадъ раскажу,
Атъ каго и якъ пачувъ пра волю;
А тагды я вжо скажу
И навчу нажыць якъ долю.

Ну дай|жа Божа добрый часъ!...
Мы лѣтась дровы прадавали...
Якуратъ тагды икъ-разъ,
Якъ въ горадзи указъ читали.
Мы дровы кинули, ды й ходу
Туды, йдзѣ били въ барабанъ.
Якога тамъ ни|было народу?...
Нашъ братъ, жыдъ, салдатъ и панъ...
И пихались и тавхались...
Во й мы у тую цснату...

И пѣвня бъ ни пачули б мы ничога
За гоманамъ и тавкатніой,
Кабъ ахвицеръ якѣйся, дзякаць Богу,
Ввесь у храстахъ, ды йще зъ звяздой,
Якѣйся вельми тавкавитый
Намъ таго ни расказавъ. –
Видна въ цѣмя ня бывъ битый,
Дый гора мусиць навидавъ.

Якъ ставъ іонъ зъ нами гаманиць:
Дыкъ и вказею прачитали,
И людзи дровы вси прадали,
А іон усіо зъ нами стаиць.

Абъ усимъ намъ гаваривъ,
Што въ жицци для насъ выгодна,
И абъ дзяльбу пагаманивъ,
Што дзялицца ни прыходна,
И што письма треба учыць
Намъ цяпѣръ сваихъ дзяцѣй,
А гарѣлки меньши пиць,
Кабъ засики были павнѣй.

Абъ дзяльбу якъ ставъ іонъ гукаць,
Да прыклады намъ даваць;
Дыкъ ажъ серца стала стукаць,
Што чуць змогъ я устаяць.

“Я”, кажа, “браццы мае, й самъ
Такимъ, якъ вы, бывъ мужыкомъ;
Такжа й прыгонъ цянувъ панамъ,
А цяперъ во дыкъ зъ храстомъ!

Бо письма зъ моладу навчився,
Гарѣлки многа ни вжывавъ,
И атъ браццявъ я ни дзялився,
Трудзився пры кучы, працававъ.
Али якъ треба было у руину
Цару и краю паслужыць;
Вотъ я пакинувъ Кацярину,
Дый пашовъ Хранцуза биць.

Якъ тольки къ войську прыдзялився,
Зъ дамовки грошей мнѣ прыслали.
Ну а што|жъ, кабъ я аддзялився?...
Людзи|бъ нѣшта помачъ дали? –
Ой нѣ, братцы! – кожанъ знаиць
Хто тольки на свици живець:
Всякѣй цябѣ тагды вважаиць,
Якъ у цябѣ ѣсць да пьець;

А якъ прыдзя худабина,
То й аччураюцца уси,
Якъ бывъ то й будзишь сирацина,
Въ сябровъ спамоги ни праси.
Яны съ цябе йще насмяюцца
И якъ зъ дурня стануць кпиць,
Ажъ сліозы зъ горесци паллюцца,
А серца больна забалиць,
Кровъ выкругъ яго запячецца,
Ціомна станиць у вачахъ,
Якъ пачуишь што смяецца
Твой прыяцель съ цябѣ впрахъ...
Нихай сабѣ другей талкуиць,
А чужы... сваимъ ня|будзя:
Кали свой ни паратуиць,
Ни паратуюць цябе людзи.

Кали свайго въ цябѣ нима,
Хаць и ни|ладзиць іонъ съ табой;

То нихто ня вырвиць изъ сила,
Хиба паможиць Богъ святой.

И вамъ ни раю я дзялицца;
Выгадней пры кучи жыць.
А так|жа зъ большимъ ни сварицца,
Всягды яму пакорнымъ быць.
Што|жъ, браццы, я|бъ тагды рабивъ,
Якъ мямѣ въ салдаты взяли?
Каму|бъ я дзѣтакъ прыручивъ?...
Пѣвня|бъ на свѣци вандравали...

И жонка йдзѣ|бъ тагды была,
Божа бъ баронь, адну пакинувъ?
Съ сила хадзила|бъ да сила...
И я, бязъ помачы|бъ загинувъ! –
Ды йще кабъ зажывавъ гаркушу;
Ни разу|бъ службы ни спавнивъ,
Хитхебиль морду|бъ часта пушивъ,
Ды й палкамы|бъ ище лупивъ. –

Я бизъ пары|бъ здаровья страцивъ!
Тагды патъ старасць ба въ старцы!...
И въ служби|бъ я добра ни|бачывъ
А съ службы вышавшы – канцы!...
Ато дыкъ во, дзякаць Богу,
Пры старасци сабѣ лѣтъ,
За щырасць Царъ даець спамогу.
Хвала Яму, хвала и Богу!
И паважаиць мянѣ свѣтъ...

А хаць бы сабѣ й ни заслуживъ
У Царскай служби я ни чога;
Дыкъ бы прышовшы въ братовъ жывъ,
Бы ни зрабивъ я имъ худога.
Дыкъ вотъ жа, браццы, навучайцись,
Як на бѣлымъ свѣци жыць;
Николи вы ни аддзиляйцись
И гарелку ня треба пиць. –

А так|жа дзяцѣй письма вучиця,
Кабъ дурнями ни были,
И щыра Госпада малиця,
Кабъ у сагласіи жыли.
Ну што|жъ, кабъ я письма ня вчывся?
(Ни адзинъ дурень што заслужывъ)

Николи|бъ въ людзи я ня вбився,
И цяперыцька|бъ бязъ чына бывъ.”

Вотъ я яму тады вкланився,
Ды й такъ ставъ зъ имъ я гавариць:
“Паня, я жыць на свеци навчывся,
Годзя пра гета гаманиць!
А раскажытка, ясный паня,
Для чого били въ барабанъ
И што хватальныя чытали. –
Расталкуй тка гета намъ!”

Тагды іонъ вынивъ табакерку,
Панюхавъ зъ яе табаки;
А я надзѣвъ сваю маргелку
И пры сваіомъ зъ насъ ставъ усяки.
“Паждзыцитка”, іонъ намъ сказавъ,
“Сійчасъ пра гета раставкую,
Бо я большъ мѣсяца пра гета знавъ,
Вже подавна абъ гетымъ чую. –

Гета вотъ пра што чытали,
Што вы вже волныя цяпѣръ,
Вже вы слабодны цяпѣръ стали,
Такъ якъ я чесны ахвицеръ.
А дли чаго вамъ дали волю?...
Кабъ вы слабанѣй были,
Кабъ ни лайдачили вже боли,
И на пановъ бы ни гули.

И кабъ паны ни таргавали
Людзьми, якъ быдламъ бы якимъ,
Кабъ вами вже ни гандлявали,
Якъ цыганъ каніомъ сваимъ.
Бо й вамъ слабоднасць даець права
Такоя|жъ паньства заслужыць,
И вамъ можыць быць такая слава,
Якую Царъ панамъ дарыць”. –

Дыкъ вотъ што іонъ, браццы, гукавъ!...
И быццамъ сына вчывъ ацѣцъ.
Можа|бъ іонъ и боли зюкавъ,
Да вже стала вичарѣць.
Адзинъ другому мы вкланились:
Іонъ пашовъ сабѣ дамовъ,
А мы къ вазамъ бягомъ пусцились,
Кабъ ни раскрали у насъ дровъ. –

Бо въ горадзи народъ цикавы!
Якъ|разъ патпусцюць карася,
Такъ што ни вбачыць и лукавы...
Тагды шукай каго хаця!...
Вотъ мы дровы тагды прадали,
Ды й коникавъ дамовъ пагнали.

ГЛАВА II.

Дыкъ вотъ што, братцы, я вслыхавъ,
Всіо што талкававъ цяпѣръ прадъ вами!...
Цяперъ, быля|бъ нашъ братъ пажалавъ,
То нихто ни насмяеця вже надъ нами.
И|пѣвня таго мижъ насъ ня|будзя,
Якъ было kалисъ давней,
Што якъ скацина жили людзи,
А други й таго гарей...

Чразъ гета кожанъ и стыдзився
И зъ нашымъ братамъ ровню мѣць;
Бы нашъ братъ такъ и въ добраму гадзився,
Якъ у скрыпку йграць мядзвѣдзь. –
А цяперъ жа уже, брацца,
Якъ намъ вольницу дали,
Троху лучче треба старацца,
И ня жыць, такъ якъ жыли.

Виць мы цяпѣръ слабодна можамъ
Письма вучыць сваихъ дзяцѣй;
Бо, па дапущенню Божжымъ,
Намъ даліока пахвальнѣй.

А якъ ня будуць дзѣтки глупы;
То йдзѣ захочуць могуць быць:
Всюды всягды будуць даступны
И дваранства могуць заслужиць:
Бо вчення свѣтъ, а цьма нявчення. –
Хто тольки вывчився всяго,
То меншы вбача тей мучення,
Якъ насъ, ня скрывдзюць вже яго.

Вотъ што значыцца слабода,
Якоя права намъ даець!...
Якую зхочимъ мы выгоду,
Чаразъ яе то можамъ мѣць:
Вже панъ цяперъ намъ ни раскажиць
У нашимъ добрымъ, якъ давнѣй,

Хаць на цябѣ и скоса гляниць,
Да словца скажыць ласкавѣй.

Тольки, вясцима, треба старацца,
Дуръ давны зъ галавы прагнаць,
У линцяйства ни вкидацца,
И съ щырымъ серцамъ працаваць. –
А хто работаць ни ляницца,
Той багатымъ можыць быць:
Работаць щира и малицца,
То Богъ и долю падарыць.

А на кагось ни палагацца;
Вже панъ ня будзя прыглядаць.
Паньскихъ прыказавъ ни дажыдацца;
Бизъ прыказавъ працаваць.
То, якъ мы паньскія были,
То насъ паны и прыглядали;
Якъ падъ ими мы жыли,
То и спамогу намъ давали.

А цяпѣръ|жа мы слабодны. –
Панъ большъ за нами ни глядзиць:
Ци мы халодны ци галодны,
То панъ ня будзя насъ кармиць.

Самимъ за всимъ треба старацца,
Ня мѣць надзѣи на людзей;
А главнѣй всяго – ни раздзиляцца,
То многа будзиць угаднѣй. –
И слухаць аднаго у доми,
Што скажыць іонъ, суповняць,
Ня крывдзиць яго николи,
То и Богъ будзиць даваць.

А якъ станиця сварыцца,
И въ доми кожанъ большымъ быць,
Да чаразъ гета и дзялицца,
Кабъ аднаму сабѣ пажыць...
Ой, братцы братцы! – я вже знаю,
Якаво жыць аднаму!...
И сабацы ни жалаю,
Ня|тольки изъ людзѣй каму.

Я самъ из моладу зъ хадзяйства
Чаразъ жонку аддзялився,

Чаразъ дурнату, чаразъ нядбальства
Зъ братамъ бився да сварився...
Дыкъ жа тагды въ насъ, хвала Богу,
Усякага дабра было:
Скацинки рознай, хлѣба многа,
И въ калицѣ тыки гуло.

Виць мнѣ дасталась, браццы, толки
Канѣй зъ дзисяцира... а хлѣба
Крыжовикавъ[1] изъ повквартовки...
Што жъ ля аднаго большъ треба?...
А й то, пакулицки абжывся,
Да дзѣтки троху падрасли,
Ни разъ я слiозками аблився,
А браты ни гадачки жыли.

На|што даliока гаварыць? –
Я прымѣръ вамъ пакажу,
Ци добра в|адзиностви жыць,
И ци праўду я кажу:

Вазьмиця, въ жмутъ звяжыця пруццця,
Дый папрабуйця ихъ зламаць;
То хоць яны и будуць гнуцца,
Да ня зможыця имъ рады даць. –
А развяжитка ты ихъ тольки,
То па адномъ уси зламаишь,
Ни останѣцца ихъ нискольки,
Кали таго ты пажалаишь.

Вотъ, такъ жа сама й наша брацця:
Якъ йдзѣ жывуць пры кучы,
То маюць хлѣбъ яны и плацця, –
Яны и крѣпки и магучы;
А кали тольки нябога
Атъ сямѣйки аддзялився,
То, пахвастаимъ нямнога,
Ни адзинъ такѣй разжывся. –

Ды йще цяпѣря пакуль што
Паны, спасиба, ни кидаюць:

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 255, 256: "КРЫЖА́КЪ, á, с. м. 1. Цѣлковый, рубль съ изображеніемъ креста. *Одного крыжыка мѣвъ, и того украли* <…> КРЫЖО́ВИКЪ, а., с. м. Крестовикъ, как и Крыжáкъ въ 1-мъ знач. *Ёнъ цепель, маець крыжовиковъ досиць*". Маюцца на ўвазе срэбраныя рублі, якія білі на манетным двары пры Паўлу І (а раней – пры Пятры І), а таксама пазней, якія хоць і былі без крыжа, але традыцыйна называліся крыжовікамі.

То такъ то сякъ, то то, то сіо,
А всіо насъ троху наддзиржаюць.
А й то мы бачымъ на людзяхъ:
Вотъ ни даліока нашъ Андрей...
Нима пуця въ яго дзилахъ,
Виць за всяго сила бяднѣй.
*(Окончаніе въ слѣдующемъ №).*

**РѢЧЬ СТАРОВОЙТА.**
**(Для чтенія моимъ землякамъ.)**
*Окончаніе.*
ГЛАВА III.
*Читателямъ.*

Цяперъ паслухайце, панове,
Што баба будзя тавкаваць,
И всихъ васъ, чесныя мужове,
Прашу, паслухаць, памавчаць:
Дыкъ и пазнаиця цяперъ,
Аткуляцьки дзяльба выходзя...
Ой, баба-баба! гета ня птушка и ня звѣръ;
А што злоя зъ ихъ выходзя!...

Мижъ мужыковъ я пражываю
Вже боли, чымсь гадовъ пятокъ;
То абъ жыцціо ихъ добра знаю...
На гета дзѣла я цямокъ! –

Вотъ, баба къ дзѣду патступила,
Такъ што мусивъ тей мавчаць;
Яна вже галовку тлумила,
Па свойму зачала крычаць:
“Вотъ ты кажышь, пани дзѣдъ,
Што дзялицца ни прыходна?!...
Нихай крычыць хоць увѣсь свѣтъ,
А жыць нильзя, якѣ нивыгодна.
Ахъ мой вялики, мосны Божа!...
Хто|жъ бачивъ гета – въ кучы жыць?!...
Вже што нягожа, то й ни прыгожа!...
Што вже пустоя гаварыць?

Кабъ я сіонни паважала,
Урагъ знаиць, пани, каго?...
Яна кабъ на палу лижала,
И ни рабила|бъ ни чаго?...
А ты адна всюды круцися,

Адна хадзяйства судзиржай,
Якъ рыба тая абъ ліодъ бійся,
Ды йще кагось и паважай?!...

Што тамъ яна за такая?...
Вотъ, ни даліока, наша Ховра...
Ня вздолія всіо, да хварая;
А въ кубликахъ, ня|бойся, повна?!...
Ты зъ наймиткай пойдзишь у поля,
Скольки змоги тамъ працуишь
И всюды адна гаруишь;
А яна й градъ ни паполя?!

Сцямнѣя, прыбяжышь дамовъ...
А яна всіо стогня да ляжыць; –
Дакъ ты йще йдзи даиць каровъ!...
То вже хоць хто дыкъ закрычыць...
А кабъ сабѣ аддзялився,
Дыкъ бы я знала, што сабѣ раблю...
Чалавѣкъ сабѣ|бъ трудзився,
А ни, врагъ знаиць, каму...

Хаць было|бъ и труднавата,
Пакуль|ба дзѣтки падрасли;
Дыкъ ци всягды|жъ всіо жыць багата?
Бязъ хлѣба|бъ, пѣвня, ни были...
А|то всягды йще хтось шурмуя,
За то што ты якъ рыбка бьеcся,
И Антонька мой гаруе...
Што ты нѣшта, дзѣдъ, смяеcся?...”

Ище баба думала зачаць,
Пагаварыць и пакрычаць;
Али войтъ скоса палядзѣвъ
И іой замавчаць вялѣвъ:
“Мавчаць, кажу я, Сципанида!...
Ни смяшы людзей и ня гняви ты Бога!
Кали табѣ вже іо абида,
Мавчы лѣпи вже, нябога!

И Госпада ты не гняви
И ня смяшы грѣшныхъ людзѣй;
А лепшъ цихинька жыви,
То будзиць табе угаднѣй.
Вже табе изъ іой сварыцца
Ни выходзя, якъ ты хочышь;

Вже ты іой мусишь пакарыцца.
Пустоя гета ты лапочишь!
Гета у васъ тольки тоя,
Кабъ кожнай въ хаци большай быць.
Всяго изъ наймиткай васъ троя;
Ды тутъ кабъ йще ня вжыць?...

Глядзи тка ты, въ мянѣ жывуць
Бабъ изъ восимъ въ адней хаци...
Баронь бы Божа што нибудь
Баба стала размавляци!...
Дыкъ я|бъ яе нябойсь прыщишывъ,
Прыкусила|бъ язычокъ!...
Кайму|бъ на плѣчахъ цягамъ вышывъ
Іой самы|бъ яе мужычок!...

Ховра, вже хоць хто дыкъ скажыць,
Што ни зравнуицца съ табой...
Гета й малиньки разважыць,
Што ня|йдзець табе сварыцца зъ іой.
Яна вже троху патрудзилась...
Шутки, въ геткимъ хадзяйстви да адна!...
А ни съ кимъ жа ни сварылась,
И заганы ни дала!...

Твой дзѣвиръ самый бывъ старшѣйшый,
А|то всіо дробныя, якъ моль...
Антонъ твой, гета братъ яго бывъ меншый,
Ни|знавъ што то за мазоль...
Треба|жъ было даць пуць яму,
У людзи вывясци яго,
Прывчыць и къ добраму всяму,
Кабъ ни баявсь іонъ ни чаго...

А цяпѣръ во въ перья вбрався!...
Хаць сабѣ твой и мужыкъ...
Аткуль тые пыхи набрався,
Аткуль узявся тей языкъ?...
Бо гадвався, якъ у бацьки іонъ раднога!...
Братъ большый яго ни кидавъ,
Ни жалѣвъ яму ничога,
Ни разъ ни за шта ни задавъ!...

Дыкъ, вотъ яму цяперъ падзяка!...
За лобъ меньшый братъ бярець!...
Згадававъ съ щанка сабаку,

Каторый носъ яму сарвець!...
А всіо чаразъ цябе, галубка,
Нима въ хадзяйстви въ васъ пуця!...
Штось ты зайграла вѣльми хутка?
Да не маткина дзиця...

Ты скора головку зламаишь
И мужыкъ гиня за табой;
Бо ты й яго навучаишь,
На ладъ, якъ видна, вѣрнишь свой...
Ступай сабѣ!... Гукаць съ табою,
Вже кожынъ скажыць, што мнѣ стыдна.
Ой! ты галовкаю сваіою
Пиравѣрнишь свѣтъ, якъ видна!...

## ГЛАВА IV.

Якъ хочыця, браццы, нильзя патачки имъ даваць;
Николи бабъ ня треба слухаць...
Што кажыць яна – ни вважаць,
Кабъ посли лысины ня чухаць!
Изъ ихъ увесь свѣтъ гарыць!
Гарей за чорта злая жонка!...
Яна крычыць и виращыць...
Якъ іо пры чымъ, дыкъ яна звонка...

А што|бъ у хаци прыглядаць,
Скацинку холиць и кармиць,
Ѣсць варыць да кросны ткаць,
А людзями|бъ ни завадзиць?!...
Яна адна адной вважыць ня|хоча,
И другимъ спакою ни|даець;
Всіо тольки пусцяки лапоча,
Да чапуху сваю нясець!...

А мужыкъ, здуру, вважая,
Да й за жонку зъ братамъ бьецца,
И всихъ у доми зниважая...
А яна йще большъ бярецца!...
Вотъ чараза што дзильба
У брата нашага бываиць!...
А пасьля винна судзьба,
Што другей въ горы загибаиць?!...

А кабъ нашъ братъ бабы ня слухавъ,
Да іой бы воли ни даввъ;
То лысины|бъ ни разъ ня чухавъ,

И за сабаку|бъ ни|прапавъ...
Кали|бъ пры кучы іонъ старався:
Въ заработки|бы куды пашовъ,
Ня то въ хадзяйстви|бъ суправлявся;
То й долю|бъ дли сябе нашовъ.

Ну што|жъ, браццы, ци паняли,
Што я цяперъ вамъ гаварывъ?
Ци добра въ памицъ сабѣ взяли,
Кабъ парадакъ лѣпшый бывъ?...
Цяперацька|жъ уже пращайця;
Пара вже мнѣ ици дамовъ:
А што сказавъ я – супавняйця,
Ни забывайця маихъ словъ;

Бо што я тольки вамъ казавъ,
То гета правда всіо святая...
Бо многа я чаго видавъ,
Якъ жыць на свѣци добра знаю...
Дзисяткавъ зъ восимъ, хвала Богу,
На свѣци памаячывъ,
То й добрага вже и худога,
Як тей казавъ, давольна бачывъ...

И знаю, кали бизъ пуця хто аддзялився,
То николи ни нажывся.
А кали хто бабы слухавъ,
То лысину ни разъ пачухавъ.
Ци чуиця вы?... Гета што?...
Хтось за рѣчкаю пяець...
И галасочыкъ жа ни што!?...
Мушу|жъ йще я пасядзѣць,

Да паслухаць, што такоя
Пяець іонъ – добрая ци злоя”...

Гета было въ дзень Ивана:
Мужычки сабѣ гуляли –
Иншей цвярозы, иншей пьяны...
Пѣли пѣсни, размавляли...
Тольки тамъ циха и было,
Йдзѣ старавойтъ сядзѣвъ. –
Ни шумѣла ни гуло;
Кожанъ слухавъ и глядзѣвъ...

Вотъ за рѣчкай за Растою[1],
Якая тамъ цячэць у насъ,
За магилками й гарою
Пѣсня звонкая нислась...
Видна мужычокъ изъ гора
Пашовъ па берази гуляць...
Хадзивъ сабѣ тамъ на прасторы,
Али и вздумавъ заспиваць.

*Пѣсня.*

“Памажы|жъ мнѣ, мосны Божа,
У худабини, у маіой!
Хто|жъ мнѣ въ горасци паможа,
Якъ ня Ты, о Божа мой?
Я завсягды къ Табѣ малюся...
Глянь ты, Божа, на мянѣ!
Скольки змоги мае бьюся:
Ахъ, памажы|жъ Ты, Божа, мнѣ!
А ничагѣнька я ни маю
Вакрамѣ бѣднасци адной;
Тольки ташную да вздыхаю
И вѣшна знаюся зъ бядой!...
Я гарѣлки ни вжываю;
Въ каршму зрѣдзь кали й хаджу,
Али никога тамъ ни зниважаю,
А усякаму гаджу. –
Въ мянѣ нима, якъ у другога,
Словъ на языцѣ лихихъ,
Нихто ни скажыць мнѣ худога,
Такъ якъ кажуць на другихъ.
Тольки за тое Табѣ вдзяшанъ,
Што спакойна спаць кладусь. –
Хаць ня ѣмъ я вельми смашна,
Да никога ни баюсь.
Яно падумаць на всіо треба:
Нявже|жъ тей щасливъ, хто багатъ,
Хто маиць многа вельми хлѣба
И кожанъ яму винаватъ?...
Дыкъ іонъ за то щасливъ у Бога?...
Ахъ, Божа|жъ мой, я бачывъ самъ,
Што багачъ ташнуиць многа. –
А я, спасиба Табѣ, Божа,
Чыстъ, якъ золата, кругомъ!...

[1] Маецца на ўвазе рэчка Раста, правы прыток Проні, на радзіме (вёска Доўгі Мох) Ф. Блуса.

А спакайнѣй кладуся въ ложа,
Даліока спакайнѣй, чымъ іонъ.
И за всіо, Божа, Таб вдзяшанъ!...
Нихто ни плачыць на мянѣ...
Хаць ня ѣмъ и вельми смашна,
Да хлѣбъ іо завсягды въ мянѣ.
А серца што кали балиць...
Бы сиратою жыву въ свѣци;
Галовки нѣккаму скланиць
И найци мнѣ друга нѣйдзи!...
Спасиба, крѣпкій, мосный Божа,
За всіо, што Ты мнѣ пасылаишь!
Чалавѣкъ знаць таго ня|можа,
Што Ты, вяликій Божа, знаишь.
А можа придзиць кали часъ,
Што й мянѣ Ты ни забудзишь.
Ни забывай|жа усихъ насъ;
Ты Бацькамъ бывъ нашымъ и будзишь.”

---

Канчылась пѣсня за ракою,
Пираставъ яе хтось пѣць. –
Старавойвотъ махнувъ рукою
И такую паніосъ рѣчь!

“Нихай жа табѣ, мой каханы,
Чаго жалаишь, Богъ пашлець!
Вотъ, браццы, и вы гетакъ прывучайцись:
Багацця вельми ни|хациця,
Жывиця якъ Богъ давъ, старайцись,
А лишнимъ Бога ни гнявиця.

Вы|жъ чуиця: ня тей щасливъ, хто багатъ,
Хто мая дабра въ сябѣ многа
И кожанъ яму винаватъ...
Багачъ, браццы, горшъ худога;
Гарей ташнуиць и вздыхаиць:
Бо большы хоча усяго, –
Большы хоча чымся маиць,
Хаць самъ ни знаиць дли чаго. –

Якъ бы на тысячу гадовъ
Сабираицца іонъ жыць. –
Паслѣдняя атняць въ кагось гатовъ,
Кабъ багацѣйшымъ ище быць.
Тей тольки на свици щасливъ,

Хто й малаю даволинъ паляницай.
Я вамъ прыказку скажу, якъ жывъ
Адзинъ багачъ дзѣсь въ камяницы: –

Ня спивъ іонъ и ня|зъѣвъ,
Спакойна ни заснувъ николи;
Усіо надъ золатамъ сядзѣвъ,
Бо йще хацѣвъ яго іонъ боли.
А тутъ жа въ яго падъ вакномъ
Шавець якѣйся домикъ мѣвъ,
Всягды всіо стукавъ малаткомъ,
Свиставъ сабѣ да пѣсни пѣвъ.

И стала дзивна багачу,
Што весила биднякъ жывець.
Пастой ка, кажыць, я навчу...
Ня будзиць большъ іонъ пѣсенъ пѣць!
Гукнуць шавца іонъ прыказавъ,
А грошы паклавъ на сталѣ.
Вотъ тей прышовъ дый въ дзверахъ ставъ,
Прыпіоршыся сабѣ къ сцянѣ.

Тагды багачъ на хитрасць кинувъ:
Шавца іонъ за руку узявъ,
Кресла, сѣсць яму, прыдзвинувъ
И, быццамъ, зъ жаласци сказавъ:
“Якъ, паня браця, ты жывешь?
Я чувъ, ни чога ты ни маишь,
А пѣсни зъ гора, чувъ, пяешь?..
Гора пѣсняй пацишаишь?...

Я хочу щасця даць табѣ. –
Дамъ на ражжыву табѣ грошы. –
Вазьми, во, тысячу сабѣ!
Ты, виджу, чалавѣкъ харошей.
Бо й мнѣ щасця Богъ паславъ:
На таваръ цану падняли.
А ли чаго|жъ Богъ щасця давъ?...
Кабъ мы бѣдныхъ спамагали.

Тольки рѣдкій рѣдкій зъ насъ
Помниць гета прыказання.
Пращай жа, браця; бо вже часъ
Ици мнѣ къ жонцы на снидання.”
Шевчыкъ купцу пакланився,
Пабѣгъ изъ радасци дамовъ.

Якъ прыбѣгъ, всю ночь журывся,
Кабъ злодзій къ яму ни прышовъ.

Дасць Богъ дзѣнь; – и въ дзѣнь ташнуиць.
Вже боли пѣсинь ни пяець.
И такъ и сякъ сабѣ миркуиць:
То падъ мостъ грошы пакладзець,
То за печкаю схаваиць...
Вокны и дзверы пазапрець...
Спакою за грашми ни маиць,
Ня свищыць вже и ня пяець.

Бывала, быццамъ салавей,
Всю ночъ на вылитъ распиваиць;
А цяперъ савсимъ ня тей:
Ташнуиць тольки да вздыхаиць.
А што, братцы, вотъ навука!...
Угадавъ яе шавецъ,
Якая зъ грошей, пани, штука...
Дзива, што ня спиць купецъ?!

И съ повгада шавецъ тей бився,
Павѣсивъ зъ гора савсимъ носъ;
Али за розумъ ухапився:
Взявъ грошы, ды й назадъ заніосъ.
Бязъ грошей висялей ставъ жыць:
Вже хату спакайнѣй кидаиць;
Якъ ляжыць спаць, спакойна спиць,
А встаня... пѣсниваспиваиць.

А багачъ николи ни пяець;
Ня можыць іонъ спакойна спаць:
За тымъ таска яго бярець,
Што боли хоча всяго маць.

Дыкъ вотъ жа, браццы, навучайцись!
Багацця вельми ни|хациця;
Жывиця, якъ Богъ давъ; старайцись,
А лишнимъ Бога ни гнявиця.
Вы вчыцись, брацци, атъ мянѣ:
Виць тысичъ жа я ни|маю, –
Крыжовикъ іо другей въ машнѣ...
И большъ, яй Богу, ни жалаю.

Якъ мой дзѣдъ кались казавъ;
Ни въ багацци, кажыць, щасця...

Яго дли гора Богъ паславъ;
Бо и въ пагоду зъ имъ нинасця.
Ци мы ни бачымъ па людзяхъ?
Багатыхъ боли пагибаиць,
И рѣдка што пуць іо въ дзицяхъ...
Бацька нажывъ – сынъ праматаиць.

А посли съ торбаю идзець,
Бацьку и матку іонъ клянець.
И такъ да смерци другей ходзя,
За бацьку доли ни находзя:
Бо кабъ чесный бацька бывъ,
То й дзѣци|бъ яго ни праклинали.
Самъ ба спакойна вѣкъ канчывъ
И дзѣци|бъ щаслива пражывали.

Иншей грошы сабираиць,
Съ потамъ кровъ людзкую пьець.
Бязъ миласци всихъ абижаиць,
И сиратъ іонъ ни вспамагаиць,
Йще въ ихъ паслѣдняя бярець.
Сабираиць іонъ багацця;
За домамъ сабѣ строиць домъ,
Купляиць кони, шыиць плацця,
Якъ бы на тысячу гадовъ! –

А якъ прыдзиць часъ паслѣдни;
Загиня всіо яго дабро.
Якъ зхоча Богъ, то будзя самый такей бѣдный,
Якъ тей, што бравъ іонъ за рабро.
А хоць въ багацци іонъ памрець;
То ня будзя на тымъ свѣци,
Якъ другей, спакою мѣць,
И ни памянуць яго дзѣци.

А кабъ іонъ жывъ па прыказанню,
Кабъ Божжа слова сахранявъ;
То тутъ бы ни было страдання
И тамъ спакойнинька|бъ лижавъ. –
Бо иншей іо и багатый,
Али совисна жывець:
Хаць и ня строиць бѣдным хаты,
Да ихъ ня крывдзя, а йще спамогу имъ даець.

Богу молицца и сахраняиць
Запавидзи вси Гасподни:

За то спакойна пражываиць,
Такъ якъ я жыву сягодни.
Значыцца ни въ багацци ласка Божжа: –
Яе Богъ въ праўдзи пасылаиць.
Чаго другей мѣць ня можа? –
Бо запавидзяв ни спавняиць.

Добра тамъ пѣсню хтось пяець:
За всіо я, кажа, Богу вдзяшанъ,
За всіо, што тольки Богъ пашлець;
Ничога на свици ни страшна.
За тымъ, што я жыву спакойна,
Нихто ни плачыць на мянѣ...
Ну, браццы, талкаваць давольна;
Бо вси заснули на сялѣ.

Тымъ часамъ, пакуль што, пращайця!
Пара вже мнѣ ици домовъ.
Тольки на вѣциръ ни пускайця,
Прашу я васъ, маихъ словъ.”

## ГЛАВА V.

Войтъ пашовъ; народъ астався,
Сядзѣць на ганкахъ у каршмѣ.
Али адзинъ зъ ихъ атазвався:
“Ну маиць кліопку въ галавѣ,
Браццы, гета старавойтъ!...
Іонъ разумнѣй всяго сила;
На языкъ, якъ судзя, бойкей...
Вумная то галава!

Якъ пра што станя гаварыць,
Дыкъ, быццамъ, якей празудентъ...
Вже ни патрапя яго збиць
И Горагорацкій[1] студзентъ!...
Всіо знаиць іонъ на цѣлымъ свѣци;
Іонъ бы й писміоннага навчывъ.
Якъ гляня на што, дыкъ заразъ змѣця,
Быццамъ іонъ тамацьки и бывъ.
Ну да й жывець жа іонъ багата!...
Цьма цмущая адной сямьи;
На дварѣ стаиць тры хаты,
А вси павніохиньки людзми;
Хлѣбъ усимъ іонъ пазычаиць. –

[1] Г. зн. студэнт Горы-Горыцкага земляробчага інстытута (1848–1864).

А скольки чаго прадаиць...
Дыкъ адзинъ Богъ тольки знаиць,
Аткуль іонъ што бярець.

Яно-то й нѣчага дзивиць!...
Чаму въ такога и ня|будзя?...
Што вже пра гета гаварыць?
Нихай якъ хто хоча судзя,
А дли мянѣ гета нядзива:
Работникавъ съ пятнадцаць маиць,
Даволи всякія скацины,
Дый адзинъ всимъ упрауляиць. –

Нихто ни скажыць яму слова;
А што іонъ скажыць каму,
То, як скиниць, сійчасъ гатова...
Дыкъ за чымъ ня жыць яму?

Виць шесць душъ адныхъ унукавъ...
Пашци што усихъ пажанивъ...
Дыкъ жыць такому што за штука?
Нихайбатка ихъ падзяливъ,
Да адзинъ бы іонъ пахваставъ:
То йдзѣ|бъ тей и розумъ дзѣвся?...
Ня ѣздзивъ бы у горадъ часта;
Якъ панъ ба тей, ни разадзѣвся.

А то, якъ запражець саней съ пятнанцаць,
Да дровъ навалиць іонъ абозъ;
Дакъ вотъ аткуль тоя й багацця!...
Шуцишь, па палцинничку взяць возъ!...
А ци адны|жъ тольки дровы?...
Яму усюды удаецца:
Хаць паѣдзя и въ дарогу,
Пяньку у Стовпцы[1] везць наймецца...

Дыкъ аттуль, ни ласка Божжа,
Кабъ сатняги[2] ни прывіозъ!...
А зарабитка ты, нябожа?!...
Паѣдзьтка ты въ извозъ?...
Што адна тая скацинка,

[1] Маецца на ўвазе мястэчка Стоўбцы на правым беразе Нёмана, якое ў той час было транзітным дзеля адпраўкі тавараў у Прусію і на захад.
[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 602: “СОТНЯ́ГА, и, с. ж. увелич. слова Сотня. *Нéчаго Бога гнѣвиць, а сотнягу другую маю рублёвъ*”.

Ды й тая чуць тольки липиць;
Уся на лапикахъ свицинка,
И хата, быццам колъ, стаиць:

Вокны хлопьямъ пазапханы,
Кожанъ вуголъ патпіортъ каломъ! –
А якъ устанишь зимою рана,
То ввесь и ходзишь хадыромъ?! –
За сваркай, Богу памалицца
Нима часу и ни|было;
Якъ іо часъ, дыкъ треба бицца,
Да крычаць на всіо сяло...!

Якъ пазбираюцца у хату;
Дыкъ бабы то й дзѣла што грызуцца, –
И ты за ихъ грызесся зъ братамъ,
Ажъ нячысцики смяюцца.

И чаго|бъ ни падзялиць,
Кали нима нійдзѣ ничога!?.
Вотъ тутъ пахвастайка разумнымъ быць,
Разгаварыситка, нябога?..

А|то вялика, пани, дзива,
Што іонъ такъ разуминъ ставъ?...
Барада вже яго сива,
А вица іонъ гора ни видавъ.

Ды й къ таму|жъ пажывъ на свѣци,
Зная парадки павадзиць...
Глядзитка!... Зъ барадами уси дзѣци;
А што|бъ хто зъ ихъ прагаварыць
Насупрацивъ яго уздумавъ,
Іонъ ба нищаснымъ яго здзѣлавъ.
Ого!.. Стахванъ самый большый и разумный,
А ни мишаиць бацьку дзѣла.

А бабъ, дыкъ быццамъ, въ ихъ нима;
Ты ихъ и ни пачуишь въ хаци...
Якъ стары выйдзя изъ сила;
Тагды вже стануць размавляци.
А въ цябѣ, кабъ яны похли,
Всяго дзвѣ тольки и бабіонки;
А й языки|жъ имъ ни атсохли,
Яны и галасисты й звонки!?...
Изъ ихъ дыкъ увесь свѣтъ гарыць!?...

Да душы|жъ правду старавойтъ казавъ,
Што кали хто бабы слухавъ,
Кали хто іой патачку давъ;
То лысину ни разъ пачухавъ,
И якъ сабака тей прапавъ.

Яно, и нашъ братъ дурнямъ бывая,
Якъ въ шалабанъ кали зальецъ:
Дамовъ прышовшы всихъ ганяя,
И спакою ни даецъ!..
Дыкъ жа ня кожанъ гета зъ насъ; –
Зъ дзисятка можацъ быцъ адзинъ.
Дый то кали въ пакволный[1] часъ
Биваицъ дурнямъ іонъ такимъ.

А бабъ то скольки іо на свѣци;
Нима добрай ниадной:
Пакладзѣшь зубы въ загнѣци,
Кали будзишь вѣрыцъ іой. –
Годзитка вже гаманицъ! –
Нашъ старавойтъ давно вже спицъ;
То ци ня будзя пара й намъ
Расхадзицца па дварамъ?

***Заключеніе.***

Нихай тей войтъ жывецъ да багацѣя.
За то што правду намъ сказавъ!
А мой лобъ нѣштась пацѣя,
Вже разы со два задрамавъ.
Пращайця Г-да! Жалаю всимъ вамъ добрай ночи;
Пѣвни вже давно пяюцъ!..
Далибогъ, ни маю мочи
Ани капильки писнуцъ!..
И бабы вси и маладзицы,
Прасциця вже за всіо вы мнѣ!
И дзивчаты бѣлалицы,
Ни крывицись на мянѣ! –
Бо пра васъ я ни писавъ.
Хацъ што й было... да ни сказавъ,
За тымъ можа кали давядзѣцца
Намъ у вочы палядзѣцца.

Францъ Феликсовъ Блусъ.

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 457: "ПОКВО́ЛЬНЫЙ, прил. Свободный, досужный. *Поквольнымъ часомъ приду*".

# Віншавальны верш

У 1930-я гг. Л. Бэндэ працаваў з паперамі П. Шэйна, якія захоўваліся ў Архіве Акадэмі навук СССР, дзе сярод фальклорных тэкстаў даволі часта сустракаліся літаратурныя творы. Спачатку ён занатоўваў у нататнік інфармацыю пра выяўленыя вершы і гутаркі, а пасля асобныя з іх перапісваў, не захоўваючы, праўда, даўнія правапісныя нормы, але і не адаптуючы іх да вымогаў сучаснае мовы. Нашую ўвагу прыцягнуў запіс у нататніку, што ў фондзе 104 маецца справа 571, у якой знаходзіцца верш *Стихи поздравительныя въ дѣнь именин Г$^{жи}$ Маріи Яньшиной*, які налічвае 133 радкі[1]. Апрача таго, гісторык літаратуры пазначыў, што на першай старонцы рукапісу, злева, ёсць прыпіска: “Говорено могилевскимъ протоколистомъ въ видѣ крѣпостнаго мужика Г$^{жи}$ сей при большом собраніи, который за оное получил болѣе 600 рублей”, а на апошняй – “Рукою Шейна, карандашом прыписано: «соч. свящ. Рыво с Ужлятино Вит. г. и у. Дост. Д.А. Брижина»”[2].

Пазней (магчыма, у свой чарговы прыезд у Ленінград) Л. Бэндэ перапісаў дадзены верш. Гэтая копія, разам з іншымі, перапісанымі з друкаваных выданняў XIX – пачатку XX ст., сёння захоўваецца ў справе “Бэндэ Лукаш Апанасавіч. Запісы народных і аўтарскіх песень, вершаў з перыядычных выданняў XIX ст. Блакноты, асобныя старонкі”[3].

У пасляваенны час, рыхтуючы для часопіса “Беларусь” артыкул пра Францa Блуса, Л. Бэндэ праігнараваў пазнаку П. Шэйна на рукапісе верша пра аўтарства святара Рыва з вёскі Ужляціна Віцебскага павета і далучыў гэты твор да даробку “сялянскага” паэта з Магілёўшчыны. Праўда, допіс колішняга пагромшчыка беларускіх літаратараў не быў надрукаваны, а таму аніякія звесткі пра верш *Стихи поздравительныя въ дѣнь именин Г$^{жи}$ Маріи Яньшиной* не трапілі ў поле зроку даследчыкаў. Не запатрабаваным аказаўся і сам твор: гісторыкі літаратуры не звярнулі ўвагі ні на архіўныя матэрыялы П. Шэйна, ні на зборы Л. Бэндэ.

---

[1] Трэба меркаваць, што і сёння дадзены твор знаходзіцца ў тым жа архіве, які цяпер называецца Санкт-Пецярбургскі філіял Архіва Расійскае акадэміі навук: СПФ АРАН, ф. 104, оп. 1, д. 571, с. 1–4. Паводле ацыфраванага вопісу фонда, справы 570–580 маюць агульны тутул – “Сборники песен, собранных и записанных Е.Г. Дурнаво, Н.А. Иванецким, П.В. Шейном, А.Н. фон Гиллером, И.И. Манжурой и др. (1298 листов)”. Апрача таго, пазнака на вопісе сведчыць, што ў 1982 г. “№ 571 реставрирован” Гл.: [online] http://www.isaran.ru/?q=ru/opis&guid=6367D772-EDF7-AA3A-5F53-6685803A1AC0&ida=2 [доступ: 31.03.2018].

[2] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 563, арк. 19.

[3] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 616, арк. 3–7.

Аднак верш варты таго, каб быць у корпусе тэкстаў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Зрэшты, ужо аднойчы гэты твор (дакладней: невялікі яго фрагмент – 34 радкі) трапіў у рукапісны зборнік-анталогію беларускай, польскай, украінскай і расейскай паэзіі, які захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх[1].

На нашую думку, у зборах П. Шэйна захоўваецца калі не арыгінал твора, то дастаткова спраўная яго копія. Характэрна ў гэтых адносінах пазнака славутага фалькларыста на рукапісе: "Дост[авила] Д.А. Брижина[2]". Г. зн., невядомы сёння карэспандэнт навукоўцы хутчэй за ўсё не запісвала тэкст ад інфарматара, а выкарыстала рукапіс, які мела ў сваёй бібліятэцы ці скапіравала яго ў сваіх знаёмых. Пэўна, карэспандэнт падала таксама прозвішча аўтара: святар Рыва мог пачынаць сваю кар'еру на Магілёўшчыне, а ўжо пасля служыць святаром у вёсцы Ужляціна (сёння – Шумілінскі р-н Віцебскай вобласці).

На Магілёўшчыну як месца ўзнікненне твора (апрача пазнакі на рукапісе) паказвае імя і прозвішча гераіні-імянінніцы – Марыя Яншына. Яншыны ў XIX стагоддзі валодалі шматлікімі маёнткамі ў Магілёўскім, Быхаўскім, Чавусаўскім і Чэрыкаўскім паветах Магілёўскай губерні[3]. На жаль, пакуль не ўдалося ўстанавіць, як называліся гэтыя маёнткі[4], але, можна меркаваць, нерухомую ўласнасць у Магілёўскай губерні надворны саветнік Аляксандар Яншын меў яшчэ з другой паловы XVIII ст. Відавочна, ён атрымаў яе пасля падзелаў Рэчы Паспалітае. Пасля ягонае смерці (год невядомы) Марыя (Мар'я) Яншына па дамоўленасці з сынам мужа ад першага шлюбу надворным саветнікам Дзмітрыем Яншыным (вядома, што ў 1809 г. ён служыў у Калегіі замежных спраў[5]) атрымала ў пажыццёвае ўладанне ў Магілёўскай губерні 356 душ мужчынскага полу[6]. Да 1821 г. яе ўжо не было ў жывых[7], а г. зн., калі беларускі верш

---

[1] Гл.: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, s. 197–199, а таксама нашую публікацыю ў другім томе *Даследаванняў і матэрыялаў*..., с. 121–122.

[2] Магчыма, запіс трэба чытаць як "Дост[авил] Д.А. Бражи́на".

[3] Гл.: Российский государственный исторический архив: РГИА, ф. 1398, оп. 1, д. 7503: "Рапорт по делу ген.-лейт. Эртеля [Ф.Ф.] об имении в Могилевском, Быховском, Чаусовском и Чериковском поветах Могилевской губ., взятом им в аренду у надв. сов. Яншина (1818)". Дакументы гэтае справы могуць быць цікавыя тым, што Яншыны ўжо да 1818 г. Яншыны здавалі ў арэнду свае магілёўскія маёнткі.

[4] Па няпэўных звестках, Яншыным у XIX ст. належала Краснаполле (Чэрыкаўскага павета), якое ў 1772 г. Кацярына II разам са Прапойскім староствам падарыла князю Аляксандру Галіцыну (1723–1807), а пазней яго набылі (?) Яншыны. Гл.: [online]: https://radzima.org/ru/user-comm/261.html [доступ: 1.04.2018].

[5] *Мѣсяцословъ съ росписью чиновныхъ особъ, или Общій штатъ Россійской Имперіи на лѣто Христово 1809*, часть перьвая, в Санктпетербургѣ, при Императорской Академіи Наукъ, с. 142.

[6] Марыя Яншына атрымала ад пасынка таксама 2338 душ у Кастрамской губерні, з іх 6 частак у пажыццёвае, а 7-ю – у вечнае, патомнае валоданне.

[7] Гл.: РГИА, ф. 1330, оп. 4, д. 711: "Общие собрания департаментов Сената. 1821 г. О возвращении А. Паскевичевой 9804 рублей шестипроцентных пошлин из Казны, внесенных ею за полученное по наследству от А. Яншина имение (13 декабря 1821 г.". Выніковы дакумент гэтае справы апублікаваны ў кн.: *Архивъ Государственнаго совѣта*, т. четвертый: *Царствованіе Императора Александра I (съ 1810 по 19 ноября 1825 гг.): Журналы*

адрасаваўся менавіта ёй, то ён быў напісаны не пазней гэтага тэрміну. Магчыма, нават напрыканцы XVIII – пачатку XIX стст., калі яшчэ не памёр муж, які таксама згадваецца ў творы.

Не выключаем, што Марыя Яншына – гэта жонка Дзмітрыя Яншына, які пасля смерці бацькі стаў уладальнікам усіх маёнткаў у Магілёўскай, а таксама Кастрамской губернях[1]. У такім выпадку верш мог быць напісаны крыху пазней, у 1820–1830 гг.

А гэта азначае, што Франц Блус аніяк не мог быць аўтарам дадзенага беларускага верша, бо яго жыццё і дзейнасць праходзілі ў другой палове XIX стагоддзя.

Варта прыгледзецца да асобы святара Ужляцінскае царквы Віцебскага павета Рывы, пра якога згадаў П. Шэйн: усё ж навуковец быў дастаткова абазнаны і дакладны ў сваіх меркаваннях. Аднак мы дарэмна шукалі такога чалавека: гэтае прозвішча не сустракаецца ў даступных нам спісах святароў Віцебскае губерні. У той жа час вядома, што ў 1860-я гг. ва Ужляцінскай Свята-Пакроўскай царкве служыў Андрэй Іванаў Рыла (Рылло), прыкладна 1810 г. н., які пасля заканчэння Полацкае духоўнае семінарыі (каля 1841 г.) прыняў святарскі сан і далейшы свой лёс звязаў з праваслаўнаю царквою[2]. Зрэшты, напісанне Л. Бэндэ "Рыво" можна расчытаць як і "Рыло". За адсутнасцю іншых варыянтаў, можам гіпатэтычна лічыць святара Андрэя Рылу [1810 (?) – 1866 (?)] аўтарам беларускага віншавальнага верша *Стихи поздравительныя въ дѣнь именин Гжи Маріи Яньшиной*. У маладым веку, калі, верагодна, служыў канцылярыстам у Магілёўскай губернскай управе, ён мог узяць удзел у святкаванні імянінаў Марыі Яншынай. Звяртаем увагу на надзвычай цікавы факт: у вёсцы Гілі Лукомльскай воласці Сенненскага павета Магілёўскай губерні ў 1840-я гг. служыў дзякам у Багародзіцкай царкве Іван Рыла[3], магчыма, – бацька Андрэя Рыла. (Тут варта прыгадаць словы дз'яка Варлома, звернутыя да наратара *Стихов...*: "Табе|ж учившись у Дзьяка // Злавиць не трудно дурака". Ці не выяўляецца ў гэтых словах асабістае, аўтабіяграфічнае?).

Такім чынам, выяўленне яшчэ аднаго беларускамоўнага тэксту віншавальнага жанру пацвярджае думку У. Мархеля[4], што вобразная сістэма імянінных

---

*по дѣламъ Департамента гражданскихъ и духовныхъ дѣлъ*, Санкт-Петербург 1892, ч. первая, к. 95–96. Калежская саветніца А. Паскевіч, родная сястра Марыі Яншынай, унаследавала 7-ю частку кастрамскога маёнтку Яншыных.

[1] Вядома, што Д. Яншын у 1835 г. прадаў свой маёнтак Малвіціна (з 1939 г. – Сусаніна) у Кастрамской губерні. Калі і каму дасталіся магілёўскія ўладанні Яншыных, – невядома. Звяртаем увагу, што Яншыны не лічыліся дваранамі Магілёўскай губерні. Гл.: *Алфавитный списокъ дворянскихъ родовъ, внесенныхъ въ родословныя дворянскія книги Могилевской губерніи: Составленъ въ 1909 г.*, Могилевъ 1909.

[2] *Памятная книжка Витебской губерніи на 1864 год*, Санктпетербургъ 1864, с. 345.

[3] Гл.: НГАБ, ф. 2301, воп. 2, спр. 233: "Метрическая книга из Могилевской Духовной консистории села Гилян в Богородицкую церковь для записи браков, сочетавшихся с 1841 года до списания оной".

[4] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 181.

віншаванняў абапіралася на паэтыку беларускіх народных песень, што яны ўзнікалі на падставе сялянскіх імправізацый, а таксама і той факт, што яны пашыраліся на тэрыторыі Беларусі. Пра апошняе можа сведчыць табліца, у якой падаюцца звесткі пра вядомыя сёння вершы віншавальнага жанру і іх варыянты. Паказальна, што толькі верш (драматычная паэма) Я. Чачота не выйшаў за межы асяроддзя філаматаў і філарэтаў. Усе іншыя, у тым ліку *Стихи поздравительныя въ дѣнь именин Гжи Маріи Яньшиной*, былі, хіба, шырока знанымі, хоць узнаўляліся звычайна ў скажоным выглядзе.

| № | **Тытул твора** | **Першапублікацыя ці архіўны адрас** |
|---|---|---|
| 1. | Ян Чачот, *Jeżowe. Na imieniny Józefa Jeżowskiego i Józefa Kowalewskiego, Filomatów. 1819 r. marca 7 n. s.* | *Poezya filomatów*, Kraków 1922, t. 2, s. 76–84. |
| 2. | *Barys* | Lietuvių literatūros ir tautosakos institutas. Lietuvių tautosakos rankraštynas (LTR), LTR 3556-544/R, l. 60–61 v. |
| 3. | a. *Чаломъ, чаломъ, айцецъ татулька...*<br>b. *Powinszawannie Popa* | a. “Маякъ” 1843, т. IX, кн. XVII, с. 33–38.<br>b. LMAVB, F. 21–927, s. 199–203. |
| 4. | a. *Стихи поздравительныя въ дѣнь именин Гжи Маріи Яньшиной*<br>b. *Powinszawannie Pana* | a. СПФ АРАН, ф. 104, оп. 1, д. 571, с. 1–4. (Копія Л. Бэндэ: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 616, арк. 3–7).<br>b. LMAVB, F. 21–927, s. 198–199. |
| 5. | a. *Powinszowanie Chłopa Litewskiego Swoiemu Panu*<br>b. *Кинууши, ринууши поустане...*<br>c. *Изъ польскаго эпоса (разсказъ поустанца)*<br>d. *Повстанье*<br>e. *Hútarka*<br>f. *Сялянскі верш (аб паўстаньні 1863 году)* | a. Rkps BO 3287-II, k. 267–267 v.<br>b. “Иллюстрація” 1848, № 36, (т. VII, № 168) с. 190–191.<br>c. “Литературная Библіотека” 1867, т. IX, сентябрь, кн. 1.<br>d. *Собраніе пѣсенъ, сказокъ, обрядовъ и обычаевъ крестьянъ Сѣверо-Западнаго края*, Вільня 1869, с. 113–116.<br>e. Rkps BUW 438, vol. VI, nr 21.<br>f. БДАМЛіМ, ф. 3, вып. 1, адз. зах. 275, с. 3–5. |
| 6. | a. *Ihnat Slinka: Fantazija T. Mihanowicza*<br>b. *Ihnat Slinka: Fantazija J. Mihanowicza dla P. Marcina Pioro w dzień jego imieniu przeznaczona* | a. *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, Мінск 1990, с. 252–255.<br>b. LMAVB, F. 21–132, k. 41–42v. |

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 616, арк. 3–7.

# Стихи
# поздравительныя въ дѣнь именин Гжи
# Маріи Яньшиной.

Сягодни Яньшинскія сіолы
Як на велик дзень вси вясіолы
Гуляюць скачуць, вяселятца
Дуда не вспеиць надуватца
Яка|ж бы сегодни, свята,
Вси на гуляньи, – пустая хата
Вси к небу руки подымаюць
Марыю им выхваляюць
У панском же дворе панов
Як у пятровку камаров
Да кали|б я не догадався
И кали|б у Хомки[1] не спытався
Што пани нашай дзень менин
И я ни|знав пра то адзин
Тут ~~вздуднав~~[2] вздумав написать ей верши
Сходив к дьяку по розум перши
И только став круциць умом
Сказав пришовши мне Варлом,
“Не за свою брат взявся
У разумнейшаго|б спытався
Покуль твоя не складка песня
И лысина небоже тресня
Того[3] хоць частку проспеваиць
Што про ее свет целый знаиць
Не паня то а ангель Божій
Ци іосць кто на ее похожій
Ня вихнысць[4], разум и добрату
Жаль щерасць и щидрату
Всіо разым Бог в іой помясцив
И|в боязни к себе возрасцив
Яе на свет радзила маць
На то што|б людзям помыгаць
Яе дзяды и прадзяды

---

[1] Першапачатковая літара ***х*** (малое) папраўлена на ***Х*** (вялікае).
[2] Тут і далей словы ў рукапісе выкрэслены Л. Бэндэ.
[3] Слова напісана зверху замест нейкага іншага, старанна закрэсленага.
[4] Слова падкрэслена Л. Бэндэ, магчыма, з-за неразумення ягонага сэнсу. На думку В. Мартысюка, ***нявіхнасць*** азначае ‘нязрушнасць’. У версіі, занатаванай у рукапісным зборніку-анталогіі беларускай, польскай, украінскай і расейскай паэзіі (LMAVB, F. 21–927, s. 197) замест яго ўжыта слова ***niawinnaść***.

Чрез вси житця свайго годы
Набожны праведны были
И дабродзеями слыли
Да и мужыка шъ к себе сыскала
Як будто с корня в воз стоптала
Ничым в доброце ей не вступиць
Ня зделавшы добра ни ступиць.
Як только с просьбой хто на двор
Адзин другому в перякор
Ни скажуць Бог даць никому
Ни запираются вороты
Калеки, вдовы и сироты
Як к варки Лабову на прощу
Идуць в Яншынскую рощу
И будто гроши як грибы
Растуць кала яго жильбы
Іон сыплиць ими як мякинай
Из жаласци к людзям ядзиной
Ня треба болыль от Бога дара
Як ета дорагая пара
А крацей тебе сказаць
Іон бацька всим, ина усим маць
Нихай научутца паны
На свеце жиць як яны
Хто славы ищиць во звиздах
Да в тытлах людских суетах
Того як только дух из цела
То и слава у магилку села.
А наша панства на праяву
У дабраце шукаюць славу
Хоць Бог их к себе возмець
Но слава в людзях не умрець
Живыя манументы звонки
Помянуць позныя потомки
Тей быв на свеце человек
Што для людзей жив цалый век,
От бацьки сын от сына внук
Такий паслужиць милый звук
А Бог их добродейств в нагроду
Даець рай лепшь Карадински саду
И за процент разданных гроши
Нябескы вечныя раскоши
Я|б большь про их казюкав
Да вжо язык савсим пристукав

Ты привадзи хоць Цыцарона
То іон тут сдасця як ворона
Табе|ж учившись у Дзьяка
Злавиць не трудно дурака"
Пастой Варлом сказав тут я
Сказалась мазговня твая
Я панства ни бярусь хвалиць
Им так хвала як грош гудзиць
Их добродзействы низличоны
Ня скажець[1] сами научоны
Но добрым людзям добря зычиць
Нихто муз в помечь[2] ни закличиць
Нихай яны сидяць спакойны
Ци[3] про кровавы пишуць войны
Где люд Христов як блох ~~му~~ лушчаць
Где руки ноги лбы тряшчаць
Где кишки цягнутца бязбожна
Где злоя всіо што вздумаць можна
Ня це людзи в примеце
Но што рятуюць бедных в свеце –
Про их ци можно замовчаць
Кали аж вси нутри дрожаць,
Казак Ѣнеиду писав[4],
Ѣнея в очи не|видав
Мне ж всіо видивши и слыхавши
Нявжо стояць язык прижавши
Ой не мне разум мой диктуиць
Аткрыць панам што сердца чуиць
Хоць вочи я у пса позычу
Но будуць знаць что им зычу
Сев и чиркнув повиньшиваня
Прыми ж яго кахана Паня
Ни красно мовски я пишу
А только господа прошу
Што|б ты ящо сто лет жила
Здорова весила была,
Коли|б табе як Божжій матце
Анельскій гутарки дождатца

[1] Зверху написана слова ***спишуць***.
[2] Відаць, трэба: ***помочь***.
[3] Слова напісана зверху замест нейкага іншага, старанна закрэсленага.
[4] Маецца на ўвазе *Малороссійская Енеида въ трехъ частяхъ* Івана Катлярэўскага, упершыню выдадзеная ў Санкт-Пецярбурзе ў 1798 г., без дазволу аўтара. У 1808 і 1809 гг. свет убачылі яшчэ два выданні *Енеїди*. Вельмі верагодна, што менавіта нейкае з гэтых выданняў "па свежых слядах" і прыгадаў аўтар беларускага верша.

Што|б іон сказав злятевши с неба
Таких людзей больши Богу треба
Ты будишъ маткою дзицям[1]
А дзети помочу людзям
Коли|б твой Бог множ господарство
Покуль в своіо не возьмиць царство
Киб пастваа, кони и коровы
Пладились и были вси здоровы
Киб казам, авцам и кабанам
Пастух ня мог знаць личбы сам,
Каб масла, яйцы, сыр и сала
Што раз то больши прибывала
Каб с божжа[2] в поле так радзила[3]
Што|б[4] с снопа мерку[5] малацила
Кали|б из разных трункав реки
Цякли в дворе твоіом навеки
Калиб нам ящо ето раз гуляць
Цябе с патронкой виншивать.

---

[1] У слове ***дзицям*** літара ***ц*** напісана па літары ***т***.
[2] Відавочна: ***сбожжа***.
[3] Увесь гэты радок дапісаны Л. Бэндэ дробнымі літарамі пазней.
[4] Слова ***Што|б*** напісана па слове ***Каб***.
[5] І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 296: “МѢРКА, и. с. ж. Хлѣбная мѣра въ 20 гарнцевъ. *Дзвѣ мѣрки пшеницы посѣявъ*”. Гарнец у Беларусі XIX ст. быў роўны 2,8 літра.

У апублікаваных тамах **Даследаванняў і матэрыялаў** і мы, і нашыя дабразычлівыя чытачы заўважылі значную колькасць памылак і недахопаў. Маем на ўвазе найперш не арфаграфічныя ці пунктуацыйныя памылкі (якія, на жаль, сустракаюцца), а тыя недакладнасці, якія вынікаюць з прычыны недаследаванасці пэўнае праблемы літаратурнага працэсу мінулага.

З часам, аднак, нашыя веды пра літаратараў і асобныя творы айчыннага пісьменства пашыраюцца: больш даступнымі становяцца даўнія друкаваныя выданні, архіўныя матэрыялы ўсё часцей і часцей атрымліваюць "другое жыццё", дзякуючы электронным базам дадзеных. Выяўленне такіх матэрыялаў становіцца ўсё больш і больш простым. Часта дастаткова правільна задаць пытанне пошукавай сістэме, як у адно імгненне можна ўбачыць архіўныя адрасы дакументаў, на знаходжанне якіх калісь патрабаваліся доўгія дні і месяцы напружанае працы.

З гэтай прычыны лічым неабходным ўдакладняць тое, што мы напісалі раней; згадваць, што з'явілася ў друку ў апошні час ці было прапушчана намі пры падрыхтоўцы таго ці іншага раздзела нашае працы.

# Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў, том першы

## Ігнацы Быкоўскі

с. 75–112

У 2015 годзе ў выдавецтве Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта выйшла кніга Ганны Гладковай *Творчая спадчына Ігнація Быкоўскага ў кантэксце эпохі еўрапейскага Асветніцтва* (219 с.).

## Ян Баршчэўскі

с. 113–156

У 2015 годзе ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга Дзяніса Лісейчыкава *Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596–1839 гг.*, Мінск 2015 (717 с., [16] л. іл.), дзе ў слоўнікавым артыкуле падаюцца звесткі пра бацьку і сям’ю Я. Баршчэўскага:

> “Баршчэўскі Ян, Barszczewski Jan, Барщевски Иоанъ, *1761(1760?), †1832. Высвечаны полацкім архіепіскапам І. Лісоўскім 1787; святар царквы ў в. Нявёдра Невельскага пав. [1787; царква пераведзена ў праваслаўнае ведамства; адміністратар царквы ў в. Мурагі Полацкага пав. [1799–1832]. Жонка Ганна, *1771; сыны: Ян, *1793 (1796?), працуе гувернёрам 11.04.1822, на цывільнай службе 30.04.1834, Антон, *1798, Мікалай, *1805, на цывільнай службе 30.041834, Тэадор, *1810, †1826, Зміцер, *1812. [НГАБ, ф. 2640, воп. 1, спр. 13, арк. 95: *Рэвізскія сказкі ўніяцкіх святароў і царкоўнаслужыцеляў Віцебскай губ. 1811 г.*; НГАБ, ф. 2640, воп. 1, спр. 65, арк. 123 адв.: *Рэвізскія сказкі ўніяцкіх святароў і царкоўнаслужыцеляў Віцебскай губ.* 1834 г.; РГИА, ф. 824, оп. 2, д. 183, арк. 23 адв.: *Генеральныя візіты цэркваў Полацкага і Гарадоцкага дэканатаў. 1822–1823 гг.*][1].

## Арцём Вярыга-Дарэўскі

с. 157–227

У пятым нумары часопіса “Віцебскі сшытак” (2017) Людміла Хмяльніцкая надрукавала ў сваім перакладзе апублікаваны ў газеце “Dziennik Warszawski” [1856, nr 12 (2/14 stycznia) і 13 (3/15 stycznia) допіс А. Вярыгі-Дарэўскага (падпісана крыптанімам “P. A. W. Białorusin”), адпраўлены з Віцебска 24 верасня 1855 г. Гэта самая ранняя з выяўленых карэспандэнцый Беларускае Дуды[2].

---

[1] Д. Лісейчыкаў, *Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596–1839 гг.*, Мінск 2015, с. 136. Гл. таксама: Д. Виноходов, Д. Лисейчиков, *Штрихи к биографии Яна Барщевского: “От то мое вы брацiхны…*”, “Асоба і час” 2018, вып. 8, с. 17–62.

[2] P. A. W. Białorusin, *Карэспандэнцыя “Dziennika Warszawskiego” (спозненая), Віцебск, 24 верасня 1855 г.*, “Віцебскі сшытак” 2017, № 5, с. 110–113. Гл. таксама: Л. Хмяльніцкая, *Невядомая карэспандэнцыя Арцёма Вярыгі-Дарэўскага*?, “Віцебскі сшытак” 2017, № 5, с. 114–116.

## **Ялегі Пранціш Вуль**

с. 229–280

У Ягелонскай бібліятэцы сярод карэспандэнцый Юзафа Ігнацы Крашэўскага знаходзіцца ліст Элігія Францішка Карафа-Корбута (Ялегія Пранціша Вуля). Яго змест сведчыць, што малады віцебскі аўтар настойліва спрабуе навязаць кантакт з галоўным рэдактарам "Gazety Codziennej". Ён ведае, што ягоны допіс быў апублікаваны, і, відаць, спадзяецца атрымаць хоць якую ацэнку свае працы. З гэтае прычыны неаднаразова піша непасрэдна да Ю.І. Крашэўскага, аднак адказу не атрымлівае. Відаць, рэдактар палічыў дастатковым змясціць у адным з нумароў газеты кароткую інфармацыю {"P[anu] E. F. U. z Witebska. Tylko dziękować możemy, spełniając żądania. Korrespondencją z Witebska, choć nieco późno, umieściiiśmy (sic!)"}[1], якая, пэўна, не трапіла да Э.Ф. Карафа-Корбута. Магчыма, таксама, што Ю.І. Крашэўскі не пажадаў прыцягваць да супрацоўніцтва віцебскага карэспандэнта. Апошняе найбольш верагодна: атрымаўшы адмову, аўтар выдатнага беларускага верша *K Dudaru Arciomu at naddźwińśkaha mużyka* не адважыўся больш турбаваць рэдакцыі польскіх выданняў. Перадусім, аніякіх публікацый Э.Ф. Карафа-Корбута за 1861–1862 гг. не выяўлена.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле BJ 6468[IV]: *Korespondencja J.I. Kraszewskiego, seria III: Listy z lat 1844–1862, t. 9: Kl–Ko (Klaczko – Koźmian)*, k. 592–593.

Drogi nasz Panie Józefie!

Niedziw, że przy ogromie pracy, zapomniałeś Pan o tym, który się kilkakrotnie odzywał do Pana s serca i duszy. Całem sercem odpuszczam Panu ten grzech obojętności i nawet nie śmiem prosić o poprawę, choćbym niezmiernie był rad z półsłówka nawet J.I. Kraszewskiego.

Dziękuję za wydrukowanie mojej korrespondencji.

Przyczem załączam do listu mego 16 r. na „Gazetę Codzienną", którą racz Pan Dobrodziej wysyłać do Witebska, pod adressem:

WP. Adam Fijałkowski[2].

Въ Палату Имуществъ.

Въ Витебскъ.

Tylko proszę nie|zapomnieć o pierwszych numerach tegorocznych, a jeśli łaska, to i o tych zeszłorocznych, w których rozpoczęła się powieść Pana: ~~*Jasełka*~~[3], dające się w znaki Autorowi, jekiem się dowiedział – niestety! z „Kuryjera"[4].

---

[1] *Korrespondencya*, „Gazeta Codzienna" 1860, nr 196, s. 4.

[2] Паводле *Памятныхъ книжекъ Витебской губерніи*, Адам Вікенцьеў Фіялкоўскі, "экзекуторъ и казначей" Палаты дзяржаўных маёмасцяў, калежскі сакратар, а з 1863 г. – тытулярный саветнік, нарадзіўся каля 1822 г., закончыў Слуцкую гімназію, на дзяржаўнай службе з 1848 г., жанаты, меў пяць сыноў і дачку.

[3] Замест перакрэсленага слова – *Kopciuszek*. Гаворка пра раман Ю.І. Крашэўскага, які пачаў друкавацца ў 334 нумары „Gazety Codziennej" (6/18 снежня 1860 г.). Раман *Jasełka* друкаваўся ў газеце раней.

[4] Гаворка пра газету „Kurjer Warszawski" (рэдактар Караль Куч). Выявіць публікацыю, пра якую згадвае Э.Ф. Карафа-Корбут, не ўдалося.

Powodzenia Panu i zdrowia.
Nieznajomy przyjaciel Eligi[1] Franciszek Ul (Korbutt).

$\frac{26}{14}$ lut. 1861 r. Witebsk. W otchłani[2] (t. j. w kancellarji).

**Пераклад**

Дарагі наш Пане Юзаф!

Няма нічога дзіўнага, што з-за аграмаднага аб'ёму працы забыўся Пан пра таго, хто некалькі разоў звяртаўся да Пана душою і сэрцам. Усім сэрцам адпускаю Пану гэты грэх абыякавасці і нават не магу прасіць выправіцца, хоць нязмерна быў бы рады з паўслова нават Ю.І. Каршэўскага.

Дзякую за надрукаванне мае карэспандэнцыі.

Далучаю да ліста 16 руб. на „Gazetę Codzienną", якую май ласку Пан Дабрадзей высылаць у Віцебск на адрас:

В. П. Адам Фіялкоўскі.

Въ Палату Имуществъ.

Въ Витебскъ.

Толькі прашу не забыцца пра першыя нумары гэтага года, а калі маеш ласку, то і пра мінулагоднія, дзе пачаўся раман Пана ~~*Jasełka*,~~ які даецца ў знакі Аўтару, пра што даведаўся – на жаль – з "Kuryjera".

Поспехаў Пану і здароўя.
Незнаёмы прыяцель Элігі Францішак Вуль (Корбут).

$\frac{26}{14}$ лют. 1861 г. Віцебск. У пекле (г. зн. у канцылярыі).

### *Нарысы мяцежнага руху ў Магілёўскай губерні ў 1863 годзе*
с. 277–280

Мы памылкова меркавалі, што аўтарам дадзенага тэксту нібыта быў чыноўнік з мясцовых. Насамрэч напісаў яго Васіль Ратч (1816–1870), расейскі генерал-лейтэнант, вайсковы гісторык-публіцыст, што з 1861 г. служыў у Віленскай ваеннай акрузе. Ён публікаваў свае артыкулы ў часопісе Ксенафонта Гаворскага "Вѣстникъ Юго-Западной и Западной Россіи"; на загад Міхаіла Мураўёва падрыхтаваў *Свѣдѣнія о польскомъ мятежѣ 1863 г. въ Сѣверо-Западной Россіи* (Вильна 1867–1868)[3].

[1] У паперах, напісаных рукою Э.Ф. Карафа-Корбута па-польску, першае імя заўсёды пададзена як Элігі (пад беларускім вершам – Ялегі). Сёння цяжка вызначыць, чаму ў нашай навуковай літаратуры яно заўсёды падавалася як Элегі. У заходняй традыцыі гэтае імя звычайна ўжываецца ў форме Eligiusz (ад лац. eligias – абраны).

[2] Тлумачэнне, якое далей падае сам Э.Ф. Карафа-Корбут, выяўляе ягонае стаўленне да службы ў Палаце дзяржаўных маёмасцяў.

[3] Гл.: С. Цытовіч, *1863 год у Горы-Горках былай Магілёўскай губэрні*, "Arche" 2015, № 3, с. 365.

# Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў, том другі

### *Казанне (Вот цяпер які люд стаў...)*

с. 55–91

Д. Лісейчыкаў у Нацыянальным гістарычны музеі Рэспублікі Беларусь выявіў *Казаніе*, якое пачынаецца так:

Маіе милые дзѣтки, послухайтіе науки
Кали не для баженства то принамніе отъ скуки
У|насъ цеперь такихъ много, что забываютъ на бога...
(НГМРБ, КП44462/3)

Даследчык датуе яго сярэдзінай XIX стагоддзя.

В. Мартысюк звярнуў нашую увагу, што ў другім выданні *Гісторыі беларускае літэратуры* (Вільня 1921, с. 99) М. Гарэцкі падае звесткі пра крыніцу апублікаванага ім *Казання*: "У друк *Казаньне* папала з рук Івана Насовіча, катораму падау яго у 1848 годзе уніяцкі сьвяшчэньнік з Амсьціслауля Гр. Бочка. Мною запісана у той-жа рэдакцыі у 1912 годзе ад свата майго Гаўрылы Панасавіча Дземянка з Большай Багацькаукі, 7 верст ад мясьцечка Шамава (Амсьціслаушчына)".

### *Цуда Божае: Поп і Кірык*

с. 125–138

Павел Ахрыменка ў зборніку "Українське літературознавство" яшчэ ў 1972 г. апублівабаў, транслітэраваўшы і крыху мадэрнізаваўшы, баладу, запісаную Мамертам Рэніерам ў сярэдзіне XIX стагоддзя, *Czudo Bożeje: Pip i Kiryk* з невялікаю ўласнаю прадмоваю[1].

### *Сэрца баліць, вочы плачуць...*

с. 287

Блізкае падабенства з песняй *Serca balić woczy płaczuć*... мае верш У. Сыракомлі *Dola*, які – паводле пазначэння аўтара – з'яўляецца варыянтам "z pieśni litewskiej":

W oczach ciemno, serce boli,
I zapłakać chce się!
Pójdę hukać, lepszej doli
Wywoływać w lesie.

Przyjmiem chlebem, przyjmiem solą
W szczerej uprzejmości:
Odezwij się, lepsza dolo,
I przyjdź do nas w gości!

[1] Гл.: П.П. Охріменко, *Невідомий варіант вірші про Кирика*, "Українське літературознавство" 1972, вип. 16, с. 109–118.

Między wzgórki, między drzewa
 Wołam w leśnej ciszy;
Ale słowa wiatr odwiewa,
 Dola nie posłyszy!

Piosnko moja! ej nie tobie
 Przebić wicher burzy!
Wracaj jęczeć sama w sobie,
 Kiedy serce wtórzy.

1854. Borejkowszczyzna.

# Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя, том трэці

## Аляксандар Ельскі

### Артыкул у газеце "Минскій листокъ"

### *Пра тутэйшы люд і яго стаўленне да інтэлігенцыі*

с. 30–37

Мы сцвярджалі: "Да сённяшняга дня застаецца загадкаю, чаму ў 1889 г. на старонках газеты ўбачылі свет чатыры беларускамоўныя творы значнае вартасці? І чаму ва ўсёй астатняй гісторыі газеты [мелася на ўвазе газета «Минскій листокъ». – *М. Х.*] іх [беларускамоўных твораў. – *М. Х.*] будзе адно тры [гутарка У. Сыракомлі ў перакладзе Я. Лучыны *Ямшчык* (1890, № 19), верш Я. Лучыны *Вясна* (1891, № 28) і апавяданне Каруся Каганца *Бывалы Юр у Менску* (1902, 5 сент.)]" (с. 33–34).

В. Мартысюк звярнуў нашую увагу на наступную інфармацыю ў кнізе С. Александровіча: ,,Былі апублікаваны тут [на старонках "Минскаго листка". – *М. Х.*] паасобныя беларускія творы… Адама Бярозы, Рыгора Цягло"[1], аднак з-за кепскае захаванасці выдання творы названых аўтараў выявіць не ўдалося.

### Вацлаў Іваноўскі да Аляксандра Ельскага

с. 193–196

Мы сцвярджалі: "Звестак пра тое, хто перакладаў (і ці перакладаў?) апавяданне Б. Пруса *Michałko* (як і апавяданне М. Канапніцкае *Krysta*) не захавалася. Творы не былі надрукаваныя" (с. 193).

В. Мартысюк звярнуў нашую увагу на наступную інфармацыю: "Колькі яго [Баляслава Пруса. – *М. Х.*] дробных твороў перэкладзены на беларускую мову, але пакуль што толькі ў рукапісе"[2], а таксама на публікацыі: Болеслаў Прус, *Міхалка: апавяданьне*, з польскай мовы пераклаў М. Чарнецкі, мал. С. Каўроўскага, Менск: Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, 1930, 34 с., (Бібліятэка

[1] С. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова: Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX стагоддзя*, Мінск 1971, с. 84.

[2] *З усіх старон. Варшава* [Пра пахаванне Баляслава Пруса – *М. Х.*], "Наша Ніва" 1912, № 21, 24 (6) мая.

школьніка); М. Канапніцкая, *Крыста* [пераклад Ванды Лявіцкай (псэўд. Вясёлка)], "Беларусь" 1919, № 47, 56.

Магчыма, якраз пра пераклады М. Чарнецкага і В. Лявіцкай гаворыць В. Іваноўскі ў сваім лісце да А. Ельскага.

### Ядвіга Ціхіньская да Аляксандра Ельскага
с. 198–199

У 17 томе "Гістарычнага альманаха" (Гародня) цікавае даследаванне пра Язэпа Ціхіньскага, а таксама Ядвігу Ціхіньскую[1].

### Рамуальд Зямкевіч да Аляксандра Ельскага
с. 206–211

Мы пісалі: "У лісце Р. Зямкевіч сцвярджае, што беларускамоўны верш на абразку [маецца на ўвазе "Obrazek N[ajświętszej] M[arii] P[anny] Ostrobramskiej". – *М. Х.*] належыць пяру У. Сыракомлі. Сёння ні абразок, ні верш не вядомы даследчыкам" (с. 206).

В. Мартысюк зазначыў, што глыбоцкі краязнаўца Кастусь Шыталь мае абразок Прачыстае Маці Божае Астрабрамскае з беларускім вершам у сваёй калекцыі. Пра сваю знаходку краязнаўца расказаў пазней у газеце "Наша Ніва"[2].

### Браніслаў Эпімах-Шыпіла, *Biełarusskaja Chrestomatija*
с. 213–286

Мы сцвярджалі: "У 1934−1936 гг. [Канстанцін Пушкарэвіч. – *М. Х.*] захоўваў архіў Б. Эпімаха-Шыпілы, які пазней трапіў да Л. Бэндэ" (с. 266).

В. Мартысюк удакладніў, што частка архіву Б. Эпімаха-Шыпілы цяпер захоўваецца ў СПФ РАН, ф. 792, оп. 1: Рукописи трудов и материалы к ним К.А. Пушкаревича и других лиц.

### *Saŭsim nia toe, szto było*
с. 230–234, 272

Выраз *Kaniszki tyje, jak araki* быў намі няслушна патлумачаны: "Не зразумела. Арак – моцная рысавая гарэлка. Але тут слова ўжыта ў іншым значэнні" (с. 272).

В. Мартысюк звярнуў нашую ўвагу на слоўнік Міколы Каспяровіча: "Ара́к, а. м. – рак. Astacus fluviatilis. *Арак поўзае па дне возера, або ракі* (Янчана, Чаш. р.)"[3].

### *Jezusu Ćwiecinskomu skarha na Doйmantoй*
с. 240–241, 274–275

Выяўлены[4] наступныя звесткі пра Ёахіма Тамашэвіча.

---

[1] Гл.: С. Астанковіч, І. Будзько, *Язэп Ціхінскі (1843−1922?) і Адраджэнне Беларусі*, "Гістарычны альманах" 2011, т. 17, с. 124−141. (Лічбавая версія: http://pawet.net/files/ga 17.pdf).

[2] К. Шыталь, *"Матачка Божая, Матачка добрая": знайшоўся старадаўні абразок з беларускай малітвай*, [online] https://nn.by/?c=ar&i=192340 [доступ: 17.04.2018 г.].

[3] М. Касьпяровіч, *Віцебскі краёвы слоўнік: Матар'ялы*, Віцебск 1927, с. 23.

[4] Часткова – В. Мартысюком. Апрача таго, нашае сцверджанне: "*У друку верш [Jezusu Ćwiecinskomu skarha na Doйmantoй. – М. Х.*] першы згадаў А. Станкевіч…" (с. 274) ён удакладніў: першы зрабіў гэта Я. Карскі.

Імя і прозвішча верагоднага аўтара беларускага верша ў расейскіх адрас-календарах упершыню згадваецца ў выданні на 1821 год: “Ефимъ Фомичъ Томашевичъ” займае пасаду асэсара (засядацеля) Ніжняга земскага суда Лепельскага павета[1]. Відавочна, у 1820 г. ён перамог на павятовых выбарах і з гэтага часу служыў у мясцовай расейскай адміністрацыі. Тую самую пасаду Ё. Тамашэвіч займае і ў 1824 г., перамогшы на шляхецкіх выбарах 1823 г.[2]. Таксама і пазней быў ён на царскай службе. На жаль, пазнаёміцца з адрас-календарамі 1820–1830-х гг. пакуль не ўдалося.

У 1838 г. прозвішча Ё. Тамашэвіча сустракаецца ў спісе (які публікаваўся ў тым ліку і ў газеце “Литовскій вѣстникъ – Kuryer litewski”) узнагароджаных ордэнам Св. Уладзіміра 4-й ступені: “въ вознагражденіе ревностной и безпорочной службы, продоленной въ должностяхъ по выборамъ Дворянства, за выслугу узаконеныхъ сроковъ”. Там можна даведацца таксама, што “бывші[й] Подкоморі[й] Витебской губеріи Лепельскаго [уѣзда] Ефимъ Томашевичъ” (Joachim Tomaszewicz) не меў “чиновъ”[3].

Гэта пацвярджаецца і адмысловым выданнем, якое выйшла ў свет у 1850 годзе: 18 лістапада 1837 г. “Ефимъ Фомичъ Томашевичъ” быў “Всемилостивейше пожалованъ” вышэйназваным ордэнам[4].

Цікавым з’яўляецца тое, што ордэн Св. Уладзміра з’яўляўся другім вышэйшым ордэнам Расейскай імперыі. Звычайна, каб яго атрымаць, трэба было ўжо мець ордэны Станіслава і Анны 3-е ступені, а таксама Станіслава і Анны 2-е ступені. Наўрад ці дробны правінцыйны чыноўнік за 20 гадоў службы атрымаў іх усе. Можна дапусціць, што ўзнагародзілі яго за нешта выключнае.

*Тамашэвіч Іяхаім, падкаморы / Tomaszewicz Joachim Podkomorzy* – такі запіс сустракаем сярод падпісчыкаў *Пана Тадэвуша* А. Міцкевіча ў перакладзе В. Дуніна-Марцінкевіча[5].

## *Panskoje ihryszcze*

с. 276–277

Вацлаў Ластоўскі, хіба, двойчы імкнуўся давесці, што верш *Panskaje ihryszcze* напісаў Ян Шэмёт-Палачанскі. Спачатку ў артыкуле *Памажыця!*: “Ян

[1] *Мѣсяцословъ съ росписью чиновныхъ особъ, или Общій штатъ Россійской Имперіи на лѣто отъ Рождества Христова 1821*, часть вторая, въ Санктпетербургѣ, при Императорской Академіи Наук, с. 463.

[2] *Мѣсяцословъ съ росписью чиновныхъ особъ, или Общій штатъ Россійской Имперіи на лѣто отъ Рождества Христова 1825*, часть вторая, въ Санктпетербургѣ, при Императорской Академіи Наук, с. 381.

[3] “Литовскій вѣстникъ – Kuryer litewski” 1838, № 7 (25 января/25 stycznia), с. 2.

[4] *Списокъ кавалерамъ россійскихъ императорскихъ и царскихъ орденовъ за 1849 годъ*, часть вторая, *содеращая въ сєбѣ Кавалеровъ Ордена Св. Георгія 4-й степени, лица, Всемилостивѣйше пожалованныя, за военные подвиги, Золотыми Шпагами, Саблями и проч. съ надписью за храбрость и Кавалеровъ Ордена Св. Владиміра 3-й и 4-й степени*, С.–Петербургъ 1850, с. 544.

[5] В. Дунін-Марцінкевіч, *Творы*, уклад, прадм. і камент. Я. Янушкевіча, Мінск 1984, с. 522; *Марцінкевіч герба Лебедзь: Дакументы і матэрыялы пра класіка беларускай літаратуры XIX ст. Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча*, уклад., падрыхт. тэкстаў, пер. і камент. Г. Кісялёва, Мінск 2010, с. 209.

Шэмёт-Полочанскі. Жыў каля Даўгінава, пісаў многа вершоў па-беларуску, яму прыпісываюць верш *Панскае ігрышчэ*. Патрэбна яго жыцьцёапісаньне і рукапісы. Радзіўся 1826 г. 20 чэрвеня, памёр ў 1905 гаду 9 жніўня”[1], а пасля ў непадпісанай нататцы *Szemiot-Połaczanski* ў газеце “Homan”:

“F. Bohuszewicz, wydajuczy *Smyk Biełaruski*, pamiaściŭ u im wiersz *Panskaje ihryszcze* i napisaŭ *Atkaz na* PANSKAJE IHRYSZCZE. *Panskaje ihryszcze* padpisano było pseŭdonimam „Jurka”. Doŭhi czas niewiadoma było, chto papraŭdzi napisaŭ hety najbolej popularny u Biełarusi wierszyk. Tolki ŭ 1912 hadu s prysłanych u redakciju „Našaj Niwy” papieroŭ pa niaboszczyku s. p. Janie Szemiocie-Połaczanskim wyjawiłosia, szto aŭtoram byŭ Jan Połaczanski.

Połaczanski radziŭsia ŭ 1826 hadu, kala Daŭhinawa; pamier u 1905 h. Apracza *Panskaho ihryszcza* napisaŭ jon abszyrnyje poematy *Daŭhinaŭski pahrom*, *Wiasielle ŭ Bielakoch*, *Barysoŭ Kamień* i drobnyje wierszy: *Da bratoŭ u pakojach*, *Za czarkaj*, *Na dziady*, *Dumy u poli* i insz. Część rukapisoŭ ś. p. Połaczanskaho znachodzicca u daczki jaho u Tiumieni.

Praz twory Połaczanskaho, pisanyje z wialikim talentam, praziraje natura hłyboka-paetycznaja, ciesna źwiazanaja z narodam i jaho dolaj, ale pobocz i zwyczajny u drobnaj biełaruskaj szlachty konserwytyzm”[2].

[1] Власт, *Памажыця*! “Наша Ніва” 1913, № 38, 19 верасня.
[2] *Szemiot-Połaczanski*, „Homan” 1916, № 12, 24 marca.



# ROZHOWOR

IMPER:

Ilgierſtrom donesy mne ſzto w Polſzczy czuwaty
Czy wſi ieſzcze Seła, Miſta, ſtoiat chaty?
Ja tebi własſt dała Lachow nie żywit
Wſich mni protywnych palit i rubit.

ILHIER:

Wſi Aſudaryń miſta ſtoiut, i ne Twoi ſyły,
Sztobby Lahom Miſta, Derewni pałyły.

IMPER:

Sztosz ty haworysz do men durak
Ja tebie kazała uczynity tak
Sztobby Polakow ne było łyca
A hde Warszawa, tam roſła pszenyca.

ILH:

Chotił ia prykazy Carſkii iſpołniaty
I wſiu Warszawu do nohi wyryzaty?
Jak ſia protyw mene Lahy zbuntowały
Siem tyſiacz wiyſka w Wiślie pohrebały.
Kniazia *Gagarynow* trupom położyły
Z mładym *Ilhierſtromom* wiednoy mohły

A

Першая старонка выдання
*Rozhowor Imperatrici z Ilhierstromom łystowny dnia 28 apryła 1794 hodu* [B. m. i dr.]
(асобнік ZNiO, XVIII–11196–III)



on. № 12
№ 7
1

Bunty poddanych przeciwko swoim pa-
nom.
Jak Francuzkaja siła
Z za Niemna nastupiła
Zaczała usimi siłami karcić
Jakby Polszczu zwaracić
Adnaka siadzieli cicha
Aż nastupiła licha
Najszło Francuzau u nasz dwor
Nutka budzim dzialić zbior.
U dwore zamki parazbiwali
Pana naszaha u les sahnali
A nas wialeli parbirać
Harełku pić i hulać
I tak my tam hawatyli
Szto panoŭ czerci schapili
U pakojach pasiadali.

Першая старонка рукапісу верша *Bunty poddanych przeciwko swoim panom*
(БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1328, арк. 1–3 аб.)



# БЯСѢДА

## СТАРАГО ВОЛЬНИКА ЗЪ НОВЫМИ, ПРА ИХНАЕ ДЗѢЛО.

Слово Царскае ни абы якое. Нашъ братъ падъ иншы часъ абицаиць, чаго пасля спол-ниць и ня всхочиць и ня зможиць, а Царъ што сказавъ—свята. У пѣршымъ укази, што пра волнасць, намъ читали, што пиузабави Царъ пришлѣць Палаження, на якомъ новыя волники маюць жиць далши,- и во, ужо мѣсицы зъ два, якъ цэлая книжка таго палаження читаитца и у панскихъ палатахъ и пасляпскихъ хатахъ. Вясьцима кожнаму, якъ можна скарэй, хочитца правѣдаць пра сваю судзбину. Письмiоннаму-то лацвѣй якъ видущуму, а сляпому канѣшни треба павадырь, и ниграматнаму патребинъ: хтобъ яму разчитавъ, дый якъ слѣдуиць и разталкававъ. А такихъ ни мала, ды-хоць на кiй вяржи!

Першая старонка выдання *Бясѣда стараго вольника зъ новыми, пра ихнае дзѣло*
(Без м., [1861], 31 с.)



Першая старонка рукапісу *Стихи поздравительныя въ дѣнь именин Гжи Маріи Яньшиной* (БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 616, арк. 3–7)



NAJJAŚNIÉJSZAMU JAHÓ MIŁÓŚCI
HASPADARÚ IMPERÁTARU
ALEKSÁNDRU MIKAŁÁJAVICZU.
PIÉŚNIA Z PAKŁÓNAM
AD LITÓVSKO-RUSINSKAI MUŻÝCKAI HRAMÁDY.

Niebójcie się, maluczka trzodo ... Izali pięciu wróblików nieprzedają za dwa pieniążki? a jeden z nich niejest w zapamiętaniu przed Bogiem,.. A przetoż się niebójcie: drożsiście wy niźli wiele wróblów.
Ew. św. Łuk. *roz. XII., w. 6, 7 i 32.*

Vstavájmo, brátcy, da dziéła, da dziéła!
Z póvnaczy piévień załópav kryłóm.
Núże, kab żývo rabóta paspiéła,—
Výsłać haściniac żóvciańkim piaskóm.
Drùżno, hramádo, v serdécznuj achvócie,
Dùcham nasiłki na pléczy uździéń!
Och! tólko nóczu niespórno v rabócie.
Uzydzì nam, sóvniajko! pryviadzì nam dzién!

Jéduć k' nam, jéduć darahija Hóści:
Ziamiél szyrókich Mócny HASPADAR,
Viérnyja Słùżki pry Jahó Miłóści,
Dabrá i szczáścia za Im dóvhi szár.
Jak chadzìv Pán Boh pa ziémskuj darózie,
Kóżyn słav śvìty da zialónu vìć.
Sztóż razaściélam my svajój VSPAMÓZIE?
Uzydzì nam, sóvniajko! skażý szto rabìć!

3

Дзясятая старонка Дадатка да кнігі Въ *память пребыванія Государя Императара Александра II въ Вильнѣ, 6 и 7 Сентября 1858 г*. Изданіе Виленской археологической комиссии // *Na pamiątkę pobytu Najjaśniejszego Cesarza Jego Mości Alexandra II w Wilnie 6 i 7 Września 1858*. Wydanie Kommissii archeologicznéj wileńskiéj, Вильно: В типографіи Осипа Завадзкаго, 1858.

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

## І



## К



## Л



## М



## Н

## П



## Р



## С



## Т

## У



## Ф



## Х



## Ц



## Ч



## Ш



## Э



## Ю



## Я